# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

1

(722) СТУДЗЕНЬ, 2014

Выдаецца з 1953 года



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:



***Паэты звышновай эры! Ці мала нас? Не, нямала. І кожны — не Танк (халера!), і кожны з нас — не Купала. У вершах багата позы, багата ў чытанні крыку… Пісаць паспрабуеш прозу — вось вырак табе: не Быкаў.***

*Радкі хлопца, які, нарадзіўшыся і жывучы ў іншай краіне, вывучыў беларускую мову, бо яму проста так захацелася. Наш чалавек! Падборку вершаў «Да сіняй вады», прысланую Аляксеем Арцёмавым з Расіі, чытайце ў гэтым нумары.*

*Яшчэ адзін наш чалавек з рускім прозвішчам — Міхаіл Румянцаў — збіраецца тым часам на Марс. «Я ўжо паабяцаў сябрам, што першыя словы на Марсе будуць сказаны па-беларуску», — запэўніў ён карэспандэнта «М». Пра ўдзельніка міжнароднага праекта Mars One — таксама тут.*

*Цікавы, увогуле, нумар атрымліваецца! А 60 гадоў таму «М» надрукавала вось такое фота камсамолкі Надзеі Сабко. Яе звяно, маўляў, перадавое: з плошчы 6,5 гектара атрымала 78 цэнтнераў высокаякасных канапель.*

*Што ні час, то свае норавы, што называецца ☺.*

# Вось вам і ўвесь Фэйсбук і нават Твітар

## • Сацыяльныя сеткі: спрыяюць ці замінаюць?

***Седзячы ў «Аднакласніках», памятай, што каструля пачынае смыжыць адразу пасля таго, як перастае варыць. Такі жарт табе, чытач, падарылі сацыяльныя сеткі. Вось яшчэ адзін. Затрыманы настаўнік-садыст: ён ставіў сваім вучням адзінкі не толькі ў школьны журнал, але і пад іх фотаздымкамі ў «Аднакласніках».***

Здаецца, Джэймс Кэмеран выказаўся ў акрэсленай тэме так: «Прыматам патрэбна група. Ім проста неабходна сядзець і перабіраць адзін на адным поўсць — вось вам і ўвесь Фэйсбук і Твітар. Гэта называецца ўзаемная чыстка». Жорстка, але, мабыць, слушна, асабліва калі ведаць, што аўтар тым самым спасылаўся на Дэсманда Джона Морыса, этолага, заолага, мастака-сюррэаліста, яшчэ шмат каго і ў дапаўненне — эпатажнага папулярызатара сумных навук. Пяройдзем цяпер да нашай апытанкі.



*Антон Сурапін, **фотажурналіст, рэдактар праекта www.bnp.by:***

— Сацыяльныя сеткі ў пэўным сэнсе можна параўнаць з алкаголем. І першае, і другое выклікае залежнасць. І першае, і другое лечаць медыкі. І першым, і другім можна сапсаваць жыццё, а можна час ад часу карыстацца, каб трохі расслабіцца. Яны часта дапамагаюць журналістам і нават пісьменнікам у працы. Журналісты ў сацыяльных сетках нярэдка знаходзяць свежыя для сябе тэмы, інфармнагоды, герояў для публікацый. Пра пісьменнікаў і казаць няма чаго, варта ўзгадаць папулярны раман Януша Вішнеўскага «Адзінота ў Сеціве». З іншага пункта гледжання, бясконцыя дурныя відэашоу, паблікі з барадатымі жартамі, пабудовы віртуальных ферм (спіс не скончаны) рэальнаму жыццю перашкаджаюць. Але кожны вольны рабіць свой выбар.

**МЕРКАВАННЕ**

***Страшна ўявіць, што будзе, калі раптам пачнецца вайна: 3 чалавекі ваююць, 12 фатаграфуюць, 530 каменцяць.***

**НАЗІРАННЕ**

***Калі чалавек сапраўды дасягнуў у жыцці поспеху, у яго старонка не «Вконтакте», а ў Вікіпедыі.***

**ПАРАДА**

***Паглядзіце, хто часцей за іншых наведвае вашу старонку, хто часцей «лайкае» вашы здымкі, статусы і іншае. Гэтаму чалавеку вы дарагі, магчыма, ён вас любіць.***



## *Мікіта Найдзёнаў,*
***музыка, удзельнік гурта Hurta:***

— Любая рэч — справа неадназначная. Кажуць, што вынаходнік ЛСД пражыў больш за сто гадоў. Наркотыкам пачатку XXI стагоддзя можна смела назваць сацыяльныя секты, прабачце, сеткі. Іх так шмат! У мяне самога акаўнты ці не ў пяці сацсетках. Тут нічога не паробіш. Гэта рэчаіснасць. Тое, што мы жывём у віртуальным свеце больш, чым у рэальным, не страшна. Бо хіба ліставанне — гэта не віртуальныя зносіны? Сацыяльныя сеткі мне дапамагаюць трымаць сувязь з сябрамі па ўсім свеце. Дзякуючы ім я магу напісаць каму заўгодна. Можа, нават Полу Макартні змагу, калі дужа захачу. Вельмі цікавая з'ява: у сацсетках ужо сфарміраваўся свой культурны пласт, зразумелы толькі карыстальнікам сацсетак. Я ўсё неяк так пра плюсы ды пра плюсы. З істотных мінусаў магу назваць залежнасць, амаль фізічную неабходнасць праверыць скрыню. У нас згубіўся момант чакання. Ведаем, што мэсэдж атрымаем праз імгненне. Але ж і жывём мы ў хуткім часе. Галоўнае, каб гэта віртуальнае жыццё не стала нашай рэальнасцю.




## *Аксана Бязлепкіна,*
***кандыдат філалагічных навук, дацэнт, літаратурны крытык, літаратуразаўца, пісьменніца:***

— Сацыяльныя сеткі — гэта ўсяго толькі інструмент, карыснасць ці шкоднасць якога цалкам залежыць ад карыстальніка. Для мяне сацыяльныя сеткі — гэта хуткі спосаб знайсці патрэбнага чалавека, атрымаць дапамогу ці распаўсюдзіць інфармацыю. Не магу сказаць, што праз сацыяльныя сеткі сачу за жыццём сваіх знаёмых: пасля пэўнай колькасці знаёмых у стужцы навін гэта становіцца праблематычным, а рабіць выбарачную стужку лічу несумленным.



## *Аляксандр Галанскі,*
***журналіст, блогер:***

— Натуральна, сацыяльные сеткі з'ядаюць наш час і эмоцыі. Для мяне гэта — наркотык, ад якога ўжо час пазбавіцца.

# Марс-2023: нашы збіраюцца!

***Міхаіл Румянцаў нарадзіўся ў 1988 годзе ў Лідзе. Скончыў фізічны факультэт БДУ. Працуе вэб-праграмістам. Шмат гадоў гуляў у інтэлектуальныя гульні, а цяпер з'яўляецца ўдзельнікам міжнароднага праекта Mars One, мэта якога... А навошта забягаць наперад! Чытаем яго размову з Віктарам Лупасіным.***

**В.:** — Міхаіл Леанідавіч, як ідзе падрыхтоўка да касмічнага палёту?

**М.:** — На дадзеным этапе ў мяне ідзе маральная падрыхтоўка. Але ўжо літаральна праз месяц будуць вядомыя вынікі наступнага этапу адбору, і тады можна будзе пачынаць рыхтавацца да фізічных тэстаў і псіхалагічных інтэрв'ю.

**В.:** — Складаная сістэма. А колькі чалавек першапачаткова зарэгістравалася?

**М.:** — Па афіцыйнай інфармацыі першапачаткова было каля 200 000 заяў. Цяпер застаецца (я магу лічыць па тых звестках, што ёсць на сайце mars-one.com) каля трох тысяч чалавек.

**В.:** — Як адбіралі гэтыя тры тысячы з дзвюхсот?

**М.:** — Спачатку трэба было зарэгістравацца на сайце, запоўніць анкету, якая складалася з розных пытанняў, кшталту: «Як вы ставіцеся да таго, што больш ніколі не ўбачыце сваіх блізкіх і родных?»

**В.:** — А што ты адказаў?

**М.:** — Я адказваў сур'ёзна, што гатовы да гэтага. Былі таксама пытанні, з якіх можна было зрабіць высновы пра псіхалагічны партрэт чалавека і пра тое, што ён з сябе ўвогуле ўяўляе. Анкета даволі вялікая, таму давялося патраціць шмат часу, каб яе запоўніць. А яшчэ трэба было прайсці «фармальнасць»: зрабіць відэаролік і аплаціць заяўку на сайце. Наколькі памятаю, каля дваццаці долараў, але сэнс у тым, што для розных краін сума адрозніваецца.

**В.:** — Лагічна. Дваццаць долараў у Зімбабве і ЗША — гэта розныя рэчы... А наступныя вылеты будуць? І ці можна, напрыклад, на другі вылет на Марс яшчэ заявіцца?

**М.:** — Наколькі мне вядома, рэгістрацыя закрыта, але праграмай Mars-One плануецца адпраўляць рэйсы кожныя два гады. Ёсць і іншыя праграмы, якія рыхтуюць палёты на Марс. Напрыклад, Mars Direct — праект НАСА.

**В.:** — А ўсе гэтыя праекты адна краіна фінансуе ці розныя?

**М.:** — Пачнём з таго, што Mars One — гэта ўвогуле некамерцыйная арганізацыя, не прывязаная ні да якой краіны, бо гэта міжнародны і недзяржаўны праект. Таму ніякія палітычныя ці эканамічныя спробы націску на яго немагчымыя.

**В.:** — А калі вылет?

**М.:** — Плануецца ў 2023-м.

**В.:** — Ну... ёсць час развітацца з роднымі.

**М.:** — Шмат што можна зрабіць за гэты час.



**В.:** — Гэта праўда... А як паўстала сама ідэя паляцець на Марс?

**М.:** — Яна прыйшла ў той момант, калі я даведаўся пра існаванне гэтай праграмы. У мяне не было ніякіх сумневаў, бо калі і варта на нешта пусціць жыццё, то гэта менавіта той праект, які варты таго.

**В.:** — Згодзен. І можа, нават у адзін з наступных вылетаў я да цябе прылячу.

**М.:** — Буду чакаць.

* * *

*Праектам Mars One прыватным чынам кіруе Бас Лансдорп, 36-гадовы вынаходнік і прадпрымальнік з Нідэрландаў. Яго ідэя палёту на Марс з мэтай утварэння там калоніі і трансляцыяй аспектаў яе існавання на зямное тэлебачанне падтрымліваецца нобелеўскім лаўрэатам, фізікам Герардам Хоофтам. У склад групы плануецца ўвесці прадстаўнікоў абодвух полаў, самы малады ўзрост для падачы заяўкі на ўдзел у праекце — 18 гадоў, самы сталы — 65. Прымаюцца пераважна фізічна здаровыя інтэлектуалы з навукова-тэхнічнай адукацыяй.*

**В.:** — А на якіх мовах будуць кантактаваць касманаўты?

**М.:** — Хутчэй за ўсё рабочай мовай будзе англійская. Маіх ведаў гэтай мовы на дадзеным этапе хапае. І ў мяне шмат часу, каб яе падцягнуць.

**В.:** — Та-а-а-к...

**М.:** — Але я ўжо паабяцаў сябрам, што першыя словы на Марсе будуць сказаны на беларускай.

**В.:** — Выдатна! Беларуская мова пашырыцца на Сонечную сістэму! А які плануецца побыт? Па-першае, колькі трэба ляцець на Марс?

**М.:** — Палёт плануецца цягам 7 месяцаў, і нават калі тэхналогіі дазволяць здзейсніць гэта хутчэй, то гэты тэрмін не будзе мяняцца, бо… фінансаванне абмежаванае, і калі з'явяцца нейкія іншыя магчымасці, то яны...

**В**.: — ...спачатку будуць не вашы.

**М.:** — Не. Справа ў тым, што галоўны прыярытэт — гэта бяспека і жыццезабеспячэнне. Сэнс гэтага праекта ў тым, што ўжо сённяшнія тэхналогіі дазваляюць здзейсніць гэты палёт. Таму агульны кошт «аперацыі» будзе даволі бюджэтны. Прынамсі, у параўнанні з праграмай Mars Direct, якая разлічана на нейкія інавацыйныя тэхналогіі, але яны канчаткова не распрацаваны.

**В.:** — Ты працуеш вэб-праграмістам. Якім чынам твая прафесія прыдасца табе на Марсе?

**М.:** — Добрае пытанне. Увогуле, тут справа не ў прафесіі, а ў мысленні. IT — гэта адна з самых інавацыйных сфер, і сэнс маёй працы ў тым, што я кожны дзень прыдумляю новае, і кожны дзень я павінен вучыцца, каб быць у тэме, адпавядаць прафесіі.

**В.:** — Калі так меркаваць, сапраўды, айцішнікі на Марсе патрэбны.

**М.:** — Ну і плюс абсталяванне будзе высокатэхналагічнае. Я думаю, мае веды ўсё ж спатрэбяцца.

**В.:** — Ці спадзяешся знайсці на Марсе нешта незвычайнае, новае?

**М.:** — Я даволі прагматычна стаўлюся да такіх ідэй і ўпэўнены, што ў любым выпадку плён навуковы і даследчы ад гэтага палёту будзе, а марсанаўты будуць выконваць тую працу, якая прывядзе да нейкага навуковага развіцця. Ну, а наконт чагосьці таямнічага — пагледзім.

**В.:** — Ці плануюцца калі-небудзь палёты з Марса на Зямлю ці з Марса яшчэ кудынебудзь?

**М.:** — Дадзеная праграма не прадугледжвае вяртання на Зямлю, але ўвогуле праграма Mars Direct прадугледжвае палёт на Марс і вяртанне. Але трэба адзначыць, што вяртанне на Зямлю будзе вельмі цяжкім для касманаўта, таму што, па-першае, знаходжанне ў бязважкасці на шляху туды і назад — гэта больш за сто сутак, плюс знаходжанне ва ўмовах нізкай гравітацыі...

**В.:** — Зразумеў. Ён можа не вытрываць перагрузак.

**М.:** — Гэта па-першае. Па-другое, арганізм чалавека вельмі моцна зменіцца. Напрыклад, я ўпэўнены, што мне гарантаваны астэапароз. Калі вярнуцца на Зямлю, будзе вельмі цяжка адаптавацца да зямных умоў.

**В.:** — Я зразумеў, што можа ўтварыцца новая культурная суполка — марсіянскі народ, але я не прадугледзеў у сваіх пытаннях, што і фізічна гэта будзе крыху іншы чалавек, чым той, што на Зямлі. А калі яны яшчэ і размнажацца пачнуць... Дарэчы, ці прадугледжваецца гэта праграмай?

**М.:** — Кіраўніцтва праграмы Mars One не рэкамендуе. То бок, не прадугледжвае гэтага пытання, таму што цяжарнасць ва ўмовах бязважкасці і павышанай гравітацыі — працэсы непрадказальныя. Ды і першыя некалькі год там, на Марсе, умовы будуць вельмі цяжкія. Але ў будучым плануецца развіць калонію, і гэта стане вельмі важным крокам, асабліва, калі народзіцца першы «марсіянін».

**В.:** — А колькі прыблізна народу плануецца на базе?

**М.:** — У першую экспедыцыю плануецца чатыры чалавекі. Потым кожныя два гады будуць прыбываць яшчэ па чатыры. Але за некалькі гадоў да палёту чалавека туды

адправяцца робаты. Яны павінны будуць стварыць мінімальныя ўмовы для жыццезабеспячэння. Плануецца пабудаваць комплекс з зонамі для жыцця і нават для вырошчвання раслін.

**В.:** — Вось гэта вельмі правільна. Бо не цягаць жа ежу з Зямлі.

**М.:** — Так. І гэта будзе замкнёная біясістэма.

**В.:** — Я думаю, жывёл пакуль не возьмуць.

**М.:** — Першапраходнікам давядзецца быць вегетарыянцамі. Хаця, магчыма, нейкія кансервы па святах прадугледзяць.

**В.:** — Ці будуць, на твой погляд, калі-небудзь квітнець яблыні на Марсе, як спявалася ў савецкай песні?

**М.:** — Гэта магчыма, бо, як вядома, марсіянскі грунт прыдатны для вырошчвання раслін.

**В.:** — Пытанне на далёкую перспектыву: куды потым можна будзе паляцець?

**М.:** — Калі глядзець глабальна, то гэты палёт на Марс можа стаць першым у будучай каланізацыі космасу. Як вядома, Сонца калісьці згасне, і ў чалавека ёсць адзіны шанец для выжывання — каланізацыя іншых галактык.

**В.:** — Гіпатэтычнае пытанне: што будуць рабіць марсанаўты, калі даведаюцца, што Зямлі раптам не стала?

**М.:** — Я спадзяюся, што, калі марсанаўты адправяцца на Марс, тэхналогія 3D-друку зробіць крок наперад, і тады можна будзе друкаваць дэталі, штосьці неабходнае для існавання марсіянскага комплексу непасрэдна на Марсе, таму што Марс — гэта багатая на сыравіну планета. Спадзяюся, што Mars One стане незалежным ад Зямлі. Усё ж такі не хацелася б, каб узнікла такая сітуацыя, калі з-за праблем на Зямлі — я не буду казаць пра знікненне Зямлі — адбудзецца нейкі збой і не ўдасца атрымаць неабходнае абсталяванне або прадукт...

* * *

*Мінімальная адлегласць ад Зямлі да Марса — 55 000 000 км, максімальная — 400 000 000 км. Сувязь плануецца ажыццяўляць праз спадарожнікі. Хуткасць сігналу сувязі раўняецца хуткасці святла. Мінімальны час, праз які можна атрымаць сігнал з Марса на Зямлю, — 3 мінуты, максімальны — 22. Плануюцца тэкставыя, аўдыя- і відэастасункі. Жыццё каланістаў будзе транслiравацца на Зямлю круглыя суткі.*

**В.:** — Які прадмет быў тваім любімым у школе?

**М.:** — Фаварыты — геаграфія і фізіка.

**В.:** — Якую музыку ты возьмеш на Марс?

**М.:** — Спадзяюся, гэта лішняе, таму што там будзе хоць і марудны, але інтэрнэт.

**В.:** — Ці веруючы ты чалавек?

**М.:** — Не магу назваць сябе рэлігійным, але да веры, прынамсі, да хрысціянскай маралі стаўлюся з павагай. Хаця лічу, што рэлігія не толькі аб'ядноўвае людзей, але і раз'ядноўвае. А вось такія праекты, як палёт разам на Марс, могуць людзей аб'яднаць і паставіць ім новыя мэты. Што зробіць бессэнсоўнымі канфлікты, якія сёння існуюць паміж народамі і рэлігіямі.

# Утаймавальнік драконаў

***Мяне вабяць драконы. Вялікія, жоўта-зялёныя, чырвона-залатыя, фіялетава-ружовыя, з шыкоўнымі скуранымі крыламі, талеркавымі вачыма, дзе адбілася змрочная глыбіня бясконцай студні і таямніца егіпецкага сфінкса. Толькі раней яны падаваліся спадарожнікамі чараўніц, ахоўнікамі прыгожых прынцэс, а з цягам часу трывала застылі на календарах, што прадаюць шапікі ў пераходах метро.***

***У кнігарні натрапіла на дзіцячую кнігу, назва якой вярнула да захаплення казачнымі істотамі. Пісьменнік Серж Мінскевіч прапаноўваў дазнацца, як навучыць дракона чысціць зубы. Трывіяльны сюжэт пра выкраданне прынцэсы драконам у яго пертварыўся ў кранальныя прыгоды кемлівай дзяўчынкі і яе памочнікаў.***

**— Вы скончылі філфак БДУ, а ці давялося выкладаць?**

— Безумоўна. У нас была практыка на старэйшых курсах, вёў заняткі ў 4-м класе. Было цікава. Яны бегаюць вакол, крычаць: мы вам усе дыктанты на пяцёркі напішам (тады яшчэ пяцібальная сістэма была). А я думаю: як ты напішаш на «пяцёрку», калі дагэтуль адны «двойкі» былі. Скончылася тым, што мне выкладчык сказаў: «Давай я табе “чатыры” пастаўлю і ты пойдзеш. Бо калі ты прыходзіш, дзеці нейкімі ўзбуджанымі становяцца». Карацей, скончыў практыку заўчасна.

**— А ў чым сакрэт такой папулярнасці сярод школьнікаў?**

— А я ім загадкі задаваў. Напрыклад, знайдзіце да слова «акно» далёкае, але падобнае слова. І яны знайшлі — акуляры. Ну, акуляры, акно, вока — сапраўды падобна. Гульня падабалася нават самым хуліганістым. Пасля я чытаў лекцыі ў польскіх каледжах, але яны былі вельмі сур’ёзнымі, нават сумнымі. У мяне розны вопыт выкладання.

**— Не хочацца прадоўжыць гэтым займацца?**

— Я абраў даследчую дзейнасць. Заўважаю: калі выкладаеш, трэба спачатку падрыхтаваць свой курс, ведаць яго ледзь не на памяць, а потым… потым ты проста зацыкліваешся. Не бачыш нечага новага. Я лічу, што фундаментальная навука патрэбна, яна дае шанс на тое ж выкладанне паглядзець збоку, праверыць, што зашмальцавалася, заездзілася.

**— Бліжэйшыя навуковыя планы…**

— Не так даўно абараніў кандыдацкую. У мяне ёсць парада: як толькі напісаў кандыдацкую — пішы доктарскую. Калі ёсць запал, жаданне і веданне куды павярнуць і што змяніць. А калі зацягваць, то ні жадання можа не хапіць, ні часу. Я дзевяць гадоў пісаў дысертацыю, шліфаваў яе. Гэта досыць цяжка.

**— Цяжка было разрывацца паміж навукай і літаратурай?**

— Нялёгка, бо навуковы стыль — жалезная логіка, доказы, факты. А творчасць — асацыяцыі, палёт думкі і пачуцці. Я нядаўна вырашыў зрабіць кентаўра: увесці эсэістычны стыль у навуковы. Хаця гэта рабіў Алег Лойка. У яго вельмі прыгожая мова, а кнігі захапляюць.

**— Калі на навуковай канферэнцыі ў Акадэміі навук Пятро Васючэнка чытаў даклад пра студэнцкія абдрукоўкі і памылкі, то нават самыя стрыманыя прысутныя смяяліся. А пасля ў калідорах пыталіся, ці варта вывучаць такія «несур’ёзныя» тэмы.**

— А я да гэтага станоўча стаўлюся. Ёсць памылкі друку, якія маюць выразную статыстыку. Гэта сувязь камп’ютарных тэхналогій, псіхалогіі і тэхнікі. Напрыклад, з’явілася новае паняцце «мем». Нейкая з’ява, якая пайшла ў народ, распаўсюдзілася. Чаму? Фраза «а хто там ідзе» — гэта наш мем. Чаму гэта чапляе? Трэба даследаваць. Бывае, пэўныя абдрукоўкі наводзяць на карысныя думкі.

**— Распавядзіце, калі ласка, пра вашу першую кнігу «Прыгоды Какоса-Маракоса».**

— Яе выдавалі ўжо тры разы. І дагэтуль на электронную пошту мне прыхо-



дзяць лісты ад бацькоў з просьбай прадаць кнігу. Гэта адна з рэдкіх беларускіх кніжак-маляванак. Трэба перавыдаваць яе, але рукі не даходзяць. За мяжой у такой сітуацыі дапамагаюць літаратурныя агенты. А ў Беларусі трэба самому выконваць гэтую ролю: хадзіць па выдавецтвах, пасля па крамах, весці бухгалтарскія разлікі. А творца — чалавек, які лётае ў аблоках. Дарэчы, хачу раскрыць сакрэт: калі буду перавыдаваць, зраблю кнігу шырэйшай. Дадам новых персанажаў і новыя прыгоды.

**— А як вы вырашылі пісаць дзіцячую кнігу?**

— У мяне тады сыну было тры гады. Гэта была неабходнасць. А мой улюбёны пісьменнік Янка Маўр. Ён так можа захапіць прыгодамі! Я двухтомнік яго прачытаў у першым класе. Прычым, па-беларуску. Падалося, што на роднай мове больш яркі аповед.

**— Другая дзіцячая кніга — «Як навучыць дракона чысціць зубы». Ці спрабавалі адмежавацца ад вопыту папярэднікаў?**

— Мне хацелася напісаць вядомы сюжэт па-новаму, нейкі іншы паварот зрабіць. Хацелася падысці з іншага ракурсу. І тады, калі намацваецца нечаканы сюжэтны шлях, ён сам цябе вядзе. Кніга ў 2 тысячы экзэмпляраў прадалася за два-тры тыдні. Мне вельмі пашанцавала з мастачкай — Янай Войцік. Яна цудоўная дзяўчына, а ілюстрацыі ў яе чароўныя.

**— А цяпер над чым працуеце?**

— Нядаўна пераклаў першую частку славацкай паэмы «Міндоўг». Яна вельмі шэкспіраўская. Дзеянні адбываюцца ў Навагрудскім замку. Калі гэта паставіць, то было б прыгожа. Хочаца дарабіць да канца, але пакуль няма часу.

**— Наколькі складаным вам падаўся пераклад «Дзядоў» Адама Міцкевіча?**

— Я перакладаў іх 15 гадоў таму. Дарэчы, лялечны тэатр паставіў спектакль па гэтым тэксце. Тэатр Ч таксама. Мне вельмі прыемна, што прайшло 15 гадоў пасля перакладу — і сталі з'яўляцца спектаклі. Гэта ж наш залаты фонд. Калі я паглядзеў, што няма поўнага перакладу, вырашыў, што гэта проста здзек. Цалкам наш твор павінен быць на сучаснай літаратурнай мове. Перакладаў 4 гады. Безумоўна, цяпер я б яго дарабіў. Узрост дае мудрасць, але не дае парыву. Я пачаў правіць тэкст, пасля адклаў яго, пайшоў у краму, а калі вярнуўся, усё выдаліў. Бо калі малады перакладае маладога — гэта зусім іншае. Ты падыходзіш з той жа пазіцыі. Трэба быць роўным духам, каб зрабіць адпаведны пераклад.

Ключавыя моманты III р-ла.

Сонца → цень → купанне → абед → Кулініч-рыбак → бяз рэчы → данос за Мірона → вечар → вочы-вочы → мужчына → Грыгор → пра адрыванцаў → тупое — брыгадзір → Пётр — Вала.

Я зноў увайду ў раку, → каб адчуць тое самае?
І якая розніца, у якім небе, чым абнічы [illegible] аднолькавае.

Ключавыя мом. IV раздзела:

Кулініч — каліна → аўтар. а адчува. вады, камні, шпакалоды, пясочку [illegible]
Жыццё — рака. У ёй то ўваходзіць, то выходзіць; цела розніца
(Там, дзе коні перапраўляліс.)

V раздзел. Хоць ты адбі паміжкі на VI...

Галя Мірона працуе ці буфетчыцай? у школе, ці настаўніцай, (+) батанікі?

„Мы б з табой (самі) у горад паехалі. Я і добрая [illegible] была

„Ты не дзеўка, а мне кабецінка хоць бы

VII. Мах. ураз пастарэла. Калі раней выглядала намнога маладзейшай, дык цяпер старэйшай. на дачку Кулініча, дык цяпер — на матку.

Стала яна рызанёркай. Дочуш ідзе — Хоп ідзе.

а вочы застылыя.

*«Я зноў увайду ў раку… Каб адчуць тое самае?»*

Андрэй ФЕДАРЭНКА.
«Дзікі Луг». «Ключавыя моманты»: чарнавік-план.
Аповесць друкавалася ў «М» № 4, 2012 год.

*Мікіта НАЙДЗЁНАЎ*

# А ВАРЫЯНТ ЗАЎЖДЫ АДЗІНЫ, КАЛІ Ў РАДОК КЛАДУЦЦА ЯМБЫ



***Мікіта Найдзёнаў нарадзіўся 12 ліпеня 1990 года ў Пінску. Паэт, журналіст, музыкант, лідар гурта HURMA. У 2007 годзе стаў пераможцам Адкрытага маладзёжнага конкурсу паэтаў на «Днях Беларускай і Шведскай паэзіі ў Пінску». У 2008 паступіў у Інстытут журналістыкі БДУ. Цяпер вучыцца ў магістратуры БДУ і працуе на радыё «Беларусь».***

**ЛІШНІЯ**

Як бы там ні было, а ўсе лішнія.
Нават самыя блізкія — лішнія.
І свае, і чужыя, і іншыя.
Усе лішнія.

Што належыць дваім (ці належала),
Што баліць абаім ранай свежаю
І крывёй, а не сокам ад вішні —
Усе лішнія.

А хто з бутэлькі джына
З нас выпусціў ў паветра?
Ты кажаш, я да Джыма
Падобны, што з партрэта.

А вочы твае будуць
Сачыць за мной усюды.
Збіраю незабудкі,
Але дарыць не буду.

Якія успаміны
Рассыпаны між намі.
Прасцей на полі мінным,
Лягчэй падчас цунамі.

Нават мы цяпер, самі мы — лішнія,
Бо зусім не такія, а іншыя.
Я не ведаю, як гэта выйшла.
Хто нарок незнарок, які Вішну,

Што паэзія робіцца прозаю,
Што мы сталі раптоўна цвярозыя.
Ці зусім не п’янелі з табою?
Толькі ж, кажуць, абое рабое.

## МАРОКА

Чарнявае дзяўчо з Марока
Збірае рыжыя, як ты.
І нават ад начнога змроку
Гараць у оранджах сады!

І старажытныя багіні
На ліру памянялі цытру.
Давай бульбяны край пакінем,
Калі нам свеціць рыжы цытрус.

Le pomme de terre і апельсіны —
Па сутнасці, звычайны яблык.
А варыянт заўжды адзіны,
Калі ў радок кладуцца ямбы.

## ДЖАЗ-МАДЭРН

Ты босая і лёгкая
І нейкая далёкая,
Глядзіш не «на», а «паўз».
У рэдкім рытме паўз.

Ў паветры нешта лётае,
А ты такая лёгкая,
Што прыпыняеш час,
Як танчыш гэты джаз

Свой джаз-мадэрн паўторна,
Ў чацверы і аўторкі.
А побач людзі лётаюць,
Як на фуршэце лёкаі.

А у вачах і музыка,
А у вачах і рызыка,
А гузакі, як гузікі.
Тут непатрэбна фізіка.

А дома ў інтэрнаце
На цёртым ламінаце,
Як на вялікай сцэне,
Ты зноў у джаз-мадэрне.

## КАЛІ ЗГУБІШ КЛЮЧЫ…

Збітыя калені
Як сінонім танцаў.
Наша пакаленне
Не чытала стансаў.

Вуліцай забытай
Прыпыні трамваі.
Пакідай адбітак
Тым, хто не трымае.

Рэкі маюць вусці,
Ды свае вытокі.
Хочаш вусны ў вусны?
Робіш рукі ў бокі.

Мы з табой такія…
Смелыя нібыта.
Тым, хто не пакіне,
Пакідай адбітак.

## ДЭПРЭСА

Так, нібыта хвароба даўно прайшла,
Толькі вірус, што быў, застаецца ў целе,
Нібы нехта не ў сэрца, а ў голас пацэліў,
Што цябе ўспамінаю на сумным вяселлі,
Ты ў думках такая ж маіх, як была.

Так, нібыта хвароба прайшла даўно,
Толькі нешта ўсё ж засталося ў целе,
Ты паўсюль: і ў жыцці, да таго ж і па тэле-
Колькі мог і хацеў выпадкова пацэліць
З аўтамата хаця б, як у тым кіно.

А сустрэчы ў метро, невядома, ці радуюць
Ты не сочыш за ўсімі маімі парадамі.
Я амаль што як быў, усё працую на радыё,
Ды да музыкі маю вялікую прагу.

Ты амаль, што была, толькі пафарбавалася
Выглядаеш старэйшай — напэўна ж старалася.
А тваё захапленне маскоўскім і піцерскім
Я б пры першай сустрэчы наўпрост гэтак выцесніў.

Ды не маю не тое, каб права, а справы.
І не важна, хто зараз з табой для забавы.
Бо ўсё, што рабіла твой выгляд ахвяры
Значыць меней, чым песня маўклівай гітары.

Хоць бы нечым мяне ашчаслівіла зранку
Перабранкай ці нейкім надуманым пранкам.
Незагоенай памяццю буду багаты,
Што прыводзіць, як компас, на поўнач, дахаты.

**ВУДУ**

Ты катуй яго шчырасцю, калі ласкай,
Гавары, што ён лепшы на свеце хлопец.
Будзь з ім побач паўсюль: і ў Глыбокім і ў Глазга,
І пабачыш, на колькі ўпартасці хопіць.

Ты трымай яго хітрасцю, рабі выгляд,
Што табе падабаюцца яго ўчынкі,
А калі гэта птушка папросіцца ў вырай,
То ўсё да апошняга кораня вырві,
І яму не захочацца больш далячыняў.

Не прасі дарыць кветкі, кампліменты сама яму
Гавары і сама яшчэ пішы вершы.
Ды трымай пад сабой, як пад ігам Мамая,
А пасля, калі нораў ягоны зламаеш,
Усміхніся і моўчкі пахлопай веямі.

Калі рыбка патрапіла на тваю вуду,
Ляльку вуду трымай у руках сваіх моцна.
Ты адна ў яго зорка, што свеціць усюды.
Яму болей не трэба іншага сонца.

*Ян ДАЛЁКІ*

# АДЗІН НЯЎДАЛЫ ДЗЕНЬ

*Апавяданне*



***Ян Далёкі (Максім Хітрыкаў) нарадзіўся 19 жніўня 1991 года ў Мінску. Студэнт геаграфічнага факультэта БДУ. Пісаць пачаў у школе, захапляецца фантастыкай, шмат чытае мастацкай літаратуры іншых жанраў. У вольны час любіць наведваць гістарычныя мясціны Бацькаўшчыны. Упэўнены, што няма на свеце відовішча больш прыгожага, чым зорнае неба.***

Калі расплюшчыў вочы і ўбачыў ужо даволі светлае шэрае неба за акном, Хат Кай вырашыў, што пара падымацца. Але толькі ён павярнуўся, як з грукатам зваліўся з ложка.

«Якім чынам я апынуўся на гэтым краі? Я ж на процілеглым заснуў! А, усё роўна…» — падумаў Хат Кай і падняўся. Ён атросся і прыбраў ложак. Пасля ваннай праверыў стан прылад і будынкаў. Горад, піраміда над ледавіком, абарончы комплекс, лабараторыі, склады — усё працавала ў штатным рэжыме, надзвычайных сітуацый за ноч не здарылася. З думкай: «Як і заўсёды. Як жа самотна бывае часам на Разломе…» — Хат Кай скончыў агляд і няспешна накіраваўся на кухню. Прыгатаваўшы сабе сняданак з пяці мясных пірагоў, міскі зеляніны і паловы вядра марынаванай цыбулі, ён сеў падсілкавацца. Узяў відэлец і нож, каб адрэзаць кавалак, але толькі крануўся сталовымі прыборамі пірага, як той выбухнуў, пакінуўшы палову начыння на твары Хат Кая, а другую палову раскідала па ўсім памяшканні кухні. «Я ж пірог толькі ўчора зрабіў, ён не павінен быць пратэрмінаваным і выбухаць!» — падумаў Хат Кай, здымаючы мешаніну са свайго твару. — «Калі толькі з насеннем шалённіка не перабраў… Ад пірагоў неабходна адмовіцца. Давядзецца мне да спаткання рыхтавацца і цыбуляй снедаць…»

Калі паеў, адразу ж актывізаваў сістэму прыбірання пакоя, затым выйшаў з кухні і накіраваўся ў лабараторыю. Ён пяць месяцаў працаваў над новым уцяпляльнікам для будынкаў горада, і на сёння былі прызначаны асноўныя выпрабаванні.

Хат Кай вырашыў пачаць з тэста на трываласць. Узяў энергаразрадную гармату, накіраваў яе на плітку з уцяпляльніка, далучыў да зброі накапляльнік і ўжо сабраўся стрэліць, як актывізаваўся камунікатар і ў лабараторыі з'явіўся велізарны галаэкран.

— Вітаю! — выклікнуў арганізатар пасяджэнняў Кемліх Нрада, які выйшаў на сувязь. — Як маешся?

— Што патрэбна, гаспадар? — адказаў яму Хат Кай, зірнуўшы на экран.

— Кінь, Хат! Гэта ты павінен гаспадаром быць!

— Што Інстытуту патрэбна, калі цябе просяць выклікаць мяне ў такі час?

— Ведаеш, тут з'явілася адна праблема. Кіраўніцтва не можа вырашыць, каму аддаць Татум-Сарнктагіт: ці Еднасці таўналомаў, народу кхемра, ці «С.В.А.». Нам патрэбна пачуць тваю думку як Першага Даследчыка. Пасяджэнне па гэтым пытанні пачнецца праз пяць гадзін.

— Ты ж ведаеш, што я цяпер рамантую ўсе парталы, якія маю. А на зоркалёце да вас дарога зойме гадзін сем і гэта без збораў! Таму скажы, каб проста выйшлі на сувязь, я выкажу сваё меркаванне.

— Прабач, Хат, але ўсе тры бакі патрабавалі, каб ты прысутнічаў!

— Добра, — уздыхнуў даследчык, — прыбуду і скажу ім. Перадай, каб пачакалі гадзіны тры.

— Перадам, перадам, — прамовіў Кемліх і перарваў злучэнне.

Хат Кай, уздыхаючы і лаючыся пра сябе, дэактывізаваў гармату, разабраў трымальнік для пліткі і гарматы ды пайшоў у пакой, каб падрыхтавацца да адлёту. Праз паўгадзіны ён быў ужо ў ангары і садзіўся ў адзін з малых зоркалётаў. Запуск рухавікоў, адрыў ад зямлі, хвіліна — і вось ужо мяжа касмічнай прасторы. Засталося толькі адчыніць невялікі праход у абарончым полі, што знаходзіцца за семсот кіламетраў, і можна ажыццяўляць міжпланетны скачок. Хат Кай сабраўся ўжо задаць каманду на ўтварэнне прахода, як на кіроўчай панэлі з'явіўся невялікі галаэкран, а тэлепатычныя транслятары перадалі:

— Вы не ўвялі код супрацьугоннай сістэмы бяспекі. Самазнішчэнне праз шэсць, пяць, чатыры…

«Зноў…» — прамовіў пра сябе Хат Кай, і адразу пасля гэтага грымнуў выбух…

Да Інстытута ён змог дабрацца праз пятнаццаць гадзін. Яшчэ не да канца аднавіўшыся, кульгаючы. Першы Даследчык пакрочыў да залы пасяджэнняў і па дарозе сустрэў Кемліха.

— Хат, ты чаго так позна? — здзівіўся Кемліх.

— Зоркалёт выбухнуў. Зноў, — адказаў яму Хат Кай. — А ты чаго не на пасяджэнні?

— Ведаеш, тут… Э, як бы лепей сказаць… Увогуле, яно скончылася дзевяць гадзін таму…

— Што?

— Прабач, Хат, але гэта так. Тыя, хто спрачаўся, змаглі дамовіцца без цябе. Планету аддалі кхемра…

У Хат Кая задрыжэлі рукі разам з павекамі, і ён зароў гэтак, што сцены затрэсліся.

— Якога Бязсвецця тады мяне клікаць, калі і без майго слова ўсё вырашыць можна? Каторы раз! З якой сілай кіраўніцтву груknуць у іх бубны патрэбна, каб яны ўцямілі?

— Калі так, то са значнай. І прабач мяне, Хат, — ціха прамовіў Кемліх.

— Не ты ж вінаваты. І гэта я павінен прасіць у цябе прабачэння за тое, што напалохаў і аглушыў, — выбачаўся Хат Кай.

— Нічога, не першы раз, — сказаў Кемліх, ляпаючы сабе па вушах. — Тады да пабачэння!

— Да пабачэння… — развітаўся Хат Кай і сышоў.

«Калі я ўжо прыляцеў у Інстытут… — думаў ён, — то зраблю справы тут, каб мяне не турбавалі хаця б тыдзень…»

Але пасля кароткага агляду ды апытання аказалася, што аніякіх спраў для яго няма. Уздыхнуўшы, Хат Кай сеў на канапу ў адным з холаў корпуса. Дыспетчары Сярэдняга Касмапорта, дзе стаяў ягоны зоркалёт, дазволілі яму ўзлёт толькі праз тры гадзіны, каб не перашкаджаць грузавым караблям. Хат Кай пакутаваў ад гультайства.

Калі ён пачаў ужо засынаць ад нудоты, то пачуў галасы, якія яго клікалі. Хат Кай расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой траіх даследчыкаў, якіх добра ведаў: Эйкра Цераё, Жулі Альдэн і Д'рара Нэте-эў. Яны былі разам са сваімі дзецьмі.

— Вітаю, Хат! — прамовіла Жулі.

— З добрай раніцай, — усміхнуўся Эйкр. — Адкуль ты тут?

— Вітаю… Ілжывы выклік, — прамовіў у адказ Хат Кай і падняўся.

Дзеці, дзве дзяўчыны і хлопец, убачыўшы даследчыка ва ўвесь яго чатырохметровы рост, адскочылі назад.

— Не пужайцеся! — прамовіў Д'рар, — хаця Хат вялікі і страшны ды нярэдка само ўвасабленне цынізму і сарказму, але ён добры. — Мы не ведаем іншага, акрамя яго, хто заўсёды гатовы дапамагчы.

— Ані, Хеўм, Нэйа, — пачаў Эйкр, — дазвольце мне прадставіць вам Хат Кая, аднаго з найбольш вядомых Першых Даследчыкаў Інстытута!

— Першы Даследчык? — здзівіліся падлеткі.

— Так! — выгукнуў Хат Кай.

— Хат працуе ў Інстытуце амаль тысячу год, і наўрад ці знойдзецца спецыяліст лепшы за яго, — сказала Жулі.

— Не перабольшвай! — прамовіў Хат Кай.

— А так і ёсць! — выгукнуў Эйкр.

— Прабач, што перапынілі тваю дрымоту, — пачаў Д'рар, — але ў нас да цябе просьба…

— Якая?

— Сёння мы вырашылі арганізаваць экскурсію для нашых дзяцей, паказаць месца, дзе мы працуем, — пачала Жулі. — Мы амаль што скончылі, але нас паклікала кіраўніцтва аддзела комплексных даследванняў. Ты можаш пабыць для іх экскурсаводам, пакуль нас не будзе?

— Добра, пабуду. Усё роўна мне ўзлёт дазволілі толькі праз тры гадзіны!

— Вялікі дзякуй! — падзякавалі Жулі, Эйкр і Д'рар, развіталіся і сышлі.

— Што жадаеце агледзець? — спытаў Хат Кай у падлеткаў.

— Мы ішлі ў залу гіперпраекцый, — ціха адказаў Хеўм.

— Для наведвальнікаў?

— Для супрацоўнікаў.

— Калі так, то я адвяду вас у лепшую — для пасяджэнняў.

— Няўжо? — здзівіліся падлеткі.

— Так! Ідзіце за мной! — сказаў Хат Кай і павёў іх за сабой.

Некаторы час яны ішлі моўчкі па калідоры, затым цішыню парушыла Ані.

— Спадар Хат Кай…

— Прашу, не трэба на «вы». Звяртайцеся да мяне проста Хат.

— Добра. Хат, нашы бацькі расказвалі, што ты адзін з самых незвычайных жыхароў усёй сістэмы галактык…

— З якой ты планеты ўвогуле? — умяшалася Нэйа.

Хат Кай усміхнуўся і прамовіў:

— Я жыву на планеце, якая завецца Разломам, але мой родны свет — Зямля.

Пачуўшы гэта, трое падлеткаў зірнулі на яго са здзіўленнем.

— Так, Зямля, — працягнуў Хат Кай, — больш таго, я зямлянін.
— Тады чаму... — здзіўлена прамовіла Нэйа.
— Я так выглядаю? Наступствы няўдалага эксперымента над сабой, які зрабіў мяне мадыфам… Асідэмадыфам, гэта значыць выпадковым, калі быць дакладным.
— Зразумела…
— А што-небудзь незвычайнае вы можаце рабіць? — пацікавілася Ані.
— Шмат чаго. Напрыклад, магу зубамі нос пачасаць, — адказаў Хат.
— Гэта як? — здзівіліся Нэйа і Ані.
— А вось так, — прамовіў Хат Кай, разінуўшы рот, і з яго ніжняй сківіцы ўзняліся чатыры доўгія вострыя зубы. Хутка варушачы імі яму лёгка ўдалося пачасаць нос.
— Нічога сабе, — ціха шапталіся падлеткі.
— Ну хопіць цыркавых нумароў, нам патрэбна да пакоя пасяджэнняў. Туды хвіліны тры пешшу, — прамовіў Першы Даследчык і павёў дзяцей за сабой.
Яны паспелі прайсці ўсяго паўсотню метраў, калі гід з гучным трэскам знік — Хат Кай выпадкова наступіў на пашкоджаны ўчастак міжпаверхавага перакрыцця. Ад падзення на падлогу ніжняга паверха ён выратаваўся дзякуючы хуткасці рэакцыі: зачапіўся кіпцюрамі за ўстойлівую частку міжпаверхавага перакрыцця. Але адчуванне рэальнасці ён на некалькі імгненняў страціў. Усвядоміў сябе Хат тады, калі ўбачыў перад сабой шакіраванага рабочага, які збіраўся заладзіць пашкоджанае месца.
— Э… Прабачце мяне… — хутка прамовіў Хат Кай, калі пачуцці поўнасцю вярнуліся да яго і ён забраўся наверх.
— Хачу зрабіць адну заўвагу, — звярнуўся Хат Кай да Ані, Хеўма ды Нэйі, — мне сёння не дужа шанцуе, таму трымайцеся на некаторай адлегласці ад мяне…
— Дзякуй, мы заўважылі… — прамовіў Хеўм.
— Калі так, то добра.
Яны працягнулі экскурсію, і праз кароткі час кампанія была на парозе залы гіперпраекцый. Але і тыя некалькі хвілін дарогі не абышліся без няўдач для Хат Кая: па невядомай прычыне аўтаматыка дзвярэй адмаўляла перад яго набліжэннем, і таму ён некалькі разоў атрымаў па твары.
Затым злы рок вырашыў узяць прадышку, і Хат Кай без цяжкасцей змог паказаць падлеткам усе магчымасці адной з лепшых гіперпраекцыйных залаў Інстытута. Менш чым за паўтары гадзіны Нэйя, Ані і Хеўм пабывалі ў самых неверагодных мясцінах трыццаці сямі галактычных сістэм: на Наскаранвардойме, дзе ў нябёсах ззялі сямнаццаць сонцаў, на гіганцкіх мастах-цэпах, якія злучалі часткі легендарнай зламанай планеты Палет-Акера, на бесперапынна асветленым наймагутнымі маланкамі Аное, на Ірдае, у Рэгне, горадзе робатаў-рэгенерумаў і наноідаў, на дванаццацікіламетровых хмарачосах, якія зліваліся адзін з адным на розных узроўнях, на даўно закінутых вялікіх сферах і кольцах, аточаных далёкімі зоркамі, на вогненных палях Стадэт-Барма, на руінах цыклапічных, але і неверагодна прыгожых гарадоў зніклай цывілізацыі тарумдэў на Імм-Таарры, на Халіэсціхе ў крыштальных лясах, на велічэзных гарах Чаттуравіі і яшчэ шмат дзе. І паўсюль падлеткі разглядалі кожную макулінку, кожну драбніцу (гіперпраекцыйная тэхналогія давала такую магчымасць, бо дзякуючы ёй можна было кантраляваць і матэрыю. Таму і стваралася адчуванне не толькі бачнасці, але і наяўнасці рэчаў). «Калі-небудзь яны стануць выбітнымі даследчыкамі…» — думаў Хат, гледзячы на моладзь.
З залы падлеткі выйшлі перапоўненыя ўражаннямі.
— Вам спадабалася экскурсія? — спытаў Хат, зачыняючы дзверы ў залу.

— Гэта былі самыя неверагодныя хвіліны ў нашым жыцці! — хорам выгукнулі ўзрушаныя Ані і Нэйя.

— Непаўторнымі былі сферы і кольцы! — прамовіў Хеўм, і дзяўчаты з ім пагадзіліся.

— Дарэчы, пра іх. Колькі ўвогуле існуе калец і сфер, хто і як даўно іх пабудаваў? — пацікавілася Ані.

— У сістэме галактык нам вядома каля шасцідзесяці мільёнаў сфер і трохсот мільёнаў калец, — пачаў Хат Кай. — Але паколькі запісаў не захавалася, то знаходзіць іх вельмі цяжка — нашы самыя дасканалыя дэтэктары «цёмнай» проста не спрацоўваюць. Таму гаворка можа ісці толькі пра вынайдзеныя аб’екты. А што тычыцца тых, хто іх пабудаваў і калі, дык сферы і кольцы ёсць розныя. Самым старым з іх больш сямі мільярдаў год, самым жа маладым — каля сарака пяці мільёнаў. Мы, зразумела, яшчэ «не дараслі» да такога будаўніцтва… Але, я павінен заўважыць, што амаль дзве трацiны з усіх сфер і кольцаў у нашай сістэме галактык былі пабудаваны адной невялікай групай цывілізацый — Вялікімі Інжынерамі, Асэду…

Падлеткі здзівіліся.

— Так. Дзве трацiны ўсіх гэтых гмахаў пабудаваны адным аб’яднаннем, у якім было ўсяго дванаццаць родаў. Здарылася гэта каля ста шасцідзесяці мільёнаў год таму.

— Як? Адкуль яны бралі ўсё?

— У архівах Інстытута ёсць некаторыя звесткі пра Асэду. Згодна ім, усе цывілізацыі, якія складалі групу, мелі адну агульную ўласцівасць — ніхто з іх не мог сядзець без справы, не мог, каб не ствараць. І сёння мы маем мільёны гіганцкіх збудаванняў, якія могуць замяніць мільярды планет, але няшмат каму хочацца жыць там, большасць аддае перавагу звычайным планетам. А што тычыцца матэрыялаў, дык цёмнай матэрыі хапае ў космасе. Энергіі ды інфармацыі на яе перапрацоўку нават нам не так ужо і шмат трэба.

— Зразумела… — прамовілі падлеткі.

— Што ж, калі зразумела, тады ёсць яшчэ адна рэч, якую вы павінны ўбачыць, каб вашы ўражанні былі поўнымі, — прамовіў Хат Кай.

— Пасля гэтага? — выклікнуў Хеўм, паказваючы на залу, — што можа быць яшчэ больш грандыёзным?

— Я тут даведаўся, што менш чым праз паўгадзіны на Вялікі касмадром прыбывае тэраформер, каб забраць каманду.

— Тэраформер? Сюды? Дык яны ж… — прамовіла Ані.

— Размяшчаюцца на Мідысе, — сказаў Хат Кай. — Але мне паведамілі, што сёння з базы адпраўляюцца некалькі тэраформераў. Таму, каб не выклікаць напружання там, адзін з тэраформераў прыбудзе сюды. Такое адбываецца вельмі рэдка, я бачыў гэта толькі сем разоў. Вы проста абавязаны гэта пабачыць. Відовішча тых гмахаў уражвае на ўсё жыццё.

— Дык чаго мы чакаем? — выгукнула Нэйя.

Астатнія падлеткі падтрымалі яе.

— У такім выпадку пойдзем да станцыі тэлепартацыі, — прапанаваў Хат. — Яна ў пяці хвілінах хады адсюль.

Падлеткі кіўнулі, і Хат павёў іх за сабой.

Калі экскурсанты павярнулі ў чарговы калідор і да станцыі засталася ўсяго хвіліна, адбылося нечаканае. У памяшканні на супрацьлеглым канцы калідора нешта грукнула, і з адчыненых дзвярэй са свістам вылецела здаравенная загваздка. За імгненне яна праляцела трыста метраў калідора і… прабіла галаву Хат Кая наскрозь, затрымаўшыся ў ёй.

Шакіраваныя падлеткі замерлі ад жаху. А Хат Кай, пахіснуўшыся ад удару, хутка выпрастаўся зноў і няспешна выцягнуў загваздку з галавы. Велізарная рана на яго ілбе адразу пачала зацягвацца. Праз паўхвіліны, канчаткова прыйшоўшы ў сабе, ён няцвёрдай хадой накіраваўся да дзвярэй, з якіх вылецела загваздка, і аддаў яе рамонтнікам са словамі:

— Будзьце акуратней наступным разам, добра? Адна справа я, а калі б хто-небудзь іншы ішоў? Яго б забіла! Дарэчы, што тут увогуле робіцца?

— Э… Мы вентыляцыйную сістэму рамантавалі, вось… — пачаў адзін з іх. — Узнікла праблема з гэтым элементам рэгуляцыі механізма…

Рамонтнікі прыняліся наноў мацаваць загваздку, але яна зноў выслізнула ў іх з рук, і, на гэты раз перакульваючыся, вылецела ў адчыненыя дзверы. І зноў яна ўдарыла Хат Кая, які паспеў прайсці толькі паўсотню метраў, але на гэты раз загваздка саданула ў спіну, збіла яго з ног, а калі зваліўся, ляснулася на галаву.

Ачуняўшы пасля кароткай страты памяці, Хат Кай ціха вылаяўся, узяў загваздку і накіраваўся да рамонтнікаў. Калі ён увайшоў да іх у пакой, то загадаў стаць спінай да яго і ў шарэнгу. Працаўнікі разгубіліся, але сталі так, як было загадана. І адразу ж атрымалі нямоцныя, але балючыя ўдары загваздкай па тых месцах, адкуль у іх раслі ногі. Пасля гэтага Хат Кай кінуў загваздку на падлогу і выйшаў з пакоя, гучна зачыніўшы за сабою дзверы.

— Прабачце за затрымку, — прамовіў Хат Кай падлеткам, калі наблізіўся да іх, і прапанаваў ісці далей.

Але Нэйя, Хеўм і Ані не зрушыліся з месца, бо ўсё тое, што адбывалася з загваздкай і Хат Каем, выклікала ў іх шок.

— Выбачайце мяне, забыўся папярэдзіць... — сказаў Хат, зірнуўшы на разгубленыя твары падлеткаў. — Бачыце, мяне амаль што нельга забіць…

— Што? — усклікнулі падлеткі разам.

— Гэта адно з двух дадатковых наступстваў маіх эксперыментаў над сабой, — прамовіў Хат.

— Пачакайце, дык вы бессмяротны? — ашалела прамовіла Нэйя.

— Не, — адказаў Хат Кай. — Паміж бессмяротнасцю і немагчымасцю быць забітым існуе вялікая розніца. Бессямротнасць для нас пакуль што недасяжная. А немагчымасць быць забітым дасягаецца выкарыстаннем шэрага механізму, у першую чаргу рэгенерацыі. Што тычыцца мяне, дык ёсць усяго пара спосабаў, пасля якіх я не змагу аднавіцца, але на такія выпадкі маю некалькі выкрутаў, так званае «адчуванне Сусветнага часу». Так што майце на ўвазе: ад мяне будзе цяжка пазбавіцца!

— Зразумела… Пытанняў больш не маем… — ціха прамовілі Хеўм, Ані і Нэйя.

— Тады паспяшаемся, бо ля станцыі тэлепартацыі можа быць чарга.

Менш чым праз хвіліну яны былі ў патрэбнай зале.

Сёння на гэтай станцыі, звычайна паўпустой, панавала ажыўленне: пабачыць тэраформер на Сэтары хацелася не толькі Ані, Нэйе і Хеўму. Яны былі прыблізна пяцідзясятымі ў чарзе, а гэта азначала, што чакаць давядзецца каля паўгадзіны.

Хат Кай дапамагаў падлеткам бавіць час, распавядаючы пра тое, што бачыў за сваю працу. Калі прамінула хвілін пятнаццаць, адна з кабін прыбыцця (якія да гэтага былі неактыўнымі) успыхнула, з яе літаральна вылецеў адзін з намеснікаў кіраўніка Аддзела даследванняў незвычайных з'яў і, распіхваючы ўсіх, хто сабраўся, накіраваўся да Хат Кая.

— Чаго ты не адказваеш на выклікі? — зароў ён з натоўпу.

— Мае камунікатары засталіся на зоркалёце, — адказаў Хат Кай.

Тым часам намеснік вырваўся з натоўпу і пакуль спрабаваў адсапціся, Хат павярнуўся да падлеткаў:

— Нэйя, Ані, Хеўм, дазвольце прадставіць вам Гітэада Імлійры, правую руку кіраўніка Аддзела даследванняў незвычайных з'яў, на які я працую апошнія паўтысячагоддзі.

— Якога Бязсвецця ты пакінуў усе камунікатары ў зоркалёце? — раззлавана рычаў Гітэада.

— Выпадкова, з кім не бывае.

— А ў тваіх бранзалетах?

— На ўдасканальванні.

— Зразумела. Хат, тут…

— Э, што за Бязсвецце? — нерашуча ўмяшаўся Хеўм.

— Паўлегендарнае месца, якое знаходзіцца невядома дзе і з якога амаль ніхто не вяртаўся, — пачаў Хат Кай. — А калі і вяртаўся, то губляў розум на ўсё астатняе жыццё. Аднавіцца не дапамагала нават перасадка захаванай копіі памяці. Яны да самай смерці заставаліся ў шпіталях і ў трызненні, а падчас прыступаў мармыталі нешта няскладнае, з чаго можна было вылучыць толькі некалькі слоў: «Там», «Няма межаў», «Мы былі» і «Бязсвецце»…

— Зразумела… — дрыжачым голасам прамовіў падлетак.

— Дык што ты хацеў сказаць? — звярнуўся Хат Кай да Гітэада.

Намеснік уздыхнуў і прагаварыў:

— Кіраўніцтва Інстытута праводзіла некаторыя прызначэнні і… табе далі адно.

У Хат Кая пасля гэтых слоў скрывіўся твар.

— Што? Якое прызначэнне? — прароў ён.

— Цябе прызначылі куратарам адной з новых груп нашага аддзела. Нумар Д 712, калі не памыляюся.

— Ды яны зусім здурнелі! Прызначыць без абмеркавання! Папярэдзілі хаця б! Гэта ўжо ні ў якія вароты не лезе. Гіт, будзь сябрам, прыгледзь за дзецьмі, пакуль я наведаю кіраўніцтва.

— А з якога часу ты стаў нянькай? — з усмешкай прамовіў Гітэада, гледзячы на падлеткаў.

— Не нянькай, а экскурсаводам. Гэта дзеці Эйкра Цераё, Жулі Альдэн і Д'рара Нэте-эў. Яны іх на экскурсію прывялі, а потым саміх выклікалі. Мяне ж папрасілі часова замяніць. Дык ты прыгледзіш на хвіліну?

— Добра.

Хат Кай кіўнуў у знак удзячнасці, адышоў ад чаргі, націснуў некалькі кнопак на адным са сваіх бранзалетаў і растварыўся ў воблаку смугі. Праз некалькі хвілін ён вярнуўся, і ў першы раз за сённяшні дзень на яго твары бачылася задавальненне.

— Дзякуй за паслугу, — сказаў ён Гітэада амаль адразу, як з'явіўся з воблака смугі.

— Што ты зрабіў?

— Паабяцаў ім зрабіць сёе-тое, калі яны і ў наступны раз утвораць нешта падобнае.

— Тады я пакідаю вас, — прамовіў Гітэада і сышоў.

— У цябе ёсць персанальны тэлепарцёр і ты нам не сказаў? — накінуліся на Хат Кая падлеткі, калі намеснік знік з поля зроку.

— Так, але маецца адна акалічнасць: на групавую тэлепартацыю яны пакуль што не наладжаны. Тэлепарцёр толькі адна з прылад бранзалетаў, я над ім яшчэ працую. Таму прашу прабачыць мяне.

— Добра, добра. Прабачаем.

— Дзякуй.

— Хат, а што ты паабяцаў кіраўнікам за, э… прызначэнне без ведама?

— Пачаставаць і накласці праклён.

— ???

— Адно з маіх заняткаў у вольны час — вырошчванне спецыяльнай ежы для «крам жартаў». Таму пад словам «пачаставаць», я меў на ўвазе правесці выпрабаванне некаторых чарговых партый на іх. А праклён я накладу пад дзвярыма іх дамоў і кватэр. Матэрыялу на сэтарскіх фермах я знайду шмат.

— Зразумела… — прамовілі падлеткі і зрабілі для сабе пазнаку: «Хат Кая лепш не выводзіць з сябе».

Тым часам надышла іх чарга. Уся кампанія зайшла ў кабіну, Хат Кай увёў код, выбліск — і яны ўжо ў іншай зале. Перад іх вачыма шэрачэзнае акно, за якім віднеецца Вялікі Касмадром, і некалькі тысяч супрацоўнікаў Інстытута. Натоўп запоўніў усё памяшканне, пакінуўшы толькі вузкія праходы ля сцен для навапрыбылых.

Падлеткі і Хат Кай праціснуліся па адным з гэтых праходаў у адносна свабодны калідор. Падчас руху, Першы Даследчык амаль безперапынна лаяўся з-за таго, што яму адціснулі хвост і працягваюць на яго наступаць. Але, калі пасвабаднела, ён супакоіўся і сказаў Ані, Хеўму і Нэйе, што ведае шлях да месца з выдатным аглядам, якое павінна заставацца пустым. Падлеткі адразу ўзрушыліся і выклікнулі:

— Вядзі!

Хат Кай узмахнуў рукою. Дзяўчыны і юнак рушылі за ім, але калі ўбачылі, што іх экскурсавод адчыняе дзверы ў тэхнічны калідор, поўны пылу, узрушанасць настрою знікла.

— Вы мне яшчэ падзякуеце, — прамовіў Хат Кай, пачуўшы незадаволенае мармытанне за спінай. — У гэтыя калідоры няшмат хто мае доступ, так што пацярпіце яшчэ крыху, і вы будзеце мець лепшыя месцы.

Нэйя, Ані і Хеўм уздыхнулі. Хат Кай слова стрымаў: паблукаўшы па вузкіх праходах і палазіўшы па старых лесвіцах, гід адчыніў перад экскурсантамі чарговыя дзверы, за якімі разгортвалася адна са шматлікіх тэрас, якія складалі дах корпуса. Як і было абяцана, яна заставалася пустой, як і іншыя тэрасы. З яе адкрываўся цудоўны від на касмадром. Акрамя гэтага, тэраса аказалася вельмі прасторнай і на ёй было дзе прысесці — некалькі радоў чорных кубоў паветразаборнікаў.

Кампанія расселася і хутка пачалося прадстаўленне.

Спачатку ўсе адчулі слабую вібрацыю, якая паступова ўзмацнялася і за пару хвілін дасягнула сілы адчувальнага землятруса. Затым з’явіўся сам карабель. Аблокі над полем касмапорта прагнуліся ўніз, распаліся, і з іх выплыў пяцідзесяцікіламетровы гмах, ля абшыўкі якога слаба ззялі плямы ахоўных палёў. Здзіўленыя падлеткі ад такога відовішча ледзь не пападалі з сядушак. Карабель тым часам знізіўся яшчэ крыху і завіс у паветры. Прызямліцца ён з-за яго вагі, не мог нават у выпадку поўнай адсутнасці тунэляў пад пляцоўкай, ён сваімі гіганцкімі падпоркамі разбурыў бы ўвесь касмадром. Таму каманда — тысячы службоўцаў і дзясяткі тысяч робатаў ды іншых механізмаў — падымаліся на борт з дапамогай сістэм тэлепартацыі зоркалёта. Гэта заняло паўгадзіны — не столькі з-за экіпажа, колькі з-за грузаў сукупнай вагой пад тры мільярды тон. Калі пагрузка была скончана, тэраформер пачаў

падымацца. Спачатку павольна, а потым усё хутчэй і хутчэй. Менш чым за хвіліну гіганцкі карабель пераўтварыўся ў невялікую пляму ў небе.

Зірнуўшы на яе апошні раз, Хат уздыхнуў.

— Гэта было крута! — ускрыкнулі падлеткі.

— Гэта не ідзе ні ў якое параўнанне нават з гіперпраекцыйнымі заламі! — выклікнуў Хеўм.

— Што ж, вам будзе чым пахваліцца ў школе, — сказаў Хат.

— Трэба было зрабіць відэазапіс! — уздыхнула Нэйя.

— Не хвалюйцеся, я перадам вам запісы камер агляду, толькі адрас назавіце.

— Выдатна!

— Шкада гэта казаць, але наша экскурсія скончылася, — прамовіў Хат Кай падлеткам. — Я адвяду вас назад да бацькоў, а там… Паглядзім, ці сустрэнемся мы зноў.

Падлеткі ўздыхнулі. Хат Кай злёгку ўсміхнуўся ім. Твары Нэйя, Ані і Хеўма прасвятлелі. Юнак і дзяўчаты падняліся і няспешна рушылі да выхада з тэрасы. Хат Кай пакрочыў за імі. Набліжаючыся да дзвярэй, ён зірнуў уверх і… замёр. На месцы цёмнай плямы тэраформера з’явіліся тры выцягнутыя паласы.

— Каэтане… Ды вы здзекуецеся? — выклікнуў у сэрцах Хат Кай.

— Што такое? — напужаліся падлеткі.

— Мае заклятыя сябры, якія прагнуць адабраць у мяне Разлом з усімі маімі працамі. Самі ж нічога рабіць не хочуць.

— Што?

— Хутчэй уцякайце адсюль! Хавайцеся! — крыкнуў Хат Кай.

Напалоханыя падлеткі з крыкамі пабеглі да калідора. Тры караблі-паласы пачалі хутка зніжацца. Хат Кай кінуўся следам за дзецьмі.

«Патрэбна адвесці іх на незаселеную прастору, бо яны разнясуць увесь касмапорт з наваколлем, каб мяне дастаць!» — прамовіў ён пра сябе і актывізаваў тэлепарцёр бранзалетаў. Тэрасу асвяціў цьмяны выбліск, Хат Кай знік.

Але праз імгненне за дзве сотні кіламетраў адсюль другі выбліск асвятліў паветра высока над уступам нагор’я, на якім стаяў Інстытут планеталогіі. Тэлепартацыя абарвалася, даследчыка выкінула з перахода.

— Праграма падачы энергіі і інфармацыі дала збой, патрэбна пераналадка. Сканчэнне работы, — перадалі тэлепатычныя транслятары, і бранзалеты адключыліся.

— Выдатна! Толькі гэтага мне для поўнага шчасця і не хапала! — прабурчаў Хат Кай і са свістам паляцеў уніз.

Каэтане хутка вылічылі, дзе яго выкінула з перахода, і адкрылі агонь. Тут трэба адзначыць, што за несанкцыянаваную стральбу нават у глухіх рэгіёнах Сэтара па зачыншчыкам адкрываюць зваротны агонь без папярэджання. Каэтане добра падрыхтаваліся да нападу, і перад тым, як пачаць страляніну, яны запусцілі ў паліцэйска-ахоўную сістэму планеты вірус — «Вялікі Клін». Яна выйшла са строю. А камп’ютарныя вірусы былі адзінай справай, якую каэтане рабілі сапраўды добра.

Плазменныя стрэлы адзін за адным праносіліся над галавой даследчыка, але дзякуючы не самай высокай дакладнасці каэтанскіх сістэм навядзення, атрымалася не трапіць пад іх. А праз пару хвілін Хат Кай увогуле выйшаў з поля дзеяння стрэлаў. Ён даляцеў да края нагор’я, якое схавала яго.

Крыху пабоўтаўшыся, ён наблізіўся да скалы і ўчапіўся ў яе сваімі кіпцюрамі. Грубае мінеральнае рэчыва адразу ж моцна прычэплася да настолькі ж грубай арганікі, і, праехаўшы такім чынам метраў трыста, Хат Кай спыніўся, але пры гэтым

застаўся абсалютна без кіпцюроў — яны сцёрліся пад самы корань. На шчасце, падножжа скалы аказалася ўсяго ў пяцідзесяці метрах, таму Хат проста саскочыў на зямлю і адразу ж кінуўся з усіх ног у бліжэйшы малазаселены рэгіён.

У гэты час сістэма навядзення каэтан зноў запрацавала, і яны ўбачылі, дзе знаходзіцца Хат. Прадстаўнікі аднаго з самых лянівых і нахабных народаў сістэмы галактык адразу ж накіраваліся следам. Тры выцягнутых зоркалёты зрушыліся, апусціліся яшчэ ніжэй і павіслі над малапавярховай забудовай, якая атачала інстытуцкае нагор'е. Вузкія і крывыя завулкі гэтых кварталаў былі поўнай процілегласцю адкрытаму асяроддзю пляцоўкі касмапорта, таму каэтане вымушана змянілі тактыку: перайшлі ад страляніны з плазменных гармат да бамбёжкі.

Па паветры пранёсся скрыгат. Ад гэтага гука Хат Кая ахапіла дрыготка, яго сэрца замерла, а душа сышла ў пяткі. «Я быў не правы… Яны гатовы сам Урад Аб'яднання зруйнаваць з зямлёй, толькі каб ад мяне пазбавіцца!» — падумаў ён і павялічыў хуткасць.

Тым часам з каэтанскіх караблёў пасыпаліся бомбы. Тысячы бомб. І ўсе на Хат Кая.

Уцякач, пачушы свіст снарадаў, пахаладзеў яшчэ болей і пабег стрымгалоў. Усяго праз хвіліну пасля пачатку праследвання першыя снарады дасягнулі зямлі, пачаліся выбухі. Хат Кай, дрыжучы, азірнуўся і… ледзь не страціў прытомнасць ад здзіўлення. На яго вачах разарвалася самая тыповая анігілятыўная бомба, але ніякіх разбурэнняў яна не прынесла, ніхто з выпадковых мінакоў не быў паранены.

Гэта значыла толькі адно. Выбарчыя анігілятары ў каэтан: «Каго, забяры мяне Бязсвецце, яны абрабавалі і каму далі на лапу, каб іх набыць? Ім да гэтай тэхналогіі як да Саюза Сузор'яў пешшу!.. Падрыхтаваліся, гады…» — падумаў напалоханы даследчык і пабег, не думаючы пра захаванне старажытных прыінстытуцкіх кварталаў.

Патрэбна сказаць, што хаця дадзеная тэхналогія і завецца выбарачнай анігіляцыяй, гэта абсалютна адрозны ад тыповай анігіляцыі працэс: пры ім задзейнічаны зусім іншы набор энергіі, і выклікае ён не знікненне часцінак, а іх адрыванне адна ад адной, хаця ўсё выглядае як тыповая анігіляцыя. Да таго ж выбарачная анігіляцыя — дарагая тэхналогія (як высветлілася потым, каэтане на запас бомб выдаткавалі чатыры гадавыя бюджэты ўсёй планеты).

Але несучыся на скрут галавы Хат Каю ўдалося адзначыць, што радыўс дзеяння анігілятыўных бомб каэтан складае ўсяго метраў пятнаццаць. Гэта сведчыла пра тое, што бомб у каэтан столькі, што хопіць на цэлы сэтарскі рэгіён і нават застанецца трошкі для суседніх.

Але гэта было не адзінай праблемай. Так атрымалася, што ў каэтан сістэма навядзення на бомбах больш дакладная, чым на караблях. Таму снарады з кожнай хвілінай выбухалі ўсё бліжэй да даследчыка: хвілін пяць ад пачатку бамбёжкі — і бомбы ўзрываліся ў дзесяці метрах ад яго, а асобныя нават краналіся ягонай вопраткі і поўсці. Такі расклад падзей аказаў толькі стымулюючы эфект на Хат Кая.

Так цягнулася яшчэ некалькі хвілін, а потым злы рок зноў успомніў пра Хат Кая.

Над галавой даследчыка пранеслася чарговая бомба. Яна паляцела кудысьці за спіну, і там урэзалася ў ходнік, ад чаго выбухнула. У дванаццаці метрах ад Хат Кая…

Хваля, якая паднялася, за імгненне распаўсюдзілася па радыўсе паражэння. І закранула даследчыка, які амаль поўнасцю быў у межах дзеяння. Паверхня дэструкцыі з'ела ўсё тулава і канечнасці Хат Кая (разам з бранзалетамі) — засталіся толькі галава і частка шыі.

Але Хат Кай выжыў. Любая частка тканкі яго цела (вызначанага аб'ёму) магла захаваць у сабе ўсю яго памяць і энергію, дастатковую для поўнага аднаўлення. Ацалелыя часткі перавышалі гэты аб'ём шматкроць. Таму Хат Кай пасля выбуху нават памяці не страціў.

Апынуўшыся на хвіліну ў зацішку, Хат Кай накіраваў усе сілы на аднаўленне.

На гэты раз неразуменне адчулі каэтане: кварталы Кхрыйэ — старая прамзона ў замкнёнай нізіне, тут амаль не ходзіць ніякі транспарт, уцячы адсюль нельга. Адзіным лагічным тлумачэннем было б тое, што даследык канчаткова звар'яцеў ад перажытага за апошнія хвіліны і цяпер нясецца абы-куды толькі б адцягнуць свой скон.

Так магло здарыцца з іншым даследчыкам, але не з Хат Каем. Ён у экстрымальнай сітуацыі здольны цяміць вельмі хутка. А цяпер была менавіта такая сітуацыя.

Хат, калі змог прачытаць надпіс «Кхрыйэ» ў пераразмеркавальным вузле, адразу ж склаў план як спыніць пераследвальнікаў, што гоняцца за ім па цэнтральнай планеце Аб'яднання на сваіх цяжкіх вайсковых зоркалётах. І план гэты быў хітры, але да смешнага просты…

Як толькі даследчык знік сярод паўразбураных карпусоў прамзоны, каэтане адразу ж перавялі агонь на руіны. Яны ўжо так увайшлі ў шал, што спрэс забыліся пра тое, што прычыненне шкоды гістарычным помнікам любой катэгорыі на любой планеце караецца прымусовым пераводам усіх удзельнікаў акта вандалізму ў нематэрыяльны свет на дваццаць год (а ў самых жорсткіх выпадках пераводу падвяргаецца ўся планета агрэсараў на некалькі пакаленняў).

Пераследвальнікі спрабавалі дасягнуць Хат Кая каля паўгадзіны, пакуль той мітусіўся па ўсёй прамзоне. За гэты час яны пераўтварылі ў пыл і пясок чвэрць будынкаў квартала, другую чвэрць зрашацілі, трэцюю пакарабачылі, а чацвёртую пахавалі пад абломкамі першых трох. Але нарэшце яны загналі ўцекача ў кут — дальні ўчастак, у якім знаходзілася адносна новая камунальная станцыя.

Камандзіры каэтан вырашылі паглядзець на тое, як іх вораг, які не хацеў аддаць планету, забіты будзе зблізку. Яны загадалі тэхнікам накіраваць аптычныя прылады на даследчыка і даць найбольшае ўзмацненне. Тэхнікі выканалі загад, праз імгненне на галаэкранах каэтан паўстала верхняя палова Хат Кая. Добра бачылася, што даследчык ужо ўшчэнт ашалеў ад перажытага. Але ён усміхаўся, прычым, шчыра і шырока.

Каэтане ад убачанага прыйшлі ў поўнае замяшанне. Як можна так усміхацца, калі перад табой нашпігаваныя зброяй вайсковыя зоркалёты, якія могуць у любы момант абрынуць усю зброю на цябе?

А ўсміхаўся Хат Кай таму, што яго пераследнікі самі стварылі сабе пастку, бо не ведалі аднаго сакрэту прамзоны Кхрыйэ: на такой густанаселенай планеце, як Сэтар, любая крыніца энергіі была патрэбна для задавальнення патрэб яе жыхароў. Раён жа Кхрыйэ быў адным з нешматлікіх ацалелых цэнтраў вытворчасці энергіі на тэрмаядзерных устаноўках. У мэтах бяспекі гэтыя ўстаноўкі былі размешчаны пад зямлёю, а над імі ўзнікла прамзона. З цягам часу фабрыкі збяднелі і пазачыняліся, а рэактары засталіся. Іх удасканалілі, забяспечыўшы комплекс сістэмамі назапашвання энергіі і неабходнай бяспекі. Важнейшым элементам гэтых сістэм былі прылады для збросу энергіі — высокія калоны, якія ў выпадку надзвычайнай сітуацыі выцягвалі з рэактараў усю энергію і выкідвалі яе ў космас. Цяпер устаноўкі энергазбросу былі накірваны на караблі каэтан, а іх цэль стаяла прама над галоўным пераразмеркавальным вузлом. Самі каэтане пра гэта не здагадваліся.

Адчуваючы, што на яго накіраваны камеры і мікрафоны для рэгістрацыі яго скону, Хат Кай зірнуў на караблі каэтан і крыкнуў:

— Паспытаце сэтарскага тэрмаяду, гады!

І, выдраўшы з-пад ног люк запаснога пункта кіравання пераразмеркавальнай станцыяй, нахіліўся і крутнуў вентыль аварыйнага спустошэння накапляльнікаў.

З установак энергазбросу вырваліся моцныя струмені энергіі, працялі караблі каэтан як куля лісток паперы і ўдарылі па схілах катлавіны. Цяжкія вайсковыя зоркалёты агрэсараў зваліліся на зямлю, а ўскраіны прамзоны засыпала абваламі.

Стомлены, Хат Кай сеў на зямлю, утаропіўшыся на збітыя караблі каэтан, на якіх экіпажы ліхаманкава латалі дзюры. Неўзабаве прыбыла паліцыя, якая неяк выгнала вірус са сваіх сістэм, і цяпер магла ўзяцца за тых, хто яго ім падкінуў, а заадно разбамбіў некалькі рэгіёнаў Сэтара толькі для таго, каб знішчыць аднаго даследчыка Інстытута планеталогіі. Паліцыя хутка высветліла, хто вінаваты. Каэтан павязалі, Хат Каю дапамаглі. Каэтане, якія, канешне ж, не маглі цягацца з Сэтарам па моцы, адразу ж здаліся. Потым было выяўлена, што ініцыятарамі нападу было кіраўніцтва Каэты. Таму, згодна законам Аб'яднання, увесь кіраўнічы склад планеты разам з добрай часткай арміі быў сасланы з планеты і пераведзены ў нематэрыяльны стан на семсот год. Пасля гэтага ў астатніх каэтан адпала ўсякае жаданне нават крадком пазіраць на Разлом.

Пасля затрымання каэтан, паліцэйскія дапамаглі Хат Каю вярнуцца ў Інстытут. Развітаўшыся з імі, Хат Кай пакрочыў да касмапорта. Час, адведзены яму на ўзлёт, даўно настаў.

Ён ужо ішоў па тэрмінале, калі вярнуліся паліцэйскія.

— Што такое, спадары? — пацікавіўся Хат, убачыўшы вартавых парадку.

— Зноў вітаем, спадар Хат Кай, але ў нас да вас ёсць яшчэ адна справа, — адказаў старшы паліцэйскі.

— І што за яна?

— Мы ведаем, хто стаіць за гэтым нападам, і мы ўдзячны вам за яго спыненне. Ведаем, што менавіта вы сталі ахвярай, але фармальная працэдура патрабуе паказанняў відавочцаў. Ад гэтага нікуды не дзецца, так што мы хуценька апыталі некалькіх жыхароў таго рэгіёна, які бамбілі, каб пацвердзіць, што вы ахвяра. Яны пацвердзілі. Шчаслівага палёту вам.

Нарэшце злы рок адпусціў Хат Кая.

Праз восем гадзін ён быў ужо на роднай планеце. Там Хат, ледзьве перастаўляючы ногі, дацягнуўся да бліжэйшай канапы, на якую зваліўся, смяротна стомлены пасля перажытага, і на якой праспаў усе наступныя суткі.

Неўзабаве гісторыя пра няўдалы дзень Першага Даследчыка распаўсюдзілася, і калі пра яе даведаліся ў «Рэўкнад», адным з буйных медыяхолдынгаў на Сэтары, ды і ва ўсёй сістэме галактык, то Хат Кай стаў безумоўным пераможцам вядомай прэміі кампаніі «Няўдачнік Стагоддзя».

Хат Кай моўчкі падзякаваў за намінацыю.

Узнагароду ён захаваў у бліжнім кутку сваёй тэхнічнай каморы.

Аляксей АРЦЁМАЎ

# ДА СІНЯЙ ВАДЫ...



***Аляксей Арцёмаў нарадзіўся 27 сакавіка 1991 года ў Туле. Студэнт Тульскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Публікаваўся ў часопісах «Маладосць», «Верасень», альманаху «Беларус». Любіць сучасныя тэхналогіі. Хацеў вывучыць усе мовы свету, але вывучыў толькі беларускую.***

**КАВЯРНЯ**

Ля станцыі ў кавярні прыдарожнай
Не захмялець — адно напіцца можна,
Але нашто мне піва і віно?
Я на адной з такіх спусцелых станцый
Збаяўся — і не змог з табой застацца,
А верасень у жоўтым кімано
Махаў галлём неабляцелых клёнаў.
Я чуў — ты ўслед мне сыпала праклёны —
І прамаўчаў, і зноў паскорыў крок.
Загояцца марудна ў сэрцы раны:
Не вылечыць і столік рэстаранны...
Сяджу ў кавярні. Побач сцэна й змрок.
І робіцца чамусь ніякавата:
Пяе жаночы голас пра расплату,
А гук ляціць і растае ў журбе...
Я выйшаў на свабоду з душнай залы
І хутка апынуўся на вакзале...
Але скажы: як збегчы ад сябе?

* * *

Гадзінніка не носіш ты з сабой.
Ці спыніш гэтым час? Не! Смех, дый годзе.
Са старасцю бязлітасны двубой
Нахабнікаў да магілак даводзіць.
Ці спраўдзіцца на вечнасць мой спадзеў?
Што здарыцца ў апошні дзень у свеце?
Тады б на даўніну мне паглядзець,
Пераматаць свой лёс, як на касеце.
Мне пяць гадоў. Во, бач, малы які!
І цёплы дотык дзедавай рукі…
Вось дзевяць. Я стаю ля дошкі ў школе…
Дні растаюць сняжынкай на акне.
Праз сто гадоў забудуць пра мяне,
І спеў мой не паўторыцца ніколі.

* * *

Я шукаю дарогу да сіняй вады,
Каб нарэшце, бы ў Меку, прыехаць туды,
Дзе віецца Бярэзіна, быццам вужак,
Дзе лясы апранаюць зялёны пінжак,
Дзе ў імгле дажджавой чырванеюць агні,
Дзе рухавая плотка жыве ў быстрыні…
Там гісторыя ўсмешку змяшала з журбой,
Там на дзіва нялёгка застацца сабой,
Там забытыя хаты — і побач крыжы,
Бо памерці там лёгка, ды цяжка пражыць.

* * *

Чараўніца ў бутэльцы з зялёнага шкла,
Ты мяне нечакана сягоння знайшла.
Дык нашто ў гэты вечар ты выйшла з ільдоў?
Каб з ласкавай усмешкай скарыць мяне зноў?
У будзённай турботе й бязладнай журбе
Не магу, не хачу пакідаць я цябе.
Хай я з кожным глытком прапіваю душу!
Падаруй мне адзін пацалунак! Прашу!
Каб ад дотыку хмелю забыў я зіму,
Каб не помніў, навошта жыву, ды чаму.
Не! Няхай застанецца адзіны ўспамін:
Снежань, гурбы за шыбай, кілішак, камін.
Толькі прысмак кахання на вуснах маіх
Нагадае бязлітасна: боль не аціх,
Бо адзінай каханкай маёю была
Чараўніца ў бутэльцы з зялёнага шкла.

**ГАДЗІННІК**

Ці не хочаце купіць гадзіннік Вы?
Ён стары — бадай, напэўна, сто гадоў.
Дзед яго рэстаўраваў, як быў жывы,
Потым я рамантаваў прыбор наноў:
Механізм заводзіў, чысціў цыферблат…
У камплекце ключ аддам і гіры дзве.
Толькі стрэлкі вырваў я даўно з-пад шкла,
Каб не бачыць, як згарае ўласны век.

* * *

Паэты звышновай эры!
Ці мала нас? Не, нямала.
І кожны — не Танк (халера!),
І кожны з нас — не Купала.

У вершах багата позы,
Багата ў чытанні крыку…
Пісаць паспрабуеш прозу —
Вось вырак табе: не Быкаў.
Пегаса свайго прыструніў,
Каб п’есу пачаць цікава?
Адкажуць, што ты не Дунін
І не Марцінкевіч нават.
Між класікаў нас не будзе,
Для іх мы чужынцы, госці
Але мы таксама людзі
І ўнукам пакінем штосьці.
Хай пішам благія вершы,
Затое трымаем марку.
Бо твор (хоць мізэрны) — лепшы
За дулю ды чысты аркуш.

* * *

Не дойдзе да Тэначтытлана ацтэкскі ваяр,
Не знойдзе траянец сваёй шматпакутнай радзімы,
Стагоддзяў цягнік незваротна праносіцца міма,
Мінаецца ўсё, маладосць адыходзіць твая.
Дзіцячая радасць згубілася дзесь за альсом,
Зрабіліся пылам дарожным наіўныя мроі,
Ды ты не паверыў і ўпарта варушыш старое,
А вецер халодны хапае цябе за крысо.
Ты можаш казаць, што захочаш — сабе не мані,
Што гэта не ўзрост, а звычайная змена сезону.
Ты стрэсваеш кроплі з плячэй, з рукавоў, з парасону,
Нібыта скідаеш апошнія летнія дні.

* * *

Я — частка той шэрай масы, што кулю зямную таўхае,
З усімі йду па дарозе бясконцага крывадушша.
Калі я памру, не трэба ні пекла, ні светлага раю:
Вы мне ў далонь укладзіце маленькае семечка грушы.
Яно прыжывецца ў глебе, праб’ецца хоць нейкім цудам,
А потым — хай лупіць вецер, няхай калоціць залева.
Так! Мне не ажыць ніколі, ды толькі ўсцешаны буду,
Што я зрабіўся нарэшце маўклівым і шчырым — дрэвам.

* * *

Старыя хаты касавурацца,
Глядзяць у мутную ваду —

Дняпро заліў увечар вуліцу…
Як да цябе цяпер дайду?
Мы закаваныя самотаю,
Пакуль рака — пяшчотны кат —
Пакусвае падворкі ўпотай і
Цалуе прызбы сонных хат.

* * *

Ты бяжыш дзень пры дні, хоць не помніш, чаму дый навошта,
Пасылаеш сшарэламу небу дзяжурны праклён,
І маўчыць тэлефон, і маўчыць электронная пошта,
Толькі семкі грызе электронны лайдак-паштальён.
Дзесь чуваць пошум дрэваў далёкіх, а ты не зважаеш,
Ты бяжыш і не бачыш, як хутка спаскудзіўся свет,
І сапраўдную волю змяняе свабода чужая,
А народ паслухмяны жыве без надзей і без мэт.
Лісце жоўклае ў парку паспешліва падае долу,
Дрэвы-свечкі стаяць на нябачнай сусветнай імшы.
Ты бяжыш. Толькі выбегчы нельга: будзённасці кола
Заціскае ў абдымкі, каб ціха цябе задушыць...

**ТРАМВАЙ**

Жыццё — старэнькі чэшскі трамвай на вуліцы Еўпаторыі,
Які паціху паўзе ў дэпо; за ім пляцецца гісторыя.
Вось ты старэеш і забываеш былых куміраў-герояў,
Але ж у памяці шчэ паўзе трамвайчык з краіны мрояў.
Наўкол квітнее жнівеньскі дзень, нябёсы промнямі пырскаюць,
І едзеш ты праз сцяну гадоў наўпрост у задуху крымскую.
Ізноў у вагоне вірує жыццё — курортнікі з пляжу вяртаюцца,
А дзеці ловяць сонца ў акне, трымаюць на кончыках пальцаў.
І пасажырка галосіць, вішчыць — ажно вылупляе вочы.
Кандуктарка моўчкі слухае, а бабка квітка не хоча:
«Пенсія трыццаць сем грыўняў! Скуль на трамвай знойдзеш грошы?!»
Кандуктарка ёй даруе, бо сёння настрой харошы.
А побач сядзіць рабочы, вясёлы з самага ранку:
Яму на заводзе далі адгул. Кульнуў ад радасці шклянку.
Другую шклянку ж — увечар кульне, каб быць найшчаслівым у свеце,

А потым сустрэне ён двух сяброў — і разам вып’юць па трэцяй.
І ты назіраеш за мітуснёй — наўкол мяняюцца людзі,
Вось нехта ўваходзіць у твой вагон, а іншы больш ездзіць не будзе,
А ты б яшчэ наведаў ліман, заскочыў па дыню на рынак,
Ды кажа кіроўца табе: «Выходзь. Гэта апошні прыпынак».

Дар'я ЛЁСАВА

# АПАВЯДАННІ



***Дар'я Лёсава нарадзілася 13 чэрвеня 1985 года ў Мінску. Закончыла каледж і акадэмію мастацтваў. Друкавалася ў газетах «Літаратура і мастацтва», «СБ. Беларусь сегодня», калектыўных зборніках паэзіі «Свет на дваіх», «Дзень паэзіі», «Літаратурны квартал», «Мы — маладыя». Творы перакладаліся на балгарскую мову. Аўтар зборніка паэзіі «Туга зямная».***

## АЗАЛІЯ

— Ой, што ты нарабіла?! Што ты нясеш мне?! Я табе нашто гэтыя грошы дала? Га? Каб ты хлеба купіла, каб малака пакет, масла, яек, а ты! То ж апошнія капейкі нашы былі! Апошнія! Ой, людзечкі мае добрыя, дзе, на якой сасонцы засіліцца, каб больш не бачыць гэтай дурніцы! Яна мне азалію нясе! Ёй, бачыш, шкода бедненькай красачкі, якая змерзла ў пераходзе метро! І прападае, усыхае. Прадавец ёй і кошт панізіў, каб толькі ўзяла! «50 тысяч, што гэта за грошы!» — ёй, бач, прадавец той азаліі сказала! А для мяне гэтыя грошы немалыя! Ідзі, каб я цябе не бачыла, і есці сёння не прасі! — маці ажно калаціла ад роспачы.

І праўда ж, што гэта я зрабіла? Я ж ведала, што гэта былі апошнія нашы капейкі, а вось жа нешта перамкнула ўва мне, нешта такое зрабілася са мною, што не вытлумачыць аніяк. Як толькі ўбачыла гэтую пунсовую ружачку наверсе маленькага ссохлага дрэўца, і нібы страціла розум. Я падышла да ўсохлай азаліі і пачала з ёй ціхенька размаўляць:

— Што ж ты так, мілая? Стаіш на самым вятры, на лютым марозе, чым жа ты так не дагадзіла сваёй гаспадыні? Навошта ж яна паставіла цябе гібець? — і, шкадуючы бедную сірацінку-красачку, я міжволі, сама таго не заўважыўшы, пачала гладзіць яе ўсохлыя галінкі. Гладзіла і плакала. Плакала і гладзіла. Прадаўшчыца, маладая кабеціна з цыгарэтай у зубах, падышла да мяне, пусціўшы ў вочы клубок едкага дыму, цынічна запытала:

— Што ты так, дзеўчынёха, расплакалася! Вунь людзі як мухі мруць, моргі перапоўнены. І многа такіх трупаў, што ніхто імі не цікавіцца: ні сваякоў у іх, ні сяброў. І на іх, бедных, наша медыцына вучыцца! Студэнты іх рэжуць, як свіней якіх! І жылле, і косці іх перабяруць, вывучаючы, якая тазабедраная костка, а дзе галёнка. О-ой, людзечкі, не дай Бог такой смерці нікому! У мяне студэнтка-медычка на кватэры, дык яна са смехам пра гэта гаворыць! І больш таго, кажа, што яны ядзяць над трупамі! Так, у адной руцэ бутэрброд трымае, а ў другой — нага, рука трупа! І нічога, кажа! Гэта мы, маўляў, звычайныя людзі,

істэрыкі закатваем, непрыемна, негігіенічна! А яны вось, медыкі, мусяць быць цвярозымі, вучыцца на трупах, каб пасля правільна выстаўляць дыягназы, лячыць! Ці паверыш, дзяўчыначка, я спачатку баялася сваёй кватаранткі, здавалася, што ад яе трупярняй патыхае! Асобна ад яе трымала ежу, хлеб. Пасля звыклася. Чалавек з усім звыкаецца. Во пажывеш яшчэ троху і зразумееш мяне. Жывому — жывое, мёртваму — мёртвае! І ніякага следу ад большасці з нас не застаецца. Пажыў, паеў-папіў, прыйшла пара — укінулі ў зямлю, закапалі і ўся табе слава! Як не было чалавека! Толькі тае і жытухі, што на белым свеце! А там — цемра, бяздонне, прорва! Няма нічога там! Не веру я ні ў якія байкі, што душы нашыя ходзяць недзе. Байкі! Прымхі! Чалавек, як любая з жыўнасці, заўсёды знішчае некага! Хто ведае, можа, і нас сіла вышэйшая прыстуквае, як палічыць патрэбным? Я стараюся пра гэта не думаць, а калі падумаю — жах бярэ. Тады цыгарэту ў зубы і забываю на ўсё! А яшчэ як кроплю якую ў рот — тады зусім добра! Так што і ты надта не захмурвай свайго сэрца, усё і ўсіх не пераплачаш! Думай пра сябе! Вунь якая белая, спалатнелая! Што з табой, хворая?

Нарэшце гэтая цыгарэтная дама задала нармальнае пытанне, спынілася ў сваіх развагах пра жыццё. Я выцерла слёзы і ўзяла маленькі гаршчэчак са змерзлай азаліяй у рукі:

— Навошта вы такую харошую кветачку замарозілі? Яна ж жывая! І ў яе ёсць сэрца, душа! Яна чуе нас, бачыць! Ужо даказана вучонымі, што нас адчуваюць і дрэвы, і кветкі! А вы, вы… — У мяне не хапала слоў, каб выказаць гэтай непрыемнай жанчыне сваё абурэнне і гнеў.

Яна неяк крыва ўсміхнулася:

— Глядзі ты, шкадуе! Сябе б пашкадавала лепш! Зірні, да каго ты сама падобна! Худая, як гліст які! На ваніты цягне ад твайго выгляду! Хто на цябе калі зірне! Які мужчына кіне вока?!

— Я мужчынамі не цікаўлюся! — ад гневу мяне ўжо трэсла.

— Ат, усе так кажуць! А як прыйдзе пара — для такіх, як ты, — уга, як непазнавальна ўсе чысцюлі мяняюцца! Вочы гатовы выдраць у саперніцы, каб толькі сабе каторага ў ложак зацягнуць!

— Пра што вы гаворыце, як вам не сорамна, я яшчэ школьніца, я ніколі не чула такіх размоў! Ні ад мамы, ні ад сяброў, як вам не сорамна? — ускрыкнула я, парываючыся бегчы ад гэтай пачвары як мага далей, каб ніколі болей яе не чуць і не бачыць! І я ўжо кінулася, было, бегчы, зусім забыўшыся, што ў маіх руках маленькі гаршчэчак з мініяцюрнай змерзлай азаліяй. Але тут мяне моцна сціснулі за руку, што я ажно войкнула ад болю:

— Э-ге, галубачка, пастаў лепш маё дабро на месца! Яно грошы каштуе!

— Ах! — войкнула я. — Я зусім забыла… Даруйце… Але я б хацела купіць у вас гэтую няшчасную кветачку! Колькі яна каштуе? — выпаліла раптам я.

— Пяцьдзясят тысяч! Таму так танна, што крышку падмерзла. Але гэта такая кветка, што можа адысці. Так што пяцьдзясят тысяч і мала за яе браць.

— У мяне, на жаль, больш няма. Мама дала толькі на самае неабходнае.

— Ат, дзе наша не прападала! Давай хоць гэтыя! Так і быць: аддаю табе сваю прыгажуню. Задарма, лічы, аддаю!

Чамусьці падалося ў той момант, што прадаўшчыца можа перадумаць, не аддаць мне гэтую бедную азалійку. Я хуценька сунула ёй грошы, мацней прыціснула да сябе гаршчэчак, абхінуўшы яго крысом паліто і выбегла з халоднага перахода метро да тралейбуса. Праз колькі хвілін я была дома з гаршэчкам у руках. Толькі тут, у цёплай кватэры, я ўбачыла, што тыя некалькі прывялых пялёсткаў ружы зусім апусцілі вушкі, і яны вось-вось зваляцца, і тады нічога не застанецца ад маёй кветачкі.

— Вось, — ціха сказала я маме, раптам зразумеўшы, што зрабіла. У доме не мелася ні крошкі хлеба, ні мучыны, ні сальца, ні смальца… І гэтаму была віною я! І бедная мая мама, якая ўжо без кійка не абыходзілася, прыціснулася да сцяны, каб не ўпасці ад роспачы. І тут яе пачало трэсці, і яна пачала крычаць… Яна крычала, здавалася, цэлую вечнасць. І што я самая дурная з усіх дурных, якія толькі ёсць на свеце, што ў людзей дзеці… Ой, гэтыя «у людзей дзеці»! Я раптам успомніла, што некалі мама мне расказвала, што і на яе так некалі сварылася яе маці, калі нешта не тое рабіла дачушка.

Я плакала. Горка. Роспачна. Раптам адчула ўсё сваё сіроцтва. У мяне ніколі не было бацькі, хоць ён і быў, жыў з намі ў адной кватэры. Я толькі маленькай, па загадзе маці, называла яго татам. Яна не ведала, як падцягваў ён мяне да сябе за каўнерык і як біў сваёй вялікай далонню па галоўцы:

— Стаяць! Маўчаць! — як на кабылу якую! Толькі і помню, што здзек, і гэтае біццё з прыгаворамі: «Стаяць! Маўчаць!» І — яшчэ больш жудасныя запалохванні! Мама не ведала, як старалася я ўцячы ад яго, зашыцца ў які-небудзь цёмны куток, забіцца пад ложак, каб ён ніколі мяне нідзе не дастаў! Але ён даставаў мяне ўсюды кійком! Выпорваў з-пад ложка, з-пад крэсла, з-пад стала! І біў, здзекаваўся, запалохваў, што калі я скажу маме, то ні мяне, ні яе не стане ў жывых. І ніхто ніколі не будзе ведаць, куды мы падзеліся. Нас з ёю можа збіць машына, могуць зарэзаць у пад'ездзе яго сябры ці сваякі, дзябёлыя хлопцы (вось жа і з турмаў выйшлі!).

Мама не ведала… А тады, калі яна даведалася пра усё, з ёю нешта зрабілася. Яна можа цяпер толькі плакаць і зрэдку (вельмі рэдка, ад нейкага нечаканага ўдару) закрычаць. Гэтым ударам для яе сёння стала я, мой учынак.

Я ціха асунулася перад ёй на калені, абняла матчыны ногі:

— Мама, мая бедная мамачка, ты даруй мне, я сама не ведаю, як гэта атрымалася. Мне так шкада стала гэтай змерзлай кветачкі, мне падалося, што яна ў нашым з табой цяпле акрыяе. Мне здавалася, што мы адагрэем яе сваімі сэрцайкамі, і яна ў нас разрасцецца ў вялікі прыгожы куст, і абсыплюць яго, як матылькі, пунсовыя красачкі-ружы! Ай, мама, мне так хацелася, каб у нашым з табой доме зноў заквітнелі ружы! Ты ж казала, што некалі, калі я была маленькай, у нас быў вялікі вазон белых руж, і што яны заўсёды хораша цвілі. І асабліва буялі ў год той трагедыі. Ты сказала, што яны на гора тады зацвілі. І ты ў роспачы яго выкінула… А я, мамачка, хачу, каб на шчасцейка ў нас з табой зацвілі ружы! Калі зацвіце, адыдзе ў нас гэтая змерзлая азалія, мы станем з табою самымі шчаслівымі людзьмі. Ты зноў станеш здаровай, будзеш хутка бегаць, не абапіраючыся на кіёк. І я ўзрадуюся. І пачнём мы з табой працаваць, зарабляць шмат грошай, будзем заўсёды іх з карысцю траціць. Будзем есці з табой бананы, апельсіны, яблыкі. У нас з'явіцца шмат гародніны, сокаў… Мамачка, я цябе падыму яшчэ на ногі, мамачка!

Мама ўзяла мяне за плечы, моцна-моцна абняла, прытуліла да сваіх грудзей, што аніякая сіла не змагла б расшчапіць яе самкнёных рук, яе пальцаў. Яна хавала свой твар на маім плячы. Але я чула яе слёзы, і шэпт яе быў такім родным, такім гарачым, што ад яго б расталі нават леднікі:

— Ты даруй, даруй мне, мая крывіначка! Ты правільна, вельмі правільна зрабіла, што купіла гэтую бедную азалійку! Яна ў нас акрыяе, абавязкова адыдзе! Цяпер мы з табой адны… Яна зацвіце ў нас так прыгожа, што ўсе людзі будуць глядзець на нашы вокны! І мяне возьмуць на працу, і буду я атрымліваць вялікія грошы, і зажывём мы з табой. І тэлевізар купім, і халадзільнік, і канапу табе. Усё ў нас з табою яшчэ будзе. І пачнём мы жыць-пажываць, і гора не ведаць. Толькі памяняем гэту кватэру, каб забыць, навек забыць пра ўсё, што ў ёй адбылося. І твая бедная азалія

стане ў нас самай шчаслівую на зямлі кветкаю. Яна будзе цвісці, як ніводная азалія на свеце! Яна абавязкова адыдзе, абавязкова заквітнее! Бо любая бяда, любое гора растае ад цяпла, ад увагі, ад дабрыні людской. І зажывём мы з табою, як ніколі яшчэ не жылі!.. І я пражыву яшчэ каля цябе, дачушачка, шчаслівай, другое, годнае жыццё. Я наганю патрачаныя гады, я ніколі не пайду на пенсію, я буду рабіць! І столькі мы з табой яшчэ харошага ў жыцці зробім, столькі зробім, што здзівяцца людзі! Дзетачка, я адчула ў сабе сілу! Я не ведаю, адкуль раптам яна ўзялася ўва мне! Зірні, я ж магу яшчэ нармальна хадзіць! І мазгі ў мяне здаровыя! А калі ёсць галава на плячах, дзетка, значыць, усё яшчэ будзе! І песні, і радасць, і шчасце! Я адчула сябе сёння здаровай! Самай здаровай, нармальнай жанчынай! У мяне ёсць ты, мая дзетачка, мая бедненькая і самая багатая азалійка! О, Божухна, аберажы маю дзетку ад злых напасцяў-няшчасцяў, ад лебяды-злыбяды, ад гора! Дай ёй, Божухна, толькі сонца і зоры, цяпло і ласку, і красачак казку! Яно ўжо столькі выцерпела, дзіця маё, як ніводнае дзіцятка на свеце! Аберажы яе, Божачка, захавай для людзей, як самае дарагое захоўваеш.

Я слухала маму, як слухаюць толькі песню. І дзякавала Богу, што яна выжыла, хаця ўчарнела, ссівела ад гора, хоць усё на свеце страціла… Акрамя мяне.

## ДЗЕТАЧКІ…

— Ой, гэтыя мужыкі! Яны ж як дзеці! За імі вока ды вока трэба! Выйдзеш замуж — глядзі мужа, як сваё вока! Гэта твой ордэн, тваё сэрца! Дарма што каторая матляне спадніцай ля яго, голае каленца пакажа, а ты яму два пакажы! І яшчэ карацейшую спаднічку надзень! Мужыкі толькі ў шэсцьдзесят гадоў пачынаюць разбірацца ў жаночай красе, тады і жонку сваю раптам пачынаюць цаніць, бачыць, якая яна прыгожая!

— Мама, ты звар’яцела! Хіба можна непаўналетняй дзяўчынцы, тым больш дачцэ, пра такое далдоніць?! — абуралася я.

— Можна, яшчэ як можна! І трэба! Вунь што за акном робіцца! І не сярод ночы нават!

— То ж дыскатэчныя, мама! І мяне туды, на танцы-шманцы, не цягне!

— А халера б іх усіх пабрала! Ці ж то людзі будуць! Што з іх станецца, калі яно ўжо, саплівае, цябе, старэйшага, не шануе, не саромеецца. Божа-Божа, свет дагары стаў! І не тое, што дагары! Пры маёй памяці такога не было. У залатым часе мы жылі. Нас у школе вучылі павазе да старэйшых, у школу мы хадзілі акуратна, сціпла апранутыя. Была форма. З белымі каўнерыкамі, такімі ж манжэтамі, фартушкамі — чорнымі ў будзень, белымі — на свята. І галоўкі ва ўсіх былі — люба глянуць! Дзяўчынкі з коскамі, банцікамі, акуратнымі стрыжкамі, калі ў каго валасы рэдкія. А каб хто надумаў нафарбавацца, навесці вусны, бровы — таго б са школы выперлі! А калі каторая б пачала без сораму з хлапчукамі раманы круціць — таксама б выклік для школы! То ўжо якая вучаніца!

— А каханне, мама?

— Усяму — свой час, дзетка. У школьныя гады трэба да кніжкі кідацца, розуму набірацца. Без розуму аніяк нельга. Што вы, у тым каханні, яшчэ разумееце! Во як ты летась чарнела, памірала ад кахання да Стасіка-аднакласніка. А што ў ім, дзетка! Пустата! Акрамя штаноў нічога ў ім! Я, як зірнула на яго, — мяне адвярнула. Чурбан нейкі! І ў гэту цурку ўкахалася мая дачка! Дзякуй Богу, што твая сяброўка адбіла яго ад цябе. Я так радавалася… Нашто ён табе! Во Волечцы ён якраз! Там

і маці, ты кажаш, ужо заклапочана, як дачку замуж хутчэй аддаць. Гэта ж трэба, маці яе пры табе ляпала, каб шукала Волечка сярод аднакласнікаў сабе мужа, і чым раней, тым лепей… Хоча дзіцёнка хутчэй гадаваць!..

— Мама, нашай Віцы шаснаццаць, а яна ўжо замуж ідзе! Яе мужык у школу правёў, а фізічка ўбачыла і пачала распаляцца: «Трэба ў фізіку болей углядацца, а не ў хлапцоў, Віка! А то адны калы! Што ты ўсё па завуголлях трэшся з гэтымі жэўжыкамі?! Пакуль гора сваёй матцы ў падоле не прынясеш!» А яна ёй у адказ, ведаеш што, мама?

— Гэта ж муж мой, Таццяна Фёдараўна! Мы ўжо два гады разам жывём, у гэтую нядзелю распісваемся! Маці яго з дому выгнала, а мы з мамай падабралі і во — мужык што трэба аказаўся!

Таццяна Фёдараўна аслупянела, застыла каля дошкі, неяк дзіўна заміргала вачыма, нешта ўсё наважвалася прамовіць, але толькі варушыла збялелымі вуснамі. Разгублена прамовіла:

— Ну і дзетачкі пайшлі!

Клас весела рагатаў. Віка ж давала тлумачэнні дзяўчаткам на пытанні…

— А дзе ж вы там у адным пакойчыку месціцеся, Віка? У вас жа інтэрнацкі пакой з мамай.

— Нічога. Абы мужык добры быў. А мой Хведзька добры. Вось жа не кінуў мяне, да шлюбу ідзе. А там, глядзіш, і яго старыя адыдуць, памякчэюць, нас у свае харомы прымуць. Куды дзенуцца! Адзіны сынулька!

— Далёка глядзіш, Віка! — кінула ёй фізічка.

— І вы б так глядзелі, калі жыць не было дзе. Федзька — багаты, у яго бацькоў толькі птушынага малака не хапае.

— Божа-Божа! — стагнала ўжо за настаўніцкім сталом Таццяна Фёдараўна. — Што дзеецца?! Мы ж, бывала…

— Не трэба вашых павучанняў, Таццяна Фёдараўна. Мы ўжо дарослыя і добра бачым, што вакол робіцца. І як залатыя медалі атрымліваюць бачым! Во прывялі ў наш 11-ы навенькага з гімназіі, у якой мая знаёмая вучыцца. Тая мне і расказала, што ў іх многія настаўнікі незгаворлівымі аказаліся, ні за што высокія балы не ставяць ні па мовах, ні па літаратурах, ні па гісторыі гэтаму ёлупню, сынку вялікага начальніка, тады яго сюды перакінулі! І, уявіце сабе, прымацавалі нашу Сашку да яго, каб дапамагала яму па гэтых прадметах, тая тлумачыць, тлумачыць, а ўсё безвынікова! Ну, не дадзена яму, не дадзена гэта! Во толькі матэматыка. Дык гляньце, ён у Сашкі паскатвае кантрольныя, яму ж ні за што выдатныя адзнакі ставяць! Сёння яго няма, а каб і быў, — сказала б! Надакучыла глядзець на гэтага слюнчыка! Як лёгка яму жывецца! А ці чуў хто з нас адказы яго па літаратуры, гісторыі, мовах? Ніхто не чуў! А зазірнулі ў журнал — дзявяткі-дзясяткі адны, лепшыя, чым у нашай Сашкі! На медаль цягнуць! Ды чаму тады вы, Таццяна Фёдараўна, не завышаеце нашай Сашцы адзнакі? Адна фізіка і хімія ў яе тормаз, а так выдатніцай была б! Дык свайму чалавеку — дулю, а збоку хлопчыку-красунчыку — калі ласка! Цьфу! — Віка не ўтрымалася ад гневу, сціснула кулачкі і ўскрыкнула: — Цяпер разумееце, Таццяна Фёдараўна, чаму я замуж так рана падалася?! Таму што мы з мамай душымся ў інтэрнацкім пакойчыку, і нам нічога нідзе не свеціць. Няма аніякіх сувязей, каб прабіцца куды! Мама мая — савецкая, былым усё жыве, а на двары — XXI стагоддзе! І новы час настаў, новая моладзь, новыя бацькі, а мая мама — старая, уся пакалечана жыццём, не разумее гэтага, не ўспрымае. Толькі плакаць можа, а не дзейнічаць! Во я, маладая, і ўзялася ратавацца. А што, прападаць мне? Ну, вучуся дрэнна… Ды таму, што часу няма на вучобу, трэба зарабляць нешта, каб жыць.

Таццяна Фёдараўна на ўсе вочы глядзела на сваю вучаніцу, як не пазнавала яе. Доўга маўчала, але ўсё ж у глыбокім задуменні ціха вымавіла:

— Ты ў многім права, дзяўчынка мая. Жыццё цяпер — дужа складанае. Рэзкі падзел на багатых і бедных даў свой вынік. Але чалавек заўсёды застаецца чалавекам, і той, хто быў ім, — той і сёння сярод харошых людзей. І беднаму падсобіць, і сляпога, глухога не кіне ў адчаі. Ну, а што наконт настаўнікаў — усё бывае і тут. Але ёсць настаўніцкі этыкет, ёсць мараль, закон, пераступіць які не мае права ніхто з нас, — завяршыла сваю думку Таццяна Фёдараўна.

Але тут зноў узвілася асмялелая, не падобная да сябе сёння Віка:

— Ой, не трэба вашых павучанняў, Таццяна Фёдараўна! Мы ведаем, колькі трэба заплаціць, каб паступіць у гімназію, калі бацькі неўплывовыя, без пасад… Мы ведаем, чаму ў нашых класах так многа бізнесоўскіх дзетак… Ведаем, што нават у ВНУ ёсць такія лазейкі для абраных, што ніхто і па сёння на іх не выйдзе!

— А што я вам падкіну, калі ўжо на тое пайшло… — нечакана ўбілася ў гаворку наша заўсёды маўклівая Каця. — Праўда, мама прасіла, каб я пары з зубоў на гэты конт не выпускала… Але раз ужо ў нас такая шчырасць палілася, не магу ўцярпець і я… — крышку сумеўшыся, патлумачыла наша сяброўка і ўжо рашуча пачала. — Ведаеце, да нас у госці часта завітвае маміна аднакурсніца, у яе двое дзяцей, мы з мамай ведаем, як яны вучыліся і думалі, што яны вучылішчы толькі і закончаць, а тут аказалася… Сын Іняз заканчвае! Я, як дазналася пра гэта, вырашыла аднойчы пад'ехаць да яго з хатнім заданнем па англійскай мове, і як жа я здзівілася, што ён па ведах на маім ўзроўні! А як я ведаю англійскую, наша англічанка за галаву хапаецца… Дужа нервавалася мама гэтага вундэркінда, прасіла, каб я не турбавала больш ейнага сына… А маме патлумачыла па вялікім сакрэце, па-сяброўску, што яна выдае кнігі загадчыка кафедры гэтага ўніверсітэта…

Дзіўная цішыня павісла над намі. Ніхто ўжо не хацеў болей працягваць якуюнебудзь гаворку. Цяжкая безвыходнасць, як нечаканы метэарыт, накрыла, здавалася, усіх нас. Толькі Віка, цяжка ўздыхнуўшы, разважліва падсумавала ўсё пачутае:

— Толку з таго, Таццяна Фёдараўна, што вы мазгі сваёй фізікай сушылі, што з яе маеце! Добра, як мы скінемся на падарунак харошы вам да свята, ды ў рэпетытары вас пазаве які вучань багаты! Вы ж тады на сёмым небе ад радасці! І адзнакі тады таму вучню малююцца, і кантрольныя чамусьці ён піша ўжо на васьмёркі-дзявяткі, хоць жа дуб-дубам. Вы думаеце, мы не разумеем, чаму ў кагосьці такія поспехі? Шчэ як разумеем! Вунь суседка па парце Тоня ўбачыла, як Сяргей голыя месцы на адказы ў сшытку пакідае, а тады бяжыць да вас, бярэ сшытак лепшага вучня і спісвае ў вашым жа кабінеце, пры вас! І вы яму падсабляеце, як што няправільна ў таго лепшага вучня. Во дзе свет-перасвет, Таццяна Фёдараўна! Мы вучымся жыццю ў вас! — раптам выдыхнула ў твар настаўніцы Віка.

У класе стаяла мёртвая цішыня. Ніхто ніколі з нас не асмеліўся б вось так, перад заканчэннем школы, перад выпускнымі экзаменамі! Мы ж — адзінаццаты. І тут ладзіць ды дагаджаць трэба ўсім настаўнікам, не дай Бог з якім заесціся. Труба будзе! Пры цяперашнім часе хто на такое адважыцца: выказаць у вочы настаўніку праўду? І Таццяна Фёдараўна, наша строгая Таццяна Фёдараўна, жах для ўсіх вучняў, — раптам атрымала такога дубчыка! Пры ўсіх! І ад каго! Ад Вікі, у якой двойкітройкі і калы па фізіцы!

Усе чакалі развязкі. Цішыня звінела ў вушах. У нас ніколі не было такой цішыні. Звычайна шум, гам, няможна нават сканцэнтравацца, каб улавіць, пра што кажа настаўніца. Асаблівая пакута на сачыненнях. То з аднаго, то з другога боку нясецца:

— Саша, га, Саша! Ты што, аглухла, Саша?! — калі я не адказваю, нервуецца нехта ўголас.

І тады я ўзрываюся.

— А пайшлі вы! Я што геній? Мне ж таксама трэба падумаць, каб напісаць! Што я ў такім шуме магу!

На фізіцы, праўда, да такога не даходзіла. Гэта быў адзіны прадмет, якога баяліся… Гэта была адзіная незалежная настаўніца, і вось жа на табе! Як жа ёй так пасмела выказацца Віка! Во дурніца! Во бухнула!

Нехта кашлянуў. Таццяна Фёдараўна моўчкі падышла да акна, адвярнулася ад класа. І раптам плечы яе сутаргава здрыгануліся, галава ўпала на выцягнутыя далоні. Таццяна Фёдараўна плакала! Усе маўчалі. Кожны з нас, мусіць, думаў, што рабіць, як выйсці з гэтага становішча. Мы чакалі ўсяго, але не гэтага! Слёзы — ад Таццяны Фёдараўны?! Былі б зразумелымі тут гром ды маланкі ў адрас Вікі, выгнанне яе з класа з пагрозай, каб больш на ўрок без маці не з'яўлялася. Мы чакалі гневу, абурэння, а тут… У гэты момант я адчула такі боль ды сорам у душы, што хацелася, як і настаўніцы, заплакаць. І ў мяне пачалі макрэць вочы. Падысці б да Таццяны Фёдараўны, штосьці сказаць… Але што? І як паставіцца клас да гэтага? Нядобра ўсё, ой, як нядобра! І хто б мог падумаць, што так выйдзе! Таццяна Фёдараўна была заўсёды строгая, суровая з намі… Рэдка калі ўсмешка прабягала па яе твары. Ды і якія там будуць усмешкі, калі гэткія формулы, задачы перад табой! Я заўсёды блыталася ў фізічных правадах, гублялася перад імі, трапляючы ў сетку незразумелых мне токаў, праваднікоў, паўправаднікоў. Я павісала на іх, як павісаюць толькі забітыя маланкай птушкі…

Таццяна Фёдараўна, строгая і суровая, чаму вы плачаце? Няўжо так моцна адгукнулася ў вашым сэрцы тая праўда, якую выдала Віка?! Няўжо так параніла вас гэта жахлівая праўда жыцця?

Нібы пачула мой унутраны голас настаўніца, рэзка павярнулася да класа, выцерла ўзмакрэлы ад слёз твар. Уся яна была цяпер такой абмяклай, прыціхлай, згорбленай. Куды падзеўся яе прамы стан, строгі выгляд! Перад намі стаяла звычайная, прыбітая горам, жанчына. Вочы яе былі сумныя-сумныя. Яна глядзела на нас і быццам паўз нас. Некуды ўдалячынь, праз сцяну… І пачулі мы, урэшце, тое, ад чаго, колькі б ні жыць, будзе цямнець перад вачыма, будзе дранцвець цела:

— Даруйце мне, дарагія мае вучні. Я сапраўды зрабіла непрыгожы крок… Я нанялася ў рэпетытары да вашага аднакласніка за грошы. Упершыню ў жыцці я схібіла… Упершыню я двойчы завысіла адзнакі, дапамагла зрабіць яму кантрольныя… За грошы, дзеці, за грошы. Усе бяруць і я ўслед за ўсімі… Я не змагу, мусіць, болей прыходзіць да вас, вучыць вас. Пэўна ж, права не маю.

Таццяна Фёдараўна зноў заплакала. Дрыготкімі пальцамі нервова ўзялася за галаў, страпянулася, як пакалечаная птушка:

— Але ведайце, мае дарагія, чаму я пайшла на такі крок. У гематалагічным цэнтры памірае мая дачка, таксама, як і вы, выпускніца-адзінаццацікласніца, выдатніца-ліцэістка… Рак крыві… Ёй патрэбны дужа дарагія лекі...

Тут яна ўсхліпнула і рэзка змоўкла. Схапіўшыся за сэрца, захісталася, але, мусіць, сабраўшы ўсе сілы, якія толькі былі ў яе целе, моўчкі выйшла з класа.

А мы, замест таго, каб кінуцца ўслед за вялікім матчыным болем, нібы прыраслі да сваіх парт і ўпершыню, як ніколі за ўсе адзінаццаць гадоў навучання ў гэтай школе, ціха сядзелі, звесіўшы галовы. Віка, з-за якой і пачаўся гэты сыр-бор, размазвала па сваім размаляваным, як у лялькі, твары, слёзы. Яны, здавалася, сачыліся ў яе і з пунсовых вуснаў, са шчок, вачэй. Слёзы, як рэкі, цяклі, мне здавалася,

адусюль. Іх, як агонь, немагчыма было супыніць, ці хаця б сцішыць адразу. І кожны з нас (кожны!) у гэты момант трымаў свой самы галоўны ды суровы экзамен. І на што, і перад кім — гэта было вядома кожнаму з нас, паасобку. Вучням самай строгай настаўніцы Таццяны Фёдараўны…

## ЛЕСВІЦА Ў НЕБА

— Дыскатэка — гэта нешта жахлівае! Я думала, тут, у сталіцы, у самым цэнтры, будзе нешта незвычайнае, цудоўнае. А тут… П'янь, наркаманы, бясконцае спойванне, вылоўліванне дзяўчат для ўцех. Пустыя хлопцы, пустыя мужыкі з туга набітымі далярамі кашалькамі, новыя рускія, новыя беларусы. Дзяўчатак, ужо накачаных нечым, лёгка вывозяць некуды на машынах… Я ўсё гэта заўважыла! У мяне востры зрок, Паша! Больш ніколі-ніколі не заві, не вядзі мяне на гэту дыскатэку! Ты ж — не такі! Ты — чысты, светлы, ты — непадобны да гэтых усіх. Як добра, што мы з табой сустрэліся адразу ж, як я паступіла вучыцца! Каб не ты, я б тут згінула! Я б так сумавала па доме, сваёй рацэ, лузе, птушках, красках ды сонцы. Ты гарадскі, не ведаеш, якое сонца, на ўсё неба, грае-пераліваецца ясным ранкам, ты ж не бачыў, не чуў, як звіняць яго промні, перабіраючы ў полі каласкі, а на лузе — рамонкі, васількі. Як пахне такая раніца! Як звіняць, зумкаюць пчолы, стракозы лятаюць, як конікі пырхаюць па траве! Ведаеш, я малая лавіла іх без аніякай напругі! Усе людзі дзівіліся, не толькі мама! А я ж злаўлю і, асцярожненька патрымаўшы, разгледзеўшы яго, выпускаю ў траву! Мама думала, з мяне біёлаг цудоўны выйдзе, а я — у філолагі падалася. Больш за ўсё на свеце люблю літаратуру. Бо літаратура — гэта ўсё: неба, зямля, сонца, зоры, хмары, навальніцы. А чаго ты маўчыш, Паша? Прабач мяне, што ўсё пра сябе. А табе гэта, можа, нецікава. Ты, гарадскі, не разумееш майго замілавання вёскай, я абавязкова туды вярнуся, вывучуся і паеду назад. Мне ў горадзе сумна, Паша. Не, ты ўзнімі галаву, хіба гэта неба над намі? От нейкі кавалачак яго! А там, сярод лугу і поля, яно на ўсю зямельку, і так абдымае цябе, што міжволі раскінеш рукі і ляціш, як птушка. А як пайду дарогаю, як пайду! Быццам у тым хоры Дрынеўскага! І так лёгка дыхаецца, і так спяваецца! Ведаеш, Паша, я вельмі люблю спяваць!

— Чаму ж ты ў артысткі не падалася? — з незразумелай аддаленасцю і дрэнна схаванай насмешкай запытаў Павел.

Надзея агаломшана спынілася. Пільна пагалядзела на яго, стараючыся зразумець, што за гэтым пытаннем. Але хлопец, адчуўшы тое недаўменне, зрабіўся ранейшым Пашкам, да якога дзяўчына ўжо прывыкла. Дакрануўся да яе рукі, ласкава сціснуў далоньку.

— Ды не сярдуй. Я так. Падумаў, што ты — не такая, як усе, вылучаешся з натоўпу, — кінуў хлапец.

Надзея дужа здзівілася:

— Што значыць, не такая, як усе? Ведаць усіх немагчыма.

— А я — ведаю! — нечакана цвёрда, па-мужчынску моцна разануў Павел.

Надзейка на нейкае імгненне ажно пахіснулася. Але Паша і тут не разгубіўся. Ласкава прытуліў да сябе дзяўчыну, пагладзіў па яе даўгіх ільняных валасах.

— Ды не хвалюйся ты. Мы ўсе, калі хочаш, натоўп. І гоняць нас, як тое быдла, невядома куды і заганяць невядома куды. І толькі рэдкія вырываюцца з агульнага кладзішча.

— Я… я — не разумею. Пра што ты, Паша?

— І не трэба табе тут пакуль разумець. Прыйдзе твой час стаць разумніцай! — і Павел ужо рашуча абняў дзяўчыну, схапіў яе на рукі і закружыў, абсыпаючы пацалункамі ўвесь твар.

Імгненнае, нечаканае шчасце запаланіла, запоўніла ўсё сэрца, душу. Ах, нарэшце яно прыйшло і да яе. Надзейка задыхалася ад вялікай радасці, адчуваючы сябе птушкай у руках каханага. І, сама таго жадаючы, мацней і мацней даверліва хінулася да яго, самага адзінага, надзейнага. Неяк ашчаперыла хлопца за шыю, сама прытулілася да яго. І раптам вочы яе спыніліся на лесвіцы, што вяла, здавалася, у самае неба. Дом быў высачэзны, уздымаўся над галоўным праспектам сталіцы. Лесвіца ж, вядома, была пажарнай, ахоўнай, для паратунку, на ўсякі выпадак. Дзіўна, раней Надзейка нібыта не бачыла гэтых лесвіц, а тут спынілася, угледзелася ўвысь. А неба ўжо гарэла зорамі, месяц зырка зіхацеў паміж іх, саграваў сваіх меншых братоў і сясцёр. Надзея падумала, што ў гэты час не спіць, глядзіць на неба яе мама, думае, трывожыцца за яе: «Як ты там, мая дачушачка? Ці сытая, ці здаровенькая? Што ты сёння ела, мая мілая? Глядзі ж, не галадай, хоць што-небудзь страўніку давай, каб не збегся. Помні, ён у цябе хворы, і трэба дужа берагчыся, каб здаровай быць».

Пры ўспаміне пра маму Надзейка заплакала. Не тое, каб наўзрыд, але гарачыя салёныя кроплі пакаціліся па твары з вачэй.

Паша ажно войкнуў:

— Ты што гэта? Чым я цябе пакрыўдзіў, што вочы мокрыя?

— Прабач, — ціха выдыхнула Надзейка і тут жа дадала:

— Маму з сястрычкай прыгадала. Цяжка мне без іх, Пашка.

— Але ж я з табой! І ты ўжо дарослая, не дзіця, — зазначыў сур'ёзна Паша і раптам весела прапанаваў:

— А хочаш, каб маці сёння пачула цябе? І сястру каб гукнула, хочаш?

— Скажаш! — засамоцілася Надзейка, але прапанова Пашы, было бачна, яе заінтрыгавала. А той, не губляючы яе зацікаўленасці, яшчэ мацней прытуліў дзяўчыну да сябе і ўладна пацалаваў. Пякуча, працягла, у самыя вусны. Надзейка войкнула ад нечаканага парыву і прыціснулася да яго грудзей. А той шаптаў аддана, палка:

— Я кахаю цябе, кахаю! І мы пажэнімся, у нас будзе такое шчасце з табою, Надзейка! Мы ўсю зямлю заселім сваімі дзеткамі, Надзейка!

— Пра што ты? — быццам спалохалася дзяўчына, тут жа заірдзелася ад незразумелага хвалявання.

Але Паша так пяшчотна гладзіў яе па валасах, казытаў твар сваімі гарачымі вуснамі, што яна ізноў закалыхалася, зачаравалася яго словамі. А ён, як і яна нядаўна, паглядзеў на лесвіцу, што вяла, здавалася, у самае неба. Угары свяцілі зоры. Яшчэ нічога не разумеючы, але падпарадкаваная ўжо кожнаму зруху душы Паўла, Надзейка, затаіўшы дыханне, слухала свайго каханага:

— Гэта лесвіца, Надзейка, самая незвычайная ў нашай сталіцы. Я там заснаваў сваё царства, і ніхто пра тое не здагадваецца. Ты не ўяўляеш, Надзейка, што я там раскідваю палатку, залажу ў спальны мяшок, калі няма дзе падзецца і сплю там. І да сесій там жа рыхтуюся. Выберу такі час, калі нікога ў двары і шух — туды. Я ж — спартсмен, Надзейка, і ўзняцца туды за хвілінку магу. І царую там, колькі хачу. Свежае паветра, зоры, месяц, а днём — блакіт неба, сонца, птушкі, ціша… Пра дом нагадвае. Я ж таксама не сталічны хлопец, а берасцейскі. І інтэрнат надакучае. Вось тут бы, на даху, і жыў, здаецца!

Надзея здзіўлена, на ўсе вочы, глядзела на Паўла.

— Хочаш, пакажу сваё царства? Ты ж казала, што таксама ўмееш бегаць, лазіць, спортам займаешся. Хочацца цішыні, ад тлуму адасобіцца, я ўсё пра сябе раскажу там. Калі не баішся…

— Я не баюся цябе. Што ты, Пашка! Я табе, як сабе, веру! Я так цябе кахаю! — зашчабятала дзяўчына і яны ўжо разам хуценька падступіліся да лесвіцы. Надзейцы

дужа хацелася паказаць Паўлу свой спрыт, зграбнасць, майстэрства, якое даецца ўжо змалу вясковым дзецям. Як якая малпачка, яна падскочыла, каб учапіцца за лесвіцу, якая была высакавата ад зямлі. Але з-за малога росту той падскок не стаў паспяховым, Паша падхапіў яе і прыўзняў, яна ўжо зграбна зачапілася рукамі і пайшла ўгару так, нібыта гэта толькі і рабіла ў сваім жыцці. Павел не адставаў, дзівячыся спрыту дзяўчыны. Яны сапраўды вельмі хутка ўзняліся на дах дома. Нечаканы парыў ветру пругка ўдарыў у грудзі і ледзь не збіў дзяўчыну з ног. Яна пахіснулася. Але зноў на дапамогу прыйшлі рукі Паўла, і яго здзіўлены выдых працверазіў яе:

— А ты ўсё ж слабачка! Валішся ад першага ветру. А вясковая баба выстойвае нават перад буранам! А ты… Я і не думаў…

Нечакана Павел рассмяяўся. І смех яго быў чужым, далёкім, незразумелым. І Надзейка ўпершыню спужалася. І пакрыўджана прашаптала:

— Я не баба…

І раптам яна ўсвядоміла, куды забралася з хлопцам.

«Ці ж табе зямлі было мала схавацца дзе-небудзь з Пашам, каб пасядзець у цішыні? Дрэў у сталічных парках хапае…» — уявіўшы спалоханыя вочы мамы і сястры, папікнула сябе. І нечакана заплакала.

— І як жа я цяпер злезу адсюль, Пашка? Я ж на самай справе вышыні баюся… Сюды ўздзерлася, а назад… Назад… Не, я ўніз ужо не гляну…

— А мы й не будзем з табой адсюль злазіць. Мы будзем з табой тут жыць. Во і пасцеля мая. — Пры гэтых словах Паша рагатнуў, весела падышоў да сапраўды паўзгорнутай палаткі, дастаў адтуль вялікі рэчмяшок, развязаў.

Надзея вачам не паверыла. Там былі 2 спальныя цёплыя мяшкі і нават цёплая коўдра знайшлася ў палатцы.

— Ты што?.. Ты… Ты сапраўды тут абасноўваўся? — ледзь выціснула з сябе Надзейка.

— А ты што, не паверыла? — зноў рагатнуў Павел, і гэты яго рогат холадам сцяў усё нутро дзяўчыны.

Паша не зводзіў з яе вачэй. Нечакана Надзея адчула, што дасюль ён ніколі на яе так не глядзеў, так па-мужчынску нахабна і, не хаваючыся, без утайкі.

Паша моўчкі расхінуў коўдру, і, не спускаючы з Надзеі вачэй, рэзка аб’явіў:

— Сёння, Надзея, адбудзецца наша з табой вяселле і сапраўдная першая ноч. Шлюбы здзяйсняюцца толькі на нябёсах. Я і не думаў сёння жаніцца, але адчуў, што ты сама гэтага хочаш, а я… Як магу адказаць такой бабёнцы?

— Я не баба, — зноў абурылася яна, не верачы, што перад ёй той Пашка, якога яна ўпадабала.

Хлопец зноў рагатнуў:

— Гэта мы і праверым.

Павел рэзка паваліў дзяўчыну і ашалела пачаў рваць з яе адзенне. Дзяўчына спужана білася ў яго руках.

Сорам, жудасны сорам разліўся па яе целе. «Не, гэта не маё цела, гэта не я», — застагнала Надзейка, молячы Пашу адпусціць. Той жа як не чуў яе. Ужо не толькі сорам, але і пякучы холад ахутаў усю яе істоту. Надзея адчула, што яна ўжо зусім голая. Уся вопратка на ёй была падрана, пашкуматана. Яна паспрабавала крычаць, але моцная мужчынская далоня закрыла ёй рот. Што вырабляў з ёй Паша, Надзея не помніла.

Калі ж прыйшла да сябе, ноч ужо дагарала. На небе свяціў бляклы рог месяца, і зоры дзе-нідзе вымалёўваліся на небе. На ўсходзе з’явілася чырванаватая паласа, якая ўсё вышэй і вышэй узнімалася, шырылася, запаўняючы сабою ўсё наваколле.

Моцна балела галава, смылела, гарэла ўсё цела. Надзейка хацела ўзняцца, але дзікі боль працяў рукі і ногі. Цела было ледзяным ад холаду, не выратоўвала і цёплая коўдра, кінутая Паўлам.

— Добра, што хоць не забіў, — падумала дзяўчына і горка заплакала. — Хаця… — спахапілася ад ранейшай радасці, — хіба я жывая? Я — труп. А гэта яшчэ страшней… Я не змагу, ніколі ўжо не змагу ні смяяцца, ні радавацца. Я не змагу ўжо нікога пакахаць, ніводнаму хлапцу не змагу паверыць. І мяне будуць пазбягаць, адчуваючы маю нелюдзімасць. А хіба ж можна так жыць? Хіба можна не радавацца сонцу, зорам, дню, вечару, ночы? Хіба можна не ўсміхнуцца ў адказ на шчырую ўсмешку юнака, які, сустрэўшы цябе на вуліцы, павітаўся з табой? Ну нельга ж усё чарніць, свет не вінаваты ў тым, што ты не разабралася.

— Але ж… — зноў залілася слязамі Надзейка. — Павел быў такім светлым. Яны пазнаёміліся ва ўніверсітэцкім скверыку. Надзея сядзела на лаўцы, чытала Кузьму Чорнага. Ля яе побач прысеў Паша. Ён таксама быў з нейкай кніжкай у руках. Чытаў. Ці рабіў выгляд, што чытае. Стаяў сонечны верасНёвы дзень, таму ўседзець у чытальнай зале было немагчыма. І яна, натуральна, падумала, што і Паша, як яна, спусціўся з чытальнай залы, вырашыў пачытаць на лаўцы ў скверы. Слова за слова — пазнаёміліся...

Зноў адчула, як востры сорам, бы нож, увайшоў у сэрца, апёк наскрозь. Як жа яна так даверылася незнаёмцу? Як жа, чытаў кнігу ва ўніверсітэцкім скверыку!

Знявечаная, яна ляжала пад пранізліва-свежым і ранішнім небам. Здалося, нават неба асуджае яе. Зоркі ўжо зніклі, на ўсходзе неба зайграла барвовым ружанцам промняў, і сонца выкацілася вялізным вогненна-асляпляльным шарам.

Неба было такое роднае, цёплае! Надзейка скінула з сябе коўдру, раскінула рукі і, як птушка з перабітымі крыламі, ляжала пад блакітам, больш ужо нічога не саромеючыся. Яна думала пра маці, якая яна мілая і добрая, як любіць яе, як сумуе па ёй. Успомніла, як, праводзячы яе ў сталіцу, яна доўга бегла за аўтобусам, выціраючы слёзы, нешта крычучы ўслед. Мама заўсёды баялася за яе. Недарэмна баялася…

— Мамачка, прабач мяне, маю дурноту, я ж такога не хацела, я ж не ведала, не думала, што такое можа быць! — застагнала, загаласіла сама па сабе. І раптам усвядоміла, дзе яна знаходзіцца. Як ніколі хацелася жыць, выбрацца з гэтай пякельна-жахлівай сітуацыі. Але як злезці? Як у такім выглядзе спусціцца, паўстаць перад людзьмі? Што можа сказаць людзям, якія яе ўбачаць? Ніхто ж не змог бы яе зацягнуць на такую вышыню, сама залезла, сама! Сама выгледзела гэтую лесвіцу ў неба, сама! Як можна цяпер з такім жыць? Яна заплюшчыла вочы ад усвядомленага жаху, шукаючы паратунку. А калі расплюшчыла — усхапілася ад ўбачанага. Прама над ёй узвышаўся Павел. Шалёна рванулася, убачыўшы свайго гвалтаўніка, ускрыкнула.

— Не-е-е! — бясконца крычала яна Паўлу, які стараўся зноў падпарадкаваць яе сабе. Ні слова не вымаўляючы, з шалёнымі вачыма ён наскокваў на яе.

— Не-е! — неслася ў неба. — Не-е-е! Божа, уратуй мяне, Бо-о-жа!

І пры гэтым звароце Надзея адчула нешта неверагоднае. Нібыта ў яе за спінай выраслі крылы, і варта ёй толькі ўзмахнуць імі — ніякі Павел яе не дастане, не ўгоніцца за ёю!

— Не-е-ба, я люблю цябе, не-ба! — рэзка ўзмахнула крыламі Надзейка, імкліва скокнуўшы на краёк даху, паляцела, як сапраўдная птушка, у высокі чысты блакіт. І ні болю, ні сораму, ні страху не было ўжо ў яе, яна прыгожа і шчаслівая ляцела — насустрач сонцу і зорам, радасці, якая павінна быць у жыцці кожнага чалавека…

## МАЛІТВА

Васілінка супакоена засынала. Усе школьныя клопаты ды непрыемнасці зняла сваёй цёплай рукою мама. Яна пяшчотна, нібыта зусім маленькую, гладзіла яе па галаве. Да той пары, пакуль яна не пацягнулася, не пазяхнула. І мама стаілася, прыбрала руку, паправіла коўдру, ціхенька прытулілася ілбом да яе ног, абняла іх.

Мама! Толькі мама так можа. Васілінка адчула сябе шчаслівай, што ў яе ёсць мама! І раптам прыгадалася, як яна часта крыўдзіць яе, бывае рэзкай, няўважлівай. Прыгадала, што яна, ужо амаль дарослая, яшчэ і сёння, спяшаючыся ў школу, падстаўляе маме свае напаўабутыя ногі: «Зацягні замкі, ма! Калі ласачка! А то спазнюся, я — шапку за гэты час насуну, паліто апрану».

Мама ніколі ёй не адмовіла. Дзяўчынка адчула, як сутаргава торгнула пры гэтым успаміне сэрца. І сон прапаў. Цёплая хваля пяшчоты да мамы і адначасна сораму за сябе абдалі душу. А мама, думаючы, што дачушка спіць, тым часам стала на калені перад ложкам, над якім вісеў яшчэ прабабульчын абразок і пачала маліцца:

— Госпадзі высокі, Маці Божая, анёлы святыя нябесныя, усе душы дарагія, блізкія, крэўныя і някрэўныя, добрыя ды спагадныя, прашу вас, малю, заступіцеся за беднае дзіця маё, хай яно будзе шчаслівым! Хай будзе здаровенькай, разумненькай! Хай пакінуць яе хворасці, хай сэрцайка яе б'ецца роўненька, толькі ў хвілі радасці хай пачашчаецца. Господзі высокі, Маці Божая, недасяжная, хай мае просьбы, мае думкі даляцяць да вас, ускалыхнуць вас. Хай сам Ісусе Хрысце спусціцца з нябёс, каб перакanaцца, што я не хлушу: гэтае дзіцятка, дачушка мая, дужа многа перанесла, нягледзячы на свой юны ўзрост. Не было ў яе весялосці, як ва ўсіх шчаслівых бесклапотных дзетак. Сыпалася гора на нашы галовы, зазналі мы з дачушкай розных буранаў. І ў полі, як дзве грушкі, стаялі, і за полем бывалі, шукаючы шляху-прытулку!

Божачка, уратуй дзяцінку маю, радзінку маю, ад лютых халадоў-напасцяў, ад злых буравеяў-грамоў, хай лёгкаю будзе яе хада, аберагай яе, Божачка! Назірай за ёй, Маці нябесная, як за сваім дзіцяткам назірала. Дай ёй, Матачка светлая, долю харошую, цёплую! Сонейка дай ёй многа! Пашкадуй мяне, Матачка, сілы мае таюць… І баюся я, о, як баюся я раней часу памерці, не давёўшы дачушку да тае дарогі, якая будзе ёй адзіна правільнай, светлай, цёпленькай. Сагрэй яе душачку, Матачка! Хай ніколі не адчуе яна сябе сірацінкай на гэтым свеце. Матачка любая, нябесная, прытулі маё дзіцятка да сваіх грудзей, як я да сваіх прытуляю!

Мае дарагія заступнічкі, адзіныя мае, мілыя, не пакіньце мяне ў бядзе, у хваробе цяжкай. Дайце ж мне сілачкі паліпець на гэтым свеце, як ужо не пажыць, — каб толькі ўбачыць, што дзяцінка мая на ножкі свае стала, у сілачку сваю ўвабралася. О, Божухна, Ісусе, о Матачка высокая, не пакіньце нас! Памажыце нам! Ды свяціцца вашы імёны ў вяках, ды каб ніколі не канчаўся ваш рай на нябёсах! Не пакіньце маё дзіцятка, станьце ёй самымі блізкімі, як я, і даступнымі станьце, каб яна заўсёды вас адчувала, як мяне адчувае!

Васілінка ўздыхнула. Сама таго не чакаючы, ціхенька, у самую коўдру. Мама сціхла, нахілілася над ёй, паправіла падушку, пагладзіла па валасах. Ціха цікаў гадзіннік. Мірна спаў дом. І котка, скруціўшыся клубком у яе нагах, таксама спала.

Толькі маці не спала. І Васілінка ўпершыню ў жыцці пачула, што яна не спіць, моліцца за яе здароўе, за яе далейшае жыццё. І цёплая хваля радасці ахінула яе сэрца! І яна ўпершыню зразумела: якое гэта шчасце, што ёсць у яе мама, што яна з ёй, побач! «О Божа! — прашаптала яна ў думках, — дай маёй маме добрае здароўе, каб яна ніколі не памерла, каб заўсёды жыла са мной. Даруй, Госпадзі, што крыўдзіла яе я часта. Даруй. Больш такое ніколі не паўторыцца!»

Васілінка ўсім сэрцам адчула, як мама з любасцю пацалавала яе і выйшла з пакоя.

Стаяла ноч. Дзяўчына нечакана ўспомніла іншую малітву. Гэта было ў санаторнай школе-інтэрнаце, дзе па стане здароўя ды з-за гора, што нечакана абвалілася на іх з мамаю, яна апынулася. У пакойчыку разам з ёю жыла сірата. Яе ўсе звалі сіроткай. Маці яе спілася пасля таго, як іх пакінуў бацька. Учыніла нейкі крадзеж і сядзела ў турме. Гэта ведалі ўсе. Галька была дзяўчынкай добрай, толькі дужа дарослай, не па гадах. І такіх, як яна, сярод іх, санаторных дзяцей, хапала ў інтэрнаце. Пра іх казалі: «Сіроты пры жывых бацьках». Маці хворых дзяцей, якія трапілі ў гэту санаторную школу-інтэрнат па стане здароўя, пачалі, было бунтаваць, што, маўляў, не месца такім небяспечным дзецям пад адным дахам, але іх абсеклі настаўнікі:

— А куды ж ім падзецца? Ці ж яны вінаватыя, што бацькі паспіваліся, пакідалі іх па завуголлях ды дварах?! Яшчэ ж інтэрнат ім не дабудаваны, давядзецца разам быць! Узялі б лепш на выхадныя, калі сваіх дзяцей забіраеце, і гэтых! Хай бы яны ў цяпле, у хатняй абстаноўцы пабылі!

Больш бацькі не выступалі. І дадому няшчасных разам са сваімі не бралі, не выказваліся, як небяспечна жыць разам… Вось тады Васілінка і пачула малітву Галі. Сярод ночы. Усе ўжо спалі. Іх было ў пакоі чацвёра. Эля, Света, Галя і яна. Галін ложак стаяў каля яе. Васілінка і цяпер ніяк не можа зразумець, якім чынам яна пачула малітву дзяўчынкі. Так, Васілінку разбудзіў шэпт Галі, яе глухія ўздыхі і рыданні:

— Божачка, любенькі, вярні мне мамку! Няпраўда, што яна дрэнная. Гэта дрэнныя людзі такое кажуць. Мамка мая няшчасная. Яна не вытрымала гора, калі пайшоў ад нас бацька. Як гэта сталася не мне судзіць, Божачка. Але я малю цябе, Божачка, малю цябе кожнай часцінкай сваёй душы: вярні маю мамачку, вярні! Я нічога больш так не хачу, як гэтага! Каб толькі яна да мяне нахілялася, як калісь да мяне маленькай, калі я плакала, ці ў ложку сваім спала. Я так хачу, каб мяне зноў абняла мая мамачка! Нічога болей мне не хочацца, нічога болей, Божачка, я не папрашу ў цябе, толькі вярні мне маю мамулечку! Вырві яе з гэтай турмы, дзе з яе здзекуюцца, дзе яна загіне. Дай, Божачка, яе ў мае рукі, я яе вылечу лепш за любога лекара. Я буду пець ёй калыханкі. І голас мой яе закалыша, як жытнія каласочкі закалыхвае ў полі цёплы ветрык. І мае рукі стануць ёй апорай, праменьчыкамі сонца, якія растопяць яе змерзлае ад гора сэрцайка, тым мосцікам, па якім пойдзем разам з ёй у шчаслівае, ціхае, добрае жыццё.

Божачка, любы Божачка, не пакінь мяне, маю мамачку ў бядзе!

Божачка, няўжо Ты не бачыш, што свет, які ты стварыў некалі, патрабуе капітальнага рамонту?! Даруй, Божачка, што так кажу, умешваюся ў высокія справы. Але ж нехта і з зямлі можа Табе падказаць. А чаму не, калі свет твой, добры некалі, сапсаваўся, стаў злым?! Чаму не, калі чалавек забівае чалавека, калі з-за адной кватэры могуць чалавека знішчыць, як чарвяка! Чаму ўзносяцца сёння колішнія магнаты, якія душылі народ? А ў маім сэрцы — галасы Купалы, Багушэвіча не сціхаюць, я ім веру, яны праўду пісалі пра паноў. Вунь як Гусляр, герой паэмы Купалы, выкрывае гэтае панства:

Глянь ты, слаўны ўладар, на палеткі свае:
Сарачні там сох бачыш, як блудзе;
А ці чуў ты, аб чым там араты пяе,
Дзе і як жывуць гэтыя людзі?
…Стол ты ўставіў ядой, касцей шмат пад сталом, —
Гэта косці бядноты рабочай;
Пацяшаешся белым, чырвоным вінoм, —
Гэта слёзы нядолі сірочай.

Прабач, Божачка, што не ў сваё лезу, што не дарасла да такіх думак, нічога не цямлю тут… Можа, і так… Але мне баліць мой лёс, баліць лёс маёй мамы. Яна з-за гора аказалася ў турме, яна не вытрымала гора, яна аказалася слабою перад гэтым злым светам, яна не змагла ў ім выстаяць. І я вось, яе дзіцятка, — у халодным доме, сярод чужых людзей.

Мама… Мама мая, мамачка, пачуй мяне, прыйдзі да мяне. Пад гэтым месяцам ясным, пад гэтымі зорамі ёсць месцейка для нас з табою на Зямлі, мама, не можа быць, каб не было! Госпадзі высокі, падсабі нам знайсці яго, каб можна было жыць і радавацца. Каб не плакаць начамі, што ты адзін, нікому не патрэбны зялёны лісточак, скінуты з дрэва шалёным ветрам лёсу.

Можа, я стану пісьменніцай, можа, паэтэсай, я так люблю літаратуру! Але як я вывучуся без цябе, як выжыву сярод зла? Я чуць не хачу ні пра якія сем'і, якія набіраюць шмат дзяцей у свае дамы і гадуюць іх там разам са сваімі. Я не хачу такой камуны! Я люблю цішыню, мама, і тваю ласку, песню, твае добрыя цёплыя рукі, якія прытуляць мяне да свайго сэрцайка, і я чую, як яно б'ецца.

Я плачу, мама. Мне так не хапае цябе! І я прашу сёння ўсім сэрцам: «Госпадзі высокі, вярні мне маю мамачку, пашкадуй нас, я не магу тут болей, не магу!.. Госпадзі высокі, хай сапраўды свеціцца Тваё імя ў вяках, хай ніколі не забудуць людзі, што Ты ёсць, хай вераць у Цябе, як я веру сёння, хай заўжды спадзяюцца на Цябе, як я спадзяюся сёння. Мне больш няма на каго спадзявацца. Таму я абапіраюся на Твае аблачыны, на зоркі, на Месяц і нават на праменьчыкі сонца, якія гуляюць па ранішняй траўцы і я заўсёды стараюся выскачыць з інтэрната, каб да іх дакрануцца рукамі. Але выхавацелька не разумее майго парыву, выкрыквае: "Зноў ты, Галя, дысцыпліну парушаеш. Хутка ў палату, зараз сняданак будзе".

Сняданак… Я не хачу, мама, гэтых казённых сняданкаў. Хачу твайго беднага супчыку, запраўленага смажаным сальцам з цыбуляй. Яго пах я помню і сёння, я сумую, мама, па тваім супчыку. Госпадзі, вярні мне маю маму!»

Колькі жыць будзе, Васілінка не забудзе пра тую Гальчыну малітву. Будзе помніць, як нечакана адчула яна сябе дарослай… А-а-а, мая мамачка, а-а-а, мая любая…

…Вось ужо два гады мінула, як Васілінка вярнулася ў свой дом, да сваёй мамы з той санаторнай школы-інтэрната, а не можа забыць Галінку. І вяртаецца, бывае, як свая, яе малітва сярод ночы.

— Дзе ты, бедная і багатая адначасна, дзе ты цяпер, дзе, мая сястрыца? Я так хацела некалі, каб мама забрала цябе да нас! Я так хацела, каб мы былі разам! Але і ты, і мама мая толькі цяжка ўздыхнулі на маё жаданне…

Дык што гэта за жыццё, калі мы непадуладныя сваім пачуццям, жаданням, калі мы ўсе залежым ад нейкіх абставін, калі мы не можам зрабіць тое, што хочам, што павінны б былі абавязкова зрабіць?

Васілінка заплакала. Слёзы адчаю хлынулі, здавалася, з самых грудзей. А з неба свяціў месячык, зіхацелі зоры. І недзе там, у высокай, недасяжнай для зямлян прасторы, магчыма, было справядлівае жыццё, дзе хораша пачувалі сябе і дзеці, і дарослыя…

Андрэй КОЗЕЛ

# ВЕДАЮ, ЯК ТРЭБА, КАБ БЫЛО



***Андрэй Козел нарадзіўся 8 кастрычніка 1987 года ў пасёлку Новагарадзейскі Нясвіжскага раёна. Па адукацыі — настаўнік, журналіст. Вершы друкаваліся ў рэгіянальных выданнях, газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць». Галоўная жыццёвая мэта — заставацца чалавекам.***

## ШЛЯХ

Махае ветах ціха мне
Сваёю квадраю на выспе.
І мне здаецца, што я ў сне:
Знайшоў адказ і, пэўна, выйсце.

Хлусню адсеяў — чараўнік,
Рву ілюзорнае няшчасце.
А шлях мой з відавоку знік —
Гляджу праз тубус у міжчассе.

І цяжка мне трымаць адказ,
Бо шлях мой ные, патухае.
А я крычу: «Не ў гэты раз!»
Ды ён не слухае, згарае.

Цяпер лягчэй мой будзе бег:
Адказ кішэнь не адрывае.
Пясок кладзецца, нібы снег.
І, нібы снег, за мною тае.

Прасека бачыцца за мной.
І дрэвы ломяцца, і гнуцца:
Прагал… спустошаны сабой, —
Туды мне болей не вярнуцца.

Гучыць шматкроп’ем мне наказ —
Унутры вядзе сваё змаганне:
Ці быў калісьці я — адказ?
Ці стаў я для каго пытаннем?

## ПІСЬМО

Давай пачнём усё спачатку:
Твой першы погляд, мой уздрыг.
А час будзённых спраў заціх…
Пісьмо чакае пад пячаткай.

Давай пачнём усё спачатку —
З дзяцінства, з самых першых дзён,

Дзе шчэ канец не так відзён
І не гніюць расткі пачатка.

Давай пачнём, дзе ёсць пачатак:
Мы не пілі там кроў-віно,
І ўрач у белым кімано
Не надзяваў сваіх пальчатак…

Давай пачнём усё спачатку!
Нам трэба толькі зразумець,
Ці зможа успамінаў медзь
Узбагаціць калі нашчадкаў?

Давай пачнём усё спачатку!
Хоць скалыхнула нашу клецьz
Стварэнне з гучным імем Смерць,
Пісьмо чакае пад пячаткай…

## ЖЫЦЦЁ

Кажуць, мне падарылі Жыццё:
у падарунку шукаю сябе.
Выкшталцоўваюся з Яго,
але збольшага не разумею.
Хачу знайсці Яго выток,
а сам не ведаю, дзе пачатак свайго.
Чамусьці імкнуся павучаць
Жыццю іншых,
іншыя — хочуць павучаць мяне.

Сёння — ведаю кошт кожнай хвіліны,
заўтра — грэбую цэлымі гадамі.
Ведаю, як трэба, каб было,
ды заўжды раблю па-свойму.
Гляджу Жыццю ў вочы — і не бачу,
хачу разумець — не разумею!
Веру ва ўладу Лёсу,
і кожны дзень змагаюся,
каб яго змяніць.

## КРУГ

Жыццё вядзе мяне па крузе.
Як заварожаны, брыду ў пошуках
сваёй мэты.
Я блукаю па лесе — але ўпустую;
я заходжу ў горад — усё марна;
на беразе рэчкі — ні мэты, ні мар;
на чароўнай сцежцы — засталася
пустка.

Але нарэшце я стаю ў роспачы
са сваёю мэтаю ў руках:
я не ведаю, што з ёю рабіць.
Знясілены яе ношаю, я кідаю мэту,
і са смуткам іду далей.
Як заварожаны, блукаю
ў пошуках мэты…

* * *

*Зняволены стары сабака*
*не брэша*
*толькі на таго,*
*хто яго зняволіў.*

* * *

*Гляджу ў вочы*
*колішніх сяброў:*
*рэжуць успаміны*
*бесклапотнага дзяцінства.*

* * *

*Жнівень. На пероне*
*вецер дзьме,*
*як быццам, ў полі.*
*Людзі, пэўна, дзьмухаўцы.*

* * *

*Павярнуўшыся спінаю,*
*падаю ніцма*
*на першы зімовы пласт…*
*Ці вытрымаеш, снег?*

* * *

*Было дрэва.*
*Застаўся пень.*
*А грыбы*
*ўсё роўна*
*растуць ля яго:*
*верныя сябры.*

Алесь БЫЧКОЎСКІ,
Вольга ДАНЭЙКА

# ПРАПАВЕДНІКІ СМЕРЦІ

*Аповесць*



***Аляксандр Бычкоўскі нарадзіўся 29 мая 1975 года ў Беразіно. Друкаваўся ў рэспубліканскай перыёдыцы, калектыўным зборніку «Люстэрка сусвету», расійскіх часопісах фантастыкі. Выдаў кніжку фантастычных твораў «Анамалія». Працуе ў рэдакцыі газеты «Бярэзінская панарама».***



***Вольга Данэйка нарадзілася 14 жніўня 1982 года ў Беразіно. Закончыла Горацкі педкаледж і філалагічны факультэт Магілёўскага дзяржуніверсітэта. Працуе ў Бярэзінскім раённым аддзеле па надзвычайных сітуацыях.***

«...У які бок могуць развівацца адносіны ў сеціве? Да якіх межаў? Сеціва добрае тым, што ў ім можна быць шчырым. Ніхто цябе не бачыць, не сорамна. Ты ведаеш, што хутчэй за ўсё ніколі ў жыцці не сустрэнеш чалавека, з якім сябруеш. Таму можна быць адкрытым да бессаромнай крайнасці. Зусім не страшна, можна ў любы момант выдаліць свой акаўнт. Пра што насамрэч шкадую — мы ніколі не сустрэнемся ў гэтым жыцці...»

Славамір пісаў апошні ліст да Карыны. Віртуальныя адносіны, якія так і не сталі сапраўднымі, прынеслі боль.

Яшчэ тыдзень таму ён не думаў, што будзе прызнавацца ў каханні дзяўчыне, якую ніколі не бачыў...

* * *

Гвалт за сцяной усё ж вымусіў Славаміра выклікаць міліцыю. Ахоўнікам правапарадку ён чарговы раз тлумачыў, што з-за суседскага гулу цяжка сканцэнтравацца, бо праца ў яго надомная, а па начах немагчыма спакойна спаць. Напрыканцы дадаў, што сямейку п’яніц няблага было б перасяліць куды-небудзь у іншае месца, да гэткіх самых выпівох. Пахмурны міліцыянт абяцаў «падумаць», бо апошнім месяцам у тую кватэру нарад выклікалі ці не ў пяты раз.

Вярнуўшыся да камп’ютара, Славамір зразумеў, што напісаць сёння хоць штосьці ўжо не здолее. Ён пайшоў на кухню, заварыў кавы, вярнуўся і палез у сеціва. Загрузіў сайт знаёмстваў, дзе ўжо некалькі дзён існавала яго асабістая старонка. Пасля стаў ацэньваць здымкі прыгожых жанчын, з задавальненнем адзначыўшы, што суседзі нарэшце ўтаймаваліся.

Славамір — дваццацівасьмігадовы мужчына з карымі самотнымі вачыма — яшчэ трэцякурснікам Інстытута журналістыкі падаваў надзеі ў прафесійным плане: добрае адчуванне стылю, здольнасць пісаць на розныя тэмы, зацікаўленасць сваёй справай, дапытлівы розум. Дадайце да гэтага крэатыўнасць мыслення і прывабную знешнасць — вось вам і «акула пяра». Прафесар Рагаўцоў, які выкладаў на іх курсе гісторыю журналістыкі і адначасова з’яўляўся галоўным рэдактарам адной мінскай газеты, дасылаў нататкі Славаміра ў розныя выданні і часта хваліў студэнта. Прафесар быў зацікаўлены падрыхтаваць прафесіянала для сваёй газеты, таму ўсяляк заахвочваў студэнта да справы. Гэта Славаміра і сапсавала. Ён зразумеў сваю перавагу над іншымі, захацелася як мага хутчэй зарабляць грошы талентам. Масла ў агонь падліў літаратурны кансультант Ромка Фокін, з якім Славамір пазнаёміўся падчас юбілею сталічнага часопіса. Фокін разгледзеў у студэнце большую цягу да грошай, чым да стваральнай працы на карысць айчыннай журналістыкі, і даступна растлумачыў яму «палітыку партыі». Таму ўжо на трэцім курсе інстытута Славамір вырашыў, што работа па размеркаванні ў газеце — не для яго. Наўмысна «заваліўшы» чарговую сесію, былы выдатнік перавёўся на платнае аддзяленне, каб пазбегнуць дзяржаўнага размеркавання. Разбіўшы ўшчэнт усе надзеі прафесара Рагаўцова. Пасля атрымання дыплома Славамір падпісаў дамову з камерцыйным выдавецтвам. Навaспечаны «пісьменнік» цяпер зарабляў неблагія грошы тым, што пісаў баевікі пад заказ. Трымаўся нормы: адна кніжка ў два месяцы. Іншыя маглі і за месяц адолець трыста старонак, а Славамір з самага пачатку дзейнасці вырашыў не гнаць коней. Прынамсі, усё пісалася па стандартных схемах з нязначнымі сюжэтнымі адхіленнямі, таму вялікай мудрагелістасці тут не было. У дадзенай справе галоўнымі лічацца працаздольнасць, упартасць і мэтанакіраванасць. Вось толькі на апошнім заказе Славамір знянацку спатыкнуўся.

Увесь мінулы месяц ён адчуваў разняволенасць, не мог сабрацца з думкамі, зрабіўся нейкім раздражнёным, знікла працаздольнасць. Не дапамагалі паходы ў рэстарацыі і бары, боўлінг і верхавая язда. У душы запанавала пустэча, і Славамір адчуў, як жыццё пакрысе губляе смак.

Пралайдачыў амаль чатыры тыдні, паспеў прыдумаць і напісаць усяго адну главу, трыццаць пяць тысяч друкаваных знакаў. Недзе адна дваццатая ад нормы. Так можна і з абоймы выпасці. І ў дадатак пачаў выпіваць, а гарэлка і літаратура — прынцыпова несумяшчальныя. І, сёрбаючы гарачую каву, ён думаў, што наспела пара браць тайм-аўт.

Нечаканы позні званок у дзверы рэзануў слых. Славамір з неахвотай пасунуўся адчыняць.

На ўваходзе стаяла дзяўчына. Яна была размалявана касметыкай і нагадвала ляльку Барбі. У адной руцэ трымала каробку з тортам, у другой — бутэльку шампанскага. Славамір агаломшана ўтаропіўся на нечаканую госцю

— Анжэла?

— Не, яе прывід. Доўга мне ў дзвярах тырчаць?

— Канешне, заходзь.

Анжэла жыла ў доме насупраць. Яны пазнаёміліся тры гады таму, калі Славамір набыў аднапакаёўку ў тутэйшым раёне. Некалі яны сябравалі, пасля Анжэла з'ехала за мяжу, доўга не бачыліся. Бацькі штосьці плялі пра багацея-жаніха, ды, відаць, нешта не атрымалася, дзяўчына вярнулася ў родны горад.

— У мяне сёння дзень нараджэння, — Анжэла перадала Славаміру бутэльку і торт, зачыніла за сабой дзверы ды зняла туфлікі на высокіх абцасах… — Ад сябровак ванітуе, адной святкаваць млосна, вось і вырашыла сустрэць чарговую гадавіну з даўнім сябрам. Не супраць?

Славамір быў не супраць, ён аднёс пачастункі на кухню і паставіў на стол.

Анжэла была апранута ў кароткую сукенку колеру восеньскага лісця, каштанавыя валасы спадалі ніжэй плячэй. Яна хуценька прашмыгнула ў пакой і ўладкавалася ў высокім скураным крэсле перад камп'ютарам.

— Не можа быць! Стары халасцяк знаёміцца з дзяўчатамі ў інтэрнэце! Прызнавайся, што пішуць?

Славамір пашкадаваў, што не паспеў адключыцца ад сеціва, і невыразна прамармытаў нешта ў адказ.

Неўзабаве ён прынёс парэзаны торт і адкаркаванае шампанскае, паставіў усё на столік.

Яны пераселі на тахту. Славамір разліў шыпучы напой і прапанаваў тост.

— За цябе і твае васямнаццаць.

Іх позіркі сустрэліся.

— Ведаеш, давай лепш за нас, за сяброўства, — перабіла Анжэла.

Шампанскае хутка развязала языкі і неўзабаве яны прыгадвалі мінулае сяброўства, абменьваліся жартамі і кампліментамі. Трэці тост традыцыйна пілі за каханне.

— З такой нагоды трэба пацалавацца, — абмовіўся Славамір. Анжэла з гатоўнасцю падставіла нафарбаваныя вусны.

«Колькі памады мужчына з'ядае за жыццё?» — падумалася Славаміру, але ўслых ён заўважыў, што за тры гады знаёмства яны пацалаваліся ўпершыню. Анжэла абняла яго за шыю і прыціснулася, потым раптоўна адсела далей.

— Ведаеш, за мінулы час маглі даўным-даўно не толькі пацалавацца.

Славамір згадзіўся.

Анжэла дапіла шампанскае. Яе твар набыў незвычайную сур'ёзнасць. Сябар зразумеў, што дзяўчына рыхтуецца нешта сказаць. Амаль ніколі суседка не завітвала без нагоды. За нечаканым візітам штосьці хаваецца. Ён падрыхтаваўся слухаць.

— Славамір, я цябе вельмі кахаю, — вымавіла Анжэла.

Вось табе і маеш…

Дзяўчына назірала за суразмоўцам.

— …і кахаю вельмі даўно, — выдыхнула яна. — Ты любы мне.

У хлопца адвісла сківіца.

— Вазьмі мяне замуж. Ты не пашкадуеш, я буду вельмі добрай жонкай.

— …

— Па-першае, я цябе кахаю, — пачала пералічваць Анжэла. — Па-другое, мы абодва забяспечаны жыллём. Па-трэцяе, я выдатная гаспадыня. Хіба я табе не падабаюся?

Яна прытулілася да Славаміра, абняла.

— Уяві, я буду штодня гатаваць вячэру, прасаваць кашулі…

«У мяне даўно не было жанчыны», — падумаў ён незнарок.

Скрозь тонкую сукенку адчуваўся жар дзявочага цела, гарачыя вусны шапталі на вуха хвалюючыя словы, жарсць узмацнялася шампанскім. Якія вячэры, кашулі? Яго раптоўна ахапіла навязлівая думка, у ход пайшлі сквапныя рукі, адзенне палягцела долу…

Пасля Славамір курыў на балконе, побач прытулілася Анжэла. Прахалода верасьнёўскай ночы ахінула каханкаў. Славамір моўчкі думаў і раз-пораз зацягваўся дымам. Задаволеная Анжэла чакала адказу. Славамір жа разважаў пра літаратуру і ўласныя перспектывы. Заўтра павінна адбыцца сустрэча з літкансультантам, з якім Славаміра звязвалі даўнія адносіны. На жаль, да сустрэчы ён не падрыхтаваны. Акрамя першай главы твора хваліцца няма чым.

— Мне вельмі хораша з табой, — лашчылася Анжэла.

— Не трэба спяшацца. Варта ўсё ўзважыць, падумаць.

— Ты мой найлепшы падарунак да дня нараджэння, — насядала сяброўка.

— У нас няма нічога агульнага і не можа быць, — катэгарычна запэўніў Славамір.

— Вось як? Спачатку спакусіў жанчыну, авалодаў, а пасля задні ход? — ці то жартам, ці то ўсур'ёз абурылася яна.

Славамір адхіснуўся.

— Анжэла, павер, мы не можам быць разам, я зусім не той, хто табе патрэбен.

— Не веру.

— Я не магу даць табе ўсё тое, чаго ты пажадаеш.

— Мне не трэба ўсё, толькі ты.

— Ды зразумей, я прызвычаіўся жыць у адзіноце. Я люблю адзіноту. Гэта мой стыль, лад жыцця, ва ўсім гэтым я! — не вытрымаў Славамір і дадаў. — Ты мне зусім не патрэбна.

Анжэлу нібы абдало кіпнем. Яна адхіснулася, павярнулася і імкліва пакрочыла да выхада. Сябар паспяшаўся следам.

— Дурань, — кінула Анжэла на развітанне і грымнула дзвярыма.

Калі цоканне абцасаў на лесвіцы сціхла, Славамір шумна ўздыхнуў і пайшоў да ложка. Непрыкметна праваліўся ў сон. Прыснілася, як вырашыць праблему з літкансультантам.

* * *

Ромка Фокін закідвае даўжэзныя худыя ногі ў сініх джынсах адну за другую і з цікавасцю ўзіраецца ў стос папер. Літаратурнага кансультанта Ромку інтрыгуе назва, выведзеная пунсовым маркерам на белым фоне. Словы «Поўны Капец» сімвалізуюць штосьці канцэптуальна-футуралагічнае. Быццам гаворка ідзе пра канец свету. Звычайна флегматычны Ромка злосна паліць цыгарэты.

— Гэта што за назва? Гісторыя эканамічнай палітыкі ў свеце?

Славамір сядзіць насупраць і моўчкі ўздыхае.

— Я пытаю. Гэта і ёсць абяцаны рукапіс? Выдавецтву патрэбна космаопера, разумееш? А ты што прапанаваў? Дэтэктыўны баявік з элементамі трылера, ды яшчэ пад такой смешнай назвай!

— Ты лепей пагартай рукапіс…

Ромка пагартаў і аслупянеў.

— Што гэта значыць, Славамір?

— Падумай.

— Хана, завалілі план, — абыякава паведамляе ён. — На халеру я сёння тут з табою валэндаюся? Спісаўся ты, сябра. Нават старонкі тэксту прыдумаць не здольны.

— Не, ты нічога не зразумеў…

— Што разумець? Прынёс стос чыстай паперы, а я, нібы дурань, чакаю даведзены да кандыцыі рукапіс!

— На апошняй старонцы ёсць выраз «…а потым усіх замачылі», адкуль ясна, што перад намі дэтэктыўны баявік.

— Вельмі канцэптуальна, — не хаваў сарказму літкансультант. — Ва ўсёй кнізе ўсяго адзін радок і той напрыканцы. Чым тлумачыць загадку? Распавесці казку, быццам на пустых старонках аўтар разумее нябачную прысутнасць утоенага тэксту ў форме трылера або баевіка? Падобнае здаралася ў літаратуры.

— Паслухай мяне, Раман. Днямі ў сеціве натыкнуўся на сайт вядомага мастака. Ён не стварыў ніводнай карціны або скульптуры, ён кансерваваў у бляшанкі лайно і прадаваў з аўкцыёна па дзесяць тысяч долараў і тое назваў мастацтвам. І ведаеш, слоічкі-бляшанкі куплялі! Чаму ж слоік лайна або чорны квадрат лічыцца мастацтвам, а стос чыстай паперы не можа лічыцца літаратурай? Няхай чытачы купляюць кнігу з чыстымі старонкамі ў бліскуча-каляровай вокладцы і самі выдумляюць уласных герояў, фабулу, сюжэт. Па-сутнасці, усе ж дэтэктывы, трылеры, баевікі вашага выдавецтва аднолькавыя, толькі з рознымі дэкарацыямі і іншымі імёнамі герояў.

— Таму што мы гонім шырспажыў, а не мастацтва. Слоічкам і чорным квадратам натоўп не праняць, наш чытач патрабуе якасныя баевікі!

Ромка шпурляе ў сметніцу недапаленую цыгарэту.

— Прапаную альтэрнатыву, — гаворыць нарэшце літкансультант пасля нядоўгіх разваг. — Лічу, трэба дадаць да заключнага радка некалькі важкіх слоў.

Ён дастае з нагруднай кішэні джынсавай камізэлькі цяжкі «Паркер» і нешта дапісвае на апошняй старонцы. Атрымліваецца «…а потым усіх замачыў Дарт Вэйдэр».

— Вось цяпер гэта космаопера, — задаволена прамаўляе Ромка. — Вяртаю рукапіс на дапрацоўку.

Ён падсоўвае стос папер бліжэй да Славаміра, устае і крочыць прэч.

* * *

Анжэла была жанчынай даволі прывабнай. Калі карэкціраваць асаблівасці твару дапамагалі касметалагічныя сродкі, то з фігурай праблем не мелася. Адны ногі чаго вартыя. А на іх мужчыны, як вядома, звяртаюць увагу раней, чым на твар. Тую іх сустрэчу Славамір успамінаў часта. Калі не браць у разлік няёмкую канцоўку гэтай гісторыі, усё было вельмі няблага. А тое, што закончылася не хэпі-эндам, дык тут Анжэла сама вінаватая: прыйшла з шампанскім, сама сябе прапанавала. Трэба быць абсалютным ідыётам, каб адмовіцца. Апраўданні, што раз-пораз снавалі ў галаве, саступалі месца думкам больш глабальным: баявік усё ж трэба заканчваць, а ў галаве па-ранейшаму хаос. Быццам сам сябе страчваеш у гэтай працы, да якой ужо не адчуваеш смаку. Не падштурхоўвала да здзяйснення і матэрыяльнае ўзнагароджванне. Павагаўшыся наконт таго, што цікава было б адхіліцца ад пачатковай задумы кнігі ды змяніць забойцу пол, Славамір сеў за камп’ютар і запісаў некалькі сказаў.

Праз нейкі час Славамір зайшоў у інтэрнэт і адкрыў сваю старонку на сайце знаёмстваў. Напісанне баевікоў і дэтэктываў, а апошнім часам і нейкае падабенства

творчай дэпрэсіі займалі яго поўнасцю, таму пошук дамы сэрца адкладваўся на будучыню. На амурныя справы патрэбны час і моцныя нервы. Так, яшчэ і грошы. І паболей... Куды прасцей знаёміцца з дзяўчатамі праз інтэрнэт. Аксіёма пра тое, што мужчына любіць вачыма, стабільна знаходзіла сваё пацверджанне. Славамір быў эстэтам, што наогул уласціва пісьменнікам. Яму падабалася разглядаць прыгожых жанчын. Апошнім часам не менш за дзясятак дзяўчат прапаноўвалі яму знаёмства ў інтэрнэце. Кожная праходзіла жорсткі эстэтычны адбор. Раніца наступнага дня прынесла Славаміру галаўны боль і звыклыя апошнім часам думкі пра недасканаласць і абсурднасць быцця. А на сайце прапаноўвала пазнаёміцца нейкая Карына. Яна была вельмі прывабнай: фотаздымак дэманстраваў тое, што павінна было паралізаваць мужчыну. На беразе мора ў ярка-жоўтым купальніку сядзела зеленавокая дзяўчына. Фігурка што трэба. Па плячах рассыпаліся русыя, сярэдняй даўжыні валасы. Фотаздымак непрафесійны, таму найбольш адпаведны арыгіналу, што Славаміру заўсёды падабалася. Сціплая, але надзвычай прыцягальная ўсмешка дзяўчыны вабіла да сябе і стымулявала фантазію. «Дзякуй Богу, хоць адзін пазітыўны момант за сённяшні дзень». Славамір узбадзёрыўся, расправіў плечы і павялічыў фота.

— Прывітанне! Мяне завуць Карына. Люблю танчыць, захапляюся добрай музыкай і цікавымі кнігамі. Калі вы не супраць, мы можам сябраваць.

«Жартуеце, спадарыня? Канешне, не супраць! Дзеля гэтага і тырчу ў гэтым інфармацыйным сметніку. Як можна адмовіцца ад сяброўства з такой жанчынай? Ды яшчэ так інтэлігентна на “вы” звяртаецца!»

— Прывітанне. Я — Славамір. Рады нашаму знаёмству. Ты вельмі прыгожая. Дазваляеш звяртацца на «ты»?

— О’кей, я не супраць!

— А імя Карына — незвычайнае. Гэта часам не псеўданім?

— Не.

— Што яно азначае?

— Мама любіла серыялы глядзець, вось і ўзяла адтуль імя для дачкі. Дзякую, што Алімпіядай не назвалі, як у Савецкі час модна было. Жартую. Імя лацінскае, азначае «тая, што кіруе караблём». У гады засваення Паўночных тэрыторый імя набыло іншае значэнне — «дзяўчынка, народжаная ў Карскім моры». Мой бацька быў палярнікам, і Карынай тады часта называлі дзяўчынак, народжаных у сем’ях палярнікаў. Сёння імя рэдкае, таму адчуваю сябе ў нечым асаблівай. Думаю, яно мне падыходзіць. У цябе імя таксама незвычайнае.

— Згодзен. У гэтым мы падобныя. Славамір — імя славянскага паходжання. Пра значэнне можаш здагадацца сама — «той, хто славіць мір». Мне прыемна з табой размаўляць.

— І мне. Прыемна і цікава. А што прымушае маладых людзей шукаць знаёмствы ў інтэрнэце?

— Усё банальна — недахоп часу. Я шмат працую, няма калі мне. Можа, здзівішся, але я — пісьменнік. Але ж калі палічыш, што гэта гучыць занадта прэтэнцыёзна, магу назваць сябе прафесійным фантазёрам, падманшчыкам ці нейкім падабенствам пісьменніка…

— Ты пісьменнік? Здзівіў!.. Значыць, з табою ёсць пра што пагаварыць. А чаму ты называеш сябе «падабенствам пісьменніка»?

— Па-сутнасці, так і ёсць. Я ствараю гісторыі, фармірую чалавечыя адносіны ў сваёй галаве, пераношу на паперу, а людзі купляюць гэта і вераць. Мае персанажы, калі праходзяць праз прызму чужой псіхікі, пачынаюць жыць самастойным, асобным ад мяне жыццём. Але мяне гэта мала хвалюе, я ўжо атрымаў за сваю пісаніну

грошы. Апошнім часам пакутую ад таго, што пішу пад заказ і не раблю тое, чаго душа просіць. Раней маўчала яна, душа, а цяпер даймае мяне. Не пішацца мне, вычарпаўся.

— Я цябе разумею. Гэта цяжка — адчуваць, што праца не прыносіць задаволенасці, а ў тваім выпадку гэта цягне за сабой і матэрыяльныя праблемы. Хаця псіхолагі раяць не ўжываць слова праблема. Праблем няма. Ёсць задачы і складанасці.

— Цікавішся псіхалогіяй?

— Я цікаўлюся многім. Люблю добрую літаратуру. Для мяне якасная літаратура — тая, што адкрывае для мяне новыя грані жыццёвых з'яў і вымушае мяняць свае заскарузлыя погляды, навязаныя грамадствам.

Тэлефонны званок прымусіў адарвацца ад камп'ютара. Стары сябар Юрка, аднакласнік, прапаноўваў «пафесціваліць» вечарам у бары. Славамір ніколі не разумеў, што аб'ядноўвае яго з Юркам. Разведзены аднакласнік быў дальнабойшчыкам, любіў выпіць, часта мяняў жанчын і аўтамабілі. Пры ўсёй павазе да шчырага сяброўства, на гэты раз Славамір адмовіўся. На справе, сяброўства абмяжоўвалася сумеснымі п'янкамі, на якія Юрка браў новую сяброўку, а тая, прыводзіла дзяўчыну для сябра свайго кавалера. Тым больш, назаўтра нязменна прыходзіў галаўны боль як расплата за весялосць.

Калі Славамір вярнуўся да камп'ютара, Карыны на сайце не аказалася. Яна стрымана развіталася, спасылаючыся на важныя справы. Знікла гэтак жа раптоўна, як і з'явілася. Славамір адчуў надзвычайную ўзрушанасць, быццам сустрэў нешта роднаснае. За дзесяць хвілін перапіскі ён паспеў расказаць Карыне нават пра свае творчыя пакуты, амаль нічога не даведаўшыся пра яе.

* * *

Раніца новага дня пачалася са сваркі за сцяной. Усё па плане.

Раз'юшыўся сябар суседкі. Жанчыне пераваліла за пяцьдзясят, але яна ўпарта вадзіла да сябе розных п'яніц ды варыла самагон. Славамір баяўся, што некалі ў суседняй кватэры ўспыхне пажар.

Суседка не заўсёды была такой. Толькі апошнія два з паловай гады, як пайшоў з жыцця другі муж. Пагаравала жанчына месяц-другі і кінулася ва ўсе цяжкія. З аднаго боку Славамір шкадаваў суседку, спачуваў нават. На ягоных вачах добрапрыстойная жанчына амаль спілася. Але трываць бясконцыя шумныя вечарыны ды начныя і ранішнія сваркі ён таксама больш не здольны. І чым дапамагчы ёй, як выправіць сітуацыю, ён таксама не ведаў. Міліцыя трымала суседскую кватэру на ўліку, некалькі разоў канфіскоўвала самагонныя апараты, але вынікаў не назіралася. Як высветлілася, і выселіць п'яніцу немагчыма, бо кватэра прыватызавана.

— Божа, я спісаўся і мушу спіцца, — мовіў ён свайму адбітку ў люстэрку.

Недзе за акном трэнькала гітара. Славамір падаўся на кухню, каб сасмажыць яешню. На патэльню трапілі два яйкі, кілбаса, нарэзаныя кольцамі чырвоны перац і цыбуля. Апетытныя пахі падняліся да столі, забурчэла ў жываце. Славамір выняў з лядоўні запацелую пляшку пярцоўкі, наліў гранёную шклянку і залпам выпіў. Пасля пачаў снедаць.

Жыццё чамусьці не здавалася крыштальным сонцам у сапфіравых нябёсах, як раней. «Негрыцянская прафесія» забівала асабіста-творчае «я». Сэрца млела выпаленай пустыняй у пякельным вогнішчы літаратурных печаў, выплаўляўшых плыні

трылераў і раманаў пра каханне. «Пара завязваць вузел з Ромкіным выдавецтвам. Вось дапішу апошні заказ і на тым кропка».

Славамір наліў і выпіў яшчэ адну шклянку пярцоўкі, даеў ранішні сняданак, усеўся за камп'ютар і адкрыў файл з чарнавымі накідамі баевіка…

* * *

Наступныя тры дні падаліся Славаміру запоем. Творчым. Ён шмат курыў, еў мала і без апетыту, але пісаў, пісаў і пісаў… Палова першага дня была самая цяжкая: думкі па развіцці сюжэтнай лініі снавалі ў галаве, не жадаючы лагічна складвацца, факты супярэчылі адзін аднаму, а спакутаваныя мазгі прасілі перазагрузкі. Каньяк у гэтай справе падыходзіў ідэальна. Славамір піў невялікімі дозамі. Ён хацеў узбадзёрыцца і надаць арганізму энергіі. Сумніўны метад у яго выпадку працаваў. Паступова твор пачаў прымаць акрэсленыя формы, узнікла задаволенасць працай. Гэта станавілася падобным на наркатычны экстаз. Хацелася працаваць бесперастанку. Пісаць, пакуль увесь струмень думак не ўтаймуецца, а падпарадкуецца волі гаспадара ды складзецца ў адзіную плынь аповеду. Як любы творца, Славамір у гэтыя хвіліны апантана жыў сярод персанажаў, народжаных яго фантазіяй. Запойны майстра…

З апісаннем сцэн злачынстваў і перастрэлак праблем не мелася. Славамір любіў і ўмеў падрабязна апісваць дзеянні вар'ятаў. Звычайна такія сцэны пісаліся хутка і настолькі прафесійна, што нават з'едлівы Ромка рэдка калі меў нахабства штосьці тут паправіць.

Позна вечарам прыйшло паведамленне ад Карыны. Яна адсутнічала ў інтэрнэце некалькі дзён, чым узмацніла цікавасць Славаміра. Цікавасць змянялася нецярпеннем, а яно саступала месца лёгкай агрэсіі. Карына свайго дабілася: раўнадушным Славаміра яна не пакінула.

— Вітаю шаноўнае спадарства! — Ігрыва распачала Карына. — Як справы творчыя?

— Прывітанне! Ідуць поўным ходам. Ты нечакана знікла ў апошні раз. Не дужа сціпла з майго боку, але я сумаваў.

— Пра што ты марыш, Славамір?

— Задумваюся апошнім часам пра сур'ёзную літаратурную працу. Каб была толькі мая. Каб без дзядзькі, які стаіць за спінаю і за свае грошы дыктуе, што пісаць. Надакучыла літаратурная прастытуцыя. Прабач.

— Чаму не пішаш тое, што хочаш?

— Гэта не прынясе тых грошай, якія я маю цяпер.

— Зразумела. Не страшна, з-за грошай сябе губляеш?

— Так. Адсоўваю мару, якая рвецца на паперу, прашу яе крыху пачакаць... Але ёсць рызыка потым забыцца на яе, а пасля і на сябе самога.

— Хто прыдумляе сюжэты для тваіх баевікоў?

— Літкансультант акрэслівае канву аповеду. Я маю магчымасць фантазіраваць, не адхіляючыся ад асноўнага сюжэта. Гэта ж заказ.

— А што ты робіш з тым, што падабаецца асабіста табе?

— Падабаецца вось з табою перапісвацца. Мы быццам даўно знаёмыя размаўляем, — адказаў ён.

— Дзіўна… Я адчуваю тое ж. Мо ў папярэднім жыцці сустракаліся? Ты верыш у рэінкарнацыю?

— Не, не веру. Такімі тэорыямі могуць захапляцца толькі хворыя людзі.

«Можа, я і сам хворы, альбо псіх, які апісвае забойствы з такімі падрабязнасцямі, быццам сам рабіў тое неаднойчы і ведае ўсе асаблівасці?» — злавіў сябе на думцы Славамір.

— Не спяшайся з высновамі. Скептыкі ж дэкламуюць: «Сумнявайся!». Можа, і праўда дзе бачыліся… — напісала Карына. — Калі адысці ад рэальнасці і даць нырца ў філасофію, дык хто скажа, што нашы душы не сутыкаліся ў часе і прасторы? Гэта не спасцігнуць розумам, але ж хто і як давядзе, што такое немагчыма? Гэта як вера ў Бога. Нельга задаваць шмат пытанняў і шукаць адказы, якія б не супярэчылі сэнсу і адпавядалі законам фізікі. Тут альбо прымаеш усё на веру, альбо не.

— Ты маеш рацыю. Тут трэба верыць. Логіку адключыць і проста верыць. Фама Аквінскі напісаў працу, у якой прывёў пяць жалезных доказаў існавання Бога, а потым сам жа іх аспрэчыў, даказаўшы, што Бога няма.

— Усе геніі — вар'яты. Цікава было б у гэтага разумніка даведацца, сам ён у якія свае довады больш верыць.

Славаміру не хацелася заканчваць размову. З новай сяброўкай ён абменьваўся ўражаннямі пра кіно, мастацтва, распавядаў пра захапленні, пачуцці, уласныя густы. Яны фліртавалі бясконца доўга. Адносіны з многімі дзяўчатамі раней абмяжоўваліся нейкімі стандартамі: дзе ты працуеш, дзе вучыўся, колькі зарабляеш... Як бяздарна пачыналіся такія знаёмствы, так яны і заканчваліся. Карына ж уяўляла сабою рэдкаснае спалучэнне жаноцкай прыгажосці і інтэлектуальнай неабмежаванасці. Славамір так захапіўся ліставаннем, што не заўважыў як мінула палова ночы і наблізіўся золак. Калі ён адарваўся ад камп'ютара, пераканаўся: новае знаёмства — усур'ёз і надоўга. Спаць не хацелася.

Побач з клавіятурай ляжала візітоўка з надпісам: «Славамір, майстра стварэння вобразаў і душэўнага спакою».

Пасля дзвюх гадзін творчых пакут Славамір паснедаў, выпіў чарговую дозу «допінгу» і вырашыў выйсці на шпацыр. Ногі вялі ў кніжную краму за вуглом.

* * *

Апошні раз Славамір быў тут амаль паўгода таму. Ніякіх змен. Кнігарня паранейшаму актыўна супраціўлялася сучаснасці і, па дамоўленасці з мясцовымі чыноўнікамі, здолела захаваць да нашага часу трывалыя прыкметы «савецкасці». Важкія дзверы на магутнай спружыне, з'едзенай месцамі іржою, трэба было добра пацягнуць на сябе, каб яны дазволілі ўвайсці ў скарбніцу мудрасці. Два вялікія пыльныя плафоны пад столлю маглі б расказаць пра веліч былой эпохі. Шэрыя кніжныя паліцы і змучаная часам зеленаватая плітка на падлозе не спрыялі развіццю тонкага эстэтычнага густу.

Быў пачатак дзявятай гадзіны раніцы. Народу ў кнігарні мала: чалавекі чатыры, і тыя па розных кутках. Прадавец, маладая дзяўчына, сумавала. Прыгледзеўшыся, Славамір пазнаў у ёй Анжэлу. Уцячы незаўважаным не атрымалася: Анжэла ўзняла вочы і, пазнаўшы сябра, усміхнулася. Славамір падышоў да прылаўка.

— Прывітанне. Адпусціў цябе інтэрнэт пагуляць?

— Я не ведаў, што ты тут працуеш.

— А ты наогул мала што пра мяне ведаеш. Я з радасцю раскажу пра сябе. Калі пажадаеш…

— Анжэла, не пачынай зноў! Я ж казаў: люблю адзіноту. Я не гатовы да сур'ёзных адносін. Калі ты крыўдуеш за тую нашу сустрэчу — дык прабач. Ты прывабная жанчына, я не змог стрымацца, яшчэ і шампанскае…

— Ага, дык усяму віною шампанскае?

— Не, проста я не саспеў для жаніцьбы.

— А для сексу і забаўкі саспеў?

— Давай не будзем больш пра гэта.

— А пра што будзем?

— Што ёсць пачытаць з навінак?

— Вось, калі ласка, новы дэтэктыў «Забойства на колах».

Вочы Славаміра набрынялі сусветным смуткам.

— Забойная рэч, — спяшалася спіхнуць тавар Анжэла.

— Ведаю.

— Паспеў ужо прачытаць? — здзівілася яна.

— Я сам напісаў гэта.

— Напісаў? — не надта здзівіўшыся, як падалося Славаміру, запытала Анжэла. — Але якім чынам?

— Звычайным. Сеў за камп'ютар і адбарабаніў патрэбны аб'ём. Я — літаратурны негр.

— Канешне, схаваўся за псеўданімам, і не пазнаць зорку! Ці ж магла я падумаць, што пісьменнік Артур W. — гэта мой нядаўні палюбоўнічак! — з густым сарказмам прамовіла Анжэла. — Вось жа гонар мне выдаўся!

Славаміра зноў перасмыкнула ад пошласці. У думках ён зарокся хадзіць у гэтую краму.

— Не думала, што часам гасцюю ў сапраўднага пісьменніка! — працягвала экзекуцыю Анжэла.

— Пісьменнік лепш мёртвы, чым жывы. І лепш за ўсё, калі мёртвы гадоў пяцьдзясят, і без нашчадкаў, — патлумачыў Славамір. — Тады не дзейнічае закон аўтарскага права, і яго можна выдаваць каму і дзе заўгодна.

— Што ты пішаш увогуле?

— Выраблюю на заказ баевікі рознага кшталту, у асноўным фантастычныя.

— Мушу цябе пахваліць. Твой дэтэктыў неблагі і разыходзіцца на «ўра». Мае віншаванні, творца!

Славамір маўчаў. «Зорная» хвароба даймала яго паўтара года таму. Цяпер ад былога самазахаплення амаль нічога не засталося. Ён прывык, што яго опусы карыстаюцца поспехам. Іначай Фокін даўно б разарваў з ім кантракт. Цяпер прыйшоў час, калі хацелася пісаць сваё і друкавацца пад сапраўдным прозвішчам.

— Чым мусіш заняцца сёння вечарам? — перапыніла маўчанне Анжэла.

— Не ведаю.

— Запрасі жанчыну ў кафэ.

— Прабач, у другі раз…

На гэтым размова абарвалася.

Славамір аглядаў паліцу за паліцай. Прыгожыя, каляровыя, бліскучыя вокладкі. Усе настолькі розныя, непадобныя, але, лічы, з аднолькавым начыннем. Гэта як піва, якое разліваюць па розных бутэльках, але з адной бочкі.

Кніжка, што прыцягнула ўвагу літаратара, не паходзіла на астатнія. Нязграбная чорная вокладка, адсутнасць усялякіх малюнкаў, аўтар не ўказваецца, выцвілым залатым цісненнем значыцца: «Сусветныя таямніцы». Славамір зняў фаліянт з паліцы і ўзважыў у руцэ, цягнула старонак на шэсцьсот-семсот. Праверка пацвердзіла

высновы. Прагартаў, выхапіў позіркам некалькі перакуленых зорак, надпісаў на іўрыце. Вельмі хутка зразумеў, якога кшталту трапіўся тавар. Захацелася вярнуць кнігу на месца і вымыць рукі. «Не хапала мне яшчэ ўлезці ў акультызм, палай ён агнём». Але на вочы патрапіла старонка з назвай «Як пазбавіць ад алкагалізму інша-га чалавека». Славамір адразу прыгадаў суседку і паглыбіўся ў чытанне. Спачатку ўсё падалося недарэчным жартам, але нешта ўкалола, і ён рушыў разам з «Сусветнымі таямніцамі» да касы.

— Нішто сабе, — здзівілася Анжэла. — Дзе браў? Не думала, што ў нас у продажы такая кніга.

З другога боку да Анжэлы наблізіўся юнак, які запатрабаваў штосьці фэнтэзійнае з дванаццатай часткі трэцяга цыкла першай сагі пра нейкага добрага чараўніка дужа вядомага аўтара. Славаміра разабрала блюзнерскае «гы-гы», бо пасля ранішняга сняданку быў на добрым падпітку. Ён перабіў прыхільніка фэнтэзі, разлічыўся і папрасіў Анжэлу знайсці «Прыбой і Берагі» Эйвінда Юнсэна.

* * *

Выпіўшы дома два вялікія кубкі зялёнай гарбаты, Славамір праваліўся ў глыбокі і цяжкі сон. Пасля бяссоннай ночы, спіртнога і размовы з Анжэлай, яму сніліся далёкія зоркі, што ляцяць у загадкавым сусвеце. Нечакана яны пачынаюць імкліва набліжацца. На адной зорцы сядзіць Ромка Фокін і пагрозліва махае Славаміру пагрызеным алоўкам. Пісьменнік адгароджваецца ад Ромкі недапісанай касмаоперай і запускае ў яго бутэлькай з рэшткамі каньяку. Хочацца крычаць ад жудасці, але голасу няма. Вобраз Ромкі пераплаўляецца ў выяву Анжэлы. Яна рагоча, закідваючы галаву назад, і паказвае правую руку са шлюбным пярсцёнкам. Шалёна пранёсшыся на зорцы, дзяўчына шпурляе Славаміру ў твар разарванае па лістах «Забойства на колах». Раптоўна за спінай пачынае гудзець кулер камп'ютара. На маніторы ўзнікаюць і мяняюцца выявы прыгожых і не вельмі дзяўчат. Яны танчаць і зманліва падміргваюць Славаміру. Ён хоча бегчы, але ватныя ногі нязначна перасоўваюць цела ў нерэальнай прасторы. Раптам экран камп'ютара гасне. Праз колькі момантаў на ім з'яўляецца дзяўчына. Славамір пазнае ў ёй Карыну. Яна плача і збірае разадраную кнігу. Сярод раскіданых лістоў увагу Славаміра прыцягвае тытульнік. Назва зусім іншая... Гэта не вокладка яго дэтэктыва! Славамір хоча прачытаць назву, але рэзкі гук з іншага вымярэння маланкай урываецца ў яго свядомасць і прымушае прачнуцца. Званіў тэлефон. Гадзіннік паказваў без чвэрці шэсць гадзін дня. Сэрца шалёна адбівала не менш за дзвесце ўдараў у хвіліну. Даймала смага і галаўны боль... Вечарам Славамір зноў пісаў ліст да віртуальнай сяброўкі.

— Прывітанне, Карына! Дзіўны сон бачыў я сёння. Зоркі, што палохаюць сваёй нерэальнай блізкасцю… мае разадраныя і нікому не патрэбныя кнігі… літкансультант, злосны, як вядзьмак… бутэлька каньяку — усё змяшалася ў страшэнным кругавароце і пагражала мяне знішчыць. Адна ты, Карына, спачуваеш і збіраеш маю разадраную кнігу.

— Ты сніш тое, што займае твае думкі. Гэта ўсё мучыць цябе.

— Зоркі, што мне прысніліся, нагадваюць людзей. Нібы тыя зоркі — мы, якія ўвесь час некуды імчымся. Толькі сваім святлом зоркі здольныя дакранацца адна да адной. Так і мы: нашы арбіты перасякаюцца зрэдчас — і ўсё роўна паміж намі бездань прасторы і часу. І ўсё роўна адзінокія па жыцці. І так назаўсёды, нібы

прысуд вечнасці, да скону сусвету. Мы розныя, і лёсы нашы неспазнаныя, як шляхі зорак.

— Славамір, нашы арбіты здольны не толькі дакранацца адна да адной. Я веру, што блізкія душы могуць перасячыся і зліцца, яны здольны працягваць рух па адной арбіце, ляцець побач да скону вякоў… І гэта сутыкненне пакідае ў памяці сусвету выбліск энергіі не меншы, чым выбух, пры якім адбываецца нараджэнне новай галактыкі. Закон захавання энергіі ўпарта даказвае, што энергія нікуды не знікае. Ці не гэтым тлумачыцца дзіўнае пачуццё, калі незнаёмым людзям падаецца, што яны ўжо ведаюць адно аднаго? Прычым абодва разумеюць, што ніколі раней не бачыліся! Гэта іх душы сутыкаліся ў іншых сусветах!

«Ого, у якія глыбіні завяла мяне прыгажуня. Вечнасць, зорныя арбіты, сутыкненне душ… Няблага было б напісаць пра гэта кнігу. Абсалютна ненавуковую, поўнасцю філасофскую, толькі маю. Магчыма, пра каханне».

Славамір адкінуўся на спінку крэсла. Ён адчуваў стому. На душы палагоднела. Натхняла ліставанне з Карынай. Ён ужо даўно ні з кім не размаўляў ад сэрца, нікому не спавядаўся. Было хораша. Ён працягваў пісаць.

— Раскажу табе пра адну зорку, перасякацца з арбітай якой мая арбіта ўпарціцца. У нашым двары ў доме насупраць жыве пуставатая асоба, якую завуць Анжэла. Яна таксама была ў маім сне. Днямі завітала да мяне пазычыць грошай, я не адмовіў. Пасля завітала яшчэ раз, заявіўшы, што дзесьці згубіла завушнічку і паўгадзіны поўзала па кватэры, згінаючыся і дэманструючы мне ўсё, чым адарыла прырода. А адарыла яшчэ як! Мне было сумна. Я слухаў «My Dying Bride» і піў піва, не звяртаючы на госцю ўвагі. Яна спрабавала пакрыўдзіцца, але, натрапіўшы на мой абыякавы позірк, адвярнулася і спыніла пошукі. Па вачах я зразумеў: атака паўторыцца. Так і ёсць. Сёння ізноў сустрэў гэтую прыліпалу. Не паверыш, яна працуе ў кнігарні, прадае ўсялякую дрэнь (чырванею ад сораму, я маю непасрэднае дачыненне да ТАГО тавара). Тлусты макіяж і выраз твару сведчаць, што за прылаўкам стаіць выключна дзеля заробку. Я папрасіў Анжэлу знайсці для мяне «Прыбой і Берагі» Эйвінда Юнсэна. Упэўнены, яна ніколі не чула пра такога пісьменніка. Яшчэ і выгляд робіць, быццам разумее штосьці пра аўтарскае права!

— Чаму ты так адзываешся пра Анжэлу?

— Надакучыла яна смяротна. Жаданне мець з ёю адносіны згасае прапарцыянальна яе намаганням прыручыць мяне. Я — адзінокі воўк, якому і адзінота абрыдла, і свабоду губляць не хочацца. Пакуль сур'ёзныя адносіны не для мяне.

Карына доўга не пісала нічога ў адказ. Потым замігцеў жоўты канверцік.

— Можа, ты не разгледзеў Анжэлу як мае быць? Запрасі яе на спатканне. Перастань бачыць у ёй назолу, пастаўся да яе як да жанчыны.

— Ну, як да жанчыны я паспеў ужо аднесціся…

— Яна можа аказацца не такой ужо з'едлівай сцервай.

— Гэта выключана. Мне непрыемна жанчына, якая сама прапануе ўзяць яе замуж. У нас з ёй так і было. Мужчына — заваёўнік на генетычным узроўні. Інстынкт падказвае самому пакарыць сваю жанчыну. А калі трафей сам сябе прынёс на талерцы, ён ужо не ўяўляе аніякай вартасці.

— Усё зразумела. Мне пара ісці. Да сувязі.

— Чакай, я цябе пакрыўдзіў?.. Выбачай. Ты мне падабаешся, і я хачу быць шчырым з табой.

Карына зноў прымоўкла. Жаночая салідарнасць, аказваецца, таксама існуе. Славамір ужо шкадаваў, што дрэнна аказваўся пра Анжэлу. Сапраўды, навошта дзяўчыне, якая табе падабаецца, слухаць, які ты цынік у адносінах да жанчын увогуле?

Ён пакруціў у руках «Сусветныя таямніцы» і адклаў убок. Потым патупаў на кухню і заварыў зялёнай гарбаты. Праз колькі хвілін мігценнем жоўтага канверціка праграма паведаміла пра новае пісьмо.

— Заўтра ў Доме культуры афіцэраў канцэрт Кіпелава, — пісала Карына. — У мяне два білеты. Можам сустрэцца.

Славамір з радасцю пагадзіўся.

* * *

На месца сустрэчы Славамір прыбыў у джынсах і скуранай куртцы. Вераснёўскае надвор'е сапсавалася, дзьмуў халодны вецер, і такое адзенне было ў самую пару. Падцягвалася моладзь, доўгавалосыя юнакі, дзяўчаты, амаль усе ў касухах, у джынсоўках. Непадалёк сумаваў міліцэйскі патруль.

— Прывітанне, пісьменнік!

Да Славаміра падбегла Анжэла. Ён зморшчыўся: сустрэча з нядаўняй каханкай мусіла сапсаваць усю карціну.

— Чакаеш кагосьці?

— Сонейка, — Славамір падабраў патрэбнае слова. — Ты мне перашкаджаеш.

— Давай адгадаю. У цябе спатканне з дзяўчынай, так?

Анжэла была апранута ў скураныя штаны, боцікі на шпільках і кароткую камізэльку з чорнай замшы. Увесь яе выгляд патыхаў готыкай.

— Калі і так?

Сяброўка заўсміхалася.

— Вось не чакала, што ў старога халасцяка хтосьці ёсць.

— Не зусім яшчэ і старога, — мякчэйшым тонам адказаў Славамір.

— Слова даю, яна не прыйдзе, — раптам зазначыла Анжэла.

Сябар запытальна выгнуў бровы.

— Ты зануда, як і ўсе халасцякі.

Славамір уздыхнуў і адмахнуўся. Потым развярнуўся і павольна пакрочыў убок, заклаўшы рукі ў кішэні джынсаў.

— Пачакай! У мяне ёсць два квіткі на канцэрт, — выгукнула ўслед Анжэла. — Я таксама не дачакалася свайго кавалера, хадзем разам!

— Ды ну цябе, — прашаптаў Славамір, не азіраючыся.

Абцасікі пацокалі па тратуары ў процілеглым накірунку.

Славамір дастаў з кішэні мабільнік і зірнуў на час. Дзіва, што Карына не дала яму свой нумар… Хвілін праз трыццаць ён паўтарыў дзеянне. Канцэрт пачаўся ўжо. Дзяжурныя міліцыянеры чагосьці чакалі: мажліва, беспарадкаў і гвалту, мажліва, канца дзяжурства. Сям-там з'яўляліся людзі ў рокерскіх строях. Яны палілі цыгарэты і гучна размаўлялі. Карына так і не з'явілася.

Зрабілася сумна. Праз хмары прабіўся на імгненне адзінокі сонечны промень. Славамір пачакаў яшчэ крыху і пакрочыў да ўвахода ў метро. Ён заўсёды аддаваў перавагу гэтаму транспарту.

«Я свободен, словно птица в небесах», — пеў наўздагон Кіпелаў.

Унурыўшыся ў сябе, Славамір выпадкова выйшаў не на той станцыі і апынуўся ў незнаёмым месцы. Трапляць з рок-канцэрта ў царкву — кантраст яшчэ той. Славамір спыніўся перад будынкам з высокім шпілем-вежай. Людзі сцякаліся да гэтага месца па аднаму і невялікімі групамі. Стаянка побач з будынкам пастулова напаўнялася аўтамабілямі розных марак.

Славамір павагаўся і вырашыў дзеля цікаўнасці зазірнуць, бо даўно меў намер далучыцца хоць да якой веры. «Урэшце, сюды білет не патрэбен», — падумаў ён і ціхенька коўзнуў у дзверы. Ніхто не звярнуў на яго ўвагі.

Карціна ў вытанчанай рамцы сведчыла пра існаванне Бога, які маліўся, узняўшы вочы да нябёсаў, і раса крывавага поту абмывала камень перад Збавіцелем. Насупраць застыў анёл — пасланнік, які суцяшаў Госпада.

Карціна была проста карцінай. У гэтым храме абразоў не прызнавалі. А гэта карціна вісела гадамі над катэдрай, чым раздражняла старых пратэстанцкіх артадоксаў. Уверсе меўся надпіс: «Бог ёсць Любоў».

Невялікую залу запаўняла задуха. Чалавек сто нерухома слухалі прамоўцу ў белай кашулі, пры гальштуку, з мікрафонам у руцэ. Натхнёнасць адчувалася ў прысутных.

— Калі мы просім Бога зрабіць нас дужымі, Гасподзь не нарошчвае на нас мускулы за ноч! Ён пасылае нам цяжкасці, каб, пераадольваючы іх, мы набывалі сілу! Калі мы просім больш любові да бліжняга, Збавіцель пасылае нам сітуацыі, у якіх мы павінны праяўляць любоў. У мяне часта пытаюць: я жыву для таго, каб маліцца? Не, сябры мае. Я малюся, каб жыць!

Зала агаломшана маўчала.

Пасля пераможнага «Амінь!» прысутныя ўсталі на калені, а прамоўца сышоў з катэдры з тварам выканаўшага свой абавязак прафесіянала. Па яго ілбе сцякаў ледзь прыкметны струменьчык поту.

Славамір выйшаў на вуліцу. У зямным раі яму зрабілася млосна.

Заімжэла. Дзень хіліўся да вечара.

«Калі разабрацца, літаратура — гэта таксама ў пэўным сэнсе рэлігія», — зрабіў нечаканую выснову Славамір і падаўся да метро.

* * *

Суседка з палюбоўнічкам, які нёс торбу гарэлкі, зноў сустрэліся Славаміру перад уваходам у пад’езд.

— Слухай, мужык, дай дзвесце рублёў, га? — пачаў прыставаць мужчына.

Славамір бліснуў на яго позіркам і моўчкі прайшоў міма.

— Ну ты! Да цябе ж людзі звяртаюцца!

— Не чапай яго, — уставіла суседка.

Славамір ускочыў у пад’езд і пабег па лесвіцы.

Па-шчырасці, яму зрабілася агідна. Асабліва пасля слова «людзі».

Дома ён зайшоў у ванну, вымыў рукі, твар і, выціраючыся ручніком, пачаў разглядаць сябе ў люстэрка. Правёў далонню па няголеных шчоках, і раптоўны жах працяў яго. «Не кіну піць, стану як той алкаш, — падумалася Славаміру. — Пара завязваць». Вячэраць пакуль не хацелася. Славамір зайшоў у залу, сеў у крэсла перад камп’ютарам. Каля клавіятуры ляжаў пакінуты ўчора важкі том «Сусветных таямніц». Славамір машынальна ўзяў яго, пагартаў. Выпадкова ці не, зноў раскрылася старонка з падрабязным апісаннем рытуалу для пазбаўлення ад алкагольнай залежнасці. Славаміра штосьці кальнула. Перад вачамі паўстала суседка са сваім сябрам, прыгадаліся сваркі за сцяной… «Была не была», — выдыхнуў Славамір і адклаў кніжку. Для правядзення рытуала трэба дачакацца апоўначы. Славамір устаў і прыняўся корпацца ў шафе, шукаючы набор свечак, як патрабаваў рытуал. Не сказаць, што ён верыў у замагілле і тамтэйшых насельнікаў, але тым вечарам вырашыў выпрабаваць лёс.

* * *

«Прывітанне, Карына! Здаецца, нашым кароткім адносінам настала лагічнае завяршэнне. У першы момант я пакрыўдзіўся, калі ты не прыйшла на спатканне. Пасля дапяў — так і трэба. Так лагічна. Мне ўсё хацелася ведаць, ці гэта тваё сапраўднае імя, ці псеўданім? Чаму ты не пакідаеш мне свой нумар тэлефона? Чаму ў цябе толькі адзін фотаздымак на старонцы? Я шукаў цябе ў іншых сацыяльных сетках — не знайшоў. Цяпер гэта ўжо не важна.

Я вельмі часта ў жыцці атрымліваю тое, чаго баюся, ад чаго ўцякаю, чаго выракаюся. Чаму так склалася? Мо Бог хоча мяне ў нечым выпрабаваць? Што калі я мушу здзейсніць учынак, які Бог ад мяне аніякім чынам не жадае бачыць?

Дзякуючы нашаму знаёмству, я зразумеў сэнс віртуальнага кахання — уменне выслухаць партнёра. Прынамсі, уменне выслухаць, бадай, адзінае, што яднае віртуал з рэальнымі пачуццямі. Мо віртуальнае каханне ў сеціве раўназначна псіхічнаму захворванню?

Нават без камп'ютараў і сеціва мы жывём часта несапраўдным жыццём, вельмі часта ўсё вакол здаецца штучным, нерэальным, бы ў матрыцы, якая штампуе клонаў. Я ўдзячны табе за тое, што вывернуў душу ў сваіх пісьмах. Мне гэтага не хапала. Даўно карцела паспавядацца.

У які бок могуць развівацца адносіны ў сеціве? Да якіх межаў? Сеціва добрае тым, што ў ім можна быць шчырым. Ніхто цябе не бачыць, не сорамна. Ты ведаеш, што хутчэй за ўсё ніколі ў жыцці не сустрэнеш чалавека, з якім сябруеш. Таму можна быць адкрытым да бессаромнай крайнасці. Зусім не страшна, можна ў любы момант выдаліць свой акаўнт.

Шкадую, што мы ніколі не сустрэнемся ў гэтым жыцці. Мо ў будучым, на нябёсах? Хаця… наша сустрэча магла б знішчыць пачуцці. А так усё застанецца на сваіх месцах. Так правільна. Не варта рушыць гэты маленькі сусвет.

Бывай. З табой было захапляльна і цікава».

Славамір дапісаў апошнія словы, перачытаў. Адным клікам мышкі ліст быў адпраўлены. Усё скончылася. Ён зноў свабодны, чым так заўсёды ганарыўся, і такі ж нязменна адзінокі, як і раней. Славамір ніколі не пакутаваў ад сентыментальных пачуццяў, але на гэты раз адчуванне шчымлівай тугі ціха раздзірала сэрца. Гадзіннік паказваў палову дванаццатага вечара. Эксперымент з «Сусветнымі таямніцамі» мусіў хутка распачацца. Славаміра ахапіла нявыказаная трывога. Мурашы прабегліся па спіне. Каб сагрэцца, ён пайшоў на кухню заварыць гарбаты. З вентыляцыйнай трубы патыхнула тухлымі яйкамі. На імгненне падалося, што акрамя яго ў кватэры яшчэ хтосьці ёсць. Але толькі на імгненне.

Славамір дачакаўся пакуль закіпіць чайнік і заліў вадой шчэпаць зялёных лісцікаў у кубку. Непрыемны пах змяніўся водарам кітайскіх палёў. Славамір вярнуўся да камп'ютара.

Побач з «таямніцамі» чакала трынаццаць свечак…

* * *

…Пасля рытуалу наступіла паўза.

Жыццё раптоўна неяк прыпынілася. Застыла на месцы. Нічога не адбывалася. Ніхто не званіў ужо два дні. Карына не адказала на апошні ліст, а ў кнігарню Славамір наўмысна не заходзіў, каб не сустрэцца з сяброўкай. Ромка Фокін не турбаваў. Распачаты рукапіс не прыцягваў увагі. Камп'ютар шапацеў кулерам. Ён

перабіваў цішыню ў кватэры. Цішыня — страшэнная рэч. Паспрабуйце ўслухацца ў яе. Можаце пачуць такія нерэальныя гукі, што можа падацца, быццам вы з'язджаеце з глуздоў.

Пасля кантакту з пазабоччам Славаміру было не па сабе. Ахапілі невытлумачальныя тужлівасць ды самота. Яны прыйшлі потым, не адразу, не падчас мармытання заклёнаў.

На трэцюю ноч прыснілася суседка. Мярцвяна-бледная, яна моўчкі ўзіралася пустымі вачыма ў Славаміра і быццам нема папікала. Потым прамовіла: «Я ў вёсцы Жытніца». І ён адразу прачнуўся ў халодным поце. У пакой лілося святло Месяца.

Усю наступную раніцу і палову дня Славамір праваляўся ў ложку. Ён не мог падняцца з-за ламаты ў целе. Сэрца напаўняў цяжар душэўнай пустэчы. Толькі бліжэй да абеду неяк здолеў прымусіць сябе вылезці з-пад коўдры. Пасля пастаяў пад халодным душам, каб змыць здранцвенне.

Затым у дзверы настойліва пазванілі і пагрукалі. Славамір адчыніў. На ўваходзе чакаў знаёмы ўчастковы Серабракоў.

— Ваша суседка недзе прапала. Тры дні няма. Заяву прынёс цяперашні муж.

— Муж?

— Прабачце, прыяцель. З ейным ладам жыцця… Мо сканала дзе? Але ж, для праформы я павінен распытаць: калі вы бачыліся апошні раз, дзе, пры якіх абставінах?

Славамір павольна распавёў пра апошнюю сустрэчу каля пад'езда. Напрыканцы падумаў крыху і параіў нечакана для сябе:

— Пашукайце ў вёсцы Жытніца. Мажліва, яна там.

— Адкуль ведаеце? — здзівіўся Серабракоў.

— Неяк чуў, што там засталася радня маёй суседкі, — схлусіў Славамір. Не расказваць жа пра прарочы сон.

Калі развіталіся, Славамір вярнуўся ў рабочы пакой і ўзяў у рукі «таямніцы». На гэты раз ён глядзеў на кнігу з цікавасцю і спалохам. Гартаць старонкі не хацелася.

Вось табе і маеш. А ён лічыў набытае забабонне недарэчнымі казкамі. Рытуал супраць запояў суседкі правёў быццам у жарт. Мо супадзенне? Раптам моцна захацелася выпіць.

* * *

Ромка Фокін намаляваўся знянацку ў другой палове дня. Зваліўся нібы снег на галаву. Безцырымонна адштурхнуў Славаміра ўбок і пакрочыў у пакой, дзе паставіў на стол пузатую бутэльку каньяку. Славамір зачыніў дзверы і рушыў следам.

— Можаш сябе павіншаваць, — выдыхнуў Ромка і адкаркаваў бутэльку. — Выдавецкі савет вырашыў вызваліць цябе ад напісання касмічных баевікоў. Мне даручана прапанаваць табе пісаць дзіцячыя казкі.

Славамір моўчкі зняў з паліцы на сцяне дзве філіжанкі і паставіў іх на стол.

— Хлопцы вельмі смяяліся з прапанаванай табой літаратурнай канцэпцыі нябачнага твора, — працягваў Ромка.

Ён спрытна разліў напой.

— Будзем, — Ромка выпіў.

Славаміру піць расхацелася. Ён перасунуў крэсла насупраць і сеў.

— Наконт казак, канешне, жарт, — прызнаўся Ромка. — Справа ў іншым, што апошняя твая кніжка «Забойства на колах» амаль уся раскуплена за квартал. Ты ўпэўнена дэбютаваў у дэтэктыўным жанры. Разумееш?

Славамір пацiснуў плячамi. З моманту Ромкiнага ўваходу ў кватэру ён яшчэ не прамовiў нi гуку.

— Плануецца хуткiм часам цiснуць дадатковы наклад. Як табе навiна?

Славамiр уздыхнуў.

— Што ў цябе за твар? — абурыўся Фокiн. — Прачнiся, поспех на ганку. Больш не трэба анiякiх космаопер. Пiшы, што душы заўгодна. Выдавецтва чакае працягу дэтэктыва.

— Ромка, — прамовiў Славамiр. — З табою адбывалася калi-небудзь мiстыка?

— Не ведаю. Мажлiва калiсьцi, — Фокiн гадаў, што хоча сказаць сябар. Патлумач.

— У мяне за сцяной суседка жыла. П'янь несусветная. Жыцця не давала. Кожны дзень у атрутнай гары, а па начах канцэрты. Набыў неяк кнiжачку «Сусветныя таямнiцы», вычытаў «рэцэпт», як пазбавiць ад алкагалiзму iншую асобу i… карацей, правёў дзеля цiкавасцi рытуал, а пасля высветлiлася, што суседка недзе знiкла без вестак, i ўжо тры днi няма. Што думаць?

— Пачакай… пачакай, — Ромка схапiў том i прыняўся зацiкаўлена гартаць. Пакрысе ягоны твар набыў заклапочанасць. — Вось не думаў, што яна яшчэ недзе прадаецца. Няйнакш, на складзе цi сховiшчы завалялася пара-тройка асобнiкаў. Ну i ну.

Ромка шумна выдыхнуў i загарнуў кнiжку.

— Што?

— Ты дарослы мужчына, а вiнавацiш сябе ў знiкненнi суседкi з-за рытуалу?

— Я не ведаю, — шчыра прызнаўся Славамiр. — Але на сэрцы цяжка, сам не свой якi дзень.

— Дурань, — сказаў Ромка. — Гэта падробка. Кнiжку напiсаў я.

— Не разумею… Як гэта?

— Справа была на пачатку дзевяностых. Памятаеш, што адбывалася тады ў кнiжным бiзнесе? Мы, жаўтаротыя юнакi, прагнулi нахапаць грошай. Якi там лiтаратурны працэс, браце? Саюз распаўся, цэнзура знiкла, а кнiжны рынак у стане вакуума. Фантастыка, фэнтэзi, баевiкi, кiнараманы, дэтэктывы, парнаграфiя, эротыка, кiнасерыялы — усё вiхурам напоўнiла кнiгарнi, выцiскаючы класiку i калгасна-рабочыя раманы. Попыт быў страшэнны. Прыбыткi выдавецтваў вымяралiся касмiчнымi лiчбамi. Усё паглыналася галоднымi чытачамi, нiбы ў прорву. Рэлiгiя стала дазволенай, Бiблiя — у свабодным гандлi. I чыталi! I не толькi Бiблiю. Колькi тады кнiжак пра акультызм з'явiлася! Iснавалi аўтары, якiя з лёгкай рукi сачынялi соннiкi, з пальца высмоктвалi гараскопы. А я вось вырашыў напiсаць «Сусветныя таямнiцы». Абклаўся гарой ужо выдадзенай адпаведнай лiтаратуры, як у анекдоце: з адной кнiжкi — цытата, з двух — лекцыя, з пяцi — яшчэ адна кнiжка. Дзе свайго навыдумляў, дзе спiсаў тэкст з iншай крынiцы, толькi словы перастаўiў. Гэткiм чынам i нарадзiлiся «таямнiцы».

Славамiр нiчога не адказаў.

— Дарэчы, я на гэтай кнiзе вельмi някепска падзарабiў. А колькi грошай заграбло выдавецтва!

— А як жа сумленне? — не вытрымаў Славамiр.

— Ха! Сумленне? Канешне, шкода ўсiх небарак, хто шчыра верыў у каламуць, хто элементарна апынуўся ў псiхушцы. Але заўваж, я гвалтам нiкога не прымушаў набываць кнiжку. Эпоха надарылася такая. Хто прымушаў натоўп перцiся на канцэрты Кашпiроўскага, Джуны, Лонга? Чаму ж шлi не ў царкву, раней амаль забароненую, а кiравалi па ўласным жаданнi ў пашчу д'ябла. Пра якое сумленне ў маiм выпадку можна казаць?

— Ты не правы, Ромка. Ці не мы падказалі шлях да той пашчы? Мы нясем адказнасць за нашу лухту.

— Перад кім?

— Перад Богам, перад людзьмі, што паверылі нам! Мы таксама прапаведнікі, хіба не бачна? Па нашых творах здымаюць серыялы, камп’ютарныя гульні. Мы ствараем віртуальны свет азлобленых дурняў, штурхаем натоўп да пагібелі! Мы прапаведуем шлях да смерці!

Ромка хмыкнуў.

— Бач ты, святоша наваспечаны…

Славамір не адказаў. Ромка наліў сабе яшчэ каньяку, хуценька выпіў і выдыхнуў у кулак.

— Я пайду. Сваю місію на сёння выканаў. Ты ў курсе спраў, — Фокін падняўся. — Слухай, можна я забяру «таямніцы» на памяць? Ніводнага асобніка не засталося.

— Забірай, — дазволіў Славамір, і яны хутка развіталіся.

Пасля Славамір сядзеў на тахце і доўга разважаў над словамі літкансультанта Фокіна.

* * *

Позна ўвечары ў дзверы зноў пазванілі.

«Ад наведнікаў сёння не адбіцца», — падумаў Славамір і пакрочыў адчыняць.

На ўваходзе стаяла Анжэла. Амаль без касметыкі, без ваяўнічага задору ў вачах, з самотным выразам твару, валасы, сабраныя ў хвосцік. Ціхая сціплая Анжэла. На плячы чорная скураная сумка. Упершыню сяброўка паказалася перад Славамірам у нязвыклым вобразе.

— Я прынесла кніжку, — Анжэла выняла з сумкі томік Эйвінда Юнсэна «Прыбой і Берагі» і працягнула Славаміру.

Вось табе і маеш. Барбі пераўтварылася ў Папялушку з прыкметамі інтэлекту. Ён збянтэжана прыняў падарунак.

— Мо дазволіш увайсці?

— Канешне. Калі ласка…

Апынуўшыся ў кватэры, дзяўчына разулася. Славамір перамінался з нагі на нагу, збіраўся нешта сказаць, але нічога ў галаву не прыходзіла. Анжэла ўражвала. Месца прыгожай разбэшчанасці заняла вытанчаная пяшчотнасць, дапоўненая далікатнасцю.

— Кавы, гарбаты? — прапанаваць спіртное не павярнуўся язык.

— Кавы.

Яны прайшлі на кухню. Славамір прапанаваў госці месца за сталом, а сам прыняўся завіхацца каля пліты.

— Прабач, да кавы нічога няма, — апраўдваўся ён.

— Добра і так.

Яны моўчкі сядзелі насупраць і павольна, не парушаючы цішыні, падносілі да вуснаў кубачкі. Напой абпальваў. Славамір не звяртаў на гэта ўвагі. Дзяўчына неадрыўна глядзела яму ў твар. Глыбіня вачэй, самоцінка, гіпнатычнасць. Нешта было не так, штосьці павінна здарыцца сёння. Няўжо ён увесь час памыляўся? Ці раптоўная змена іміджу і стылю паводзін — усяго частка спрадвечнага жаночага плана? І куды падзелася былая баявітасць сяброўкі?

Потым быў яшчэ адзін кубачак, і яшчэ…

«Не засну сёння», — вырашыў Славамір.

Ён адзначыў, што сумачку сяброўка трымала пры сабе. Яна была аб'ёмістай. Там не толькі том Юнсэна можна схаваць.

— Ты хацеў ведаць маё сапраўднае імя, — абмовілася Анжэла нарэшце.

Славамір ускінуў бровы.

— Ну што ж, я — Анжэла.

— Далібог, не разумею…

Анжэла дапіла каву, адсунула кубачак, потым раскрыла сумачку, выняла стос папер з акуратна аддрукаваным на прынтары тэкстам і паклала перад Славамірам.

— Вось тут адказы на ўсе пытанні, — запэўніла яна.

Славамір з трымценнем у сэрцы павольна перавёў позірк з сяброўкі да папер, углядзеўся ў тэкст і збянтэжыўся ад нечаканасці. Гэта аказалася раздрукоўка ягонай перапіскі з Карынай!

— Мы нібыта зоркі, што ляцяць у вечнасць, нашы арбіты зрэдчас перасякаюцца. То праўда? — спытала шэптам Анжэла.

Унутры Славаміра ўсё перакулілася, ён не знаходзіўся з адказам.

— Адкуль у цябе гэта? Ты… ты…

— Вымаві ўслых. Я хачу пачуць, — сказала сяброўка. — Агуч сваю здагадку.

— Не можа быць…

— Можа, усё на свеце можа.

— Не, так не бывае.

— Як не бывае?

Славамір хацеў праваліцца скрозь зямлю. Ён даверыў сеціву самыя глыбокія таямніцы свайго жыцця і не мог ні ў якім разе ўявіць, чым усё абернецца.

— Я — Карына. Тая прыгожая бландзінка з сайта знаёмстваў, якой ты прызнаўся ў каханні! Інтэрнэт — моцная штука. За гады знаёмства я не змагла дабіцца таго, што ўдалося не існуючай Карыне за тыдзень перапіскі…

У целе Славаміра штосьці прачнулася. Зрабілася млосна, і ён расшпіліў каўнер кашулі. Анжэла выпрастала руку і дакранулася да яго.

— Мы маглі назаўсёды застацца разам, быццам дзве зоркі ў бясконцай прошчы сусвету. Гарэць адным агнём. Але ты быў глухі, сляпы і нямы.

— Прабач…

Славамір баяўся ўзняць вочы.

— Ты кахаў вось гэта, — яна з горыччу тыцнула пальцам у стос папер. Ты кахаў віртуальную Карыну, пра якую нічога не ведаў.

Славамір прыгадаў няўдалы паход на рок-канцэрт. І тое, як Карына крыўдзілася, калі ён расказваў ёй пра «пуставатую асобу з дома насупраць». І тое, як Анжэла не здзівілася, даведаўшыся пра пісьменніцкую дзейнасць Славаміра. Канешне, яна ведала пра гэта з яго лістоў.

— Ты нават не мог быць упэўнены ў сапраўднасці здымка! Заўважыўшы ў цябе дома адкрыты сайт знаёмстваў, я стварыла на ім сваю старонку. Потым запіхнула на сайт фота сястры, якая жыве за мяжой, і ўвязалася з табой у перапіску. Здарылася неверагоднае. Ты пакахаў віртуальны вобраз, што стварыла тваё ўяўленне. А мяне, сапраўдную, не прыкмячаў!

На апошніх словах голас Анжэлы ледзь не сарваўся на крык.

Славамір раптам успомніў, як пятнаццаць хвілін таму, пры з'яўленні госці яго працяла думка, ад якой халадок прайшоўся па скуры. Яму падалося, што цяперашняя Анжэла — сціплая, неразмаляваная — чымсьці падобная з твару да Карыны. Ён

адагнаў тады гэтую думку — такое здараецца, што людзі бываюць падобныя адзін да аднаго. Цяпер жа усё было зразумела — дзяўчаты былі сёстрамі!

— Але я ніколі не зведаў бы цябе, каб не наша ліставанне! — выбухнуў Славамір. — Ты ж па жыцці крочыла расфарбаванай лялькай. Калі б не стала Карынай, як бы я мог цябе пакахаць?

— Калі б не стала Карынай, — паўтарыла яна.

Славамір зразумеў, што вымавіў глупства.

— Нашто ты дурыла мне галаву пра бацьку-палярніка, пра сваё імя? Я верыў!

— Цікава было назіраць, як чалавек можа пайсці следам за прыдуманай легендай, расказанай невядома кім з інтэрнэту. Яндэкс ведае ўсё. Ён і параіць як пазнаёміцца з дзяўчатамі, і пра значэнне імя раскажа. Смешна было бачыць, як цябе зацягвае віртуальная багна. Ты не горш майго ведаеш, што ў інтэрнэце за прыгожым фота можа хавацца і састарэлы распуснік, і саракагадовая незамужняя начытаная істэрычка, ды ці мала хто! Над табою элементарна могуць жартаваць ад няма чаго рабіць. І тым не менш ты выбіраеш гэты міф!

— Ты паводзіла сябе так нахабна!

— Я шкадую пра той дзень, калі мы сталі каханкамі на хвіліну. Тады мне было да жудасці адзінока. Быў мой дзень нараджэння. У мяне нядаўна памерла маці, заставалася зусім адна ў кватэры. Я казала, што ты даўно з’яўляўся для мяне не проста знаёмым. Гэта праўда. У той дзень я тапіла істэрыку ў шампанскім, пайшла купіла яшчэ бутэльку і рушыла да цябе. Проста хацелася шчырых мужчынскіх абдымкаў. Дарэмна я цябе справакавала. У цябе склалася ўяўленне, што перад табою дзеўка, якая хоча замуж і бярэ сваё нахрапам. Ні з кім іншым я б не дазволіла сабе такіх паводзін. Ты нават не задумаўся, што гэта ад адчаю і спусташальнай адзіноты!..

Анжэла расплакалася. За долю хвіліны ў Славаміра прамільгнула думка: добра, што плача, калі б яна проста замоўкла, то змагла б пачуць, як шалёна калоціцца ягонае сэрца. Усё ж жаночыя слёзы — магутная зброя. Славамір памкнуўся абняць Анжэлу. На колькі імгненняў яна дазволіла дакрануцца да сябе, потым вывернулася з яго рук.

— Цяпер ты мне не патрэбен! Кахай свае ўспаміны! Кахай віртуальны вобраз, які назаўсёды знік з сеціва!

Дзяўчына падхапіла сумачку і кінулася з кухні, пакідаючы пасля сябе разбітыя мары.

— Пачакай! — крыкнуў услед Славамір, але Анжэла ўжо была за дзвярыма.

Ён доўга не мог прыйсці ў сябе. Густая цішыня напаўняла кватэру. Славамір бадзяўся з пакоя ў пакой, засунуўшы рукі ў кішэні. Узяў чамусьці «Прыбой і Берагі», сваю любімую кнігу. Яна апісвала вандроўкі Адысея, дзіўнага цара Ітакі, якога спачатку ледзь змаглі ўгаварыць ісці на вайну з Трояй, а пасля ніяк не маглі дачакацца дома. І справа не ў тым, што Адысей быццам не ведаў шлях на радзіму. Не, добра ведаў, проста не хацеў вяртацца. Ці то вайна пакінула адбітак, ці то ўсё на свеце абрыдла…

«Раз адзінота — мой лёс, я павінен служыць вечнасці», — падумаў Славамір.

Раптоўна ўспыхнула даўно забытае жаданне пісаць. Імпульс душы, натхненне прыходзілі да Славаміра менавіта ў драматычныя моманты жыцця.

Захацелася выпіць, але, падпарадкаваўшыся першаму імпульсу з глыбіні душы, Славамір пачаў рабіць неверагоднае: выцягваў са схованак і тайнікоў запасы спіртнога, адкаркоўваў бутэлькі і бязлітасна выліваў іх змесціва. Хутка па кватэры распаўсюдзіўся ўдушлівы чад сумесі гарэлкі, каньяку, віна, шампанскага. У сметніцу паляцеў недапрацаваны рукапіс для выдавецтва.

Потым ён раскрыў насцеж усе вокны ў памяшканнях. Хутка пакоі напоўніліся свежасцю вераснёвай ночы. У той момант Славамір ні пра што не шкадаваў. Не патрэбен яму Фокін са сваім левым выдавецтвам. Хопіць з яго баевікоў і дэтэктываў! Жыццё часам заканчваецца — вось што цяжка ўсвядоміць большасці людзей. Хтосьці сказаў: за грошы можна купіць секс, але не каханне; добрыя адносіны, але не сяброўства; месца на могілках, але не на нябёсах… Калі настане час пакідаць свет ці пра грошы будзе думацца? Бессмяротнасць, вечнасць даюцца бясплатна, за так. Па веры.

«Божа, і навошта ўсё гэта? Навошта столькі фальшу, падману вакол?»

Славамір сеў за камп’ютар, паклаў рукі на клавіятуру, на хвіліну прыкрыў вейкі. Навошта прыдумваць сюжэты, калі жыццё кожнага — непаўторны свет, поўны вобразаў. Ён пачне пісаць пра сябе і Ромку, пра ўсё. Карціна як на далоні. А назвай будучай аповесці будзе… Пальцы адбарабанілі першае, што выплыла ў розуме: Прапаведнікі жыцця і смерці.

* * *

Славамір працаваў без перапынку да самай раніцы. А досвіткам у дзверы пазванілі. Нявыспаны, з чырвонымі вачыма, але з радасным спакоем у душы, нібыта знайшоў шчасце, Славамір адчыніў дзверы і сутыкнуўся з участковым Серабраковым. Побач былі яшчэ людзі з міліцыі, пара чалавек у грамадзянскім. Участковы павітаўся першым.

— Вы мелі рацыю, Славамір Аляксандравіч. Суседка ваша насамрэч адшукалася ў вёсцы Жытніца.

Калі да Славаміра дайшоў сэнс пачутага, ён пацікавіўся, што патрабуецца менавіта ад яго.

— Ведаеце, суседку вашу знайшлі ўжо мёртвай. Павесілася ў старой матчынай хаце. Так што больш вас ніхто не патурбуе сваркамі.

Славамір уздрыгнуў пры слове «павесілася». Страшэнны грэх.

— Сваякі пажадалі агледзець жытло нябожчыцы. Хтосьці выказаў недавер, настаялі на вобыску… Карацей, вы можаце пабыць панятым?

Славамір на паўхвіліны задумаўся і адказаў:

— Не. Прабачце мяне, шаноўны Дзяніс Васільевіч. Я дужа стаміўся.

І зачыніў дзверы.

Потым ён памыў твар у ванным пакоі, апрануў свежую кашулю, выключыў камп’ютар, хуценька накінуў куртку, улез у чаравікі. Прыняўся шукаць ключы ад кватэры.

«Я малюся, каб жыць», — прыгадаліся пачутыя нядаўна словы.

Не, хуценька ў царкву. Паставіць свечку. Спавядацца. Памаліцца як зможа.

І даруй, літасцівы Божа, за ўсё тое, што ён паспеў напісаць…

Марыя ДЗЮБАК

# СПЫНІЎСЯ ЧАС. ТРАВА ЯШЧЭ ЗЯЛЁНАЯ

* * *

Зямля, аддаўшы ураджай,
Адпачывае.
Часцей дадому прыязджай —
Усяк бывае…

Усмешкай сціплай стрэне сад,
Пусты, асенні.
І скажа быццам: «Ты не рад?»
У задуменні.

І зашапоча асака
Ніякавата:
— Глядзі, заснула ўжо рака.
Халаднавата…

На хатнішчы драўляны крыж —
Пералагнайся.
Тут, нібы ў храме, ты стаіш,
Таму пакайся.

Аддай зямлі зямны паклон
Ў святым маленні.
Тут твая спадчына спакон,
Тут продкаў цені.

* * *

Загледзелася у возера
І згубіла берагі
Чарацінка — зелень позняя —
Ды схілілася з тугі.

Дзе ж вясна з яе гамонкаю,
Калі радасць не стрымаць?
Вецер чарацінку тонкую
Намагаецца зламаць.



***Марыя Дзюбак нарадзілася 24 лютага 1955 года ў вёсцы Парэчча Докшыцкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай, потым дырэктарам Лісавіцкай базавай школы, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце ў Сітцаўскай сярэдняй школе. Аўтар кнігі вершаў «Светлыя ростані» (2004). «Гармонія гукаў, фарбаў і слоў — маё жыццё, мая любоў», — такое яе творчае крэда.***

Дзе ж ты, дзе, вясна далёкая?
Як зіму ёй перажыць?
Сярод роўных — адзінокая —
Чарацінка у цішы.

* * *

Чары лета, вы недаўгавечныя,
Ды затое вечны успамін.
Таямніцы сніць мае сардэчныя
Не ў пару расцвіўшы мой язмін.

Твой схавалі пацалунак слодычны
Россыпы няходжаных суніц.
На рамонку ў цішыні варожачы,
Мару пра дзівосы таямніц.

Гладзь ракі ўся зоркамі засеяна,
Двое на сцяжынцы лугавой…
Галава пачуццямі захмелена.
Што ж паробіш з гэткай галавой?

* * *

Холадна. Завейна. Снежна.
Даль парэцкае глушы.
Адзіноты непазбежнасць,
Ды свабода для душы.

Супакой — Яго Вялікасць —
Тут пануе над ракой.
Я цябе хачу паклікаць,
А адкажа супакой.

І заснежанай, панылай
Бор ківае галавой.
Божа моцны, дай мне сілы
Несці крыж пакорна свой.

* * *

Не, не крыўдую я на восень познюю.
У лістападзе гэтулькі цяпла!
Жыццё, ты стала апусцелай пожняю,
Сцяжынкай, што ў нікуды прывяла.

Назад вядзі, цярністая сцяжына,
У тую непаўторную вясну…
А боль нязбытны — чорнаю ажынай
І не да сну, і зноў мне не да сну…

Спыніўся час. Трава яшчэ зялёная,
Як словы, што гучалі неўпапад.
Таемна я з табою заручоная,
Мой позні, адзінокі лістапад.

* * *

Усё-ўсё змыта паўнаводдзем веснім.
Мінулае ўжо — радасць і любоў.
Цябе, далёкі мой, зямным і грэшным
Успамінаю я ізноў, ізноў…

Духмень палян і спелыя суніцы,
Што для мяне ты шчыра прыбярог…
Даўно было. Ці можа, толькі сніцца
Ў бясконцасці ўспамінаў і трывог?..

*Валянцін ШВЕДАЎ*

# СЛЕД

Непадалёк ад роднай вёскі
Ляжаў валун вялікі, плоскі.
Нагі адбітак чалавечай
Ў граніт заглыбіўся навечна.

Ці з продкаў хто з сівой даўніны
Пакінуў той адбітак слынны?
Жыве паданне ў пакаленнях:
Належыць Богу след каменны.

Спускаўся зведаць Творца свету
Наколькі дзейсны Запаветы
У праўдзе, згодзе каб жылі,
След пакідалі на зямлі.

Няроўна, кажуць, дзеліць Бог
Людскіх адметнасцей пірог.
Прастор для творчасці адкрыты —
Шукай, дзе талент твой зарыты.

Шукай, твары, рабі да поту,
Цані жыццё, сяброў, работу.
Прасі у Бога азарэння
І шлях адолець свой цярпення.

Ў канцы зірні ўсё ж неўпрыкмет:
Ці здолееў свой пакінуць след?

*Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ*

# СПІРАЛЬ ГІСТОРЫІ

*Аповесць*



***Уладзімір Мажылоўскі нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслававa Дубровенскага раёна. Працаваў дырэктарам Барунскай васьмігадовай школы. Цяпер супрацоўнік Браслаўскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Друкаваўся ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях.***

**1**

Ён сядзеў на высокім крэсле і з дзіцячай непасрэднасцю глядзеў на сваіх дарадцаў. Кучаравая, ахайна падстрыжаная бародка, прамы нос, доўгія цёмныя валасы, магутныя грудзі асілка і халодныя вочы. Яшчэ заўчора вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч загадаў сабраць малы савет на нараду і сёння, калі ўсе дружным натоўпам зайшлі ў палату і пачалі займаць свае месцы на лавах, ён з непрыхаваным нецярпеннем узіраўся ў іх твары. Дзмітрый Баброк-Валынскі[1], як звычайна, быў пахмурным. «Пэўна, не лады ў цябе з жонкай, ваявода», — падумаў пра свайго зяця Дзмітрый і перавёў позірк на стрыечнага брата Уладзіміра Серпухоўскага. «Во, гэты малайчына — заўсёды жыццярадасны і вясёлы». Вялікі князь ад выгляду Уладзіміра і сам усміхнуўся, павесялеў. З лагоднай усмешкай на вуснах ён спагадліва хітнуў галавой састарэламу, але вельмі разумнаму князю Фёдару Тарускаму, усміхнуўся Івану Белазерскаму, а свайму першаму дарадцу Брэнку нават змоўніцкі падміргнуў, што той прыняў як сігнал да пачатку нарады.

— Сёння карабель прыйшоў ад свеяў, — пачаў Брэнка. — Зброю прывёз, якую ты, вялікі князь, некалі замовіў.

— Усё прывёз пра што дамаўляліся? — Дзмітрый адразу стаў сур’ёзным. — Самастрэлы ад франкаў? А кальчугі?

Брэнка хітнуў галавой:

— І мячы, і кальчугі, і самастрэлы[2].

— Добрая навіна, — ад узрушэння Дзмітрый прыгладзіў некалькі разоў сваю чорную бародку. Вочы яго пацяплелі. — Аднак хацелася б паглядзець зблізку на іхнія самастрэлы.

Брэнка згодна хітнуў галавой і нетаропка накіраваўся да дзвярэй. Хутка ён вярнуўся назад і сеў на лаву.

— Колькі самастрэлаў прывёз нямчына? — пацікавіўся Баброк і азірнуўся на вялікага князя, ці не перабіў яго думку. Не, Дзмітрый маўчаў. Толькі нябачная жылка нервова пульсавала пад яго левым вокам. — Ці хопіць нам іх, каб узброіць хаця б адну дружыну?

— Тры сотні самастрэлаў і да кожнага па тры камплекты каваных стрэл.

— Нямнога, — уздыхнуў ваявода.

— Нямнога, — ахвотна пагадзіўся з ім князь Тарускі, — але ж іх можна выраб-ляць і ў нас. Дайце мне год і я яшчэ сем соцень гэткіх лукаў пастаўлю.

— Няма ў нас года, князь Фёдар, — уступіў у гутарку Дзмітрый. — Лазутчыкі дакладваюць, што Мамай[3] войска збірае. Хоча адпомсціць нам за захоп Мардовіі.

— А як бы ён пастушіў, калі б мардоўцы яму здрадзілі? — злосна бліснуў вачыма Баброк. — Правільна зрабіў князь Гарадзецкі, што люта пакараў здраднікаў за іх подласць на рацэ П'яне.

— З гэтым ніхто і не спрачаецца, — вялікі князь быў спакойны. — Аднак справа не ў мардвінах. Не хоча Мамай дапусціць нашага ўзмацнення, баіцца нашага выхаду з Арды…

Разважанні Дзмітрыя перапыніла з'яўленне тысячніка Вігнута, які прынёс загор-нуты ў грубае палатно свейскі самастрэл.

Вялікі князь адразу забыўся пра татар і хутка накіраваўся да Вігнута.

— Вось, княжа, тое, што мне загадалі прынесці, — тысячнік працягнуў зброю.

— Давай, — Дзмітрый нецярпліва разгарнуў палатно. — Ах, які прыгажун! Гэта ж трэба такую рэч зрабіць! — Ён пяшчотна правёў рукой па прыкладзе самастрэ-ла, апусціў яго на падлогу і пачаў павольна круціць рукаятку, адцягваючы цеціву. Потым зноў зірнуў на Вігнута: — Стрэлы захапіў?

Тысячнік дастаў з невялікага клунка чорную металічную стралу і падаў князю. Той нетаропка паклаў яе ў паз і азірнуўся на прыціхлых дарадцаў.

— Няўжо гэты металічны абрубак праб'е свейскую браню?

— Любую праб'е, — за ўсіх адказаў Вігнут. — Што свейскую, што нашу, што татарскую.

Вочы вялікага князя палыхнулі недаверам. Ён яшчэ раз агледзеў металічны дру-чок, што ляжаў у неглыбокім пазе самастрэла, крыва ўсміхнуўся:

— Паклічце сюды нашага збройніка Цімоха. І кальчужку лепшую хай з сабой захопіць.

Цімоха з'явіўся хутка і, пэўна, яго адцягнулі прама ад горна, бо быў ён потны, ускудлачаны, перапэцканы ў сажы. Позірк яго блакітных вачэй з непаразуменнем пераскокваў з аднаго твару на другі — на іх каваль шукаў адказ на простае пытан-не: «Навошта ён раптоўна спатрэбіўся вялікаму князю?» Ад разгубленасці ён нават забыўся пакланіцца высакародным князям.

Едкі пах дыму і поту напоўніў княжую палату.

— Хачу, Цімоха, праверыць моц брані, якую ты робіш для абароны нашай, — звярнуўся да збройніка Дзмітрый. — Паглядзець, ці праб'е яе свейская страла.

Убачыўшы побач з сабой вялікага князя, каваль ледзь не самлеў. Упасці на кале-ні! Аднак ці выратуе яго гэта ад смерці, калі ён ужо абганьбіў князёў сваім стаян-нем? Ён не чуў слоў Дзмітрыя і з непаразуменнем глядзеў на яго.

— Ты што, аглух? — урэшце прабілася да яго свядомасці пытанне. Побач стаяў Баброк і трос яго за плячо. — Ідзі, павесь ля дзвярэй сваю кальчугу.

Быццам у сне, Цімоха павесіў на дзвярны касяк кальчугу, зрабіў крок убок, спыніўся. І амаль тут жа шчоўкнуў кручок самастрэла, спускаючы цеціву. Кароткі металічны стрыжань з глухім трэскам разарваў стальныя кольцы кальчугі і амаль поўнасцю схаваўся ў драўлянай сцяне.

— Глядзі ты, якая жалязяка! — ашаломлены збройнік не паверыў сваім вачам. — Такую кальчужку…

«Спаскудзіла» — ледзь не вырвалася ў яго, аднак ён стрымаўся і толькі адно, бы заведзены, ад здзіўлення перакідваў з пляча на плячо сваю кудлатую, аброслую сівымі валасамі, галаву.

— Ідзі вон, — махнуў рукой кавалю Дзмітрый. — Нядобра ты нас бароніш, Цімоха.

— Дык гэта… — шукаў словы для апраўдання збройнік. І, зачыніўшы дзверы, знайшоўся: — Дык гэта зброя такая!

Пра тое, што арбалет зброя добрая, усе разумелі і без слоў каваля. Баброк першым падышоў да дзвярэй і паспрабаваў выцягнуць металічную стралу са сцяны, але не змог нават паварушыць яе.

— Моцна засела, — з павагай да свейскай зброі прагаварыў ён. — Такая праб'е не толькі Цімохаву кальчужку, але і браню франкаў, і панцыры крыжакоў.

— Так, гэтая зброя патрабуе павагі.

— Кожная зброя патрабуе павагі, князь. Галоўнае, каб яна біла ворагаў нашых.

Баброк не стаў спрачацца з вялікім князем. Ды і пра што было спрачацца? Кожная зброя добрая ў асобных абставінах. Самастрэл — зброя дальняга бою. Яна незаменная на полі пры адбіцці варожых атак ці пры асадзе крэпасці. Аднак ён зусім бескарысны пры блізкім бoi, калі вораг побач. Тут патрэбны добры меч, добрыя шчыт ды кальчуга. Таму ваявода згодна хітнуў галавой і заняў сваё месца на лаве.

А Дзмітрый працягваў:

— Давайце пагаворым пра войска. Трэба аб'явіць збор усіх князёў нашых, шукаць саюзнікаў у Літве[4], прасіць у іх дапамогі ці хаця б нейтралітэту. Трэба тэрмінова слаць ганцоў, не адкладваць, не чакаць. Гэта будзе твой клопат, князь Уладзімір. Ты ж, князь Фёдар, патурбуйся пра харчовы прыпас войска. А табе, князь, — Дзмітрый перавёў позірк на Баброк-Валынскага, — патрэбна ўзяць у свае рукі ўсё кіраванне… Так думаю я.

На нейкі час у палаце наступіла цішыня: усе абдумвалі пачутае, прымяралі яго да сябе, меркавалі ці справяцца, ці не падвядуць свайго князя. Першым выказаўся малады князь Белазерскі:

— Усё правільна. Толькі б не падвяла Літва, не ўдарыла б нам у спіну.

**2**

Вожа — нешырокая небяспечная рачулка, якая ўпадае ў Аку. Небяспечная не таму, што мае балоцістыя берагі, а таму, што пры шырыне ў два-тры сажні[5] яна наогул не мае дна, а там, дзе яно ёсць, глыбіня дасягае пяці локцяў[6]. Таму сустрэць татар ваявода Баброк вырашыў падалей ад берагоў Вожы.

Дзясяты дзень месяца жніўня 1378 года быў пахмурным. Нізкае неба, час ад часу, пачынала імжыць дажджом. Імжа была дробнай, бы туман, нуднай і агіднай. Аднак вялікі князь Дзмітрый Іванавіч радаваўся такому надвор'ю. Апрануты ў баявыя даспехі, ён сядзеў за паходным сталом у сваім шатры і ўважліва слухаў разважанні ваяводы.

— Нашы раці я размясціў на пагорках, — дакладваў Баброк. — Полк левай рукі ўзначаліць князь Даніла Пронскі. Полк правай рукі я вырашыў аддаць акольнічаму Цімафею Вельямінаву…

— Чаму яму?

Баброк пашкрабаў бародку і, не задумваючыся, адказаў:

— Чалавек ён стойкі, надзейны. Я яму давяраю.

— А астатнім не давяраеш? — вочы вялікага князя выбухнулі калючай хітрасцю.

— Я давяраю ўсім, княжа. Аднак князя Цімафея ведаю з дзяцінства і веру яму, як сабе.

— Добра, няхай будзе Вельямінаў, — ахвотна пагадзіўся Дзмітрый і нечакана для ўсіх папрасіў: — А мне дазволь узначаліць вялікі полк.

— Князь, ты не павінен сячыся! — вырвалася ў Баброк-Валынскага. — Для гэтага ёсць мы, твае служкі!

— Не магу я парушаць традыцыі і быць за спінай войска. Не магу назіраць, як сякуцца і гінуць мае ратнікі. Хачу з вамі агульную смяротную чашу выпіць і той жа смерцю памерці… Адпусці, Дзмітрый.

Баброк разгубіўся. Не такога ён чакаў ад свайго вялікага князя. Ён агледзеў прысутных, шукаючы на іх тварах адказу, аднак усе былі разгублены не менш за ваяводу. Баброк зноў пашкроб бараду.

— Добра, пойдзеш з вялікім палком. А сцяг твой хай збраяносец трымае над іншым ратнікам. Я тады з засадным палком і татарамі хана Тахтамыша[7], якіх узначальвае мурза Карагуй, стану за тваёй спінай.

Вялікі князь згодна хітнуў галавой і запытаўся:

— А адзіны брод у Вожы хто будзе ахоўваць?

— Ніхто, — усміхнуўся ваявода, — бо гэты брод і ёсць наша пастка для мурзы Бегіча: ззаду — балоцістая ды глыбокая рэчка, спераду — мы на пагорках, — яму не застанецца месца для манеўру. А татары моцныя сваёй конніцай, пехам яны ваяваць не ўмеюць.

— А раптам Бегіч не пойдзе праз рэчку? Ужо тры дні ён дратуе капытамі сваіх коней яе супрацьлеглы бераг!

— Пойдзе, — упэўнена адказаў Баброк. — Мы пакуль не выйгралі ў татар ніводнай бітвы. Няслава Калкі[8] да гэтых часоў ганебным хвастом цягнецца за намі, таму татары не бачаць у нас сур'ёзнага праціўніка, пагарджаюць намі, як воінамі, лічаць за баязліўцаў… Хай лічаць. Мы ж выкарастаем іх самаўпэўненасць супраць іх саміх і дакажам ім, ды і самім сабе, што мы не баязліўцы і, тым больш, не дурні.

— Добра. Толькі ці вытрымае першы татарскі ўдар полк правай рукі? Можа, яго трэба ўзмацніць? Сеча там будзе лютая, страшная.

— Я яго ўзмацню ліцвінамі, якіх павядзе ў бой мой стрыечны брат полацкі князь Андрэй Альгердавіч[9], а паміж малым і вялікім пагоркамі, дзе больш палогі пад'ём, пастаўлю дружыну Дзмітрыя Манастырскага з яго самастрэльшчыкамі. Вось яны першымі і сустрэнуць татар.

— Разумна, — вялікі князь падняўся з-за стала. — Што ж, сябры мае, заўтра нас чакае цяжкі дзень. Магчыма, не ўсе мы дажывём да яго канца. Аднак, калі здарыцца горшае і нам давядзецца памерці, — памром героямі. За намі праўда! З намі Бог!

**3**

Раніцай ратнікі пераапрануліся ў чыстую бялізну, паснедалі і разышліся па сваіх дзясятках. Ваяводы раўнялі рады, паўтаралі каманды, тлумачылі некаторым іх дзеянні. І калі на ўсходзе пачало шарэць неба, маскоўская раць ужо была гатовая да сустрэчы з ворагам.

Татары ж не спяшаліся. Іх конніца тапталася на супрацьлеглым беразе Вожы і толькі, калі над рэчкай разышоўся туман, пачала пераправу. Пераправа працягвалася палову дня. Мурза Бегіч нерваваўся. Ён прадчуваў небяспеку, падазраваў нейкую пастку з боку маскавітаў[10], аднак дзе яна і ў чым заключаецца — ніяк не мог здагадацца. Гэта яго злавала. Ён склікаў сваіх ваявод, указаў накірункі ўдараў, папярэдзіў пра магчымыя хітрасці праціўніка.

— Якая можа быць хітрасць у няверных шакалаў, — засмяяўся мурза Каргалук. — Хутка мы гэтую хітрасць выпусцім разам з іх вантробамі.

— Ну-ну, — не стаў пярэчыць любімцу Мамая мурза Бегіч і махнуў рукой: — Размяркоўвайцеся.

Таш-бек, крываногі, нізенькі татарын вісклявым голасам збіраў свае адборныя атрады «шалёных». Гэта быў асноўны ўдарны кулак татарскай арміі. Выдатна ўзброеныя, абароненыя італьянскай і французскай бранёй, на магутных, закаваных у браню, конях, яны павінны былі ўзламаць любы строй праціўніка, раскалоць яго на часткі. А потым гэтыя часткі без цяжкасці высякалі коннікі мурзы Каргалука. Сабраўшы сваіх «шалёных», Таш-бек выстраіў іх насупраць дружыны Дзмітрыя Манастырскага.

Конніца Хазі-бея, тоўстага і непаваротлівага ваяра, збілася ў бурлівы натоўп ля падножжа пагорка, які займаў полк левай рукі. Насупраць перадавога палка аказалася конніца старога, вопытнага мурзы Каструка. Мурза Каргалук, вышчарыўшы свае дробныя, вострыя зубы, разам са сваімі coннікамі гарцаваў насупраць ратнікаў Цімафея Вельямінава.

Татары махалі зброяй, нешта пагрозліва крычалі, скавыталі — імкнуліся яшчэ да сечы запалохаць, вывесці з раўнавагі праціўніка. Аднак маскавіты пахмурна маўчалі. Многія з іх маліліся.

Першым пачаў Каверга. Яго конніца першай рынулася наперад, а, падняўшыся на пагорак, спынілася перад шчыльным радам шчытоў з-за якіх тырчэлі дзіды.

Потым, павольна набіраючы хаду, у бой пайшоў браніраваны таран Таш-бека.

Каваль Цімоха са свейскім самастрэлам у руках, стаяў у адным радзе з іншымі ратнікамі дружыны князя Манастырскага. Цэлы месяц тысяцкі Вінволд вучыў ратнікаў, абыходжанню з самастрэлам. Вучыў страляць, хутка перазараджаць, па камандзе рабіць манеўры. І цяпер, назіраючы праз шчыліну паміж цяжкімі, вялікімі шчытамі, якія ўтрымлівалі спецыяльна навучаныя воіны, за перастраеннямі татар, ён не хваляваўся. На ім была яго любімая кальчуга, на поясе вісеў, зроблены ім жа, меч. А татары! Няхай іх і шмат, няхай яны і іх коні закаваны ў браню, няхай татары крычаць і лаюцца, але мы іх усё роўна паб'ём. Не можам не пабіць, бо за намі нашы сем'і, наша зямля, наша праўда! Ён бачыў, як тысячы татарскіх стрэл узвіліся ў неба. «Закрыць галовы», — прагучала каманда і Цімоха падняў шчыт. «Цок, цок, цок», — смяротным дажджом забарабанілі па ім варожыя стрэлы. Адна нават балюча ўдарыла ўбок, але, не маючы моцы прабіць кальчугу, бяссільна ўпала пад ногі ратніка. «Што, сволач, не па зубах табе мая кальчужка?» — злосна вышчарыўся каваль і з агідаю, бы гада, раструшчыў стралу ботам.

— Падрыхтаваць самастрэлы, — падаў каманду сотнік.

Цімоха апусціў да ног шчыт, падняў самастрэл, паправіў стралу, падрыхтаваўся да стрэлу.

— Шчыты адхіліць.

Ратнікі, якія трымалі цяжкія шчыты, адхілілі іх улева, прыселі на кукішкі. Цімоха адразу ўбачыў металічную лавіну, што пад цяжкі конскі тупат няўмольна насоўвалася на іх дружыну.

— Куркі спусціць.

Зашчоўкала цеціва з бычыных жыл. Збройнік злавіў праз проразь самастрэла варожага конніка і спусціў курок. Ён не бачыў, як татарын, выбіты яго стралой, вываліўся з сядла. Цімоха рабіў сваю справу. Рабіў сумленна, так, як прывык працаваць у кузні.

— Шчыты падняць. Самастрэлы зарадзіць, — спакойным голасам, бы на вучэнні, камандаваў Вінволд.

Шчыты паднялі своечасова. Звонку ў іх адразу ж ўпілося некалькі дзясяткаў стрэл.

Але Цімоху гэта не хвалявала. Ён упёр нос самастрэла ў зямлю, прыціснуў яго нагой і пачаў круціць ручку, нацягваючы цеціву. Потым, як вучылі, дастаў з клунка стралу, упіхнуў яе пад зашчэпку ў паз, падняў зброю. Гатова, зноў можна страляць.

— Шчыты адхіліць, — і праз некалькі імгненняў: — Куркі спусціць.

Цімоха прыцэліўся і спусціў курок. Чарговы татарын, закаваны ў браню, з грукатам бразнуўся на сырую глебу.

І так раз за разам. А калі цяжкая татарская конніца наблізілася ўшчыльную, паступіла каманда:

— Самастрэлы скласці. Узяць дроцікі.

Кароткія лёгкія дзіды — дроцікі, ляжалі за апошнімі радамі маскоўскіх ратнікаў. Хапаючы новую зброю, Цімоха адчуў, як хіснулася дружына. Гэта першыя яе рады прынялі на сябе ўвесь стальны напор варожай конніцы. Многія не вытрымалі напору, зваліліся пад ногі татарскіх коней, загінулі. Аднак наступныя рады шчыльней самкнулі свае шчыты, напружыліся, збілі варожы запал, супынілі навалу. А калі на татар з неба пасыпаліся дроцікі, то спружына іх націску наогул трэснула.

— Таш-бек, Таш-бек, — разгублена закрычалі татары і, не ведаючы, што рабіць далей, павярнулі назад сваіх коней.

А маскавітам не было спраў да татарскіх перажыванняў.

— Узяць самастрэлы, — вярнула да звыклай справы самастрэльшчыкаў гучная каманда сотніка. — Зарадзіць самастрэлы. Шчыты адхіліць. Куркі спусціць.

Сотні стальных стрэл паляцелі наўздагон татарам, смяротна джалячы іх і іх коней. Паніка ўзнікла ў радах Таш-бека. Яны баяліся аднаго: атрымаць у спіну смяротны металічны дручок, і, не звяртаючы ўвагі на каманды камандзіраў, кінуліся прэч з пагорка. Па дарозе яны змялі лёгкую конніцу Кавергі. Гэтыя бедалагі ірваліся ў сечу, з нецярпеннем чакалі моманту, калі рынуцца ў бой, пачнуць высякаць маскавітаў. А большасць з іх загінула пад капытамі коней сваіх жа ратнікаў, адзінаверцаў. «Шайтан…» — павіс смяротны вокліч над лагерам любімца Мамая. Але ўжо нішто не магло спыніць лавіну ўцекачоў. Сярод татар узнікла паніка. Вузкі брод быў шчыльна забіты коннікамі. Многія з іх пад цяжарам брані танулі ў нешырокай рачулцы.

Толькі тумены Каструка не паддаліся паніцы, не кінуліся да рэчкі. Бывалы ваявода адразу зразумеў у якое небяспечнае становішча ён патрапіў з-за Таш-бека. Таму ён пачаў адводзіць сваіх ратнікаў у поле, далей ад Вожы. Адступаў ён арганізавана, адбіваючы флангавыя атакі, не дапускаючы ліцвінскую конніцу Андрэя Альгердавіча ў свой тыл.

А ля пераправы адбывалася немаведама што. Многія татарскія коннікі, кінуліся праз невялікую рэчку ўплаў, аднак, зразумеўшы, што супрацьлеглы бераг не мае дна, павярнулі назад. Але з берага на іх напірала новая маса ўцекачоў. Крыкі жаху, лаянка, конскае іржанне напоўнілі наваколле рэчкі. А палкі маскавітаў і воі Тахтамыша шчыльней прыціскалі татар да вады і бязлітасна іх высякалі.

Ніводны татарскі ваявода не выратаваўся. Усе, уключаючы мурзу Бегіча, або загінулі ад мяча маскавіта, або захліпнуліся ў рачной багне. І толькі ноч не дазволіла конніцы Баброк-Валынскага высячы татар пагалоўна. Невялікая іх частка ўсё ж выратавалася.

Узбуджаны відовішчам смерці і пахам крыві, вялікі князь маскоўскі Дзмітрый іврваўся ў самую гушчу сечы. У пакамечаным, акрываўленым панцыры, змяніўшы чарговага каня, ён з шалёным бляскам у вачах кідаўся на ворага, сек, не даваў нікому літасці. Ён бачыў, што яго раці перамаглі, разумеў, што трэба спыніцца, аднак

ніяк не мог утаймаваць у сабе прыхаванай лютасці да татар, якія больш за стагоддзе трымалі ягоны род у палоне страху. Ён і не хацеў спыняцца. Дзмітрый сек, сек, сек. З кожным выдыхам ён высякаў у сабе той старадаўні жах, тое халуйскае, рабскае, што паспела прарасці нябачнымі карэньчыкамі ў душах многіх яго падданых, ды і ў ім самім. І, напэўна, калі б Брэнка не перахапіў яго каня, то Дзмітрый кінуўся б і ў пераслед уцякаючых ворагаў. Аднак…

**4**

— Уставай, соня! — нехта ўпарта трос мяне за плячо. — Уставай, інакш спознішся на працу!

— Якая праца, — квола, канчаткова не адышоўшы ад сну, запярэчыў я, — сёння ж субота!

— Ну і што. У цябе факультатыў у дзявятым класе.

І праўда, у суботу ў мяне ў дзявятым класе факультатыў па гісторыі. Трэба падымацца. Шкада толькі, што жонка разбудзіла так рана. Пачакала б крышачку, дала б дагледзець сон. Проста цікава, ці застаўся жывым Цімоха? І хаця я ведаў, што ў сечы ля Вожы згуба маскавітаў была невялікай, каля трох соцень воінаў, але ўсё ж было шкада, што жонка не дала дагледзець сон да канца.

Трэба ўставаць.

Я расплюшчыў вочы, паглядзеў на гадзіннік: не было і васьмі. І навошта мне падымацца так рана? Факультатыў пачнецца ў адзінаццаць гадзін, а дарога да школы займае не больш як дваццаць хвілін пешкі.

Я ўстаў, прывёў сябе ў парадак і, па-звычцы, пацягнуўся на кухню, бо такі рэжым ужо закасцянеў за дваццаць пяць гадоў сямейнага жыцця. Ён мне падабаўся і я ніколі не думаў мяняць яго нават у дробязях…

Са сваёй жонкай я пазнаёміўся ў далёкія студэнцкія гады. Я, дваццаціпяцігадовы выпускнік універсітэта і яна — маладзенькая першакурсніца. За маімі плячыма была служба ў радах Савецкай Арміі, які-ніякі жыццёвы вопыт. За яе ж — сярэдняя школа ў далёкім пасёлку на поўначы Віцебскай вобласці.

А злучыла нас банальная спрэчка. Такія дыспуты між студэнтамі часта ўзнікалі на нашым гістарычным факультэце. Здаралася, што яны працягваліся і на перапынках, перацякалі нават у сталоўку. Справа ў тым, што адну і тую ж гістарычную падзею кожны можа трактаваць па-свойму, зыходзячы з уласнага бачання гістарычнай перспектывы, уласнага адчування нацыянальнай годнасці ці веравызначэння. Да боек такія дыспуты не даходзілі, аднак, здаралася, апаненты разыходзіліся ворагамі.

У той дзень сярод студэнтаў нашай групы ўзнікла спрэчка наконт смерці караля Польшчы і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя[11]. Адны, у тым ліку і я, даказвалі, што ён памёр сваёй смерцю з-за хворых нырак. Другія — што яго атруцілі. Прычым, другія, не хацелі нават слухаць ні пра паказанні яго лекараў Міколы Бучэла і Сімонія, ні пра заключэнне, зробленае па выніках медыцынскага ўскрыцця цела памерлага, ні пра пісьмовае апісанне хваробы караля, якое зрабіў Сімоній па парадзе літоўскага надворнага маршалка Радзівіла. Такія доказы супрацьлеглы бок лічыў дробяззю, не вартай увагі. А вось Мікалай Карамзін, расійскі гісторык, выклікаў у іх шчымлівае трымценне. А ён некалі пісаў: «Стэфан Баторый быў адным з найбольш знакамітых манархаў свету, адным з самых небяспечных ворагаў Расіі, чыя смерць больш нас пацешыла, чым дзяржаве, у якой ён панаваў, смутку прынесла…» Вось гэта доказ! Забойны. Яскравы. А калі да слоў Карамзіна дадаць трынаццаць прыкмет, што сведчаць пра атручванне і якія апісаў лекар Шэўрынг, то

атрымліваецца цэласны і яскравы малюнак: Баторыя атруцілі па замове магутных пратэстанцкіх колаў Кароны і Літвы, якія баяліся ўзмацнення каталіцызму пасля заваёвы ім Масковіі. Менавіта пра гэта даводзіў мой сябар Кастусь. Я ўжо з ім не спрачаўся, стаміўся. Уважліва вывучаў кошты ў меню студэнцкай сталоўкі і думаў толькі пра тое: ці хопіць у мяне грошай разлічыцца за яшчэ адну шклянку смятаны. А Косця не адступаў, усё даказваў сваю праўду.

— Ды атруцілі Баторыя, вы маеце рацыю, — раптоўна падтрымала яго дзяўчо, што стаяла перада мной у чарзе. — Я пра гэта яшчэ са школы памятаю.

Я прамаўчаў. Заціх і збіты з панталыку сябар.

Так адбылося наша першае знаёмства.

Другі раз я сустрэў сваю жонку на Навагодняй дыскатэцы. Я запрасіў яе на танец, яна не адмовіла. Тады і даведаўся, што завуць яе Насця, што родам яна з Віцебскай вобласці, што толькі ў гэтым годзе паступіла на гістарычны факультэт. Я нагадаў ёй пра нашу першую сустрэчу ў сталоўцы, пра яе словы ў падтрымку версіі атручэння Стэфана Баторыя. Яна засмяялася:

— А цябе я памятаю яшчэ з верасня, калі ты з сябрамі, прыязджаў у вёску, дзе мы ўсёй групай капалі бульбу, на танцы.

Я сумеўся:

— Не памятаю. Пэўна, быў на падпітку. Інакш такую прыгажуню не прапусціў бы.

— Ну, у адрозненне ад сяброў, ты быў цвярозы… А пра смерць Баторыя скажу наступнае: яго атруцілі. Але атруцілі не ворагі, а ўласныя хворыя ныркі. Яго арганізм не мог да бясконцасці змагацца з атрутнымі прадуктамі абмену рэчываў. Магчыма, калі б ён быў на дыеце і не піў куфлямі моцнае венгерскае віно, то яшчэ працягнуў бы год-другі. А так…

Хіба пасля такога адказу я мог застацца абыякавым да Насці? Вось я і не ўтрымаўся, пра што, скажу шчыра, ніколі не шкадаваў і, спадяюся, не пашкадую ў далейшым.

Насця на шэсць гадоў маладзейшая за мяне. Невысокая, хударлявая, бы ваўчок, рухавая, з вялікімі блакітнымі вачыма. Яна не паходзіла на прынцэсу з дзіцячых казак, яе нават прыгожай назваць было нельга. Рысы твару, як і ў большасці хударлявых жанчын, былі дробнымі, рэзка акрэсленымі. Прамы нос, тонкая, дзіцячая шыя, невялікія, крыху адтапыраныя вушы. Яна была па-вясковаму простай ды шчырай, не саромелася адкрыта выказваць свае пачуцці, як гэта робяць многія правінцыйныя дзяўчаты. Насця нічым не адрознівалася ад іншых жанчын, аднак, менавіта за гэтую прастату і шчырасць я і пакахаў яе. І якое ж гэта шчасце вось ужо чвэрць стагоддзя аддаваць ёй усё сваё жыццё!

**5**

У школу прыйшоў апалове адзінаццатай. У настаўніцкай пуста — субота ж! Цішыню парушалі толькі гукі спрэчкі, што даносіліся з кабінета дырэктара. Галасы гучалі мужчынскія. Я не стаў прыслухоўвацца да іх — склочніцкі характар дырэктара мне добра вядомы. Не хацелася чарговы раз трапляць пад яго раздачу, псаваць суботні настрой.

Я дастаў план занятка, яшчэ раз прагледзеў этапы яго правядзення, выйшаў у калідор. Амаль тут жа за мной выскачыў і настаўнік фізічнай культуры Юрый Васільевіч. Ён кіпеў. «Тваю маці! — выпускаў фізрук пару разам з лаянкай. — Футбол яму не падабаецца. Бачыш — неэстэтычна! Яму падавай бадмінтон! Эстэт! — Васільевіч заўважыў мяне, спыніўся. — Слухай, Рыгоравіч, — ён жалезным поціскам абхапіў маю руку, — а пайшлі да мяне ў інвентарную. Стрэс трэба зняць пасля

размовы з гэтым ёлупнем». — «Урок у мяне, — адмовіўся я. — Дзеці ж адразу заўважаць». — «Дзеці заўважаць, — сумна пагадзіўся ён і адпусціў маю руку. — Яны ўсё заўважаюць і, павер мне, ведаюць паболей нашага».

Праводзіўшы фізрука да спартыўнай залы, я вярнуўся ў настаўніцкую. Там было ціха і пуста, толькі тэхнічка працірала кветкі і нешта шэптам ім распавядала. Я павітаўся. Жанчына спалохана сцялася, аднак, убачыўшы, што гэта я, а не дырэктар, расслабілася, павіталася ў адказ. «А дзе шэф?» — хітнуў я на кабінет дырэктара. — «Толькі што некуды выйшаў, — быццам страшэнны сакрэт прашаптала яна і, азірнуўшыся на дзверы, дадала: — Злосны!»

Мяне зусім не цікавілі ўнутраныя перажыванні дырэктара школы. Ён мяне не чапаў, і я стараўся не абвастраць з ім адносін. Маладзейшыя настаўнікі недалюблівалі кіраўніка за яго мармуровую закасцянеласць, часта пасмейваліся з гэтага, а мне шкада было, сапсаванага савецкай ідэалогіяй, чалавека. Ён, пэўна, быў нядрэнны сем'янін. Пэўна, меў дзяцей, а, магчыма, і ўнукаў. Аднак у сваё асабістае жыццё ён нікога не пускаў і больш за ўсё не любіў, калі яго віншавалі з днём нараджэння.

Я ўзяў класны журнал і накіраваўся да кабінета гісторыі.

Адчыніўшы дзверы ў клас, я на імгненне спыніўся. Вучні дружна, бы па камандзе, падскочылі з месцаў і застылі ў маўклівым чаканні. Мяне гэта здзівіла, бо звычайна, калі я прыходзіў у 9 «А», мяне сустракала не цішыня. Падавалася, што толькі з маім прыходам дзеці прачыналіся і пачыналі рыхтавацца да ўрока: адны шукалі ў партфелях патрэбныя сшыткі і атласы, другія нервова гарталі старонкі падручніка, трэція, бы малітвы, паўтаралі даты і нязвыклыя прозвішчы гістарычных асоб. Нават Кірыл, які ў знак прывітання толькі прыўставаў над стулам, цяпер стаяў побач з партай выцягнуўшыся ў струнку. «Нешта здарылася, — падумаў я, кладучы на настаўніцкі стол журнал. Пэўна, зноў разбілі кветкавы гаршчок ці зламалі яшчэ адну лінейку!» Але я памыліўся. На апошняй парце, ля самай сцяны, сядзеў дырэктар школы і са здзеклівай усмешкай назіраў за маёй разгубленасцю. «Мог бы і папярэдзіць, — зразумеў я прычыну нязвыклай цішыні і, усміхнуўшыся вучням, хітнуў галавой: — Добры дзень, дзеці. Сядайце».

Урок пачаўся.

— Сёння пагаворым пра Кулікоўскую бітву[12], падрабязна разбяром яе этапы, разгледзім ролю кожнага з вядомых ваявод. Пастараемся быць аб'ектыўнымі і непрадузятымі, — з першых слоў я забыўся пра дырэктара і назіраў толькі за тварамі вучняў. Я бачыў, як весела загарэліся вочы Кірыла, як знікла напружаннасць у паводзінах Карыны і Любы, як нахілілася да парты Ліза, як абапёрся на спінку стула Руслан. Усе ўважліва слухалі мой аповед і, як і я, забыліся пра староннягa на ўроку чалавека. — Дык вось, мы з вамі спынімся на левым беразе Дона, насупраць прытока Няпрадвы… Хутка я так захапіўся, што забыўся пра ўсё на свеце. Я быў там, у мінулым, на полі Куліковым. Я ўвачавідкі назіраў за ходам крывавай бітвы і разам з Цімохам адбіваў шалёныя атакі закаваных у стальную браню тэўтонскіх рыцараў ды французскіх тампліераў…

Вялікая стрэлка гадзінніка няўмольна адлічвала хвіліны ўрока. Дзеці сядзелі і слухалі, бы зачараваныя. Дырэктар таксама ўважліва слухаў і толькі час ад часу рабіў нейкія запісы ў сваім нататніку.

— …уявіце сабе такі малюнак: раптоўна Дон ажыў. Тысячы барадатых сялян, хто на лодках, хто на плытах, сёй-той на бярвёнах кінуліся да месца сечы. Адны сталі збіраць і перавязваць параненых маскавітаў, другія здзіралі з забітых каштоўную вопратку і даспехі, трэція лавілі коней ды збіралі зброю, чацвёртыя несліся ў лагер Мамая, каб там пажывіцца. Аднак усе яны рабілі і яшчэ адну брудную, але патрэбную справу: дабівалі параненых татар.

Княжы пасцельнічы Міхал Брэнк, які быў пераапрануты ў адзенне і даспехі вялікага князя, загінуў. Самога Дзмітрыя знайшлі выпадкова, калі адзін з сялян паспрабаваў сцягнуць браню з параненага ратніка, той застагнаў і назваўся. Селянін перапалохаўся, паклікаў князя Уладзімірскага, які пазнаў у параненым вялікага князя.

Вынікі бітвы даўно падведзены гісторыкамі, яны ёсць у вашых падручніках. Скажу адно — з усяго былога савета пры вялікім князе Дзмітрыі ў жывых застаўся толькі Баброк. Нават стары Фёдар Тарускі загінуў. Больш як палова маскоўскіх князёў склала свае галовы на полі Куліковым.

Я змоўк, сам перажываючы за такую вялікую ахвяру, што паклалі маскавіты на алтар перамогі. Нейкі час, ашаломленыя пачутым, маўчалі і дзеці.

— А ці можа стацца так, што гэта бітва — звычайны міжсабойчык татарскіх ханаў, дзе больш каварны Тахтамыш рукамі маскавітаў знішчыў свайго заклятага ворага Мамая? — ціха, быццам сам у сябе, запытаўся Кірыл.

Пытанне было простае, але настолькі нечаканае, што я сумеўся: «Няўжо з майго расповеду вучні зрабілі такі вынік?» Я нават разгубіўся, бо не ведаў адказу на гэтае пытанне. У гістарычнай навуцы да гэтага часу не існуе адзінай думкі наконт значнасці для Масковіі перамогі на Куліковым полі. І што гэта было: несвоечасовая спроба маскавітаў зажыць асобнай дзяржавай, вызваліцца ад татарскай залежнасці ці звычайная сварка татарскіх ханаў. Нават у сталінскія часы, калі гісторыя пісалася пад пільным кантролем цэнзуры, дзіўныя абставіны Кулікоўскай бітвы выклікалі актыўныя спрэчкі, параджаючы самыя неверагодныя гіпотэзы. Што тады казаць пра сягонняшні час? Таму я шчыра прызнаўся:

— На тваё пытанне, Кірыл, пакуль няма адназначнага адказу. Не хапае летапісных доказаў, а тыя, якія ёсць, часта няпоўныя, супярэчлівыя, заснаваныя на эмоцыях аўтараў.

Хлопчык згодна хітнуў галавой і зноў запытаўся:

— Вы назвалі Перасвета ратнікам, а ў падручніку напісана, што ён быў манахам.

— Я не памыліўся, што інака Аляксандра Перасвета назваў віцезем. Раней ён зваўся Дзмітрыем Бранскім, быў тысячнікам у маскоўскім войску, і пры ганебным збіцці татарамі маскавітаў на рацэ П'яне пакляўся, што, калі выжыве, то аддасць сваё жыццё без астачы Богу. Бог захаваў жыццё смеламу баярыну і той пастрыгся ў манахі Троіцка-Сергіева манастыра, атрымаўшы новае імя Аляксандра Перасвета. Ён умеў трымаць у руках і меч, і дзіду. Гэтага не ведаў татарскі батыр Цемір-мурза, за што і заплаціў сваім жыццём.

— А чаму Данскім назвалі князя Дзмітрыя, а не князя Баброк-Валынскага? Дзмітрый жа не кіраваў маскоўскім войскам, а проста, бы звычайны воін, секся з татарамі! — мілагучным дзявочым галаском прагучала наступнае пытанне.

— Ты, Карына, у нечым маеш рацыю. Розныя гісторыкі па-рознаму тлумачаць рашэнне вялікага князя ісці ў бой у даспехах звычайнага ратніка. Адны сцвярджаюць, што сваім учынкам Дзмітрый натхніў маскоўскую раць на перамогу, стаў для яе ўзорам мужнасці і непахіснасці. Другія кажуць, што вялікі князь усё роўна ніякай ролі ў зыходзе бітвы не адыграў, бо войскам і кіраваў Баброк-Валынскі. Ёсць і такія, хто ў яго ўчынку бачаць звычайную маладушнасць ці, нават, палахлівасць. Скажу адно, нас сапсавалі і сёння працягваюць тлуміць мазгі разуменнем ролі Дзмітрыя, бо справа зусім не ў ім. Залатая Арда на вачах слабела, а таму сярод яе заходніх улусаў павінен быў з'явіцца цэнтр, вакол якога пачалі б збірацца ўсе тыя, хто не жадаў плаціць хабар татарам, хто сам хацеў уладарыць і абкладваць суседзяў данінай. Такім цэнтрам стала Масква. Яшчэ хітры і сквапны Каліта[13] зразумеў гэта і рабіў

усё магчымае, каб іншыя князі цягнуліся да Масквы, каб ідалам, сімвалам моцы стала менавіта Масква, а не Уладзімір. Таму і слава даставалася сімвалу-ідалу, а не тым, хто яе здабываў. Таму і легенды складаліся ў першую чаргу пра ідала, і песні спяваліся пра яго, і быліны складваліся.

— Атрымліваецца, што князь Дзмітрый быў звычайнай лялькай у руках сваіх баяр?

— Не, Дзмітрый быў смелым воем, далёка не дурнем, у меру справядлівым. Ён не жадаў весці фінансавыя справы, не любіў кіраваць. Вось чаму за яго кіраваў савет з князёў і баяр, і добра, калі ў яго ўваходзілі разумныя людзі. А калі туды траплялa пара-другая недалёкіх людзей, тады чакай бяды!

— А я недзе чытала, што Дзмітрый Данскі спалохаўся бунту маскоўскіх полаўцаў і ўцёк з Масквы, а яго за гэта ледзьве не забілі свае ж маскавіты, — уступіла ў гутарку Ліза. — Ці было такое?

Я зірнуў на гадзіннік — да заканчэння ўрока заставалася каля трох хвілін, таму яшчэ паспею адказаць на гэтае пытанне. Адначасова крайком вока я заўважыў, якім нядобрым, нават злосным, позіркам глядзеў у спіну дзяўчынкі дырэктар школы. Аднак я не стаў маніць і дыпламатычна загаворваць гэтае пытанне.

— Людзі па-рознаму адносяцца да сваіх лідараў. Кагосьці любяць, на другіх пазіраюць з пагардай, да трэціх ставяцца абыякава, бы да нейкай непазбежнасці… Так, быў у жыцці Дзмітрыя ганебны момант, калі ён ратаваў сваё жыццё ўцёкамі з Масквы ў Кастраму. Па дарозе ён са сваёй сям'ёй і дружынай праязджаў праз Мурам. Вось жыхары гэтага горада і адмовілі князю ў прытулку, кідалі на яго смецце, абвінавачвалі ў здрадзе і палахлівасці. А ягоную жонку Аўдоццю Дзмітрыеўну ды дзяцей наогул распранулі дагала і княжай дружыне ледзь удалося іх адбіць у раз'юшанага натоўпу… Так сведчаць летапісы.

— Атрымліваецца, што перамога маскавітаў на Кулікоўскім полі была зведзена да нуля чалавекам, якога гісторыя ўхваляе нібыта святога?

Празвінеў званок, аднак ніхто: ні вучні, ні дырэктар школы не падняліся з-за сталоў, чакалі майго адказу.

— Хто яго ведае, якім шляхам пачала б развівацца Маскоўская дзяржава, калі б не было гэтай перамогі. Урэшце Залатая Арда развалілася і з часам большая частка яе абшараў адышла да Масквы. Усё ў свеце зменлівае…

— А, можа, гэта Залатая Арда, са сваімі законамі, звычаямі і абрадамі, трансфарміравалася і пераўтварылася б у Маскоўскае княства? — не здаваўся Кірыл, чым давёў да белага шаленства дырэктара школы.

Я бачыў, што хлопчык гатоў спрачацца да бясконцасці, што мноства пытанняў і, пэўна, вострых, ледзьве месціцца ў яго разумнай галаве. Спрэчка са мной прыносіла яму асалоду, магчыма, усведамленне ўласнай значнасці перад дзяўчынкамі. Я паспрабаваў некалькі прытушыць ягоны запал, ветліва ўсміхнуўся, пастукаў па шкельцу гадзінніка і развёў рукі:

— Факультатыў закончаны. Да пабачэння.

**6**

Дырэктар чакаў мяне ў настаўніцкай.

— М-да, паважаны Міхаіл Рыгоравіч! — расцягваючы словы і хаваючы ад мяне свой позірк, прамовіў ён. — Не думаў я, што вы такой бачыце старажытную расійскую гісторыю… Чуў, што яе крэмзалі і перабельвалі апрычнікі Кацярыны II, падганялі пад пэўных асоб, але ж не настолькі і не так нахабна, як вы!

Я маўчаў. Што мог адказаць чалавеку, якога выхоўвала не сям'я, а партыя бальшавікоў? Ці мела сэнс спрачацца з чалавекам, які лічыў сябе добрым знаўцам гісторыі, бо некалі выкладаў у мяцовым тэхнікуме гісторыю КПСС, потым доўгі час працаваў другім сакратаром райкама партыі, а з выхадам на пенсію ўзначаліў школу? Таму я маўчаў і толькі краем вуха слухаў яго павучанні. Аднак словы: «Сёння гісторыя самы небяспечны прадмет і з ёй трэба быць вельмі і вельмі асцярожным» мяне вярнулі да рэчаіснасці Тут я быў з ім часткова згодны.

— Што вы маўчыце? Скажыце што-небудзь у сваё апраўданне! На ўроку так маляўніча і красамоўна апаганьвалі гераічную мінуўшчыну нашых братоў расіян, а тут маўчыце, бы вады ў рот набралі!

Я паставіў на месца класны журнал, паспрабаваў злавіць позірк субяседніка. Аднак той чамусьці настойліва адводзіў вочы і гэта мяне забаўляла. «Або няўпэўнены ў сваёй праваце, або баіцца маіх адказаў, не хоча чуць праўды!»

— Не такія ўжо і браты нам расіяне. Аднак, паважаны Валерый Іванавіч, я не збіраюся ні ў чым перад вамі апраўдвацца. Я люблю гісторыю, як сур'ёзную навуку. Ніколі не маніў і не збіраюся падманваць дзяцей. Ім я выкладаю факты, а вывады няхай робяць самі.

— Чуў я, якія вывады яны робяць на вашых уроках, — урэшце дырэктар школы ахінуў мяне сваім ліпучым, халодным позіркам. — А як па Кірылу, дык па ім ужо турма плача… Мы з вамі жывём у грамадстве, дзе ўсе людзі павінны імкнуцца да адной мэты: пабудове моцнай, квітнеючай, савецкай дзяржавы. Яны могуць думаць па-рознаму, я гэта дапускаю, але да мэты павінны ісці адным шляхам, у адным накірунку, разам з усімі. Яны абавязаны аддаць усё дзеля дасягнення агульнай мэты, і наша гісторыя павінна дапамагаць ім у гэтым.Таму мы абавязаны стварыць новую гістарычную памяць народа, дашчэнту выкінуць з яе ўспаміны пра тое, што адбывалася пры царах і капіталістах, што зняпраўджвае ідэі нашага кіраўніцтва. Скажыце, навошта рабацягам ды іх дзецям ведаць падрабязнасці пра далёкую мінуўшчыну, усіх гэтых Альгердаў і Вітаўтаў? Хай лепш дбаюць пра сапраўднае і мараць пра свой дабрабыт і сваю сытую будучыню!

Я сумеўся. Не думаў, што камуністычная карозія настолькі раз'ела мозг гэтага немаладога чалавека. Я агледзеўся па баках: ці не ўстаноўлены тут дзе-небудзь мікрафоны, бо не паверыў, што разважлівы чалавек на поўным сур'ёзе можа несці такую ахінею. Так і не заўважыўшы нічога падазронага, я адказаў:

— А я думаю, што гісторыю нельга скажаць дзеля ідэі. Гэта навука, якую павінен ведаць кожны з нас, каб не паўтараць памылкі, дапушчаныя нашымі продкамі, каб зноў і зноў не наступаць на тыя знакамітыя граблі…

— Ладна, — дырэктар стомлена адмахнуўся ад мяне. — Бачу, што вы мяне не разумееце ці не хочаце зразумець. Таму працягнем нашу гутарку ў панядзелак, на нарадзе пасля ўрокаў.

Унутры мяне ўсё клакатала, аднак я стрымаўся і як мага спакайней развітаўся:

— Усяго добрага.

Калі выйшаў у школьны калідор, я прыгадаў фізрука і ледзь, як і ён, не вылаяўся. Мацюкі амаль не апаганілі мае вусны, але я стрымаў сябе.

Ногі самі прывялі мяне ў спартыўную залу. Юрый Васільевіч акінуў мяне акаселым позіркам і з разуменнем прамовіў:

— З дырэктарам размаўляў, бачу, — ён на два павароты ключа зачыніў дзверы, хітнуў на пакойчык, дзе захоўваўся спартыўны інвентар: — Прашу.

Аднекуль з-за шафы фізрук выцягнуў пачатую пляшку, трасянуў яе, паглядзеў на этыкетку, па складах прачытаў назву. «Грузінскі каньяк нервы супакойвае добра. Праверыў».

У мяне знайшоўся кавалак пліткі горкага шакаладу і пад такую закуску мы, не спяшаючыся, дапілі напой, які на самай справе аказаўся не такім ужо і дрэнным…

Дадому я вярнуўся надвячоркам. Насця яшчэ не прыйшла з працы, яна рабіла навуковым супрацоўнікам у краязнаўчым музеі, таму павячэраў на хуткую руку і з кніжкай узваліўся на канапу.

**7**

Дваццаць пятага жніўня 1382 года было звычайным, нічым не адметным у прыродзе днём. Як і належыць у жніўні, з раніцы над ракой завіс густы туман. Паступова ён падняўся вышэй, запоўніў брудныя і крывыя гарадскія вулачкі, дробнымі кропелькамі расы асеў на панцырах і зброі маскоўскіх ратнікаў. З узыходам сонца гэтыя кропелькі зазіхацелі каштоўнымі камянямі, але да іх прыгожага ззяння нікому не было справы, бо пад сценамі горада ўжо два дні тапталася татарская Арда. Саюзнік Дзмітрыя Іванавіча Тахтамыш прыйшоў да Масквы, каб жорстка пакараць маскоўскіх полаўцаў, якія паднялі бунт супраць свайго ўладара, вялікага князя.

Цімоха стаяў на крэпаснай сцяне і праз байніцу глядзеў на татарскае войска. Ягоная сотня адказвала за прамежак паміж Спаскай і Крамлёўскай вежамі. Сам ваявода Асцей[14] нядаўна зацвердзіў Цімоху на пасадзе сотніка і былы каваль вельмі ганарыўся гэтым. Ён зусім не хваляваўся, бо ўжо біў татар на рацэ Вожы, і на Кулікоўскім полі. Ведаў, што тыя смелыя толькі ў пераважнай большасці, а пры першых прыкметах небяспекі адразу кідаюцца ўцякаць. Цяпер жа пад сценамі Масквы татар было намнога болей, чым абаронцаў. У тым, што яны пойдуць на прыступ, маскавіт ніколькі не сумняваўся. «Шкада, што ў мяне многа пасадскіх людзей і я не паспеў як след навучыць іх ратнай справе. Але ж за свае папаленыя двары яны будуць помсціць люта».

Пасля ўзыходу сонца татарскі стан зашавяліўся, а пасля непрацяглай малітвы, з енкам і падвываннем, людская маса ў рознакаляровых апратках пакацілася на прыступ.

— Пасцеражыся, — на ўсе лёгкія выгукнуў каманду Цімоха. — Усім ад байніц. Лучнікам страляць усляпую.

Тысячы варожых стрэл абрынуліся на крэпасныя сцены, зацокалі па бярвёнах, вылушчваючы з іх трэскі. І адразу ж насупраць байніц загрукаталі цяжкія штурмавыя лесвіцы, а на іх, з крывымі шаблямі і крукамі, паказаліся татары.

— Бі, сячы, — не разгубіўся Цімоха і, выхапіўшы з похваў свой меч, у адной кальчузе, без шчыта, кінуўся сустракаць захопнікаў.

Першаму татарыну ён знёс галаву, другога — распалавініў да пояса. Трэці аказаўся лаўчэйшым, аднак і ён не змог адбіць Цімохавых удараў і хутка зваліўся ў крэпасны роў.

— Кідай бярвёны, лі вар, — выкрыкваў сотнік каманды і, не звяртаючы ўвагі на варожыя стрэлы, сек нападаючых. Ён верыў, што падначаленыя не аслухацца яго, таму і не азіраўся, быў спакойны за сваю спіну.

Бойка закіпала. Плячом да пляча з Цімохам секся яго сусед і сябра па кавальскім цэху Сава. Акрываўлены з ног да галавы, ён шчыраваў баявой сякерай і вакол яго байніцы ўжо валялася груда знявечаных татар. Бярвёны, каменне, дроцікі і стрэлы ляцелі ў ворагаў. Тысячы стрэл сыпаліся з татарскага боку на абаронцаў, і многія з іх знаходзілі сваю ахвяру. Загінулых, сваіх і чужых, выкідвалі за крэпасную сцяну — няхай у апошні раз паслужаць праўдзівай справе.

Да вечара працягвалася бязлітасная сеча. Малады князь Асцей прысылаў на сцены падмацаванне, зброю, смалу і каменне. Сам з'яўляўся на небяспечных участ-

ках і ўласным прыкладам падмацоўваў веру ў перамогу. Абаронцы без жалю забіралі чужыя жыцці, без шкадавання аддавалі свае.

Участак сцяны, які бараніла сотня Цімохі, быў шчыльна заваленыны целамі татар. Іх не паспявалі скідваць, таму тапталіся па іх, не зважаючы, хто пад нагамі, — мёртвы ці паранены. З наступленнем вечара татары адкацілі ад крэпасці. Звон сталі сціх, але жудасныя стогны, выццё і крыкі паміраючых пад сценамі даносіліся да слыху абаронцаў да самай раніцы.

А з узыходам сонца пачаўся чарговы прыступ і паўтарылася тое ж самае. Татары лезлі на сцены, абаронцы іх секлі і скідвалі на груды ўжо акалелых за ноч трупаў. Тахтамыш глядзеў на гэтае смертазабойства, бачыў яго бессэнсоўнасць і разумеў: крэпасць яму не ўзяць. Не той ужо маскавіт, што быў дзесяць гадоў таму! Не той ваявода кіруе яе абаронай! Знікае страх у людзей паспалітых перад татарскай сілай! Застаецца адзінае выйсце: прымяніць зброю, якая ламала і не такія цвярдыні — подкуп, падман, хітрасць. Гэта подла, дорага, несправядліва, аднак, эфектыўна!

Тахтамыш па чарзе агледзеў твары сваіх дарадцаў і ваяводаў. «Ну і ад'еліся, — з пагардай падумаў ён пра суайчыннікаў. — З кім прыходзіцца ваяваць! Яны ж мяне ў піяле з кумысам утапіць гатовы!»

— Паклічце сюды князя Сямёна! Тэрмінова! — услых загадаў ён, а пра сябе падумаў: — Няхай, сабака, адпрацоўвае нашу да яго ласку…

Раніцай дваццаць сёмага жніўня ад татарскага стана да абаронцаў крэпасці данесліся рэзкія гукі труб. Гэта было нешта незвычайнае, таму не толькі ратнікі, але і ваяводы высыпалі на сцены.

Ля галоўных варот у суправаджэнні пяці коннікаў пад белым сцягам таптаўся былы дарадца Дзмітрыя Данскога, родны брат вялікай княгіні, князь Сямён Наўгародскі.

— Што табе трэба, здраднік? — неслася са сцен крэпасці. — Сыходзь адсюль, пакуль не атрымаў стралу ў грудзі!

Аднак князь Наўгародскі ніяк не рэагаваў на лаянку ў свой адрас, ведаў, што яго надзейна бароніць не столькі белы сцяг, колькі прастата і даверлівасць маскавітаў.

— Паклічце князя Цвярскога, — некалькі разоў крыкнуў ён абаронцам і, калі князь паказаўся на сцяне, гучна, каб чулі ўсе, дадаў: — Я ад вялікага князя Дзмітрыя Данскога з граматай.

На сценах крэпасці пачалася мітусня. Абаронцы адразу праніклiся сімпатыяй да таго, каго нядаўна называлі здраднікам.

— Адчыніце вароты, прапусціце князя Сямёна.

Вароты адчынілі і князь Наўгародскі разам са сваім суправаджэннем уехаў на крэпасны двор.

Хутка Асцею перадалі дзве граматы: ад вялікага князя Дзмітрыя і ад Тахтамыша.

Князь Асцей быў юнаком, аднак уважліва агледзеў пячаткі, почырк вялікага князя, паклікаў іншых князёў, каб і яны выказалі сваё меркаванне пра сапраўднасць пячаткі і подпісу Дзмітрыя, і толькі потым, калі ўсе ўпэўнена пацвердзілі, што пячатка і подпіс не падробныя, зачытаў змест паслання. Вялікі князь Маскоўскі Дзмітрый Данскі ў сваёй грамаце злаваўся на князя Асцея за яго непаслушэнства і загадваў неадкладна адчыніць вароты Тахтамышу. Тахтамыш у сваім пасланні хваліў князя Асцея і яго дружыну за смеласць, абяцаў забыцца на нядаўняе непаразуменне і дарэмнае кровапраліцце, не руйнаваць горад і не караць яго жыхароў. Нагадваў пра дамову з вялікім князем Дзмітрыем аб выплаце даніны.

Аднак не ўсе паверылі ў сапраўднасць граматы вялікага князя.

— Не мог князь Дзмітрый напісаць такога, не мог! — у адчаі заломваў рукі князь Міхал Цвярскі. — Ён хутка збярэ войска і сам прыйдзе нам на падмогу.

— Трымай кішэнь шырэй, — злосна прашыпеў нехта з баяр. — Калі б ён паехаў збіраць войска, то не забраў бы з сабой казну і сваю сям'ю… Уцёк ён, ганебна ўцёк! Кінуў нас на волю лёсу!

— Хутка ён будзе тут, вось пабачыце!

— Ты, князь Міхал, пра свой двор пячэшся, поўны срэбра і золата, дзе цябе чакае маладая жонка...

Хто не спрачаўся, той думаў. Адзін князь Наўгародскі з абыякавым выразам на твары чакаў адказу. Унутрана ён захапляўся сабой, бо менавіта ён ноччу напісаў граматку ад імя вялікага князя, падрабіў подпіс і прышлёпнуў напісанае некалі скрадзенай у Дзмітрыя пячаткай. А яны, ёлупы, паверылі. Ладна, гэты малады ліцвін Асцей! А астатнія? Цьфу, балваны!

Вырашылі перадаць Тахтамышу, што вароты яму адчыняць заўтра з узыходам сонца.

Ноччу тыя, хто не верыў у татарскую шчырасць, каго нішто не трымала ў горадзе, праз рэчку выбраліся з крэпасці і схаваліся ў навакольных лясах.

Пакінуў горад і Цімоха са сваёй сям'ёй. «Я добрую навуку атрымаў ад татар на Вожы і на Кулікоўскім полі. Толькі дурань не хоча засвойваць іх урокаў вераломства ды можа чарговы раз паверыць нехрысцю!»

Раніцай наступнага дня Асцей з групай ваяводаў і баяр адчыніў вароты. Урачыста апрануты, у суправаджэнні баяр і духавенства, з багатымі падарункамі для хана і яго шматлікіх жонак, ён накіраваўся да шатра Тахтамыша.

А татары не змяніліся: яны адсеклі галовы Асцею і яго князям, уварваліся ў горад праз адчыненыя вароты, абрабавалі і пабілі ўсіх жыхароў, а потым паселішча падпалілі. Горкі дым ахутаў Масковію…

Я прачнуўся, прынюхаўся. З кухні да мяне даходзіў пах рыбных катлет. Па тэлевізары паказвалі матч з англійскай прэм'ерлігі. «Чорт, — стараючыся ўспомніць, хто ўключыў тэлевізар, я ці жонка, зручней уладкаваўся на канапе. — Гэта ж сягоння гуляе "Арсенал" з "Ліверпулем"!»

Напружаная барацьба на футбольным полі захапіла, адразу выцесніла з галавы думкі і пра князя Маскоўскага, і пра Тахтамыша, і пра Цімоху з Савай. Нават пра нараду, на якой мяне, пэўна, будуць вучыць розуму, я забыўся. Перажываў за дружыну Арсена Венгера[15], шчыра жадаў ёй перамогі.

## 8

А вось дырэктар школы не забыўся пра сваё абяцанне. У панядзелак пасля ўрокаў амаль увесь педагагічны калектыў школы цясніўся ў настаўніцкім пакоі. Многія з калег нешта чулі пра нашу суботнюю спрэчку і сёння з цікавасцю чакалі пачатку нарады. У некаторых гэтыя пазапланавыя пасядзелкі выклікалі нуду, яны не стараліся схаваць сваё раздражненне, нецярпліва пазіралі на гадзіннікі, цяжка, бы на хаўтурах, уздыхалі.

Пачаў дырэктар.

— Паважаныя калегі, — ён цяжкім позіркам агледзеў прысутных і нечакана для многіх, а, магчыма, і для сябе, дадаў: — сябры! Я сабраў вас на гэтую нараду для таго, каб абмеркаваць метады выкладання гісторыі Міхаілам Рыгоравічам і, калі трэба, своечасова паправіць яго. Я не хачу выглядаць рэтраградам, аднак, спадзяюся,

што вы правільна ацэніце яго грамадзянскую пазіцыю і дадзіце ёй прынцыповую адзнаку.

— А ў чым справа? — пачуліся нясмелыя пытанні. — Міхаіла Рыгоравіча вельмі любяць дзеці, яго паважаюць бацькі нашых вучняў…

— …ды і з метадамі выкладання ў яго поўны парадак, — прабасіў фізрук.

Дырэктар школы спрачацца не стаў. Ён хітнуў галавой свайму намесніку па выхаваўчай рабоце, а сам асцярожна, бы хворы на радыкуліт, сеў у крэсла. Намесніка, немаладую адзінокую жанчыну, з глыбока пасаджанымі вачыма і вострым носам, у калектыве называлі Мальвіна. Чаму да яе прыліпла такая мянушка, ніхто не ведаў. Многія спачувалі яе адзіноце, аднак ніхто яе не шкадаваў і жанчыну часта можна было бачыць з чырвонымі, заплаканымі вачыма. Не шкадавалі яе не таму, што ў нас у калектыве працавалі чэрствыя і абыякавыя людзі, хутчэй наадварот. Не шкадавалі таму, што яна ўсюды торкала свой тонкі і востры носік, а пра пачутае і ўбачанае адразу ж даносіла дырэктару.

Мальвіна паднялася, адарвала свой позірк ад запісаў, і, звяртаючыся да Юрыя Васільевіча, загаварыла:

— А вы, можна падумаць, не ведаеце ў чым справа? І апраўдваць яго метады выкладання можа толькі той, хто сам ганьбіць светлы вобраз настаўніка, — яна кінула хуткі позірк на свайго начальніка і працягвала далей: — У суботу Валерый Іванавіч наведаў урок гісторыі ў дзявятым класе. Па методыцы выкладання ў яго няма заўваг да настаўніка, а вось па змесце… У той час, як мы з вамі змагаемся за правільнае ідэалагічнае і патрыятычнае выхаванне моладзі, Міхаіл Рыгоравіч некалькімі непрадуманымі сказамі ўшчэнт разбурае ўсё тое, што мы напрацоўваем з вучнямі за гады працы…

— Ды ён тэрарыст нейкі, — злосна вышчарыў зубы фізрук і не ўтрымаўся, рагатнуў у кулак. — Вазьміце, Галіна Эдуардаўна, яго на парукі.

— Вам смешна, а ён на апошнім сваім уроку выставіў гонар расійскай нацыі — Дзмітрыя Данскога — баязліўцам, ідыётам і тупым баранам.

— Я такога не казаў, — не вытрымаў я пачутай абразы. — Наадварот, імкнуўся паказаць смеласць і стойкасць простых маскавітаў — нашчадкаў расіян. Хацеў падкрэсліць розум іх палкаводцаў і перамогу іх зброі…

— Усё гэта лухта і трызненні не вельмі дасведчанага чалавека, — не ўтрымаўся ад палемікі дырэктар школы. — Я сам некалі выкладаў гісторыю і ведаю, што не было ў расіян столькі самастрэлаў.

— А якой зброяй яны выбівалі генуэзкіх рыцараў, тампліераў, крыжакоў? Стрэламі з лукаў? Каменнем?

— Не ведаю, — некалькі сумеўся дырэктар, — аднак мы сабраліся пагутарыць не пра Дзмітрыя Данскога, а пра тое, як вы збіраецеся вытрымліваць ідэалагічны курс нашага ўрада. Для моладзі імёны Дзмітрый Данскі, Аляксандр Неўскі, Аляксандр Сувораў, Пётр Першы павінны быць сінонімамі веры ў наша мінулае і ў слаўнае будучае.

— Я думаю, што наша моладзь павінна ганарыцца тым, што яе папярэднікамі былі не самадуры кшталту Суворава з Пятром, а Кірыла Тураўскі і Еўфрасіння Полацкая, Усяслаў і Вітаўт, Францыск Скарына і Мікалай Гусоўскі, Мікалай Радзівіл Чорны і Філон Кміта, Каліноўскі, Багдановіч, Купала, Барыс Кіт, Пётр Машэраў і многія-многія іншыя.

Дырэктар школы збянтэжыўся. Пэўна, яшчэ не ўсё чалавечае ён згубіў на сваіх партыйных пасадах. Ён з шумам выдыхнуў з грудзей паветра, адкінуўся на спінку крэсла. Ранейшы бляск яго вачэй патух, нейк раптоўна яны спустошыліся,

абясквеціліся і мне падалося, што яму самому зрабілася сорамна за гэтую нараду. А я сышоў з катушак. Мяне панесла. «А-а, будзь што будзе, — мільгатнула ў галаве вар'яцкая думка, — выкажу ўсё, што думаю. А потым хай пазбаўляюць прэмій, выганяюць з працы! Пайду працаваць сацыяльным работнікам, адтуль не выганяць».

— Урокі гісторыі заключаюцца ў тым, што аналагічныя падзеі і дзеянні з мінулага па спіралі вяртаюцца ў будучыню. Мы пастаянна паўтараем тое, што ўжо было, толькі паўтараем на іншым, дасканалым узроўні. Зірніце на наш ранейшы ўрад, нашых кіраўнікоў — усе састарэлыя, нямоглыя. Аднак кожны дзень у газетах, па радыё, па тэлебачанні мы чулі: «Пад мудрым кіраўніцтвам Леаніда Ільіча[16]», «як сказаў дарагі Леанід Ільіч» і гэтак з раніцы да вечара. Чаму, хто і навошта ўбіваў у нашы галовы гэткую дурноту?

— Ды ціха ты, — зашыкалі на мяне некаторыя са старэйшых настаўнікаў. Потым яны падхапіліся і, палахліва азіраючыся па баках, падалей ад граху, зніклі з пакоя.

— Не, пачакайце, — я ніяк не мог спыніцца. — Пры Дзмітрыі Данскім дзяржавай кіраваў савет, які бізуном і мячом прымушаў падданых вялікага князя думаць, што пераможца татар — Дзмітрый, што клапоціцца пра народ — Дзмітрый, што за вялікія перамогі толькі ён адзін заслугоўвае павагі і пашаны звацца Данскім. І гэта пры тым, што той сваёй здрадай загнаў Масковію яшчэ на стагоддзе ў татарскую кабалу. А хто памятае пра Баброк-Валынскага? Пра таго ж Андрэя Полацкага і яго сыноў? Ніхто! Адна паказуха!.. Так было і ў нас. «Вось вам, дарагі Леанід Ільіч, Залатая Зорка за асваенне цалінных зямель». «Вось вам маршальскі жэзл і яшчэ адна Зорка за перамогу на Малай зямлі[17]». А дарагі Леанід Ільіч ужо не кіраваў. Ад састарэласці ён нават не бачыў, што краіна імкліва коціцца пад адхон. Ён толькі забаўляўся сваімі бліскучымі медалямі-цацкамі… Чаму мы так баімся праўды? Чаму так баімся белае назваць белым, а чорнае чорным? Навошта гэты бруд? Навошта гэтыя інтрыгі, плёткі, зайздрасць? Жыццё ж у нас ва ўсіх адно і яно такое кароткае!

— Гэта жорстка…

— Так, жыццё жорсткае, — я амаль супакоіўся, — таму і трэба ведаць сваю гісторыю. Яе аналагі пастаянна выпіраюць вонкі то ў адным, то ў другім месцы і іх трэба асцярожна, правільна, улічваючы вопыт мінулага, выпраўляць, а не сячы па-жывому, не вырываць з мясам… Колькі чалавечых лёсаў скалечана з-за нашага невуцтва! Колькі зла і нянавісці прыўнесена ў жыццё па нашай ляноце!...

Я стаміўся. Мне надакучыла даводзіць відавочнае тым, хто баіцца яго ўбачыць, не хоча зразумець. Я перадумаў агольваць сваю душу і, не давёўшы думку да лагічнага завяршэння, сеў на канапу побач з фізруком. Той у знак прызнання лёгка штурхнуў мяне ў бок локцем: «Захадзі пасля нарады да мяне ў капцёрку».

Нейкі час у настаўніцкай панавала цішыня. Потым падняўся Валерый Іванавіч. За гэтыя дваццаць хвілін ён састарэў на дзясятак гадоў.

— Што ж, — яго голас гучаў квола і стомлена. — Мы з вялікай цікавасцю выслухалі пазіцыю Міхаіла Рыгоравіча. Добра, што ён разумее палітыку ўрада і, спадзяюся, будзе ў сваёй працы прытрымлівацца правільнага накірунку… Нарада закончана.

У настаўніцкай яшчэ не заціхла рэха апошніх слоў дырэктара, а настаўнікі ўжо пакідалі свае месцы. Маўчком, апусціўшы вочы, бы цені, яны выпараліся з пакоя і гэтак жа бязгучна знікалі ў сутарэннях школы.

— Да пабачэння, Валерый Іванавіч! — я развітаўся апошнім.

— Усяго добрага, Міхаіл Рыгоравіч!

Я не пайшоў у спартзалу і не памыліўся: на лаўцы, ля ўваходных дзвярэй, чакала Насця. Згледзеўшы мяне, яна паднялася, падхапіла пад руку і нейкі час мы павольна крочылі побач і маўчалі. І толькі каля дому яна не ўтрымалася: спынілася, узяла мяне за галаву, нахіліла яе і пацалавала. «Я кахаю цябе! Моцна кахаю!» — былі яе словы, і я зразумеў — гэта праўда. Каханне і праўда! Дзеля іх толькі і трэба жыць!

Вось ужо гэта спіраль гісторыі! Усё паўтарылася, як і дваццаць пяць год таму.

## *КАМЕНТАРЫІ:*

[1] ***Баброк-Валынскі Дзмітрый Міхайлавіч (? — пач. XV ст.)*** — князь, ваенны і дзяржаўны дзеяч Маскоўскай дзяржавы. Паходзіў з валынскіх князёў, магчыма, Астрожскіх. У 1360 г. пакінуў Літву і выехаў на службу да князя Дзмітрыя Іванавіча ў Маскву. У канцы жыцця прыняў манаства.

[2] ***Арбалет*** *(самастрэл)* — від зброі, механізаваны лук, прымацаваны да прыклада.

[3] ***Мамай*** **(? —1380)** — татарскі военачальнік і дзяржаўны дзеяч. Пасля смерці свайго цесця хана Бердыбека (1361 г.) — фактычны кіраўнік Залатой Арды.

[4] ***Літва*** — скарочаная назва Вялікага Княства Літоўскага (старадаўняй Беларусі). *Ліцвіны* — жыхары Літвы (продкі беларусаў).

[5] ***Сажань*** — мера даўжыні, роўная тром аршынам, або 2,13 метра.

[6] ***Локаць*** — старажытная лінейная мера многіх краін Еўропы, Азіі і Афрыкі, якая ў розных краінах мела розную велічыню. У сістэме мер Вялікага Княства Літоўскага яна раўнялася 64,9 см.

[7] ***Тахтамыш (? —1406)*** — хан Залатой Арды (1380—1395).

[8] ***Калка*** — рака на якой у 1223 годзе аб'яднанае войска славянскіх князёў і полаўцаў пацярпела сакрушальнае паражэнне ад мангола-татараў.

[9] ***Полацкі князь Андрэй Альгердавіч (? —12.08.1399)*** — старэйшы сын вялікага князя літоўскага Альгерда і яго першай жонкі, віцебскай князёўны Марыі Яраслаўны. Загінуў у бітве на Ворскле.

[10] ***Маскавіты*** — жыхары Маскоўскай дзяржавы.

[11] ***Стэфан*** *(Стафан)* ***Баторый (27.09.1533—12.12.1586)*** — кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1576—86). Паходзіў са старажытнага венгерскага роду Баторыяў Шомліо. Памёр у Гародні. Пасля смерці караля Стэфана паміж прыдворнымі лекарамі ўзнікла спрэчка аб прычынах яго смерці. Каб яе вырашыць, 14.12.1586 у Гародні было праведзена першае на тэрыторыі Усходняй Еўропы анатаміраванне.

[12] ***Кулікоўская бітва*** адбылася 08.09.1380 на Куліковым полі каля р. Няпрадва (правы прыток Дона) паміж войскамі Залатой Арды і вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча. На баку Маскоўскай дзяржавы выступалі і князі з ВКЛ: дружына полацкага князя Андрэя Альгердавіча і яго брата, друцкага князя Дзмітрыя Альгердавіча (? —12.08.1399). Завяршылася разгромам татарскіх войскаў Мамая.

[13] ***Каліта*** — мянушка князя маскоўскага Івана Даніілавіча, дзеда Дзмітрыя Данскога.

[14] ***Асцей*** — ваявода, паходзіў з князёў ВКЛ. Узначаліў абарону Масквы ад войскаў Тахтамыша, пасля таго, як яе пакінуў уцёкамі князь Дзмітрый Іванавіч Данскі.

[15] ***Арсен Венгер*** — галоўны трэнер лонданскага «Арсенала».

[16] ***Леанід Ільіч Брэжнеў (19.12.1906—10.11.1982)*** — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы (1961), 4 разы Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978, 1981), Маршал Савецкага Саюза (1976). Пры Брэжневе былі ўведзены савецкія войскі ў Чэхаславакію (1968) і Афганістан (1979).

[17] «***Цаліна» і «Малая Зямля»*** — кнігі, якія быццам бы напісаў *Брэжнеў Леанід Ільіч,* і за якія ён быў ушанаваны мноствам званняў і ўзнагарод.

Эліс МАНРО

Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта

# ЧЫРВОНАЯ СУКЕНКА — 1946

*Апавяданне*

***Эліс Манро — канадская пісьменніца, майстра кароткага апавядання і 13-я ў свеце жанчына, якая атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Яе гісторыі распавядаюць пра жыццё звычайных жанчын і мужчын у канадскай правінцыі Антарыё, адкуль яна родам. На гэтых старонках чытачы знойдуць апавяданне Эліс Манро (Alice Munro) «Чырвоная Сукенка — 1946» (Red Dress — 1946), якое было надрукавана ў першым зборніку пісьменніцы «Танец шчаслівых ценяў» (Danke of the Happy Shades: And Other Stories) (1968).***



Маці шыла мне сукенку. Увесь лістапад, калі я вярталася са школы, заставала яе на кухні ў атачэнні абрэзкаў чырвонага аксаміту і шматкоў паперы на выкрайку. Яна працавала за старой швейнай машынкай, павернутай да акна, каб менш сляпіцца і заадно глядзець паўз пожні і пустыя гароды на дарогу і мінакоў, што ішлі па ёй? Але там рэдка хто з'яўляўся.

З такім матэрыялам, як чырвоны аксаміт, працаваць было цяжка, ён сцягваўся, да таго ж мадэль, якую абрала маці, таксама была не з простых. Насамрэч, яна не была добрай швачкай. Ёй падабалася рабіць розныя рэчы, але гэта іншае. Кожным разам, калі толькі гэта было мажліва, яна, у адрозненне ад цёткі і бабулі, спрабавала пазбегнуць фастрыгавання і не атрымлівала асаблівага задавальнення ад працы з філігранным бокам кравецкай справы, напрыклад, з апрацоўкай пятліц і абкіднымі швамі. Для маці ўсё пачыналася з натхнення, ідэі, якая з таго моманту ішла на спад. З самага пачатку яна не магла знайсці мадэль, якая б задавальняла яе. І не дзіва, бо мадэлей, якія б стасаваліся з ідэямі, што буялі ў ейным уяўленні, проста не магло быць. Калі я была меншай, яна сшыла мне сукенку з каляровай арганзы з высокім віктарыянскім каўнерыкам, які быў абшыты калючай тасьмой, і каптурок да яе; камплект з аксамітнага жакета ў клетку і шатландскі берэт; вышываную блузу ў сялянскім стылі, якую я апранала з шырокай чырвонай спадніцай і чорным карункавым ліфам. Я паслухмяна насіла гэтыя рэчы, нават з задавальненнем, пакуль не даведалася, што пра іх думае ўвесь астатні свет. Цяпер, калі я паразумнела, мне хацелася мець сукенкі як у маёй сяброўкі Лоні, прыдбаныя ў краме.

Сукенку трэба было мераць. Часам пасля школы Лоні ішла да мяне, сядала на канапу і назірала. Мне было няёмка, што маці поўзала вакол мяне, пры гэтым ейныя каленкі рыпелі, а дыханне рабілася цяжкім. Яна нешта бубнела сабе пад нос. Дома яна не насіла гарсэт і панчохі, а толькі танкеткі і шкарпэткі, на яе нагах выступалі вены. А поза, на кукішках, падавалася мне ганебнай, нават непрыстойнай. Я працягвала балбатаць з Лоні, каб адцягнуць увагу ад маці. Выраз твару Лоні быў стрыманым, ветлівым, удзячным, але гэта была маска, якую яна насіла ў прысутнасці дарослых. Яна смяялася з іх і была страшэннай прытворшчыцай, а яны і не здагадваліся пра гэта. Маці тузала мяне і калола іголкамі, прымушала паварочвацца ці стаяць ціха. «Ну, што скажаш, Лоні?» — спытала яна з ротам, набітым іголкамі.

«Прыгожа», — адказала Лоні рахмана і шчыра, як яна ўмела. Маці Лоні памерла, і яна жыла з бацькам, які ніколі не зважаў на яе, што рабіла яе адначасова ранімай і прывеліяванай у маіх вачах. «Вось калі мне ўдасца падагнаць яе, тады будзе прыгожа», — адказала маці. «Вох, але ж», — дадала яна тэатральна, падымаючыся з каленак і ўздыхаючы. — «Сумняюся, што яна ацэніць гэта». Калі маці так размаўляла з Лоні, быццам яна была дарослай, а я — усё яшчэ дзіцём, я проста шалела. «Стой ціха», — паўтарыла яна, сцягваючы нафастрыгаваную ў іголках сукенку праз маю галаву, якую ўжо ахутаў аксаміт, а цела стаяла безабаронна ў старой баваўнянай камбінацыі. Я адчувала сябе вялікай сырой масай, нязграбнай і пагусінелай. Мне вельмі хацелася быць падобнай да Лоні: крохкай і хударлявай, з парцалянавай скурай.

«Мне вось ніхто не шыў сукенак, калі я вучылася ў школе», — сказала мама. — «Сама шыла ці так абыходзілася». Я баялася, што яна зноў пачне расказваць сваю гісторыю пра тое, як адзінаццаць кіламетраў ішла ў горад, каб знайсці працу, абслугоўвала сталы ў пансіянаце дзеля таго, каб паступіць у сярэднюю школу. Усе матчыны расповеды, якія калісьці былі мне цікавымі, цяпер пачалі здавацца нязначнымі і сумнымі.

«Аднойчы мне падаравалі сукенку, — прамовіла яна, — кашаміравую, крэмавага колеру, аздобленую сінім кантам і гузікамі, цікава, што з ёй сталася?»

Калі нас адпусцілі, мы з Лоні пайшлі наверх у мой пакой. Там было холадна, але мы ўсё адно засталіся. Мы абмяркоўвалі хлопчыкаў нашага класа, перабіраючы іх па шэрагах, як яны сядзяць за партамі, і пытаючыся адна ў адной: «Ён табе падабаецца? Ну ладна, падабаецца напалову? Ненавідзіш яго? Пайшла б з ім на спатканне, калі б запрасіў?» Нас ніхто не запрашаў. Нам было па трынаццаць і мы два месяцы, як хадзілі ў сярэднюю школу. Мы рабілі тэсты з часопісаў, каб высветліць, ці ёсць у нас індывідуальнасць і ці будзем мы карыстацца папулярнасцю. Мы чыталі артыкулы пра тое, як рабіць макіяж так, каб падкрэсліць свае плюсы і як весці размову на першым спатканні, што рабіць, калі хлопец паспрабуе зайсці далей, чым дазволена. Таксама мы чыталі артыкулы пра фрыгіднасць, і чаму муж шукае задавальнення дзесь на старане. І калі мы не былі заняты хатнім заданнем, то большую частку свайго часу збіралі, перадавалі і абмяркоўвалі інфармацыю, звязаную з сексуальным жыццём. У нас было пагадненне, па якім мы павінны былі распавядаць усё адна адной. Але існавала адна справа, якую я ўтаіла, — калядныя танцы ў школе, для якіх маці і шыла мне тую сукенку. І справа была ў тым, што ісці туды я не хацела.

У школе я заўсёды адчувала сябе няёмка. Не ведаю, як Лоні, — перад іспытамі ў яе былі ледзяныя рукі і моцна білася сэрца, — але я была ў стане адчаю кожную хвіліну. Калі ў мяне нешта пыталіся, нават нейкую драбязу, мой голас рабіўся пісклявым або хрыпатым і дрыготкім. Калі мяне выклікалі да дошкі, я была ўпэўнена, — нават калі быў зусім і не той час месяцу, — што ў мяне на спадніцы кроў. Калі трэба было працаваць з цыркулем ля дошкі, мае рукі рабіліся вільготнымі ад поту. Я не магла адбіць мяч на валейболе, і калі мяне выклікалі, каб я перад усімі выканала нейкае практыкаванне, цела адмаўлялася мяне слухаць. Я цярпець

не магла спраўных зносін, бо там трэба было разлінейваць асадкай старонкі для ўліковай кнігі, і калі настаўніца глядзела праз плячо, усе мае акуратныя лініі пачыналі віхляць і сплывацца. Я цярпець не магла фізіку: мы ўзбіраліся на крэслы і пад рэзкім святлом за сталамі з незразумелым, крохкім абсталяваннем слухалі дырэктара школы. У яго быў халодны самазадаволены голас — кожную раніцу ён чытаў Святое Пісанне, — і надзвычайны талент прыніжаць іншых. Я цярпець не магла англійскую мову, таму што хлопчыкі на апошняй парце гралі ў лато, пакуль настаўніца, — мажная і рахманая, трошкі касавокая дзяўчына, — чытала Уордсварта. Яна пагражала ім, прасіла іх, ейны твар чырванеў, а голас рабіўся такім жа ненадзейным, як і мой. Яны гратэскна прасілі прабачэння, і, калі яна зноў пачынала чытаць, прымалі сканцэнтраваны выгляд, рабілі дурнаватыя твары, касілі вочы і хапаліся рукамі за сэрца. Часам настаўніца пачынала плакаць і ёй даводзілася выбягаць у калідор, каб супакоіцца. Потым хлопцы пачыналі тэатральна падвываць, наш хцівы смех — ну так, і мой таксама — пераследаваў яе. У такія моманты ў класе стаяла карнавальная атмасфера бязлітаснасці, якая пужала такіх слабых і няпэўных людзей, як я.

Але тое, што надавала жыццю яркасці і мітульгі ў школе, былі, відавочна, не фізіка і англійская мова. Гэты стары будынак з мураванымі халоднымі сутарэннямі і змрочнымі раздзявальнямі, партрэтамі памерлых членаў каралеўскай сям'і і загінулых даследчыкаў, быў напоўнены напружаннем і ўзбуджэннем сексуальнага спаборніцтва, у якім, не гледзячы на мары пра ўласныя дасягненні ў гэтай сферы, я цярпела абсалютнае фіяска. Трэба было штось рабіць, каб не пайсці на гэтыя танцы. Снежань прынёс снег, а ў мяне з'явілася ідэя. Раней я думала пра тое, што магу зваліцца з ровара і пацягнуць лытку, і калі я ехала дадому па замерзлай глыбока пабітай вясковай дарозе, паспрабавала гэта зрабіць, што аказалася даволі цяжка. Аднак маё горла не вызначалася моцным здароўем, чаму б тады не паставіць пад удар яго? Я пачала ўставаць па начах і адчыняць акно. Укленчыўшы, я чакала, пакуль вецер, пранізлівы і часам са снегам, кружляў вакол майго горла. Я здымала верх ад піжамы і стаяла з заплюшчанымі вачыма, уяўляла, як мая грудная клетка і горла сінелі, а вены пад скурай халадзелі і шарэлі. Я стаяла, пакуль было моцы, а потым брала жменю снегу з падаконня і расцірала яго па сабе перад тым, як зашпіліць гузікі на піжаме. Ён раставаў пад фланеллю і я спала ў мокрай піжаме — што магло быць горш? Ранкам, як толькі я прачыналася, адразу прачышчала горла, правяраючы, ці баліць там нешта, кашляла і мацала свой лоб у надзеі, што ў мяне паднялася тэмпература. Бессэнсоўна. Кожную раніцу я падымалася абсалютна здаровай.

У той дзень я накруціла валасы, хаця раней ніколі гэтага не рабіла, бо мае валасы курчавыя самі па сабе. Але сёння хацелася ўсіх магчымых жаночых рытуалаў. Я ляжала на канапе ў кухні і чытала «Апошнія дні Пампеі», шкадуючы, што мяне там не было. Маці прышывала белы карункавы каўнерык да сукенкі, бо вырашыла, што без яго сукенка выглядае занадта па-даросламу. Я нервова сачыла за гадзіннікам. Гэта быў самы кароткі дзень на год. Над канапай на шпалерах былі старыя партыі крыжыкаў і нулікаў, даўнейшыя малюнкі і крэсленні, якія рабілі мы з братам, калі хварэлі на бранхіт. Я глядзела на іх, і мне так хацелася вярнуцца ў дзяцінства, дзе бяспечна і ўтульна.

Калі я зняла бігудзі, мае валасы прынялі выгляд пышнага ільснянага куста. Я змачыла іх, прычасала, пабіла шчоткай і з сілай адцягнула ўніз. Напудрыла твар, і цяпер ён выглядаў як пасыпаны крэйдай. Мама дастала сваю парфуму «Попел Ружы», якім ніколі не карысталася, і дазволіла мне пырснуць пару кропель на сябе. Потым яна зашпіліла маланку на маёй сукенцы і павярнула мяне да люстэрка. Сукенка была ў стылі прынцэсы, вельмі вузкая ў таліі. Дзіўным чынам мае грудзі ў новым тугім станіку выступалі з дарослай упэўненасцю. «Шкада, што няма фота-

апарата, — сказала маці. — Я ганаруся тым, як яна на табе сядзіць. А ты магла б і падзякаваць».

«Дзякуй», — сказала я.

Першае, што прамовіла Лоні, калі я адчыніла ёй дзверы: «Божухна, што ты зрабіла з валасамі?»

«Накруціла».

«Ты падобна на зулусца. Не перажывай, дай шчотку, я падыму грыўку і ўсё будзе добра. Я нават зраблю так, што ты будзеш выглядаць дарослай».

Я села перад люстэркам, а Лоні падышла ззаду і стала выпраўляць маю памылку. Маці, здавалася, не магла нас пакінуць, а мне так хацелася, каб яна сышла. Яна глядзела, як Лоні надавала форму маім валасам і сказала: «Ты проста цуд, Лоні. Табе трэба сур'ёзна гэтым заняцца».

«А гэта ідэя», — пагадзілася Лоні. На ёй была блякла-блакітная крэпавая сукенка з баскай і бантам, якая выглядала лепш за маю, нават без каўнерыка. Ейныя валасы былі такімі ж прыгладжанымі, як у дзяўчыны на ўпакоўцы з невідзімкамі. Я заўсёды ўпотай думала, што Лоні не можа быць прыгожай праз свае крывыя зубы, але цяпер бачыла, што з крывымі зубамі ці без іх, ейная стыльная сукенка і гладкія валасы рабілі з мяне гэткую ненармальную ляльку-пачвару, запхануую ў аксамітную чырвоную сукенку, з шырока расплюшчанымі вачыма і гармідарам на галаве.

Маці правяла нас да дзвярэй і выгукнула ў цемру «Чао-какао». Так звычайна развітваліся мы з Лоні, калі сыходзілі, але ў ейным выкананні гэта гучала бязглузда. І я вельмі раззлавалася на яе праз тое, што яна так сказала, і таму сышла моўчкі. Толькі Лоні весела адгукнулася: «Дабранач!»

У спартыўнай зале пахла хвояй і кедрам. З баскетбольных кошыкаў звісалі чырвоныя і зялёныя ліхтарыкі з паперы. Высокія закратаваныя вокны хаваліся за зялёнымі галінамі. Здавалася, што ўсе старшакласнікі прыйшлі на танцы парамі. Некаторыя дзяўчаты з дванаццатага і трынаццатага класаў прывялі з сабой хлопцаў, якія ўжо скончылі школу і былі мясцовымі бізнесменамі. Гэтыя маладыя людзі палілі ў зале, і ніхто не мог забараніць ім, яны былі свабоднымі. Дзяўчаты з абыякавымі, але прыгожымі тварамі стаялі побач са сваімі кавалерамі, нядбайна абапёршыся аб мужчынскія плечы. Я вельмі хацела быць падобнай да іх. Яны паводзілі сябе так, быццам толькі яны — старэйшыя — былі на танцах, а мы, — усе астатнія, — сярод якіх яны рухаліся і азіраліся, былі неадушаўлёнымі. Абвесцілі першы танец — песню Пола Джоўнса, — і яны апатычна сталі выходзіць, усміхаючыся, быццам іх запрасілі паўдзельнічаць у нейкай дзіцячай гульні. Трымаючыся за рукі, Лоні, я і іншыя дзяўчаты з дзявятых класаў пайшлі за імі.

Я не асмельвалася паглядзець на тое, што адбывалася там, далей, у вонкавым коле, бо баялася, што пабачу нейкую нахабную мітусню. Калі музыка сціхла, я стаяла там дзе і была, і, ледзь падняўшы вочы, пабачыла як Мэйсан Уільямс неахвотна ішоў у мой бок. Ледзь кранаючыся маёй таліі і пальцаў, ён пачаў са мной танчыць. Мае ногі падкошваліся, рукі трымцелі, мову адняло. Гэты Мэйсан Уільямс быў адным са школьных герояў. Ён граў ў баскетбол і хакей ды хадзіў па школе з хмурным выглядам каралеўскай асобы і задаволенага варвара. Танчыць з такой нікчэмнасцю, як я, было для яго гэтак жа зняважальна, як і абавязак вучыць Шэкспіра на памяць. Я гэта адчувала і добра разумела, як і ён, які абмяньваўся позіркамі, поўнымі жаху са сваімі сябрамі. Ён павёў мяне, спатыкаючыся, да ўскрайку танцпляцоўкі, і, прыбраўшы руку з таліі, кінуў маю руку.

«Пабачымся», — прамовіў ён і сышоў.

Мне спатрэбілася хвіліна ці дзве, каб зразумець, што здарылася, і што ён не збіраўся вяртацца. Я сышла і стала адна ля сцяны. Настаўніца фізкультуры, якая энергічна танчыла ў абдымках дзесяцікласніка, паглядзела на мяне з цікаўнасцю. Яна была адзінай, хто сур'ёзна ставіўся да паняцця сацыяльная адаптацыя, і таму

я баялася, што, калі яна бачыла, то магла зрабіць жудасную публічную спробу прымусіць Мэйсана скончыць танец са мной. Я не злавала на Мэйсана і не была здзіўлена. Я прымала ягонае і сваё становішча ў школьным свеце. Ён быў Сапраўдным Героем, не той тып з вучнёўскага савета, што шукае поспеху па-за школай. Такія б танчылі са мной ветліва і абачліва, але я б пачувалася б не лепш. Усё ж я спадзявалася, што гэта мала хто бачыў. Ненавіджу, калі людзі глядзяць, я тады пачынаю кусаць скуру на вялікім пальцы.

Калі музыка спынілася, я далучылася да гурта дзяўчат, што тоўпіліся ў канцы залы. «Уяві, што гэтага не было, — казала я сабе. — Уяві, што пачатак толькі цяпер».

Музыкі зайгралі зноў. У шчыльным коле ў канцы танцпляцоўкі пачаўся нейкі рух, і людзі пачалі паціху разыходзіцца. Хлопцы падыходзілі, дзяўчаты сыходзілі. Лоні сышла. Дзяўчына з іншага боку ад мяне таксама сышла. А я так і стаяла. Я ўзгадала артыкул з часопіса, які чыталі мы з Лоні, і там пісалі: «Будзь вясёлай! Хай хлопцы бачаць, што твае вочы ззяюць, што голас твой радасны! Гэта проста, але шмат дзяўчат забываюцца на гэта!» Сапраўды, я забылася. Мае бровы былі ссунуты ад напругі, верагодна, мой выгляд пужаў. Я зрабіла ўдых і паспрабавала расслабіць твар. Усміхнулася. Але адчувала сябе ніякавата. Заўважыла, што дзяўчаты, якія былі на танцпляцоўцы і карысталіся поспехам, зусім не ўсміхаліся, у многіх з іх былі сонныя, змрочныя твары, і яны зусім не ўсміхаліся.

Дзяўчаты і далей ішлі на танцпляцоўку. Некаторыя ў адчаі ішлі адна з адной. Але большасць ішла з хлопцамі. Тоўстыя дзяўчаты, дзяўчаты з прышчамі, бедныя, у якіх не было добрай сукенкі і таму апранутыя ў спадніцы і швэдары, але іх запрашалі, яны танчылі. Чаму запрашалі іх, а не мяне? Чаму хто заўгодна, толькі не я? У мяне аксамітная чырвоная сукенка, я накруціла валасы, папырскалася парфумай. Малі, падумала я. Вочы заплюшчыць я не магла, але паўтарала і паўтарала пра сябе калі ласка, калі ласка, мяне, мяне. Я сашчапіла пальцы за спінай у знаку, больш магутным за скрыжаванне, наш з Лоні сакрэтны знак, які мы выкарыстоўвалі, каб нас не выклікалі да дошкі па матэматыцы.

Не спрацавала. Тое, чаго я баялася, было праўдай. Мяне ніхто не запросіць. Нешта незразумелае было са мной, нешта, што нельга вытлумачыць непрыемным пахам з рота ці прышчамі, і ўсе гэта ведалі, і я гэта ведала. І я даўно гэта ведала. Але не была ўпэўнена, я спадзявалася, што памыляюся. Цяпер жа гэтая ўпэўненасць падступала як ваніты. Я накіравалася ў прыбіральню, дзе закрылася ў кабінцы.

Там я і засталася. У перапынках паміж танцамі дзяўчаты заходзілі і выходзілі. Кабінак было шмат і ніхто не заўважыў, што я там ужо доўга сяджу. Падчас танцаў я слухала музыку, якая мне падабалася, але не больш за тое, бо я не збіралася болей спрабаваць. Адзінае, чаго я хацела — гэта сядзець тут, а потым выбрацца адсюль і, нікога не бачачы, дабрацца дадому.

Адзін раз, калі музыка пачалася, хтосьці з дзяўчат застаўся ў прыбіральні. Яна доўга спускала ваду, мыла рукі, прычэсвала валасы, і, пэўна, магла здзівіцца, што я там так доўга. Мне лепш выйсці і пачаць мыць рукі, і магчыма, пакуль я буду іх мыць, яна сыдзе.

Гэта была Мэры Форчун. Я ведала ейнае імя, бо яна была капітанам дзявочай суполкі па атлетыцы, а таксама ў спісе лепшых вучняў школы, і ўвесь час нешта ладзіла. Яна абышла ўсе класы, шукаючы валанцёраў для ўпрыгожвання залы. Яна вучылася ў адзінаццатым ці дванаццатым класе.

«Тут так добра і прахалодна, — сказала яна, — я зайшла асвяжыцца, а то так спякотна».

Я ўжо скончыла мыць рукі, а яна ўсё яшчэ прычэсвала валасы. «А табе гурт падабаецца?» — пацікавілася яна.

«Нармальны», — я не ведала, што адказваць. Я здзівілася, што старэйшая дзяўчына марнуе свой час на размову са мной.

«А мне не. Ненавіджу танчыць, калі не падабаецца гурт. Паслухай. Яны увесь час збіваюцца. Ужо лепш не танчыць, чым танчыць пад такое».

Я пачала прычэсвацца. Яна абаперлася на ракавіну і стала назіраць за мной.

«Я не хачу танчыць і заставацца тут не тое, каб прагну. Хадзем папалім».

«Дзе?»

«Пайшлі, я пакажу».

У канцы прыбіральні меліся дзверы. Яны былі адчынены і вялі ў цёмную камору са швабрамі і вёдрамі. Яна загадала патрымаць дзверы, каб святло з прыбіральні змагло сюды патрапіць, потым намацала ручку іншых дзвярэй, якія адчыніліся ў цемру.

«Я не магу ўключаць святло, а то хто-небудзь пабачыць, — растлумачыла яна, — гэта пакой вартаўніка». Я падумала, што спартсмены заўсёды ведалі пра будынак школы больш за нас: яны ведалі, дзе захоўваць рэчы, і заўсёды выходзілі з самаўпэўненым і адчужаным выглядам адтуль, куды ўваход быў забаронены. «Асцярожна, — папярэдзіла яна, — там у канцы ёсць лесвіца. Яна вядзе ў камору на другім паверсе. Дзверы зачыняюцца зверху, але паміж лесвіцамі і пакойчыкамі ёсць своеасаблівы перасценак. Таму, калі мы сядзем на прыступках, нават калі раптам нехта сюды зойдзе, нас не пабачаць».

«А дым не адчуюць?» — спытала я.

«Ну, хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага».

Над лесвіцай было акенца, праз якое трапляла крыху святла. У Мэры Форчун у кайстрачцы былі цыгарэты і запалкі. Я раней не паліла, калі не лічыць цыгарэт, якія мы з Лоні рабілі самі з паперы і тытуню, што цягалі ў ейнага бацькі, але яны развальваліся пасярэдзіне. Гэтыя былі нашмат лепш.

«Адзіная прычына, чаму я сёння ўвогуле сюды прыйшла, — пачала Мэры, — гэта тое, што я адказваю за ўпрыгожванне залы, і я хацела пабачыць, як гэта ўсё будзе выглядаць, калі прыйдуць людзі. А інакш навошта? Мне да хлопцаў няма справы».

«Большасць дзяўчат не такія. Ты не заўважала? Самае вялікая колькасць дзяўчат, якія сохнуць па хлопцах, сабралася цяпер у школе».

Я была ўдзячная ёй за ўвагу, за кампанію і цыгарэту. Я сказала, што згодная з ёй.

«Ну вось, як сёння ўдзень. Я прасіла іх павесіць званочкі і ўсё астатняе, а яны замест гэтага дурэлі з хлопцамі. Ім увогуле было ўсё адно, ці будзе зала ўпрыгожана. Іх цікавіць толькі адно. Толькі адна мэта ў жыцці, дурыцца з хлопцамі. Па мне, дык яны ідыёты».

Мы размаўлялі пра настаўнікаў і школьныя справы. Яна сказала, што хоча быць настаўніцай фізкультуры і што для гэта ёй трэба паступіць у каледж, але ў бацькоў няма грошай. Яна сказала, што ўсё адно плануе прабіцца сама і што будзе працаваць у кавярні, а летам — на ферме, збіраць тытунь, напрыклад. Слухаючы яе, мне здавалася, што вострая фаза адчування сябе няшчаснай праходзіць. Побач са мной быў нехта, каму таксама не шчасціла, як і мне, але ў яе была энергія і павага да сябе. Яна думала пра іншыя рэчы, якімі можна заняцца. Яна была гатова збіраць тытунь.

Мы так размаўлялі і палілі падчас доўгага перапынку паміж танцамі, калі ўсе астатнія частаваліся пончыкамі і кавай. Як толькі музыка зайграла зноў, Мэры сказала: «Слухай, а што мы тут будзем сядзець. Можа, хадзем да Лі, вып'ем гарачага шакаладу і паразмаўляем спакойна?»

Мы навобмацак сталі выбірацца з каморы, несучы попел і недакуркі ў руках, каб выкінуць у туалет. Перад тым, як выйсці ў прыбіральню, мы прыслухаліся, каб упэўніцца, што там нікога няма. Нам давялося прайсці танцпляцоўку, каб дабрацца да гардэроба, які размяшчаўся ля ўваходных дзвярэй.

Танец толькі пачаўся. «Ідзі ўздоўж танцпляцоўкі, — сказала Мэры, — так нас ніхто не заўважыць».

Я пайшла за ёй. Я ні на кога не глядзела. Не шукала Лоні. Верагодна, мы з ёй больш не будзем сяброўкамі, прынамсі, не такімі, як раней. Яна была, як казала Мэры, павернута на хлопцах.

Я зразумела, што больш не баюся, — цяпер, калі рашыла забыцца на танцы, я не чакала, што хтосьці запросіць мяне. Мне не трэба было больш усміхацца ці скручваць пальцы на ўдачу. Мне было ўсё адно. Я збіралася пайсці піць гарачы шакалад з сяброўкай.

Нейкі хлопец нешта сказаў мне. Ён стаў у мяне на шляху. Я падумала, што ён кажа, што я нешта згубіла, ці што не магу прайсці тут, ці што гардэроб быў зачынены. Я не разумела, што ён запрашае мяне патанчыць, пакуль ён не паўтарыў сваю прапанову. Гэта быў Рэйманд Болтынг з нашага класа, з якім я ні разу ў жыцці не размаўляла. Ён падумаў, што я пагадзілася і паклаў свае рукі мне на талію. І неяк само сабой я пачала танчыць.

Мы прайшлі на сярэдзіну танцпляцоўкі. Я танчыла. Ногі мае больш не дрыжэлі, а рукі не патнелі. Я танчыла з хлопцам, які мяне запрасіў. Ніхто яму не загадваў рабіць гэтага. Ці было магчыма, ці магла я паверыць, што са мной усё было нармальна?

Я думала, што трэба яму сказаць, што гэта памылка, што я збіралася сыходзіць, што я ішла піць гарачы шакалад. Але я нічога не сказала. Мой твар пачаў паціху падладжвацца і без асаблівых намаганняў я набыла важны, адчужаны выгляд, тыповы для тых, каго запрашалі і хто танчыў. Менавіта такі твар і пабачыла Мэры Форчун, калі вызірнула з дзвярэй гардэроба, ейны шалік быў павязаны ўжо вакол галавы. Я махнула ледзь заўважна рукой, якая ляжала на плячы хлопца, даючы зразумець, што выбачаюся і што мяне чакаць няма сэнсу.

Рэйманд Болтынг праводзіў мяне дадому, а Лоні пайшла з Гаральдам Саймансам. Да павароту Лоні мы ішлі разам. Хлопцы спрачаліся пра хакей, але мы з Лоні мала што разумелі. Потым мы раздзяліліся, але Рэйманд працягнуў са мной размову, якую вёў з Гаральдам. Здавалася, што ён не заўважыў таго, што цяпер размаўляў са мной. Раз ці два я сказала: «Ну, я не ведаю, я не глядзела гульню», але потым вырашыла, што буду проста казаць мг і ага і, здавалася, гэта ўсё, што было патрэбна.

Потым ён сказаў: «Я і не думаў, што ты так далёка жывеш», і шмыгнуў носам. Праз холад я таксама пачынала шмыгаць носам, і ў кішэні, дзе былі абгорткі ад цукерак, я спрабавала намацаць сурвэтку. Я не ведала, ці даваць яе яму ці не, але ён шмыгаў так гучна, што ўрэшце я сказала: «У мяне ёсць сурвэтка».

«Дзякуй, — сказаў ён, — не зашкодзіла б».

Добра, што я так зрабіла, падумала я, бо ля маіх варот, калі я сказала: «Ну, дабранач» і пасля таго, як ён сказаў: «Так, дабранач», схіліўся да мяне і пацалаваў, хуценька, з выглядам, што ведаў сваю справу. Потым развярнуўся і пайшоў у бок горада, не здагадваючыся, што выратаваў мяне, забраўшы з тэрыторыі Мэры Форчун у звычайны свет.

Я абышла дом да задняга ўвахода, раздумваючы пра тое, што была на танцах, і што хлопец правёў мяне і пацалаваў. Усё гэта было сапраўды. Усё было магчыма ў маім жыцці. Я прайшла кухоннае акно і пабачыла там маці. Яна піла гарбату з кубка без сподачка. Яна сядзела і чакала, калі я вярнуся і распавяду ёй, што там адбывалася. А я і не распавяла б ніколі. Аднак, пабачыўшы кухню, сваю маці ў выцвілым кімано з арнаментам, яе заспаны твар, я зразумела, які загадкавы і гнятлівы абавязак ляжыць на мне: быць шчаслівай, і як я амаль не правааліла яго, а яна і не даведалася б.

***Пераклад з англійскай Вольгі ГАПЕЕВАЙ***

*Яўген БАРЫЧЭЎСКІ*

# ПАРАЎНАНЬНЕ Ў МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ*

## II

Параўнаньні сустракаюцца ва ўсіх відах мовы. У штодзённай мове нам прыходзіцца асабліва часта карыстацца параўнаньнямі ў тых выпадках, калі не хапае належнага адцягненага паняцьця. Так, напрыклад, у нашых мовах наогул ня існуе агульных паняцьцяў для вызначэньня пахаў. Дзеля гэтага, калі мы хочам адзначыць якасьць паху, мы параўноўваем з тымі ці іншымі прадметамі.

Для вызначэньня фарбаў, наадварот, існуе цэлы шэраг агульных паняцьцяў, як белы, чорны, чырвоны, сіні, жоўты і г. д., якія ўзьніклі ў выніку абагульненьня пэўных адзнак ад розных прадметаў, але і ў гэтай галіне ёсьць нямала вызначэньняў, якія яшчэ захоўваюць у нашай сьвядомасьці сувязь з канкрэтнымі зьявамі як, напрыклад, бэзавы, аліўкавы, пэрлямутравы, бірузовы. Апрача таго, мы нярэдка не здавальняемся існуючымі азначэньнямі ў форме адцягненых прыметнікаў і карыстаемся параўнаньнямі з пэўнымі зьявамі, параўнаньнямі, якія папаўняюць прабелы ў тых агульных азначэньнях, якія прапануе нам мова)[1].

Але і апрача такіх выпадкаў, калі без параўнаньня нельга абыйсьціся, звычайная гутарка любіць карыстацца імі. Асабліва часты ў ёй стэрэотыпныя параўнаньні, якія калісьці зрабілі ўражаньне сваёй трапнасьцю, увайшлі ў мову і сталі слоўнымі штампамі; іх прыклады: льлецца як з вядра, б’ецца як рыба аб лёд, працуе як вол, дрыжыць як асінавы ліст, глядзіць воўкам, ляціць стралой, зьнік як дым, скрывіўся як серада на пятніцу, стаіць як укопаны, наіўны як дзіця, моцны як дуб, нязграбны як мядзьведзь. Цяпер гэткія выразы сьцёрліся, ня робяць ніякага ўражаньня, але самае іх існаваньне і сталасьць у мове сьведчаць аб іх посьпеху. Вельмі часта сустракаюцца параўнаньні ў прыказках.

Нярэдка знаходзім параўнаньні і ў мове навуковай. Для яе асабліва характэрны параўнаньні, якія дапамагаюць зразумець тую ці іншую зьяву, тую ці іншую ісьціну шляхам зьбліжэньня ці адрозьненьня яе ад больш знаёмага слухачу ці чытачу. Гэткія параўнаньні маюць па сутнасьці мэту пэдагогічную. Функцыя такіх параўнаньняў — тлумачальная. Прыкладам можа служыць наступнае параўнаньне з К. Маркса. У прадмове «Да крытыкі палітычнай экономіі» ён зазначае наступную проблему: «Труднасьць ня ў тым, каб зразумець, што грэцкае мастацтва і эпос зьвязаны з пэўнымі грамадзкімі формамі разьвіцьця. Труднасьць — у зразуменьні таго, што яны яшчэ дагэтуль даюць нам мастацкую асалоду і ў пэўным сэнсе захоўваюць значэньне нормы і недасягнутага ўзору». К. Маркс падыходзіць да гэтага пытаньня з дапамогай наступнага параўнаньня: «Мужчына ня можа зноў зрабіцца дзіцём, ня робячыся сьмешным. Але ці-ж ня радуе яго наіўнасьць дзіцяці і ці-ж не павінен ён сам імкнуцца да таго, каб на больш высокай ступені выявіць сваю сапраўдную сутнасьць, і ці-ж у дзіцячай натуры не ажывае яго ўласны характар у няштучнай праўдзе? І чаму дзяцінства чалавечага грамадзтва там, дзе яно разьвілося прыгажэй за ўсё, не павінна быць для нас вечным хараством, як ступень, якая ніколі больш ужо не паўторыцца?»

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 12 за 2013 г.

[1] H. Henning. Das Erlebnis bei dichterschem Gleichnis und dessen Ursprung. — Zeitschrift für Ästhetik und allgemeine Kunstwissenschaft. Stuttgart XIII B.4 Heft.

Прычыну вельмі цікавай і неасьветленай зьявы ў галіне гісторыі культуры К. Маркс тлумачыць параўнаньнем з іншай зьявай, добра вядомай кожнаму з уласнага жыцьцёвага дасьведчаньня. Мы маем тыповае тлумачальнае параўнаньне, без якіх ня можа абыйсьціся ніводны мысьліцель.

Аб немагчымасьці абыйсьціся без параўнаньняў сказаў Гётэ:

Gleichnisse dürft ihr mir nicht verwehren,
Ich wüsste mich sonst nicht zu erklären.

Калі навуковая мова карыстаецца параўнаньнем, галоўным чынам, у мэтах тлумачальных, то для мастацкай мовы параўнаньне — сродак унесьці ў мову элемэнты выяўленчасьці[1] і настраёвасьці. Прыклады параўнаньняў з выяўленчай функцыяй:

Пачнем дакапывацца самі
Разгадку нашых крыўд і бед,
Што леглі цёмнымі лясамі
На нашай долі з даўніх лет *(Я. Купала).*

«Нібы карагодніцы, якія во-во пусьцяцца ў скокі, хвойкі рухалі зялёнымі, пругкімі рукамі-лапкамі» (З. Бядуля).

«Скрыпка шапоча нешта ціха, ціха, нібы вецер праходзіць па лісьцёх старага дубу. Гукі павольна мацнеюць, растуць. Яны вырываюцца з нявідочных замчышчаў цішыні, як дзікія гусі з захаванай аірамі затокі» (З. Бядуля).

«Узкая длинная коса походила на огромную башню, упавшую с берега в море» (М. Горкі).

«Далеко в море, как шрам на атласной груди его, виднелась коса» (М. Горкі).

«Собранне людей огромным серым ласковым зверем ложится у ног председателя» (Ю. Либединский).

Усе паданыя прыклады ўзяты з мастацкай літаратуры, але нярэдка такога тыпу параўнаньні можна сустрэць і ў іншых відах мовы, нават у навуковай. Паколькі выяўленчае параўнаньне часта конкрэтызуе адцягненую, складаную і нялёгкую для ўсваеньня думку, яно аблягчае разуменьне таго ці іншага пала-

**Калі без параўнаньня нельга абыйсьціся, звычайная гутарка любіць карыстацца імі. Асабліва часты ў ёй стэрэотыпныя параўнаньні, якія калісьці зрабілі ўражаньне сваёй трапнасьцю**

жэньня і, значыцца, як і тлумачальнае параўнаньне, можа мець значэньне пэдагогічнае ў шырокім сэнсе гэтага слова. Чытач навуковай кнігі, слухач лекцыі ці дакладу атрымлівае магчымасьць лягчэй успрыняць зьмест, адпачыць ад абстрактнасьці выкладу.

Зьвернемся да параўнаньняў з настраёвай функцыяй:

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць *(М. Багдановіч).*

Дрыжыць агонь, як плач прашчальны,
Дрыжыць агонь, забыты тут,
Скрозь мрок нямы, скрозь чорны мут,
Як звон жалобны, пахавальны,
Як лесьні голас разьвітальны,
Як струн дрыгучых ціхі гуд *(Я. Колас).*

«Иногда потрескивали сучья в огне, потрескивали и шипели, точно вздыхая, как-бы сочувствуя жизни двух людей, более мучительной, чем их смерть в огне» (М. Горкі).

Як відаць з паданых прыкладаў, настраёвыя параўнаньні вельмі часта маюць характар псыхолёгічны ці адцягнены. Яны сустракаюцца ня толькі ў мастацкай літаратуры, але і ў мове публіцыстычнай і мове жывой гутаркі.

Нярэдка настраёвасьць, наогул прысутная хаця-б у нязначнай меры ў большасьці вобразаў, дасягае асаблівай сілы на шляхох вострай і жывой выяўленчасьці, як можна бачыць з наступных прыкладаў:

Тыя-ж зоркі, бы дзяўчаткі,
Дзесь бягуць у свае хаткі, —
І апошні раз іх вочкі
Шлюць свой усьмех разьвітаньня,
Промень ласкі і каханьня, —
Да наступнай яснай ночкі *(Я. Колас).*

[1] Карыстаюся словам выяўленчасьць (адпавядае расійскаму слову изобразительность), а не маляўнічасьць (адпавядае расійскаму картинность): маляўнічасьць датычыць толькі зрокавых успрыняцьцяў, выяўленчасьць — успрыняцьцяў усіх органаў пачуцьцяў.

Страшнай зяўрай зьмея
Карыдор глядзіць *(Я. Колас).*

«Незаметно, как маленькая звезда на утренней заре, погас брат Коля» *(М. Горкі).*

«Упал двенадцатый час, как с плахи голова казненного» *(В. Маякоўскі).*

Такім чынам, тэорэтычна можна адрозьніваць тры функцыі параўнаньня: тлумачальную, выяўленчую і настраёвую.

Тлумачальнае параўнаньне ёсьць заўсёды зьвядзеньне менш знаёмага да больш знаёмага. Часта думалі, што гэта характарызуе параўнаньне наогул *(у расійскім літаратуразнаўстве — А. Потэбня, В. Пераверзеў).* Але гэта правільна толькі ў дачыненьні да тлумачальнага, а не да мастацкага параўнаньня, якое часта хоча ўзбудзіць фантазію, вызваць настрой і для гэтай мэты можа браць вобразы з далёкай ад нас рэчаіснасьці, вобразы, пакрытыя флёрам таямнічасьці, вобразы, узятыя з абсягаў мала знаёмых ці створаных фантазіяй[1] як можна бачыць з наступных прыкладаў:

...Твой голас — голас кветак *(Я. Колас).*

«Здавалася, што бор быў атулены вялізнымі шклянымі сьценамі, аб якія начныя гукі ўдараліся, выклікаючы зычныя паўторы, нібы нявідочныя струны нявідочнага музычнага інструманту» *(З. Бядуля).*

Паданыя прыклады сьведчаць аб тым, што вобраз параўнаньня можа і ня быць нечым больш вядомым і больш зразумелым, чымсі сам прадмет параўнаньня.

Больш істотным для мастацкага параўнаньня зьяўляецца тое, што яно вельмі часта далучае да аб’екту вобраз, які мае ці пэўную настраёвасьць ці, прынамсі, пэўнае эмоцыянальнае адценьне і выклікае да сябе тыя ці іншыя ацэначныя адносіны, што адпавядае задачы поэзіі даваць ацэначнае разуменьне сьвету. Калі аб’екты зьбліжаюцца з вобразам, дык тая ацэнка, якая захавана ў эмоцыянальным адценьні вобразу, у выніку іх зьбліжэньня пераносіцца і на об’ект. Такім чынам, пісьменьнік з дапамогай параўнаньня схіляе чытача на пэўную ацэнку людзей і жыцьця. Параўнаньні, якія маюць гэты ацэначны элемэнт, падзяляюцца на тыя, што ўзьвялічваюць зьяву, робяць яе дадатнай ці, наадварот, прыніжаюць яе, робяць адмоўнай.

Прыклады параўнаньняў, якія падкрэсьліваюць дадатную ацэнку об’екту:

І голас у любай — як ў лесе зьвінючай,
блiскучай крынічанькі
Сьпевы адвечныя *(А. Гарун).*

Юнацтва, маё ты юнацтва,
Ты вечна, як вечна й мастацтва!
Сягодня цябе я праслаўлю,
Бы радасьць за сонечнай дальлю *(Я. Пушча).*

«Память о матери питает в нас сострадание, как океан, безмерный океан питает реки, рассекающие вселенную» (І. Бабэль).

Прыклады параўнаньняў, якія падкрэсьліваюць адмоўную ацэнку:

Рэскрыпт цар надрэпаў,
Зьявіўся тут Трэпаў
Для ўсіх нечакана,
Як воўк з-за кургана *(Я. Колас).*

А чорны сум, як гад кальчаты,
Спыняе сэрца мерны ход *(А. Гарун).*

Вашу мысль, мечтающую
на размягченном мозгу,
Как выжиревший лакей
на засаленной кушетке,
Буду дразнить об окровавленный
сердца лоскут *(В. Маякоўскі).*

Пакуль што высьвятляліся толькі агульныя функцыі параўнаньня. Значна трудней даць формулёўку тым спэцыяльным функцыям, якія можа несьці параўнаньне ў

[1] У расійскай поэтыцы на гэтую зьяву ўпяршыню зьвярнуў увагу В. Шклоўскі, выказваючыся супроць поглядаў А. Потэбні. Між іншым ён спасылаецца на наступнае параўнаньне з вершу Тютчава, у якім даецца вобраз прыроды перад навальніцай:

Одни зарницы огневые,
Воспламеняясь чередой,
Как демоны глухонемые,
Ведут беседу меж собой.

Ясна, што «зарницы» усім нам больш знаёмы, чымсі «глухонемые демоны».

літаратурным творы, як адзін з мастацкіх компонэнтаў, што выконвае пэўную ролю ў поэтычнай композыцыі.

У некаторых відах літаратурнай творчасьці параўнаньне амаль ня ўжываецца, калі ня лічыць стэрэотыпных моўных параўнаньняў. З літаратурных жанраў, у якіх яно ня мае асаблівага значэньня, трэба назваць тыя віды апавядальнае прозы — будзе гэта новэля ці роман, — у якіх пануе дзелавая, сьціслая, хуткая па тэмпу, з якім разгортваюцца дзеі, апавядальнасьць, што часам зьмяняецца дыялёгамі, вольная як ад задач дэталізацыі, так і ад лірычных элемэнтаў стылю.

У тым выпадку, калі параўнаньні сустракаюцца ў літаратурным творы часта і маюць мастацкае значэньне, яны ствараюць як-бы другі рад вобразаў[1], які вызначаецца сваёй перапынкавасьцю і спорадычнасьцю[2].

Яны — прожэктар, якім аўтар ад часу да часу асьвятляе тыя зьявы, якія апісвае. У параўнаньнях праяўляецца аўтарскае выабражэньне і аўтарская ацэнка жыцьця: карыстаньне тымі ці іншымі параўнаньнямі не выцякае з бязумоўнай неабходнасьцю з самой прыроды даных у творы об’ектаў. Ва ўзятых параўнаньнях, праз прызму якіх адлюстроўваецца жыцьцё, праяўляецца псыхіка пісьменьніка, а значыцца, і тэй клясы ці грамадзкай групы, ад імя якой ён гаворыць.

Такім чынам, вобраз параўнаньня існуе для тэматычнага вобразу, для яго асьвятленьня, для яго ацэнкі. Аднак-жа, часам пісьменьнік забывае ў пэўнай меры аб гэтым яго службовым значэньні. Гэта мы бачым у так званых пашыраных параўнаньнях. Іх вобраз атрымлівае вялікую дэталізацыю, пашыраецца ў цэлы малюнак, атрымлівае як-бы самамэтнае значэньне і засланяе ў нашым выабражэньні об’ект. Гэткія параўнаньні часта называюцца гомэраўскімі; як вядома, яны зьяўляюцца вельмі частымі ў «Іліадзе» і яны вельмі адпавядаюць стылю гэтага твору, дзе дзеі як-бы плывуць на павольных доўгіх хвалях гэкзамэтру.

**Малюючы пэйзаж, аўтар дае параўнаньні для дрэваў, дарогі, колераў неба, пахаў зямлі, сьпеву птушак. Назавем гэткае ўжываньне параўнаньняў гняздом параўнаньняў**

У творах, якія маюць больш хуткі тэмп, такія параўнаньні былі-б дэструкцыйны. Але ў «Іліадзе» яны мастацкі апраўданы і глыбока абумоўлены соцыолёгічна. Думаецца, што пашыраныя параўнаньні асабліва характэрны для твораў, узьнікшых ва ўмовах патрыярхальнага побыту, зьвязаных з элемэнтарнымі формамі натуральнае гаспадаркі. Характэрна, што ў «Одысэі», дзе адлюстраваўся больш позьні момант грэцкае культуры, гэткія параўнаньні ўжо больш рэдкі.

Невыпадкова, што такія-ж самыя параўнаньні нярэдкі ў «Мёртвых душах» Гогаля, дзе статычны характар гэткіх параўнаньняў зусім адпавядае як статычнай структуры самаго твору, так і тэй грамадзкай псыхіцы і тэй экономіцы, якія ў ім адлюстраваліся. Прыкладам іх можа служыць наступнае параўнаньне:

«Маленькие глазки еще не потухли и бегали из-под высоко взросших бровей, как

[1] Ёсьць адзін выпадак, калі параўнаньні не даюць другога раду вобразаў, а толькі дапаўняюць апісваемую зьяву якою-небудзь дэтальлю. Прыклады з «M-me Бовары» Флёбэра:

«Яе думкі, упачатку нявыразныя, блукалі бяз мэты, як яе ляўрэтка, што кружыла па палёх, брэшучы на жоўтых матылькоў, ганяючыся за землярыйкамі і пашчыпваючы сьцяблы макаў на ускраіне збожжавага поля».

«Яна прыслухоўвалася да крокаў, бразгатаньня плугоў і застанаўлівалася, памярцьвелая і дрыжачая, як лісты тапалёў, што калыхаліся над яе галавой».

На абумоўленасьць вобразаў параўнаньня самой тэматыкай твору ці контэксту асаблівую ўвагу зьвяртаюць конструктывістыя. Гл. развažаньні аб лёкальным прынцыпе ў поэзіі і ў прыватнасьці ў параўнаньнях у кнізе К. Зелінскага «Поэзня как смысл». Масква, 1929, ст. 141—147, 152—154.

[2] Пэрыодычнасьць, пэўная законамернасьць у зьяўленьні параўнальных вобразаў — вельмі рэдкі прыём строфічнае поэзіі. Гл. верш З. Бядулі «Воля» ў яго зборніку «Пад родным небам».

**Зблiжэньне чалавека з прадметамі штодзеннага побыту робіць комічнае ўражаньне і выклікае сатырычную ацэнку пэрсонажу, які зьявіўся об'ектам такога параўнаньня. Гэтым прыёмам часта карыстаўся Гоголь**

мыши, когда, высунувши из темных нор остренькие мордочки, насторожа уши и моргая усом, они высматривают, не затаился ли где кот или шалун мальчишка, и нюхают подозрительно самый воздух».

Аўтар захапіўся апісаньнем мышэй, праўда, трэба думаць, вельмі шматлікіх у гаспадарцы Плюшкіна; дзякуючы гэтаму дадзены дэталі, якія ў некаторай меры засланяюць самы об'ект параўнаньня.

Такую для характарыстыкі об'екту занадта багатую дэталізацыю вобразу мы маем у наступным прыкладзе з Я. Коласа, хаця, дзякуючы пабудове сказу, об'ект не засланяецца зусім вобразам і толькі ўступае яму першае месца:

Як дзьве старэнькія кабеткі,
Да якіх старасьць неўзаметкі
Падкраўшысь злодзеем срэдзь ночы,
Як смачны сон змыкае вочы,
Красу і крэпасьць забірае
І ўсю іх жывасьць выкрадае,
Ды кіне іх, адных, старэнькіх,
Адных, як шрат, і чуць жывенькіх
І непатрэбных анікому
На цягасьць жыцьцю маладому, —
Так каля хатачкі ў садочку,
Схіліўшысь ціханька ў куточку,
Стаялі дзьве вярбы старыя,
А навакола маладыя
Дзярэўцы пышна красавалі,
На сьвет вясёла пазіралі.

Ад дэталізаванага вобразу параўнаньня, што затрымлівае ўвагу на самім сабе, трэба адрозьніваць такія разгорнутыя параўнаньні, дзе дэталі вобразу могуць і павінны быць аднесены чытачом і да прадмету параўнаньня, у якім усе дэталі вобразу знаходзяць сабе адпаведнасьць. Прыкладам можа служыць параўнаньне з апавяданьня А. Гаруна «Пьеро і Колёмбіна», у якім галасы дзяцей на дзіцячым вечары ў залітай сьветам залі выклікаюць наступны вобраз:

«Цененькія галасочкі, як шчэбет дробнага птаства, зьліваючыся ў адзін гул, твораць уражаньне пекнага летняга паранку ў лесе, калі маленькія вясёлыя цэладзенныя гаротнічкі сьпяшаюць памаліцца міламу слонцу за тое, што яно дало ім дзень, вясёлы характар і пекныя галасы».

Такое параўнаньне, хаця-ж і затрымлівае тэмп твору, але не адводзіць у бок і прымушае прадумаць у дэталях і адчуць абодва вобразы — і об'ектны і параўнальны — у пляне таго супастаўленьня, якое зроблена аўтарам[1].

Насычанасьць тэксту параўнаньнямі часта сустракаецца яшчэ і ў тых выпадках, калі аўтар характарызуе імі адзіны об'ект — портрэт, пэйзаж ці жыцьцёвы малюнак, прычым параўнаньні адносяцца да паасобных частак гэтага об'екту, напрыклад, малюючы пэйзаж, аўтар дае параўнаньні для дрэваў, дарогі, колераў неба, пахаў зямлі, сьпеву птушак. Назавем гэткае ўжываньне параўнаньняў гняздом параўнаньняў. Прыклад гнязда параўнаньняў у портрэце ня вельмі прыгожага вурадніка старых часоў:

Вусы вурадніка тырчэлі, як у ката. Твар быў круглы, як качан капусты. Нос чырвоны, як бурак. Як два сьлізкія казённыя арлістыя гузікі, блішчэлі яго вочы. Як брудная кіпучая вада ў гаршку, бурлілася з яго глоткі хрыпла-п'яная няпрыстойная лаянка. *(З. Бядуля).*

Другі выпадак, калі параўнаньне выступае як концэнтруючы на сабе ўвагу прыём стылю, гэта — калі да прадмету, які ўваходзіць у тэму твору ці данага яго ўрыўку, даецца цэлы рад вобразаў параўнаньня. Прадмет зьяўляецца як-бы ніткай, на якую, як пацеркі, нанізваюцца параўнальныя вобразы. Назавем гэткія параўнаньні нізкай параўнаньняў: прыём — асабліва характэрны для лірычнага стылю. Папаўшы ў псы-

[1] Аб параўнаньнях, якія дарысоўваюць об'ект, гл.: А. Потебня, — «Из записок по теории словесности», Харьков, 1905, ст. 295.

хічны сьвет пісьменьніка, тэма прыводзіць яго ў хваляваньне, прабуджае ў ім фантазію, выклікае цэлы рад вобразаў, часта з зусім розных галін. Прыклад:

Надакучыла-ж зіміца.
Прыхадзі хутчэй, вясна:
Ты — крылатая зарніца,
Ты — прызыўная струна,
Ты — дзяўчынка-чараўніца,
Ты — прыветна, ты ясна,
Гучнай радасьці паўна;
Ты — надзей і мар злучэньне,
Ты — гром песень, цішыня,
Ты — надзорнае імкненьне,
Ты — прастору шырыня,
Ты — прыгожасьць лятуценьня,
Ты — развага-глыбіня,
Усьмех радаснага дня *(Я. Колас).*

Значную ролю адыгрывае параўнаньне тады, калі яно выступае як заключэньне твору, — прыём, які асабліва часта сустракаецца ў поэмах і лірычных вершах. Заключнае параўнаньне можа разгортвацца як паралельны да тэмы вобраз (гл. сонэт М. Багдановіча «Прынадна вочы зьзяюць да мяне» ў акадэм. выданьні, № 61). У расійскай літаратуры прыкладам канцовага параўнаньня можа служыць параўнаньне з параненым жоравам у канцы «Цыган» Пушкіна (перад эпілёгам), ці вядомы верш Някрасава «Внимая ужасам войны», прысьвечаны маткам, якія страцілі сваіх сыноў на вайне:

Им не забыть своих детей,
Погибших на кровавой ниве,
Как не поднять плакучей иве
Своих поникнувших ветвей...

У даных выпадках канцовыя параўнаньні маюць толькі ілюстрацыйны характар, але яны могуць надаваць вершу зусім новы сэнс і глыбіню (гл. верш М. Багдановіча «Пачуцьцю цёмнаму падлеглая», у акадэмічным выданьні, № 186). Часамі верш здаецца пры чытаньні нічым іншым як об'ектнай — ці апісальнай ці апавядаючай аб якіх-небудзь здарэньнях — лірыкай, але вобраз параўнаньня, які даецца ў другой палове ці ў заключэньні, пераводзіць увесь верш у плян філёзофскага вершу, нярэдка элегіі. Вобраз параўнаньня ў гэтых выпадках сэнсава і эмоцыянальна пераважвае об'ект і становіцца асноўным мотывам вершу, а ўвесь малюнак, які быў дадзены раней, атрымлівае сэнс сымболічны. Неабходнасьць гэткага пераводу вершу ў іншы сэнсавы плян яскрава выступае ў вядомым сонэце М. Багдановіча «Паміж пяскоў эгіпэцкай зямлі». Вобраз, які быў дадзены ў пачатку вершу як самастойны (здарэньне з знойдзеным у эгіпэцкай магіле зернем), атрымлівае значэньне дапаможнае, сымболічнае: асноўным тэматычным вобразам аказваюцца думкі поэты аб будучыне Беларусі. Таксама пабудаваны і верш М. Багдановіча «Халоднай ноччу» (№ 143), «Зразаюць галіны таполі адна за адной» (№ 145), «Ня блішчыць у час зьмярканьня» (№ 149). У форме строгага паралелізму, які распаўсюджваецца нават на сынтаксычную пабудову, напісаны верш «Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы» (№ 158).

Выключнае значэньне часта атрымлівае параўнаньне ў афорызмах і невялікіх лірычных вершах. Зразумела, што да такіх параўнаньняў ставяцца асабліва высокія запатрабаваньні: яны павінны быць зусім новымі, орыгінальнымі і глыбокімі, што апраўдала-б іх самастойнае існаваньне. Вось прыклад такой, прысьвечанай параўнаньшо лірычнай мініятуры з нямецкага поэты Пэтэра Гільле:

Хлопчык.

«Яго вочы — пара вараных коняй, што ляцяць у жыцьцё. Ён ледзь стрымлівае іх повадам, над усімі гэроямі гэрой. Далёк твой сон, па-за прасторамі твой сьвет».

Прыкладам вершаў, у якіх параўнаньне выконвае выключную функцыю, можа служыць наступны верш З. Бядулі:

Пяе струна натхнёная,
Варожыць на начы,
Ад шчасьця млею, стогну я,
О, сэрца, не маўчы...

Папера — поле белае
Для літараў-зярнят.
Шчыр-думкі сею сьмела я,
Я — сейбіт, я — багат.

Радкі — барозны роўныя
Вяду сахой — пяром.
Ратайскай сілай поўны я,
Магутнаю, як гром.

Задачу даць нізку параўнаньняў да тэматычнага вобразу ставіць сабе верш З. Бядулі «Сьнег» у яго зборніку «Пад родным небам».

Зробленыя намі назіраньні намячаюць толькі некаторыя асабліва яскравыя выпадкі карыстаньня параўнаньнямі ў літаратурных творах. Чым больш мастацкім зьяўляецца параўнаньне, тым большую ролю можа яно выконваць у літаратурным творы, як цэлым.

М. Валошынавым напісаны вельмі каштоўны артыкул, у якім літаратурны твор разглядаецца як крышталізацыя социяльных узаемаадносін аўтара, гэроя і чытача твору[1]; лепш было б сказаць — аўтара, об'екту і ўспрымальніка.

Гэтыя тры элемэнты вызначаюць і выбар параўнаньняў: іх выбар залежыць ад пісьменьніка, які выражае пэўную клясавую псыхіку, залежыць ад об'екту, які павінен быць параўнаньнямі ахарактарызаваны, залежыць ад чытача, з якім пісьменьнік ня можа ня лічыцца, калі хоча мець на яго пэўны ўплыў. Такім чынам, параўнаньне пад пяром пісьменьніка зьяўляецца сродкам выявіць яго адносіны да жыцьця, што ён малюе, адносіны, якімі пісьменьнік хоча заразіць і чытача.

Так у апавяданьні А. Чэхава «В овраге» чытач падрыхтоўваецца да пэўнай ацэнкі галоўнай дзеючай асобы наступным чынам. Аксіньня зьяўляецца ў урачысты дзень у сьветла-зялёным з жоўтай устаўкай гарнітуры і з шлейфам. У гэтым убраньні яна выклікае наступнае параўнаньне:

«В этих немигающих глазах и в маленькой головке на длинной шее и в ее стройности было что-то змеиное; зеленая, с желтой грудью, с улыбкой, она глядела, как весной из молодой ржи глядит на прохожего гадюка, вытянувшись и подняв голову».

Гэтае параўнаньне, як пэўны лейт-мотыў, паўтараецца:

«Аксинья ездила туда почти каждый день в тарантасе; она сама правила и при встрече со знакомыми вытягивала шею, как змея из молодой ржи, и улыбалась наивно и загадочно»[2].

Такімі параўнаньнямі аўтар дае ацэнку таго жыцьця і тых людзей, якіх выводзіць. Вывучэньне параўнаньняў, як сродку даць ацэнку прадстаўленай у творы рэчаіснасьці з пункту погляду пэўнай клясы ці социяльнай групы, і зьяўляецца аднэй з задач той социолёгічнай стылістыкі, пабудова якой зьяўляецца неабходнай для марксыцкага літаратуразнаўства.

## III

Выбар пісьменьнікам тых ці іншых параўнаньняў абумоўлены як самым об'ектам выяўленьня, так і прыродай пісьменьніка і той клясы ці групы грамадзтва, якая яго сформавала. Застановімся на першым відзе абумоўленасьці. Часта назіраецца мастацка вельмі ўгрунтаванае імкненьне пісьменьніка браць для параўнальных вобразаў прадметы і зьявы, якія недалёка ляжаць ад самага об'екту апісаньня. Так калі Лермантаў у сваім романе «Герой нашего времени» выкарыстоўвае ў параўнальных вобразах фаўну Каўказу, дык гэта надае апавяданьню належны фон: чытач жывей успрымае прыроду той краіны, у якой разгортваюцца дзеі. Параўнальныя вобразы тут у пэўнай меры як-бы дыктуюцца аўтару самымі об'ектамі яго выяўленьня.

---

[1] «Слово в жизни и слово в поэзии», «Звезда», 1926, № 6.

[2] Радзей сустракаюцца і маюць меншае значэньне параўнаньні, якія ставяць сваёй мэтай папярэдзіць аб ходзе падзей, як, напрыклад: «Пылание заката разлилось над ним малиновое и неправдоподобное, как надвигающаяся смерть» (І. Бабэль). У романе «M-me Бовары» Флёбэра падкрэсьлены адпаведнымі параўнаньнямі моманты сюжэту — пэрыпэтыя, набліжэньне катастрофы, фінальная сцэна:

«Эмма ня вытрымала, пабегла ў сталовую — як-быццам для таго, каб аднесьці туды абрыкосы, перакуліла кош, разрыла паперы, знайшла ліст, расьпячатала, і — нібы за яе сьпіной заняўся пажар — поўная жуду кінулася ў свой пакой».

Пры катастрофе ўспаміны ўрываюцца ў сьвядомасьць гэроіні, «як тысячы ракет фэйервэрку». Наступіўшы за гэтым яе душэўны стан раўнаецца са стогнам параненых на сьмерць, што адчуваюць у агоніі, як жыцьцё пакідае іх разам з кроўю, якая цячэ з ран. У фінальнай сцэне Эмма чуе толькі жалобу сэрца, няясны стогн, «падобны да апошняга рэха сымфоніі, што адыходзіць у даль».

Уплыў на характар параўнаньняў мае ня толькі асяродзьдзе, якое апісваецца, але і самыя пэрсонажы твору. У драме аўтар наогул як-бы адмаўляецца на карысьць іх ад свайго слова. Вельмі часта ў мове дзеючых асоб, іх монолёгах і дыялёгах мы можам сустрэць параўнаньні, характарызуючыя як тыя зьявы і людзей, аб якіх ідзе гутарка, так і тых, у вусны каго яны ўкладзены[1]. Гэта датычыцца таксама і недраматычных жанраў, асабліва эпікі, паколькі ў іх уводзяцца монолёгі і дыялёгі. Але і апрача таго ў эпіцы аўтар вельмі часта дае апісаньне жыцьця і яго зьяў, становячыся на пункт погляду той ці іншай асобы. Ясна, што ў такіх апісаньнях і параўнаньні будуць дадзены ня з пункту погляду аўтара, а з пункту погляду яго пэрсонажаў.

Другі від абумоўленасьці, які мы зазначылі, гэта абумоўленасьць параўнаньняў асобай пісьменьніка, яго соцыяльнай прыродай. Соцыяльная прырода пісьменьніка шчыльна зьвязана з чытачом, да якога ён зварачаецца. У тым, што пісьменьнік ня можа пісаць, не прадстаўляючы сабе свайго магчымага чытача і не орыентуючыся на яго, на яго разуменьне, яго густы, асабліва яскрава выступае яго соцыяльнасьць. Абумоўленасьць параўнаньняў соцыяльнай прыродай пісьменьніка, а, значыцца, і яго чытача, яскрава выступае ў тых відах параўнаньняў, у якіх аўтар супастаўляе об'ект з тым, што яму і яго чытачу асабліва блізка і вядома. Гэткі від параўнаньняў дае вельмі ўдзячны матар'ял для таго, каб меркаваць аб аўтары і яго клясавай прыналежнасьці. Веды, жыцьцёвае дасьведчаньне, інтарэсы, густы, імкненьні, агульны настрой клясы ці грамадзкай групы, да якой належыць пісьменьнік, адлюстроўваюцца ў яго параўнаньнях. Непасрэднае імкненьне прыблізіць об'екты апісаньня да сябе і свайго чытача прыводзіла да таго, што пісьменьнікі дваранскай клясы і груп, што знаходзіліся пад яе ўплывам, малюючы прыроду, пераносілі на яе свае соцыяльна-палітычныя, рэлігійныя і пабытовыя прадстаўленьні. Сялянскі поэта Я. Колас пераносіць на прыроду ў сваіх параўнаньнях і мэтафарах прадстаўленьні, узятыя з сялянскага побыту, а таксама з побыту абшарнікаў, як яго ўспрымаў селянін. Для літаратуры буржуазіі, асабліва эпохі яе росквіту, вельмі характэрны частыя параўнаньні прыроды з рэчамі матар'яльнай культуры, што тлумачыцца тым культам рэчаў, які грае вялікую ролю ў псыхіцы гэтае клясы.

Пролетарская поэзія, чым больш яна разьвінаецца, тым больш пераносіць на прыроду прадстаўленьні, узятыя з жыцьця, працы і соцыяльнага змаганьня пролетарыяту[2]. Яскравым прыкладам зьяўляецца верш М. Герасімава «Митинг», у якім знаходзім апісаньне прыроды з дапамогай вобразаў з нашага грамадзка-палітычнага жыцьця:

Как собравшиеся в клуб на митинг,
Перешептывались кусты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Но вот в отдалении рампа сверкнула, —
Заговорил оратор-гром.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

И, когда утренним светом
Золотой свиток лег, —
Резолюцию за власть Советов
Вынес восток.

Адлюстроўваецца ў параўнаньнях і характар адукацыі данае клясы ці групы. Так, клясычная адукацыя вышэйшай клясы ў мінулыя часы прыводзіла да пашыранасьці антычных міталёгічных параўнаньняў і ўвасабленьняў у поэтаў. Цікавасьць поэтаўнашаніўцаў да вуснае творчасьці прывяла ў поэзіі З. Бядулі да вялікай колькасьці параўнаньняў і мэтафар, узятых з беларускае міталёгіі.

[1] Так Пушкін намячае жыцьцёвую ўстаноўку Сальеры як музыканта, які захоплены сьваім мастацтвам і ў той-жа час падыходзіць да яго аднабакова-аналітычна, тым, што ўкладае ў вусны гэтага пэрсонажу ў першым-жа сказе яго аўтобіографічнага монолёгу параўнаньне: «Для меня так это ясно, как простая гамма».

[2] Вызваленьне ад уплыву літаратурных традыцый, а таксама і ўплыву іншых клясаў патрабуе ад пролетарскіх пісьменьнікаў вялікай працы над сабой. Гэтае вызваленьне адбываецца на нашых вачох, але яшчэ далёка ня скончылася. Аб гэтым — О. Полторацький. До питания пра «образовість» поезії, «Життя и революція, 1927, № 2.

Густы і імкненьні клясы, да якой належыць пісьменьнік, вызначаюць выбар тых ці іншых параўнаньняў. Так, зьвязаны з вышэйшай клясай ангельскі пісьменьнік О. Уайльд, калі дае поэтычную ідэалізацыю об'ектаў свайго выяўленьня, уводзіць у параўнальныя вобразы прадметы раскошы: каштоўныя каменьні, ядвабы, сланёвую косьць, люстры, краскі, — апошнія переважна не сярод прыроды, але ва ўмовах багатага жыцьця. Гэтыя параўнаньні сьведчаць аб тым, што пісьменьнік быў захоплены той раскошай, тым эстэцтвам, якое складае зьмест жыцьця вышэйшых клясаў, калі яны дасягнулі сваёй мэты і жывуць за кошт іншых клясаў, бяз працы і клопату, у сьвеце гэдонічна ўспрынятых мастацтваў і асалоды.

Вернемся да фаўнічных вобразаў Лермантава. Яны, як мы зазначалі, добра ўвязваюцца з тэматычнымі вобразамі ў адзін малюнак, але імкненьне аўтара браць для параўнаньняў дзікіх і драпежных зьвяроў і птахаў, пры гэтым зусім не для адмоўнай ацэнкі об'ектаў апісаньня, як гэта мы назіраем у іншых пісьменьнікаў, а часам нават у мэтах некаторай поэтычнай ідэалізацыі, зьвязана з тым, што аўтар, крайні індывідуалісты, быў прадстаўніком дэклясаванай часткі той клясы, распад якой ішоў хуткім тэмпам. Адсюль яго своеасаблівы «адыход ад грамадзтва», які адлюстроўваўся ў параўнаньнях вобразамі дзікай і драпежнай фаўны, што адпавядала мяцежнай і бурлівай псыхіцы пісьменьніка. Існаваўшае ў першым тэксьце роману параўнаньне галоўнага гэроя з тыграм, параўнаньне, ужо ня ўзятае з прыроды Каўказу і потым аўтарам выкрэсьленае, асабліва сьведчыць аб гэтай тэндэнцыі яго параўнальных вобразаў.

Вялікае значэньне маюць параўнаньні як сродак амаль што няпрыметнага накіраваньня чытача на пэўную ацэнку пэрсонажаў і апісанага жыцьця, ацэнку, якая ўласьціва той клясе ці групе, прадстаўніком якой зьяўляецца пісьменьнік. Гэтаму боку параўнаньня прысьвечаны цікавы артыкул Ж. Эльсбэрга — «Сравнения и метафоры как классовая образовая оценка об'екта описания»[1]. Яго асноўны пункт погляду сформуляваны наступным чынам: «Социальная тенденция всегда содержит в себе, только в весьма различной пропорции, элементы возвеличения или унижения описываемого, любовного или ненавидящего отношения к последнему. Суммируя все это и можно сказать, что сравнения и метафоры являются, в сущности, классовой оценкой описываемого на художественно-образовом языке данной классовой группировки, или, короче говоря, сравнения и метафоры являются классовой, образовой оценкой об'екта описания».

Мэтодолёгічная ўстаноўка, запрапанаваная Ж. Эльсбэргам, зьяўляецца важнай і каштоўнай, але ён занадта абагуліў свае назіраньні. Значная колькасьць выяўленчых параўнаньняў, не гаворачы ўжо аб тлумачальных, не зьмяшчае ў сабе ніякай ацэнкі. У рэчаіснасьці ацэначны момант з усіх параўнаньняў маюць дзьве, праўда, вельмі пашыраныя групы.

Першую групу складаюць параўнаньні, у якіх ацэнку дае па сутнасьці эпітэт, што выконвае ролю пункту параўнаньня, прычым вобраз мае сваёй мэтай ці ўзмацніць эпітэт ці праілюстраваць яго. Вывучэньне эпітэтаў, якое да гэтага часу вялося толькі з формальнага пункту погляду, стане, калі будзе пераведзена на социолёгічныя рэйкі, вельмі важным для разуменьня псыхоідэолёгіі пісьменьніка і яго клясавай сутнасьці. Разглядаючы эпітэты пісьменьніка, мы разумеем, з якога пункту погляду ён глядзіць на сьвет, а паколькі эпітэты часта захоўваюць у сабе пэўны эмоцыянальны тон, мы бачым, з пункту погляду якіх каштоўнасьцяй ацэньвае аўтар жыцьцё. Паколькі эпітэты часта ўваходзяць у параўнаньне ў якасьці пункту параўнаньня, распрацаваная социолёгічная тэорыя эпітэту стане карыснай і для тэорыі параўнаньня. Што кожны клясавы стыль мае сваю эпітэтолёгію, можна бачыць на сымболізьме, як стылі буржуазіі эпохі яе заняпаду, эпітэты якога носяць, галоўным чынам, сузіральны, то мэлянхолічны, то ўзьняты характар[2], тады як эпітэты пролетарскае

---

[1] «Октябрь», 1927, № 1.

[2] Выключэньнем зьяўляецца В. Брусаў, але характэрна, што якраз ён з большай рашучасьцю, чымсі хто з сымболістых, парваў і з буржуазіяй і з сымболізмам і вышаў на шлях Кастрычнікавай рэволюцыі.

поэзіі маюць у сваіх ацэначных момантах актыўны характар.

Другую групу параўнаньняў, якія зьяўляюцца сродкам ацэнкі об'ектаў, складаюць тыя, у якіх вобраз параўнаньня зьвязаны з тым ці іншым эмоцыянальным тонам. Самае супастаўленьне двух прадметаў незалежна ад вызначаных пунктаў параўнаньня ўжо выклікае рад асоцыяцый. Гэтыя асоцыяцыі могуць быць па-за сьвядомымі ці, прынамсі, слоўна нявыяўленымі, дзеля чаго мы і назавем іх ірацыянальнымі элемэнтамі параўнаньня. Яны вельмі часта выклікаюць пэўную эмоцыю. Так збліжэньне чалавека з прадметамі штодзеннага побыту робіць комічнае ўражаньне і выклікае сатырычную ацэнку пэрсонажу, які зьявіўся об'ектам такога параўнаньня. Гэтым прыёмам часта карыстаўся Гоголь. Прыклады:

«Помещик Манилов, еще человек не пожилой, имевший глаза сладкие, как сахар».

«Дыхание его переводилось с трудом, и когда он попробовал приложить руку к сердцу, то почувствовал, что оно билось, как канарейка в клетке».

«Под'езжая к крыльцу, он заметил выглянувшие из окна почти в одно и то же время два лица: женское в чепце, узкое, длинное, как огурец, и мужское, круглое, широкое, как молдаванские тыквы, называемые горлянками, из которых делают на Руси балалайки».

«Весь подбородок с нижней частью бороды походил у него на скребницу из железной проволоки, какою чистят на конюшне лошадей».

Калі аўтар выводзіць розныя пэрсонажы, да якіх у яго адносіны неаднолькавыя, то і яго параўнаньні могуць быць падзелены па свайму эмоцыянальнаму тону на адпаведныя групы. Прыкладам можа служыць роман Флёбэра «M-me Бовары». Як вядома, Флёбэр бараніў тэорыю об'ектыўнага мастацтва і імкнуўся ў сваім романе не выяўляць сваіх асабістых сымпатый і антыпатый. Аднак-жа, аналіз яго стылю і ў прыватнасьці яго параўнаньняў ускрывае нам пэўны эмоцыянальны тон як у дачыненьні да галоўнай гэроіні, так і да прадстаўнікоў наўкольнага асяродзьдзя. Гаворачы аб сваёй гэроіне, аўтар бярэ параўнаньні, узятыя з

**У адным лісьце Флёбэр прызнаўся, што m-me Бовары — гэта ён сам. Аб гэтым сьведчыць ня толькі ліст, але і сам твор**

прыроды, часта з зьяў, у якіх ёсьць нешта непераможнае, стыхійнае, прызначанае, што выклікае да сябе ўвагу; параўнаньне пачуцьцяў гэроіні, яе душэўнага стану з гэтымі зьявамі настройвае на ўдумлівыя, прасякнутыя сымпатыяй адносіны да яе:

«Як матросы перад пагібельлю, яна акідвала безнадзейным поглядам сваё пустэльнае жыцьцё, адшуквала ў далечы белы парус».

«Яна адчувала сябе мяккай і слабой, кінутай, як пушынка ў буру, папаўшай у віхор».

«Яе мары, упаўшыя ў гразь, як падбітыя ластаўкі».

«У яе вачох дрыжэлі сьлёзы, як кроплі дажджу пасьля буры на сіняй кветцы».

Тое, што ўнесла Эмма ў жыцьцё шчыра закаханага ў яе, але беднага розумам і здольнасьцямі мужа, выклікае ў аўтара такое параўнаньне:

«Гэта было як-бы залаты пыл, якім была абсыпана на ўсім працягу вузкая сьцежка яго жыцьця».

«Залаты пыл» і «вузкая сьцежка», — у гэтых двух параўнальных вобразах дадзена з чыста-мастацкай трапнасьцю характарыстыка m-me Бовары і яе мужа і схоплена сутнасьць іх узаемаадносін.

Іншым эмоцыянальным тонам прасякнута параўнаньне, якое дае аўтар тыповаму прадстаўніку провінцыяльнай буржуазіі — аптэкару Омэ пры першым яго зьяўленьні:

«Твар яго выражаў адно толькі самазадаваленьне, і ён глядзеў на жыцьцё з такім-жа спакоем, з якім шчыгол, што вісеў над яго галавой, глядзеў на сваю клетку з вярбовых пруткоў: то быў аптэкар».

Гэтым параўнаньнем аўтар як-бы выдаў новаму пэрсонажу ацэначны пашпарт, які захоўвае сваё значэньне на працягу ўсяго твору.

Сваё асьвятленьне і ацэнку чацьвертаму пэрсонажу, Родольфу, аўтар дае ў наступным параўнаньні:

«Асалоды, нібы школьнікі, што дзень-у-дзень сваволілі на школьным двары, так вытапталі яго душу, што ніводзін парастак сьвежай зелені ўжо ня мог у ёй прабіцца і ўсё, што ні праходзіла праз яе, — яшчэ з большай лёгкамысьнасьцю, чымсі дзеці, — не пакідала на памяць нават імені, пісанага на сьцяне».

У адным лісьце Флёбэр прызнаўся, што m-me Бовары — гэта ён сам. Аб гэтым сьведчыць ня толькі ліст, але і сам твор. Тоеснасьць соцыяльнага аблічча аўтара і гэроіні, іх аднолькавыя адносіны да буржуазнага асяродзьдзя француская провінцыі ўскрываюцца з самага аналізу стылю, у якім выдатную ролю выконваюць ужытыя ў творы параўнаньні.

Флёбэр пісаў у адным лісьце, што калі ён працаваў над гэтым романам, то параўнаньні пажыралі яго, сказы кішэлі імі, але ён вёў барацьбу з параўнаньнямі, выкрэсьліваў іх. Ідэалу «об'ектыўнага мастацтва», які меў Флёбэр, карыстаньне імі, сапраўды, супярэчыла, але зусім выкрэсьліць іх ён усё-ж ня здолеў, як ня здолеў наогул зьнішчыць ацэначныя момэнты ў асьвятленьні таго жыцьця, якое ён апісваў: бяз гэтых ацэначных момэнтаў ня можа існаваць мастацкая літаратура і бяз іх яна ня выконвала-б той вялікай соцыяльнай функцыі, якая дае літаратуры і сэнс і самае права на існаваньне.

У беларускай літаратуры жыцьцёвы настрой, уласьцівы пісьменьніку, як прадстаўніку пэўнае клясы ў пэўны пэрыод, яскрава адлюстроўваецца ў параўнаньнях Я. Коласа. Уяўляючы сялянскае жыцьцё дарэволюцыйнага пэрыоду, малюючы вясковыя пэйзажы, поле, хату хлеў, дрэвы, Я. Колас параўноўвае зьявы, якія ён апісвае, з сіратамі, удовамі, старымі кабетамі, г. зн. з усім тым, што можа выклікаць у чытача пачуцьцё літасьці і суму. Аўтару ня прыходзіцца далёка хадзіць за вобразамі сваіх параўнаньняў: гэтыя сіроты, удовы, убогія знаходзяцца тут-жа, — каля гэтых-жа хат, у гэтых-жа палёх, каля гэтых-жа дрэў[1]. Па сутнасьці, хаты, хлявы, поле зьяўляюцца мэтоніміямі, якімі характарызуецца тое чалавечае жыцьцё, якое праходзіць сярод гэтых прадметаў, і, значыцца, вобразы параўнаньняў раскрываюць сэнс гэтых мэтонімій і паказваюць на асноўную тэму аўтара. Прыклады:

Поле ціхае маўчыць
Сіратой забытай.

На саломцы тонкай
У траве густой
Сьпее адзінокі
Колас сіратой.

Між узгоркаў над ракою
Выглядае сіратою
Наша беднае сяло.

Цесна зьбіты нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар.

Збоку вербачкі крывыя,
Бы кабецінкі старыя,
Нуднай кучкаю стаяць.

І хвоі-суседкі і смутныя елкі,
Бы ўдовы, стаўпіліся тут.

Замялі дарогі
Ветрыкі сьнягамі.
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі,
Апусьціў галіны
І стаіць журботна.

[Месяц] Смутны вартаўнік
Цёмных шатаў ночы
Засароміўся і зьнік
Бляск яго сірочы.

Прытуліўся хлеўчык з боку,
Як дзіця да маткі.

На краю сяла глухога
Паміж ліп разложных
Прытуліўся дом убога,
Як жабрак набожны.

Даль нямая з-за туманаў
Сіраціна глядзіць.

«Гэты высокі пануры крыж і гэта закінутая сярод палескіх трушчобін школа стаялі, як сіроты, і, здавалася, цесна туліліся адно да другога, як-бы ў іх была адна доля».

---

[1] Іншыя вобразы выбірае Я. Колас для дрэў, калі ён бярэ іх не як элемэнт сялянскага побыту, а як зьяву прыроды: тады пунктамі параўнаньня зьяўляюцца магутнасьць, стромкасьць і т. п.

Пунктамі параўнаньня для ўсіх гэтых мэлянхолічных вобразаў служаць пераважна рысы пасыўнасьці: глядзеньне, маўчаньне, задуменнасьць, нахмуранасьць. Яны адпавядаюць інэртнасьці як гаспадарчага, так і ўсяго жыцьця сялянства таго часу:

Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш — сэрца забаліць.

А ёлкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліс.
Заўсёды смутныя як ўдовы,
Яны найбольш адны стаялі
І так маркотна пазіралі
Іх задумёныя галовы.

«Балоты канчаліся, побач дарогі ўставалі высокія сьцены бору, бор перасякаўся вясёлымі палянкамі; там-сям віднеліся на іх людзкія будынкі, а бярвеньні гэтых будынкаў, асьветленыя сонцам, здаваліся маршчынамі на разумнай галаве многадумаючага і разважаючага чалавека».

Параўнаньні зьявіліся для Я. Коласа мастацкім сродкам, з дапамогай якога ён выразіў і палітычныя настроі той часткі сялянства, прадстаўніком якой ён быў, напрыклад, у наступных радкох:

Мароз паважны. Як вяльможа,
Знасіць свавольніцтва ня можа,
І на той час, як ён пануе,
Па небе хмарка не вандруе,
І ўсе стварэньні занямеюць,
І падыхаць вятры ня сьмеюць, —
Ўсё ціха, мертва, нярухома...
Уладарства холаду вяліка.
Адзін мароз адно ўладае,
На ўсё ён рукі пакладае,
Усё гне халоднаю нагою...
Бо роўных ён сабе ня мае.
Зазнаўся, ой, мароз, зазнаўся
Ды дзень яшчэ не зачынаўся:
Пастой, мароз, пастой хваліцца —
Мо' і цябе хто не збаіцца.

Тая вёска, якая цяпер на нашых вачох адыходзіць у нябыт, выклікала ў нашага аўтара, як мы бачылі, досыць аднастайныя і заўсёды глыбока-мэлянхолічныя параўнаньні.

Вывучэньне стылістыкі пісьменьніка з соцыялёгічнага пункту погляду яшчэ толькі пачынаецца. Запрапанаваныя тут назіраньні павінны быць яшчэ праверены і працягнуты ў працах, прысьвечаных дасьледваньню як паасобных пісьменьнікаў і іх паасобных твораў, так, у далейшым, і цэлых клясавых стыляў пэўных пэрыодаў. Але можна ўжо і цяпер быць упэўненым, што ў цэлым шэрагу выпадкаў параўнаньні літаратурнага твору дадуць вельмі ўдзячны матар'ял для высьвятленьня соцыяльных адзнак яго стылю.

*Публікацыя Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА*

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# ФІЛАСОФІЯ МЕТАФАРЫ:
## гісторыя паходжання літаратурнага тропа, без малюнкаў і ілюстрацый, бязлітасна расказаная безабароннаму чытачу на мове паняццяў, а не вобразаў

Спачын створанай Арыстоцелем паэтыкі стаў для літаратуразнаўства падзеяй такога ж маштабу, якой была для філасофіі абвешчаная Ніцшэ «смерць багоў». В. Дзільтэй (1833—1911), заснавальнік духоўна-гістарычнага (ці культурна-філасофскага) напрамку ў літаратуразнаўстве, быў безапеляцыйны: «Сёння анархія пануе на паэтычных абсягах ва ўсіх краінах. Створаная Арыстоцелем паэтыка мёртвая»[1].

Паэтыка, якая пачала выштукоўвацца «на тле» папярэдніцы, сёння падаецца інсталяцыяй з тэорый, канцэпцый, інтуіцый і азарэнняў. У гэтым хаосмасе не так шмат феноменаў, здольных выклікáць устойлівую доўгатэрміновую цікавасць. Метафара — адзін з іх.

З другой паловы XX стагоддзя акцэнт у вывучэнні метафары перасунуўся ў абсягі вывучэння практычнага маўлення і мыслення. У метафары пачалі шукаць ключ да разумення асноў мыслення і працэсаў стварэння ўніверсальнага вобраза свету[2]. Амерыканскі даследчык Д. Бергрэн з пэўнай доляй выкліку абвясціў, што «метафара заўсёды была адной з цэнтральных праблем філасофіі»[3].

Ужо ў 60-х гадах XX стагоддзя выразна акрэсліліся некалькі падыходаў да метафары, кожны з якіх, на думку тагачаснай навукі, з’яўляўся аднабаковым. Першы кірунак быў звязаны з тлумачэннем метафары як простага «пераносу» гучання слова з аднаго прадмета (класа прадметаў) на іншы. У кантэксце так званага фармальна-лагічнага падыходу метафару разглядалі пераважна як аперацыю з паняццямі. У межах псіхалагічнага падыходу метафара апісвалася як працэс, што цалкам належыць да сферы ўяўленняў. Нарэшце, лінгвістычны кірунак асэнсоўваў метафару ў святле граматыкі, семасіялогіі, стылістыкі і г. д.

Рост тэарэтычнай цікавасці да метафары стымуляваўся павелічэннем яе прысутнасці ў розных відах тэкстаў — ад паэтычнай мовы і публіцыстыкі да моў розных сфер навуковага пазнання. На думку Т. Хаўкеса, многія тропы могуць разглядацца як версіі адзінага метафарычнага прататыпа (дарэчы, у класічнай філалогіі таксама неаднаразова гучала меркаванне, што «разнастайныя тропы (выказванні ў пераносным сэнсе) — усяго толькі разнавіднасці метафары»[4]). Экспансія метафары ў самыя розныя пласты сучаснай камунікацыі прымусіла больш пільна прыглядзецца да яе патэнцыялу, таму «метафара як тэхніка і метафара як ідэалогія ў многіх даследаваннях аналізуецца паралельна»[5].

З цягам часу, калі метафарызацыя пачала ўважацца ледзьве не за асноўны кагнітыўны працэс, без якога было б немагчыма атрымліваць новыя веды, і ў літаратуразнаўстве значна пашыраюцца межы самога паняцця «метафара». Яна асэнсоўваецца не толькі як фундаментальная праблема тэорыі літаратуры ды эстэтыкі, але і як катэгорыя гнасеалагічная (згадаем, напрыклад, «тэорыю метааповеда» Ф. Джэймсана, паводле якой рэальнасць даступная і адкрываецца чалавеку ў выглядзе аповедаў пра яе, нават фізікі нібыта «расказваюць гісторыі» пра ядзерныя часціцы), і нават анталагічная (ідэі Ж. Дэрыда пра ўкаранёнасць праблематыкі аналогіі быцця ў праблематыцы метафары).

Айчыннае літаратуразнаўства ці то не заўважыла, ці то праігнаравала жалобную вестку наконт класічнай паэтыкі. Сёння ўжо бессэнсоўна траціць час на адаптаванне да мясцовых умоў чужых вынаходніцтваў. Беларускай літаратурна-мастацкай прасторы пачатку XXI стагоддзя патрэбна *філасофія метафары* — хаця б для таго, каб (вы)жыць у вайне міфаў. Гэта вайна маштабіруец-

ца: «…вяртанне нейкіх старажытных форм светаўспрымання гаворыць толькі пра тое, што яны не вычарпалі сябе, неабходнасць іх абумоўленая нейкай, магчыма, яшчэ неразгаданай патрэбай чалавечага роду»[6]. І ўсе мы рэкрутаваны на гэту вайну.

Дзівосным (даўно забытым, на жаль!) нахабствам было б сцвярджаць, што здолееш тут і зараз (проста на старонках «Маладосці») акрэсліць тэарэтыка-метадалагічныя контуры філасофіі метафары як літаратурна-мастацкага феномена. Таму «замах» наш больш чым сціплы: *пачаць рух* у адпаведным кірунку, зазірнуць у *вытокі метафары*. Магчыма, гэта дазволіць у своеасаблівым ракурсе ўбачыць спецыфіку і перспектывы не толькі літаратурнай творчасці, але і культуратворчасці ў цэлым.

* * *

Сучаснае даследаванне пытанняў паэтыкі, звязаных з праблемамі паходжання і эвалюцыі яе найважнейшых катэгорый, непазбежна мусіць апеляваць да вопыту антрапалогіі, этналогіі, псіхалогіі, лінгвістыкі, культуралогіі, філасофіі культуры, іншых навук. Вывучэнне метафары ў генетычным аспекце ажыццяўлялася ў межах філасофіі міфа (Дж. Віко, Э. Касірэр), аналізу першабытнага мыслення (Л. Леві-Бруль, Б. Маліноўскі, Э. Дзюркгейм), аналітычнай псіхалогіі (К.-Г. Юнг), лінгвістыкі (А. А. Патабня), этналогіі (К. Леві-Строс). Як правіла, метафара разглядалася ў якасці адной з базавых катэгорый «паэтыкі міфа».

У айчыннай тэорыі літаратуры тропы аналізуюцца пераважна ў межах паэтыкі Арыстоцеля, які лічыў, што любая метафара можа разгортвацца ў параўнанне. Тым самым ён патрабаваў ад метафары яснасці, нават звычайнасці.

У старажытным Кітаі падыход да метафары быў яшчэ больш пэўны. Канфуцый увёў паняцце «выпраўлення імёнаў» (чжэн мін). У «Кнізе Перамен» («Трактат (кніга) аб зменах», «І цзын», VIII—VII стагоддзі да н. э.). «выпраўленне імёнаў» паўстае патрабаваннем дэметафарызацыі, патрабаваннемператварэння метафар («незвычайных» слоў) у параўнанні (звычайныя, зразумелыя словы).

У IX стагоддзі старажытнаіндыйскі тэарэтык паэтыкі і рыторыкі Анандавардхана прапанаваў адну з першых семантычных канцэпцый (вучэнне пра «дхвані»), паводле якой паэтычныя выказванні здольныя выяўляць, «прасвятляць» штосьці, адрознае ад іх уласнага прамога значэння[7].

Важным крокам у даследаванні ўзаемасувязей мовы і мыслення стала праца «Асновы новай навукі аб агульнай прыродзе нацый» (1725). Яе аўтар — італьянскі філосаф Дж. Віко (1668—1744), якога некаторыя даследчыкі лічаць першым культуролагам (родапачынальнікам сучаснай культуралогіі). Віко падкрэсліваў метафарычную прыроду міфа, быў перакананы ў міфалагічным генезісе літаратурных тропаў. Ягонае меркаванне адносна таго, што «ўсе Тропы... былі неабходнымі спосабамі выражэння ўсіх першых Паэтычных Нацый»[8], падаецца праваззвесцем сучасных даследаванняў мысленчых структур.

У XIX—XX стагоддзях найбольш цікавыя меркаванні адносна генезісу так званых паэтычных тропаў з'яўляліся таксама ў сувязі з распрацоўкамі тэорый міфа. А. А. Патабня, які падыходзіў да вывучэння міфа у рэчышчы лінгвістыкі, падкрэсліваў іманентны характар метафарычнасці міфа. З першага дзесяцігоддзя XX стагоддзя ў выніку «адраджэння» міфа, якое закранула самыя розныя бакі сусветнай культуры, на вывучэнне генезісу паэтычных тропаў пачынае істотна ўплываць этналогія. Згадаем ідэі заснавальніка функцыянальнай школы ў этналогіі Б. Маліноўскага, трактоўку татэмізму Э. Дзюркгейма, некаторыя палажэнні тэорыі «пралагізму» першабытнага мыслення Л. Леві-Бруля, філасофію сімвалічных форм Э. Касірэра, тэорыю архетыпаў К.-Г. Юнга, а таксама назіранні К. Леві-Строса, якія тычацца структурнай тыпалогіі міфаў як часткі структурнай антрапалогіі.

Пытанні генезісу метафары як літаратурнага тропа распрацоўваліся і ў савецкі час. У прыватнасці, В. М. Фрэйдэнберг звязвала паходжанне паэтычных метафар з комплексным зместам архаічных вобразаў, якія выражаецца ў своеасаблівых фармальных разнавіднасцях — «да-метафарах».

Разуменне метафары як «формы комплекснага і атаясамляльнага мыслення», што «папярэднічае размежаванню мовы і міфа», інтэрпрэтацыя метафары як «спецыфічнага зместу свядомасці»[9], сталася важным крокам у кірунку раскрыцця сутнасці не толькі літаратурных тропаў, але і саміх механізмаў архаічнага мыслення. У розны час да міфа і яго спецыфікі, да асаблівасцей міфалагічнай свядомасці звярталіся ў сваіх даследаваннях Я. Э. Галасоўкер, М. М. Бахцін, А. Ф. Лосеў, У. М. Топараў, В. У. Іванаў, Ю. М. Лотман, Б. А. Успенскі і інш. Вялікую цікавасць для разумення механізмаў архаічнага мыслення ўяўляе праца І. М. Дзьяканава «Архаічныя міфы Усходу і Захаду» (1990). Арыгінальныя назіранні над прыродай міфа і міфалагічнага мыслення, аналіз разнастайных светапоглядных мадэлей змяшчаюць працы беларускіх даследчыкаў У. М. Конана, Т. І. Шамякінай: вывучэнне старажытных пластоў беларускай культуры ажыццяўляецца ў іх на памежжы культуралогіі, міфалогіі, этнаграфіі і фальклору, эстэтыкі, тэорыі і гісторыі літаратуры сусветнай міфалогіі і культуры.

* * *

Падкрэслім: праблема генезісу метафары самым непасрэдным чынам звязана з разуменнем асаблівасцей архаічнага мыслення.

Знакаміты аўстрыйскі біёлаг К. Лорэнц (1903—1989), адзін з галоўных прадстаўнікоў так званай эвалюцыйнай эпістэмалогіі, даводзіў, што слоўнік культурных моў склаўся ў той час, калі адзіным вядомым відам развіцця быў антагенез, індывідуальнае развіццё жывога арганізма. У кантэксце размовы пра паходжанне метафары нас цікавіць агульны модус станаўлення архаічнага чалавека. Інакш кажучы, нам вярэдзіць, кім ён быў: прагматыкам ці шукальнікам сэнсу?

Многія сучасныя даследчыкі схіляюцца да таго, што старажытны чалавек праяўляў сябе хутчэй як творца мрояў, чым як Homo faber («чалавек, які дзейнічае»). Амерыканскі культуролаг Т. Розак сцвярджае: да ўсталявання палеалітычнай эры панавала іншая — *палеатаўмічная* (ад двух грэчаскіх слоў — «старажытны» і «варты здзіўлення»). Яшчэ не было ніякіх прылад працы, аднак была магія. Містычныя спевы і танцы складалі сутнасць чалавечай прыроды і прадвызначалі вектар яе эвалюцыі да таго, як першы камень быў абчасаны для сякеры. Розак акрэслівае рысы гэтага старажытнага жыцця: містычныя вядзежы, мандала замест кола, святарны агонь для прыгатавання ежы, ушанаванне зорак яшчэ да таго, як з’явіўся каляндар, залатая галіна замест кія пастуха і царскага скіпетра. Малітоўна-ўзнёслае ўспрыманне жыцця ў процівагу аднабакоааму практыцызму палеалітычнай эры[10]. Першабытны чалавек, калі глядзець на яго сучаснымі вачыма, не разумеў сваёй выгады. Які прыбытак, скажам, ад наскальных малюнкаў? П. С. Гурэвіч схіляецца да меркавання, што «нашыя продкі хутчэй выявілі сябе як… стваральнікі сімвалаў, чым як майстравыя»[11]. Не любая дзейнасць спараджае культуру, а толькі тая яе частка, якая мае сакральны характар і звязана з вычытваннем сэнсаў у быцці.

Менавіта ў палеатаўмічнай эры з найбольшай верагоднасцю можна адшукаць карані не толькі метафары, але і міфа. З надыходам палеалітычнай эры пошук сэнсу нібы трапляе ў цень «практыцызму». Палеалітычная эра ў дачыненні да палеатаўмічнай выступае як *постархаіка* ў дачыненні *ўласна архаікі*. Таму для зручнасці палеатаўмічную эру ў межах гэтага артыкула прапануем называць Архаікай.

Сучасная навука датуе пачатак антрапагенезу 2,5—1,5 млн. год таму, а яго завяршэнне — прамежкам часу паміж 50 і 30 тыс. год таму. У выніку трохмільёнагадовай эвалюцыі гамінідаў, прыкладана 40 тыс. год таму, сфарміраваўся «чалавек разумны». Сёння лічыцца, што «ўсе чалавечыя аб’яднанні ў межах 30—40 тысяч год — сучаснікі»[12]. Як правіла, даследчыкі маюць магчымасць аналізаваць мысленне Homo sapiens sapiens, у прыватнасці, адносна позніх яго прадстаўнікоў — земляробаў і скатаводаў, якія насялялі Зямлю ў дагарадскі (дакласавы) перыяд паміж IX тысячагоддзем да н. э. і I тысячагоддзем н. э. Homo sapiens sapiens пакінуў сляды ў пісьмовых помніках. Продак гэтага чалавека, напрыклад, неандэрталец, таксама адносіцца да віду Homo sapiens, аднак «пра мысленне гэтых нашых папярэднікаў мы не

маем звестак»[13]. Мы можам з большай ці меншай упэўненасцю аналізаваць мысленне, скажам, краманьёнца, але што мы ведаем пра спосаб арыентацыі ў свеце аўстралапітэка? Дапушчальна называць «*міфалагічным»* мысленне так званага *Homo sapiens sapiens*, чый вопыт адносна, але ўсё ж пранікальны для нас; мы нават можам праводзіць паралелі (не забываючыся на адрозненні) паміж ідэалогіяй пракаветнага і сучаснага міфаў. Аднак, гаворачы пра папярэдніка, *Homo sapiens,* мэтазгодней карыстацца тэрмінам «архаічнае» мысленне.

У. М. Топараў гаворыць пра існаванне нейкага «протаміфа», пад якім мае на ўвазе пэўную «да-мову». Не ставячы перад сабою мэту правесці храналагічную рысу паміж эпохай Архаікі і эпохай Міфа, можна, аднак, меркаваць, што яна пралягае праз адзнаку прыкладна 50—40 тыс. год таму, аддзяляючы «біяграфію» *Homo sapiens* ад «гісторыі» *Homo sapiens sapiens*. Мысленне першага мы будзем называць *архаічным,* мысленне другога — *міфалагічным.* Вытокі метафары, на наш погляд, звязаны менавіта з *даміфалагічным тыпам мыслення* (на думку М. К. Пятрова, ён уласцівы асобасна-імянному («паляўнічаму») грамадству)[14].

Усе найбольш значныя тэорыі першабытнага мыслення можна ўмоўна падзяліць на дзве групы, у залежнасці ад прызнання ці адмаўлення якаснага адрознення гэтага мыслення ад мыслення сучаснага чалавека. Разуменне першабытнага мыслення як «пралагічнага», што падпарадкоўваецца «закону партыцыпацыі» і не імкнецца пазбягаць супярэчнасцей, найбольш паслядоўна ўвасоблена ў канцэпцыі Л. Леві-Бруля (1857—1939) — французскага філосафа, сацыёлага, псіхолага, этнографа. На яго думку, пралагічнае мысленне «не падымаецца да абстракцый і лагічных формул, яно прытрымліваецца ўспрынятых вобразаў і станаў, якія з цяжкасцю можам улавіць мы»[15].

Адным з першых даследчыкаў, які паспрабаваў выявіць і апісаць універсальныя працэсы мыслення на разнастайным культурным матэрыяле, стаў французскі антраполаг, сацыёлаг, культуролаг, заснавальнік школы этналагічнага структуралізму К. Леві-Строс (1908—2009). У адрозненне ад Леві-Бруля

**Айчыннае літаратуразнаўства ці то не заўважыла, ці то праігнаравала жалобную вестку наконт класічнай паэтыкі. Сёння ўжо бессэнсоўна траціць час на адаптаванне да мясцовых умоў чужых вынаходніцтваў**

ён быў перакананы, што «логіка міфалагічнага мыслення такая ж няўмольная, як логіка пазітыўная, і, па сутнасці, мала чым ад яе адрозніваецца», бо справа тут «не столькі ў якасці лагічных аперацый, колькі ў самой прыродзе з’яў, што падпадаюць лагічнаму аналізу»[16]. Інакш кажучы, Леві-Строс быў упэўнены, што чалавек заўсёды мысліў аднолькава «добра». Калі Леві-Бруль гаворыць пра імкненне першабытнага мыслення *пазбягаць* супярэчнасцей, то Леві-Строс лічыць, што яно імкнецца *здымаць* фундаментальныя супярэчнасці чалавечага жыцця шляхам *медыяцыі:* напрыклад, супярэчнасць паміж жыццём і смерцю апасродкуецца спецыяльным персанажам воранам, які паядае падліну.

Даследчыкі міфа мусяць у тым ці іншым выглядзе прымаць адзін з гэтых пунктаў гледжання. Леві-Строс, безумоўна, прызнаваў своеасаблівасць міфалагічнай логікі, але сцвярджаў, што яна здольная глыбока пранікаць у навакольны свет. Неакантыянец Э. Касірэр (1874—1945) меркаваў, што там, дзе на першы погляд няма ўвогуле ніякай логікі, выяўляецца самабытная заканамернасць, самабытны лагічны сэнс, пэўная форма і скіраванасць мыслення. Англійскі антраполаг В. Тэрнер (1920—1983), адзін з самых аўтарытэтных даследчыкаў рытуалу, зазначае: «Не зусім карэктна гаварыць пра “структуру мыслення, адрознага ад нашага”. Справа не ў адрозных пазнаваўчых структурах, а ў ідэнтычнай пазнаваўчай структуры, якая адлюстроўвае шырокую разнастайнасць культурнага вопыту»[17].

На нашу думку, спецыфіку *міфалагічнага* мыслення трэба шукаць у механізмах даміфалагічнага, *архаічнага* мыслення.

Міф як *тып* мыслення не мог скласціся раптоўна, гэтаму павінна было папярэднічаць працяглае назапашванне пазнаваўчамысленчага вопыту. К. Леві-Строс лічыў, што ў чалавека існуе нейкая антрапалагічная зададзенасць, якая структурырує плынь чалавечых успрыманняў і адчуванняў. Думаецца, першапачаткова чалавек успрымаў свет як своеасаблівы «*аднародны канцэпт»* (сукупнасць агульных і істотных прыкмет цэлага класа вобразаў). Для Архаікі гэты *канцэпт* з'яўляецца адзінствам і агульнасцю. З цягам часу чалавек пачынае вылучаць «*фрагменты»* — дыскрэтныя часткі сцэны, якая адлюстроўваецца: канкрэтныя прадметы, якасць, колькасць, час і г. д.). Па меры таго, як фарміруюцца механізмы асваення свету, згаданыя фрагменты здольны таксама ўтвараць канцэпт, але ўжо міфалагічны, дзе інтэграванасць прыкмет забяспечваецца ўласцівасцямі свету. Пастуова складваецца цэласная мадэль свету — міф. Аднак цэласнасць міфа як спосабу арганізацыі свету, устойлівасць яго структуры павінна забяспечвацца пэўнымі мысленчымі механізмамі. Сама магчымасць міфа, на наш погляд, вынікае з *прынцыповай тропавасці архаічнага мыслення*.

* * *

Свядомасць і мова ўзнікаюць прыкладна аднычасова, «усведамленне звязана з лінгвістычнай камунікацыяй»[18]. Міф немагчымы без слова, у пэўным сэнсе *слова стварае міф.* Тое, што архаічны чалавек павінен быў у мове перадаваць агульнае праз асобнае і не меў сродкаў для выражэння агульных прадметных паняццяў, сёння не выклікае сумненняў. Калі мы нават дапусцім, што чалавек мог інтуітыўна адчуваць існаванне абагульненняў, у яго не было сродкаў выразіць гэтую інтуіцыю «агульнага» акрамя як з дапамогай моўнага знаку для неагульнага феномена — з дапамогай тропа. На парозе міфалогіі не існуе выбару паміж рацыянальным і тропавым мысленнем: у архаічнай мове амаль адсутнічаюць словы для выражэння абстрактных паняццяў, агульнае выражаецца праз канкрэтнае, адзінкавае. Звернемся, напрыклад, да шумерскай мовы III тыс. да н. э. Каб сказаць «адкрыць», шумеры гаварылі *ik-kid* — «дзверы штурхнуць», нават калі справа тычылася адкрыцця гандлёвага шляху. Каб сказаць «забіць», гаварылі *sang-ngiš-rah* — «палкай галаву стукнуць», нават калі размова ішла пра забойства якімнебудзь іншым спосабам[19].

Яшчэ больш старажытным сведчаннем тропавасці мыслення з'яўляюцца некаторыя выпадкі табуіравання жывёл. Так, у некаторых індаеўрапейскіх дыялектах дастаткова рана табуіруецца назва «алень». У прыватнасці, у іранскім яна была заменена новым складаным словам **gav-az-(-na-)*, літаральна: «бык-казёл». А потым, ужо ў асобных іранскіх мовах і гэтая назва табуіруецца, замяняецца на эўфемічнае абазначэнне аленя як «рагатага», метафарычна — «галінастага». Параўнайце асяцінскае *sag* «алень» пры *sāka* «галіна», «сук», старажытнаіндыйскае *sākhā* «галіна»[20]. У апошнім выпадку мы маем справу з метанімічным пераносам. Тым не менш, у кантэксце нашай размовы мы прытрымліваемся падыходу, што ўсе тропы можна лічыць версіямі адзінага метафарычнага прататыпу.

Адным з галоўных законаў міфалагічнага мыслення лічыцца закон тоеснасці. Як правіла, гэта найперш тоеснасць макракосму і мікракосму, свету і чалавека. Згаданая тоеснасць выяўляецца, напрыклад, у роспісах і дэкаратыўных рэчах, якія былі знойдзены каля вёскі Малая Сыя ў Хакасіі (датуюцца 34 тыс. год да н. э.). На іх адлюстраваныя моманты палявання на розных звяроў, «якія аднычасова з'яўляюцца часткамі цела аднаго агромністага маманта (так разумеўся Космас)»[21]. Думаецца, метафарычныя механізмы архаічнага мыслення па меры назапашвання чалавекам пазнаваўчага вопыту надаюць аналогіі статус закона існавання свету. Тоеснасць чалавека і космасу-татэму становіцца базай міфалагічнага мадэліравання свету.

Здольнасць ці ўменне чалавека заўважаць падабенства ці непадабенства розных прадметаў, з'яў і падзей і на гэтай падставе адрозніваць агульнае і адметнае — адна з фундаментальных уласцівасцей чалавечага мыслення. На наш погляд, названая адзнака міфалагічнага мыслення — тоеснасць чалавека і сусвету, калі ўніверсальнай формай думкі становяцца аналогія, параў-

нанне, антытэза, — абумоўліваецца тропавай прыродай папярэдняй стадыі, архаічнага мыслення. Прычым механізмы гэтага мыслення — прынцыпова метафарычныя.

Можна меркаваць, што архаічнае мысленне першапачаткова ўяўляла сабой *поле метафарычнага напружання.* У працэсе разбурэння архаічнага і фарміравання міфалагічнага канцэптаў, як ужо было адзначана, вылучаюцца дыскрэтныя часткі свету. Гэтыя фрагменты маюць сімвалічную прыроду. Размова, натуральна, ідзе не пра сімвал у сучасным разуменні. Хутчэй варта гаварыць пра пэўнае падабенства згаданых архаічных фрагментаў да *знакаў-сімвалаў,* якія «захоўваюць з суадноснымі аб'ектамі пэўнае структурнае падабенства, перадаюць праз свае асобныя элементы суцэльны вобраз аб'екта»[22]. Згаданыя працэсы мыслення знаходзяць увасабленне ў наскальным жывапісе. Так, з арыньякскіх паселішчаў (30—27 тыс. год да н. э.) Францыі паходзяць першыя ўзоры выяўленчага мастацтва: гравіраваныя на камяні ці костцы выявы жывёл разам з умоўнымі знакамі, якія аказваюцца выявамі жаночага знаку полу[23]. У мастацтве малых форм рознага кшталту знакам (тэкціформам, клавіформам, гербам і інш.) адпавядае геаметрычны арнамент, які ў шэрагу выпадкаў можа быць асэнсаваны як выявы змей, бягучай вады, пляцення ды іншых рэальных з'яў. З дапамогай знакаў праводзілася атаясамленне і размежаванне аб'ектаў. Аперыраванне знакамі сведчыць пра наяўнасць вопыту абстрагавання. Архаічнае мысленне эвалюцыянуе ў міфалагічнае шляхам павелічэння ступені абстрагаванасці. Такім чынам, архаічнае асваенне свету, заснаванае на механізме метафары, паступова набывае рысы міфалагічнага мадэліравання свету, якое падпарадкавана логіцы брыкалажа (фр. *bricolage*) — апасродкавання, тлумачэння з дапамогай знакаў-замяшчальнікаў, у якіх перадольваецца супрацьлегласць паміж пачуццёвым і разумовым. Калі архаічнае мысленне ў пэўным сэнсе назапашвае вопыт асваення свету, то міфалагічнае надае яму статус бясспрэчнай кампетэнтнасці. Менавіта ў працэсе «перацякання» архаічнага мыслення ў міфалагічнае пачынае вылучацца метафара, якая пазней аформіцца ў літаратурны троп.

* * *

У большасці тэорый міфа падкрэсліваецца сімвалічна-метафарычны характар міфалагічнага мыслення (Э. Касірэр), метафарычны характар архетыповай сімволікі (К.-Г. Юнг) альбо прынцыпова сімвалічны характар першабытных міфаў, які суседнічае з іх метафарычнасцю (Ф. Уілрайт) і г. д. Генезіс літаратурнай метафары, такім чынам, цесна звязаны з міфам, аднак іх узаемадачыненні маюць шматвектарны характар. Яшчэ ў 1919 годзе выйшла праца нямецкага псіхолага Х. Вернера «Паходжанне метафары», дзе ён выказаў меркаванне, што метафара трымаецца каранямі ў духу табу. У сваю чаргу, табу было б немагчымым, калі б свядомасць першабытнага чалавека не была б метафарычнай. Адна з важнейшых высноў згаданай працы заключаецца ў тым, што табу і метафара — узаемна абумоўленыя.

Спасылаючыся на Вэрнера, іспанскі філасаф Х. Артэга-і-Гасэт прасочвае шлях ад *тропа цялеснай позы* да *моўнай метафары.* Страх некалі быў галоўным стымулам дзеянняў чалавека. Найбольш распаўсюджаная ў мясцовасці жывёла, ад якой залежала харчаванне, набывала сакральны статус. Тады індзеец Лілааэт садзіўся на кукішкі і падсоўваў рукі пад калені. Гэткім чынам есці дазвалялася, бо рукі пад каленямі — метафарычна тыя ж ногі. Так узнік троп цялеснай позы, першасная метафара, якая папярэднічала цялеснаму вобразу. Слова для першабытнага чалавека — названая рэч. Прадмету, на які прыпадае табу, даюць імя іншага, згадваючы пра першы ва ўскоснай форме. Палінезіец, якому нельга называць нічога, што адносіцца да караля, калі бачыць полымя факелаў ля палаца-хіжыны, павінен сказаць: «Святло ззяе сярод нябесных хмараў». Вось прыклад метафарычнага ўхілення[24].

На наш погляд, літаратурная метафара вырастае не столькі з уласна табу, колькі з самой *сістэмы татэмістычнага кадзіравання.* Формы татэмізму грунтуюцца на «псіха-ментальных навыках першабытных людзей, на адметным "стылі мыслення", які характарызуецца перш за ўсё "антрапапсіхічным" успрыманнем прыроды і прыродных істот»[25]. Прадстаўнік венскай этнаграфічнай школы Б. Анкерман сцвярджаў, што

**Леві-Строс быў упэўнены, што чалавек заўсёды мысліў аднолькава «добра». Калі Леві-Бруль гаворыць пра імкненне першабытнага мыслення пазбягаць супярэчнасцей, то Леві-Строс лічыць, што яно імкнецца здымаць фундаментальныя супярэчнасці чалавечага жыцця шляхам медыяцыі**

любы татэмізм, дзе б ён ні быў выяўлены, мае інварыянтную сутнасную аснову, вакол якой выстройваюцца новыя характарыстыкі. Ён лічыў такой асновай веру ў спецыфічныя ўзаемаадносіны паміж сацыяльнымі групамі і аб'ектамі прыроды. Э. Касірэр сцвярджаў, што ў самым разнастайным матэрыяле выяўляецца адна фундаментальная рыса мыслення — перанос татэмісцкай структуры арганізацыі племені на арганізацыю свету. Згаданая аперацыя пераносу заснавана на *механізме метафары* — фундаменце архаічнага мыслення. Першабытны чалавек карыстаўся гатовым трафарэтам пры класіфікацыі знешняга свету. Напрыклад, «міфасацыялагічная» арганізацыя аднаго з індзейскіх плямёнаў Нью-Мексіка — *зуні* — грунтуецца на своеасаблівай «септархіі», дзяленні племені на сем частак, якому ў мысленні зуні дакладна адпавядае падзел на сем частак прасторы і свету[26].

Яшчэ раз падкрэслім: міф як мадэль немагчымы без слова. Уласна татэмістычныя паводзіны даследчыкі схільныя звязваць з ніжнім палеалітам, калі «вобраз чалавека адцясняецца постаццю звера, чалавечае і жывёльнае зліваюцца»[27]. У эпоху сярэдняга палеаліту — «перадкультурную», «бязмоўную» — чалавек пачынае ўстанаўліваць на каменных п'едэсталах чарапы мядзведзяў. І толькі ў верхнім палеаліце знаходзім першыя «сімвалы» — знакі жаночага полу, датуемыя арыньякам; а ўжо мадлен (15—10 тыс. год таму) вызначаецца багатым сімвалізмам (выявы круга, спіралі, меандра, свастыкі). Менавіта з познім палеалітам звязваюць пачатак мовы, выяўленчай і мастацкай вобразнасці. Тады ж, верагодна, адбываецца эвалюцыя вобразаў багоў «ад архаічнага татэмістычнага зааморфнага вобліку да антрапаморфнага»[28]. Па меры таго, як міф набываў сваю завершанасць, функцыяналізм паляўнічай магіі трансфарміраваўся ва ўніверсалізм магіі міфічнага светаадчування. Вера ў тое, што наваколле *(космас-татэм)* уплывае на чалавека, дапаўняецца перакананасцю ў тым, што і чалавек можа ўздзейнічаць на свет. Простая думка: злучыць дзве рэчы шнурком, мяркуючы, што гэта наладзіць сувязь паміж імі ці паслужыць для перадачы ўплыву, рэалізоўвалася разнастайнымі спосабамі. У Аўстраліі туземны лекар прывязвае адзін канец шнурка да хворай часткі цела пацыента і думае, што смактаннем другога канца ён выцягне кроў для аблягчэння хваробы. У Арысе джэйпорская вядзьмарка апускае скрозь дах свайго ворага клубок нітак, каб дабрацца да ягонага цела, і потым, узяўшы ў рот другі канец ніткі, спадзяецца высмактаць кроў гэтага ворага. І ў наш час будыйскія жрацы ва ўрачыстай цырымоніі звязваюць сябе са свяшчэннымі прадметамі, трымаючся за доўгую нітку, прымацаваную да гэтых прадметаў і абвязаную вакол храма[29].

Сувязь чалавека са светам становіцца «двухбаковай». Мысленне развіваецца ў кірунку ўзмацнення абстрагаванасці: ад практыцызму ранняга палеаліту да першасных форм «культуратворчасці» позняга палеаліту. Адбываюцца метамарфозы і з механізмамі гэтага мыслення: паколькі татэм як прасеміятычны цэнтр калектыву з цягам часу становіцца часткай міфа, то і тропавасць архаічнага мыслення эвалюцыянуе ад *поля метафарычнага напружання* да *прасторы спараджэння першых абстракцый.* Вынікам гэтага становіцца фарміраванне мовы.

А. А. Патабня зазначае, што першапачаткова ў мове панавалі не абстрагаваныя, а канкрэтныя значэнні, *неўсвядомлена метафарычныя.* Развіццё мыслення і мовы, па сутнасці, ідзе па шляху метафары, якая валодае пэўнай «індукцыйнай здольнасцю» (К. Леві-Стросс): маецца на ўвазе вычляненне, класіфікацыя і назапашванне прыкмет, якасцей, уласцівасцей, характарыстык з далейшым фарміраваннем больш складаных мадэляў свету.

В. М. Фрэйдэнберг мяркуе, што «да-метафары» семантычна паўтараюць адна адну, але з'яўляюцца рознымі формамі міфалагічнага вобразу. У сваю чаргу, К. Леві-Строс разглядае адзін міф як сапраўдную метафару іншага. Напрыклад, міф пра паходжанне мядовага свята аказваецца метафарай у адносінах да міфа пра паходжанне мёду. Літаральнаму бруду ад кухні ў адной групе міфаў адпавядае маральны бруд Тапіра — спакушальніка жанчын, а з Тапірам як літаральным спакуснікам Леві-Строс супастаўляе мёд як метафарычнага спакусніка і г. д.[30].

Сапраўды, «форма міфалагічнай думкі ператварае ўсю рэальнасць (у тым ліку і рэальнасць самога міфа. — **І. Ш.**) у метафару» (Э. Касірэр). Тропавы характар архаічнага мыслення дэтэрмінаваў з'яўленне мовы.

*Метафара мовы* — натуральны вынік развіцця «тропавага» мыслення. Так, А. М. Весялоўскі звязвае ўтварэнне метафары мовы з уласцівасцю чалавека засвойваць вобразы знешняга свету ў формах сваёй самасвядомасці, пераносіць на прыроду ўласнае самаадчуванне жыцця, якое выражаецца ў руху, у праяўленні сілы, што скіроўваецца воляй: «Сонца рухаецца і глядзіць на зямлю: у індусаў сонца, месяц — вока»[31].

Слова набывае сакральны статус, як толькі пачынае ўсведамляцца як *імя* — найбольш важная, але і найбольш неабароненая частка суб'екта ці аб'екта. Цікава, што першымі назвы атрымліваюць жывёлы: «Век імёнаў для жывёл супадае з пачаткам іх выяўлення на сценах пячор ці на костках і пачынаецца 25—15 тыс. год таму. Назвы іншых прадметаў з'яўляюцца пазней»[32]. Улічваючы *анталагічную роўнасць* для першабытнага чалавека рэчы і яе імені, нельга пераацаніць важнасць захадаў, якія рабіліся для аховы найбольш важных — сакральных — рэчаў. Размова ідзе пра табуіраванне імёнаў, якое, на нашу думку, з'яўляецца найважнейшай часткай татэмістычнага кадзіравання — захавання сакральных ведаў пра свет. Справа ў тым, што слова для першабытнага чалавека — гэта «сам татэм, пры вымаўленні якога нараджаецца свет»[33]. Табуіраванне скіравана, такім чынам, на абарону татэма. Калі ж улічыць, што архаічны соцыум мадэліраваўся паводле законаў макракосму, і наадварот, космас-татэм з цягам часу набываў антрапаморфныя рысы, то становіцца зразумела, што табуіраванне павінна было ўсведамляцца ў якасці *ўніверсальнага механізму сакралізацыі.* Напрыклад, сувязь акта «пасылання дажджу», што адыгрываў значную ролю ў земляробчым грамадстве, з вярхоўным, якое з'яўляецца «крыніцай дажджу», магла прывесці да табуіравання сакральнага слова і ягонай замены. Гэтым тлумачыцца «адносная нешматлікасць гістарычных індаеўрапейскіх дыялектаў, якія захавалі **seu-/*su* ў значэнні «дажджыць»[34]. У славянскім, напрыклад, першаснае індаеўрапейскае слова замяняецца апісальным выразам **duzdi* (ст.-слав. *duzdi*, бел. *дождж*, польск. *deszcz*) з **dus-diu-* — «дурны дзень».

У аснове табуіравання — *механізм метафараўтварэння,* які, з аднаго боку, абмяжоўваў допуск да сакральных ведаў, з другога — пакідаў магчымасць доступу да гэтых ведаў для абраных. Табуіраванне імёнаў было і формай перадачы (трансляцыі) свяшчэнных ведаў, і *пачаткам герменеўтычнай практыкі* для архаічнага чалавека, што адкрывала шлях для разгортвання ўласна мастацкай вобразнасці.

Час пераходу ад татэма да міфа для метафары звязаны са значнымі зменамі статусу. Метафарычнасць табу ў міфе разгортваецца ў прастору метамарфоз, калі пераасэнсаванне імёнаў выклікае змены міфалагічных аб'ектаў. А. А. Патабня «канцом міфа» лічыць асэнсаванне разнароднасці вобраза і значэння. Фальклорна-этнаграфічныя крыніцы змяшчаюць багаты матэрыял, які ілюструе «паўставанне» паэтычнай мовы з міфаў (у якасці аднаго з самых цікавых аб'ектаў даследавання даследчыкі называюць архаічны якуцкі эпас алонхо).

Можна меркаваць, што *літаратурная метафара ўзнікае ў выніку своеасаблівага пераадолення як міфа, так і мовы.* Зразумела, «усведамляльнасць» метафары як літаратурнага тропа — з'ява даволі позняя. Тым не менш ужо ў архаічным фальклоры, дзе ў будове тропаў адлюстраваны паралелізм чалавека і космасу, угадваецца будучая літаратурная метафара: «Мова паэзіі працягвае псіхалагічны працэс, які пачаўся на дагістарычных шля-

хах: яна ўжо карыстаецца вобразамі мовы і міфа, іх метафарамі і сімваламі, але стварае па іх узорах і новыя»[35]. Інакш кажучы, чалавек імкнецца напоўніць сабою прыроду па меры таго, як яна раскрываецца перад ім.

* * *

Такім чынам, вытокі літаратурнай метафары трэба шукаць на пераходзе ад архаічнага да міфалагічнага мыслення. Метафарычны механізм архаічнага мыслення абумоўлівае спецыфіку татэмістычнага кадзіравання сакральных ведаў пра свет, дзе татэм паўстае як цэласнасць чалавека і космасу. Па меры назапашвання пазнаваўчага вопыту адбываецца пераход ад татэма да міфа, што выяўляецца ў тэндэнцыях да ўзмацнення абстрактнага мыслення і семіятызацыі. З гэтым перыядам гісторыі чалавецтва звязана ўзнікненне першых форм культуратворчасці. Тропавасць архаічнага мыслення, з аднаго боку, падрыхтавала з'яўленне слова; з другога боку, метафарычныя механізмы архаічнага мыслення абумовілі метафарычнасць самой мовы. Пераход з Архаікі да Міфа звязаны для метафары са значнымі зменамі статусу: для міфалагічнай рэальнасці метафара становіцца ўніверсальнай формай спасціжэння свету. У адносінах да рэчаіснасці метафара выступае як *метарэчаіснасць*[36]. Усе факты і з'явы рэчаіснасці свабодна выражаюцца праз метафару, аднак сутнасць самой метафары нельга вычарпальна сфармуляваць у паняццях гэтай рэчаіснасці. Зрэшты, у нас на вачах і сама рэальнасць ператвараецца ў неўтаймоўны натоўп метафар[37].

## КАМЕНТАРЫ

[1] Дильтей, В. Сила поэтического воображения. Начала поэтики / В. Дильтей // Зарубежная эстетика и теория литературы XIX—XX вв. Трактаты, статьи, эссе. — М.: Издательство МГУ, 1987. — С. 136.

[2] Трэба зазначыць, што XX стагоддзе не вынайшла, а толькі актуалізавала падобныя памкненні. І. Тэн (1828—1893), грунтуючыся на тэзісе пазітывізму аб прынцыповай тоеснасці законаў, якія кіруюць светам прыроды і светам чалавечага духу, даказваў магчымасць вывесці і зафіксаваць у адной формуле ўніверсальную першапрычыну, адкуль вынікалі б усе элементы, як фізічныя, так і псіхалагічныя. Вельмі верагодна, што стварэнне падобнай формулы не абышлося б без метафары.

[3] Жоль, К. К. Мысль. Слово. Метафора (Проблемы семантики в философском освещении) / К. К. Жоль. — Киев: Навукова думка, 1984. — С. 7.

[4] Жоль, К. К. Мысль. Слово. Метафора (Проблемы семантики в философском освещении) / К. К. Жоль. — Киев: Навукова думка, 1984. — С. 165.

[5] Арутюнова, Н. Д. Метафора и дискурс / Н. Д. Арутюнова // Теория метафоры: сборник; Пер. с англ., фр., нем., исп., польск. яз. / Вступ. ст. и сост. Н. Д. Арутюновой; Общ. ред. Н. Д. Арутюновой и М. А. Журинской. — М.: Прогресс, 1990. — С. 8.

[6] Гуревич, П. С. Философия культуры / П. С. Гуревич. — М.: Аспект Пресс, 1995. — С. 182.

[7] Анандавардхана. Дхваньялока («Свет дхвани»); Пер. с санскрита, введ. и коммент. Ю. М. Алихановой. — М., 1974. — 304 с.

[8] Вико, Дж. Основания новой науки об общей природе наций / Дж. Вико. — Москва — Киев: REEL-book — ИСА, 1994. — С. 149.

[9] Фрейденберг, О. М. Поэтика сюжета и жанра / О. М. Фрейденберг. — М.: Лабиринт, 1997. — С. 32.

[10] Роззак, Т. Незавершенное животное. Форпост эпохи Водолея и эволюция сознания / Т. Роззак // Человек и общество: проблемы человека на XVIII Всемирном философском конгрессе. — М., 1992. — Вып. 4. — С. 194.

[11] Гуревич, П. С. Философия культуры / П. С. Гуревич. — М.: Аспект Пресс, 1995. — С. 217.

[12] Культурология / Под науч. ред. Г. В. Драча. — Ростов-на Дону: Феникс, 1995. — С. 143.

[13] Дьяконов, И. М. Архаические мифы Востока и Запада / И. М. Дьяконов. — М.: Наука, 1990. — С. 190.

[14] Петров, М. К. Язык, знак, культура / М. К. Петров. — М.: Наука, 1991. — С. 97.

[15] Леви-Брюль, Л. Первобытное мышление / Л. Леви-Брюль. — Л.: Атеист, 1930. — С. 290.

[16] Леви-Стросс, К. Структурная антропология / К. Леви-Стросс. — М.: Наука, 1985. — С. 206.

[17] Тэрнер, В. Символ и ритуал / В. Тэрнер. — М.: Наука, 1983. — С. 105—106.

[18] Шибутани, Т. Социальная психология / Т. Шибутани. — М.: Наука, 1969. — С. 155.

[19] Дьяконов, И. М. Архаические мифы Востока и Запада / И. М. Дьяконов. — М.: Наука, 1990. — С. 24.

[20] Гамкрелидзе, Т. В. Индоевропейский язык и индоевропейцы. Реконструкция и историко-психологический анализ праязыка и протокультуры: В 2 ч.; С предисл. Р. О. Якобсона / Т. В. Гамкрелидзе, В. В. Иванов. — Тбилиси: Изд-во Тбил. Ун-та, 1984. — Ч. 2. — С. 518—519.

[21] Шамякіна, Т. І. «Зорнае неба над намі…»: Астральныя міфы і ўяўленні пра космас у сусветнай культуры / Т. І. Шамякіна // Роднае слова. — 1994. — № 11. — С. 56.

[22] Плотнікаў, Б. А. Агульнае мовазнаўства: Вучэб. дап. для філ. фак. ВНУ / Б. А. Плотнікаў. — Мінск: Універсітэцкае, 1994. — С. 115.

[23] Абрамова, З. А. Древнейшие формы изобразительного творчества (Археологический анализ палеолитического искусства) / З. А. Абрамова // Ранние формы искусства: Сб. ст.; Сост. С. Ю. Неклюдов; Отв. ред. Е. М. Мелетинский. — М.: Искусство, 1972. — С. 15.

[24] Ортега-и-Гассет, Х. Эстетика. Философия культуры / Х. Ортега-и-Гассет. — М.: Искусство, 1991. — С. 102.

[25] Самыгин, С. И. Религиоведение: социология и психология религии / С. И. Самыгин, В. И. Нечипуренко, И. Н. Полонская. — Ростов-на-Дону: Феникс, 1996. — С. 276.

[26] Кассирер, Э. Избранное. Опыт о человеке / Э. Кассирер. — М.: Гардарика, 1998. — С. 204—206.

[27] Культурология / Под науч. ред. Г. В. Драча. — Ростов-на Дону: Феникс, 1995. — С. 153.

[28] Самыгин, С. И. Религиоведение: социология и психология религии / С. И. Самыгин, В. И. Нечипуренко, И. Н. Полонская. — Ростов-на-Дону: Феникс, 1996. — С. 272.

[29] Тайлор, Э. Б. Первобытная культура / Э. Б. Тайлор. — М., 1989. С. 95.

[30] Мелетинский, Е. М. Мифология и фольклор в трудах К. Леви-Стросса / Е. М. Мелетинский // Леви-Стросс, К. Структурная антропология. — М.: Наука, 1985. — С. 511.

[31] Веселовский, А. Н. Собрание сочинений: Т. 1.2. / Изд. отд-ния рус. яз. и словесности Имп. АН, 1908—1913. — Серия I: Поэтика; Т.1. — 1913. — С. 130—131.

[32] Культурология / Под науч. ред. Г. В. Драча. — Ростов-на Дону: Феникс, 1995. — С. 158.

[33] Фрейденберг, О. М. Поэтика сюжета и жанра / О. М. Фрейденберг. — М.: Лабиринт, 1997. — С. 222.

[34] Гамкрелидзе, Т. В. Индоевропейский язык и индоевропейцы. Реконструкция и историко-психологический анализ праязыка и протокультуры: В 2 ч.; С предисл. Р. О. Якобсона / Т. В. Гамкрелидзе, В. В. Иванов. — Тбилиси: Изд-во Тбил. Ун-та, 1984. — Ч. 2. — С. 680.

[35] Евлаховъ, Александръ. Введенiе въ философiю художественнаго творчества. Опытъ историко-литературной методологiи. Томъ I. — Варшава, 1910. — С. 409.

[36] Суадносіны тут прыкладна такія ж, як паміж мовай-аб’ектам і метамовай: «Метамова павінна адпавядаць наступным патрабаванням: (1) усе выразы мовы-аб’екта можна выразіць у метамове; (2) метамова павінна ўтрымліваць семантычныя паняцці ў адносінах да мовы-аб’екта, якія немагчыма ў мове-аб’екце сфармуляваць» (Тондл, Л. Проблемы семантики / Л. Тондл. — М., 1975. — С. 24—25).

[37] Арутюнова, Н. Д. Метафора и дискурс / Н. Д. Арутюнова // Теория метафоры: сборник; Пер. с англ., фр., нем., исп., польск. яз. / Вступ. ст. и сост. Н. Д. Арутюновой; Общ. ред. Н. Д. Арутюновой и М. А. Журинской. — М.: Прогресс, 1990. — С. 10.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# МАЛАМАЖЭЙКАЎСКІ СВЯТАР АЙЦЕЦ ЛЕЎ САВІЦКІ

***Верагодна, галоўнымі справамі жыцця гэтага святара было тое, што ён перабудаваў і аднавіў знакаміты храм і, хоць і тэндэнцыйна, напісаў яго гісторыю.***

У гэтым артыкуле аўтар будзе неаднаразова звяртацца да клерыкальна-краязнаўчага артыкула айца Льва Савіцкага «Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь», надрукаванага ў №№ 33, 34, 36, 42 «Литовских Епархиальных Ведомостей» за 1873 год. Трэба адзначыць, што артыкул нясе ў сабе звыклы набор тэзісаў «інфармацыйнай вайны», якую расейскі урад вёў у тыя часы ў «Северо-Западном крае». Нават макетаванне артыкула ўказвае на вялікую колькасць рэдактарскіх правак на этапе, калі артыкул быў ужо набраны ў тыпаграфіі. Тым не менш, нягледзячы на стандартную, асабліва ў той час, канфесійную небесстароннасць, тэкст Савіцкага дае дастаткова інфармацыі для аналізу і аб'ектыўнага разумення падзей.

Падобна, што айцец Леў акрамя артыкула пра царкву ў сваім жыцці больш нічога не напісаў. Але ён апошнім трымаў у руках старыя царкоўныя дакументы і таму, напісаная ім гісторыя Маламажэйкаўскай царквы, мае вялікую каштоўнасць і ставіць Савіцкага ў адзін шэраг са знанымі даследчыкамі нашай гісторыі XIX стагоддзя, уводзіць у пантэон лепшых краязнаўцаў Лідчыны. Святар Маламажэйкаўскай (Мураванкаўскай) царквы данёс да нас галоўны масіў інфармацыі пра гэты надзвычай важны ў гісторыі Лідчыны і ўсёй Беларусі храм. Сур'ёзныя даследчыкі абавязкова давалі спасылкі на яго артыкул, але, на жаль, не ўсе ўважліва яго чыталі.

Аналізу міфаў пра царкву, якія стварыў Савіцкі (першым з іх з'яўляецца міф пра будаўніцтва царквы ў XV стагоддзі), будуць прысвечаны іншыя артыкулы аўтара, гэтыя міфы зноў усё часцей распаўсюджваюцца праз розныя газеты, турыстычныя сайты, і, як кожная няпраўда, скажаюць рэчаіснасць і робяць няпэўнай будучыню.

А гэты артыкул прысвечаны жыццю святара айца Льва Савіцкага.

Леў Савіцкі быў прызначаны Ковенскім епіскапам Аляксандрам настаяцелем Маламажэйкаўскай царквы адразу пасля заканчэння поўнага курса Літоўскай духоўнай семінарыі.

На жаль, пра гэтага чалавека вядома няшмат. Ён нарадзіўся ў 1841 годзе ў вёсцы Спорава Слонімскага павета[1], і ўсё жыццё прысвяціў сваёй царкве і прыходу, сумленнай святарскай працай заслужыў пашану сярод прыхаджан.

У 1867 годзе Маламажэйкаўскі прыход Нараджэння Прасвятой Багародзіццы налічваў 143 двары і 1089 прыхаджан. У карыстанні царкоўнага прычта знаходзілася 59 дзесяцін зямлі і ў дадатак ад казны ішло жалаванне ў памеры 360 рублёў на год.

З 1864-га ў прыходзе існавала царкоўнапрыходская школа, якая месцілася па прыватных хатах. З 1871-га да 10 лютага 1882-га яна размяшчалася ў царкоўным доміку, пабудаваным на сродкі айца Льва Савіцкага. Пажар знішчыў гэты дом, пасля чаго прыхаджане пабудавалі на царкоўныя сродкі новы дом. Перад Першай сусветнай вайной пры прыходзе дзейнічалі ўжо тры царкоўна-прыходскія школы: у вёсках Малым Мажэйкаве, Шпільках і Агародніках. У гэтых школах вучылася 150 дзетак. Увесь прыход у гэты

[1] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2. — 2013. — С. 46.

час налічваў 1505 прыхаджан. У карыстанні прычта было 186 дзесяцін зямлі і на яго ўтрыманне яшчэ выдзялалася жалаванне ў памеры 517 рублёў 60 капеек штогод.

У Маламажэйкаўскай царкве знаходзіліся два шанаваныя абразы Божай Маці: адзін мясцовы, злева ад царскіх варот, другі, у асобным ківоце, раней знаходзіўся ў філіяльнай Волчынкаўскай царкве[1]. Айцец Леў Савіцкі апісаў гісторыю сваіх пошукаў гэтага абраза. У апісаннях філіяльнай Волчынкаўскай царквы абраз апісваўся як *«абраз Божай Маці ў срэбнай рызе з малюнкам паўкружжа Месяца ў падножжа аблічча Богамаці»*. Айцец Леў пісаў, што гэты абраз быў выпадкова адкрыты *«з прычыны асаблівага Промыслу Божага, які дзейнічаў праз адну вельмі хворую жанчыну з блізкай вёскі, якая адкрыла мне на споведзі пра сваё бачанне, быццам нейкая цудоўная жанчына ва ўбогім адзенні, з'явіўшыся, сказала ёй: "Памаліся абразу Божай Маці, што быў раней у капліцы ў Волчынках, а зараз у цёмным і смуродным месцы знаходзіцца, і тады пазбавішся хваробы". Словы жанчыны прымусілі мяне, не вяртаючыся дахаты, адправіцца да абшарніка з просьбай пра выдачу абраза, узятага з Волчынкаўскай капліцы і паказаць пры гэтым тое месца, дзе яе хаваюць»*. Абшарнік адказваў, што ў яго няма ніякага абраза, і *«сам адправіўся ў паказанае мною месца, дзе нічога не было знойдзена. Пацярпеўшы яшчэ некалькі разоў няўдачу ў росшуках абраза, я ... два гады не звяртаўся да абшарніка па гэтай справе, чакаючы больш спрыяльнага выпадку, які і не замарудзіў хутка прадставіцца»*. Па дамашніх справах абшарнік павінен быў пераехаць у іншы маёнтак, а свой маёнтак аддаць у арэнду аднаму шляхцічу, у якога фактарам быў яўрэй. З прыватных чутак святар даведаўся, што абраз павінен быць у свіране. Пасля таго ён узяў з сабой двух самых дбайных вернікаў, з якіх адзін быў чальцом царкоўнай рады, даў ім патрэбныя інструкцыі і адправіў іх у гэты маёнтак прыцаніцца да свірана, які быццам быў прызначаны абшарнікам да продажу. Фактар, не падазраваючы пра хітрасць, адчыніў свіран, дзе і быў знойдзен абраз Божай Маці ў такім выглядзе, як ён апісаны ў дакуменце. *«Тады абраз з рызай і епітрахіллю быў узяты са свірана, з належным гонарам у 1868 г. перанесены ў храм і пастаўлены ў прыстойным месцы па левым баку ў куце іканастаса. На гэтым абразу знаходзіцца надпіс: "Іосіф і Кацярына Аўсяны", па выглядзе — абраз вельмі старажытны. Застаецца яшчэ вярнуць чашу з прыборам і звон»*[2].

Толькі праз больш чым 30 гадоў, падчас святкавання юбілею царквы ў 1907 годзе святар назваў імёны дзеючых асоб гэтай гісторыі: абшарнік маёнтка Канцюгі Юліян Паплаўскі, хворая жанчына, якая бачыла сон, — Людвіка Сцяпанаўна Чурган, дбайныя прыхаджане, абодва з Бешенок — Іван Міхайлавіч Хлус (член царкоўнага савета) і муж хворай жанчыны Тамаш Аўгусцінавіч Чурган[3].

Напрыканцы XIX стагоддзя пра цудам захаваны старажытны абраз Божай Маці і пра знаходку скарбу срэбных і залатых манет пад адной з вежаў Маламажэйкаўскай царквы пісаў дырэктар Віленскага музея старажытнасцей археолаг Ф. В. Пакроўскі[4].

У 1864 годзе царква страціла каштоўнейшае рукапіснае евангелле, якое, верагодна, ад пачатку захоўвалася ў царкве. У акце візіты царквы ад 1784 года гэта кніга апісваецца так: *«Евангелле напрастальнае рукапіснае, у аксаміт апраўленае на якім таблічак пяць срэбных пазалачоных з другога боку piklow*[5] *4 пазалочаных»*[6]. Пра далейшы лёс гэтай сапраўднай святыні беларускага

---

[1] Маломожейковская «Мурованная» церковь. Вильна. 1907. С. 17.

[2] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. № 42 — 1873. С. 369—371.

[3] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 8 — 1907. С. 169.

[4] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 100.

[5] Падстаўка-ножка на ніжняй дошцы абкладкі кнігі.

[6] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага Дэканата. 1784 г. С. 45.



народа айцец Леў Савіцкі пісаў: *«Гэта евангелле ўзята ў 1864 г. 23 кастрычніка святаром Лідскай царквы К. для Археаграфічнай Камісіі ў Вільні, дзе зараз і знаходзіцца. Шануючы важкасць такога помніка старажытнасці, я прасіў у свой час пра вяртанне Евангелля ў Маламажэйкаўскую царкву, на што мне было сказана, што былы начальнік края, граф Мураўёў, заўважыўшы старажытнасць Евангелля, абяцаў зрабіць срэбно-пазалочаны ківот для яго захоўвання на прастоле Маламажэйкаўскай царквы, для якой яно каштоўны помнік яшчэ і таму, што на адной са старонак яго ёсць запісы царкоўных надзелаў і іншыя нататкі пра царкву. Але і дагэтуль няма ні ківота, ні евангелля»*[1]. Савіцкі не пажадаў наўпрост сказаць, хто пазбавіў нас гэтага Евангелля, але для чалавека, які ведае гісторыю, зразумела, што *«святар Лідскай царквы К.»* — гэта, у той час, памочнік Лідскага благачыннага (хутка сам стане благачынным) Іосіф Каяловіч (брат заснавальніка так званай «заходне-рускай» плыні ў гістарычнай навуцы М. Каяловіча), святар, які ў той час яшчэ толькі пачынаў рабіць сваю кар'еру[2].

Айцец Леў Савіцкі пакінуў вялізнае апісанне царквы, як яна выглядала да перабудовы, у 1870 годзе. Гэтае апісанне з-за яго каштоўнасці мае сэнс прывесці цалкам:

*«[Царква] ўся каменная з моцнай, як жалеза, цэглы, якая з часам утварыла адну суцэльную масу, аброслую мохам, за выключэннем тых месцаў у старадаўніх паглыбленнях, якія былі атынкованы... Верагодна, у гэтых паглыбленнях першапачаткова былі абразы, ці, быць можа, яны былі афарбаваны, таму што сляды фарбы былі ясна прыкметныя пры разбіўцы тынкоўкі. Такіх паглыбленняў ніжэй даху ў выглядзе дугападобных даўгаватых рам, якія заканчваюцца мысам у верхняй частцы — шэсць, месцаў жа дванаццаць, паміж імі ідуць сценкі ў выглядзе пілястра. Вышэй іх, пад самым дахам, знаходзіцца пяць невялікіх вокнаў са стромымі адтулінамі, якія ідуць унутр пад дах. Вокнаў у царкве дзевяць — тры вокна ў сценах даўжынёй у сажань, шырынёй у аршын, з жалезнымі кратамі, паміж імі ідуць пілястры, якія перамежаюцца доўгімі паглыбленнямі, раней прызначанымі, верагодна, таксама для якіх та малюнкаў, астатнія тры вокна асвятляюць уласна алтар, памерам яны меншыя першых і дугападобныя. Усе чатыры вежы аднолькавыя, на адну сажню вышэй сцен царквы, у верхняй іх частцы зроблены тры вокна даўжынёю ў аршын і шырынёю ў 12 вяршкоў, у заходняй частцы царквы гэтыя вокны большыя чым ва ўсходняй, бо і самыя вежы тут маюць большы памер у дыяметры. Ва ўзровень са сцяной, у вежах, зробленыя такія ж адтуліны, якія знаходзяцца пад дахам царквы, толькі ў падвойным памеры, лікам па тры. У сярэдняй частцы вежаў знаходзяцца адтуліны, якія звужваюцца вонкі і пашыраюцца ўнутр і якія, па меры адлегласці ад зямлі, даўжэй і шырэй. Вакол усёй царквы і вежаў на адзін аршын вышэй цокаля, які агінае вакол ўсю царкву, ідзе шэраг зубцоў у родзе пілы. Пра першапачатковую архітэктуру карнізаў нічога нельга сказаць, бо пішучаму не давялося знайсці іх у цэласці. Годна заўвагі, што крыжы з цэглы ў заходніх вежах засталіся цэлыя і па цяперашні час. Старажылы распавядаюць, што на вежах, з заходняга боку, былі пастаўлены два анёла вялікага памеру, адзін з трубой, іншы з мечом, якія паварочваліся па кірунку*

[1] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. № 34 — 1873. С. 306.

[2] Пра І. Каяловіча гл. Протаіерэй Іосіф Каяловіч // Лідскі летапісец № 1—2 (45—46) — 2009. С. 23.

*ветра. Дзверы ва ўвахода ў царкву адна, шырынёю 1 аршын і 11¼ вяршкоў, вышынёй 1 сажань і 3 вяршка, з унутранага боку яна абаронена цяжкавагавымі жалезнымі дзвярамі, якія апускалася з зробленай у сцяне нішчы. Якім чынам гэтыя дзверы замыкаліся, мне не атрымалася дазнацца ад старажылаў, з якіх некаторыя бачылі яшчэ гэтыя дзверы, забраная ў 1817 г. панам Кастравіцкім. Уваходныя дзверы маюць вытанчанае аздабленне. Дзве калоны ўпрыгожваюць дугападобны ўваход у царкву, якім заканчваецца ўгары ў выглядзе кароны. Прытвора не было да 1825 г.*

*Усярэдзіне царквы алтар адлучаецца ад храма суцэльнай каменнай сцяной з трыма пралётамі для царскай, паўночнай і паўднёвай брамы, апошнія дзве адтуліны маюць форму няправільнага трохкутніка і над паўночнымі дзвярамі пралёт менш паўднёвага. Алтарная частка мае прастору ў даўжыню 2 сажні і 1½ аршына, шырыню 4 сажні і 9 вяршкоў. Прастол быў квадратны, каменны, у паўночнай і паўднёвай частцы алтара знаходзяцца два малыя і два вялікія дугападобныя паглыбленні, прызначаныя для захоўвання царкоўнага начыння. Ахвярнік раней быў уладкованы ў паглыбленні, у выглядзе невялікай пячоры, якая існуе і ў наш час толькі зачынена абразам. Царская брама — 2 аршына шырыні і 3 вышыні. Сам храм мае ўсярэдзіне 6 сажняў даўжыні 5 сажняў 12 вяршкоў шырыні. Вокны ад падлогі у 2-х сажнях. Зводы круглыя, корабавыя, якія абапіраюцца на 4 масіўныя калоны, да якіх сыходзяцца ў выглядзе мноства нітак. З царквы зроблены хады ва ўсе вежы, куды раней вялі цагляныя лесвіцы ў выглядзе спіралі, знішчаныя ва ўсходніх вежах у 1817 г., пасярэдзіне царквы ёсць невялікі склеп, дзе знаходзілася некалькі дубовых трун у выглядзе карыта з такім жа вечкам, у верхняй частцы якіх у галовах, зроблена круглая адтуліна, зачыненая шклом. Усярэдзіне, у частцы прылеглай да прытвора ўладкованы хоры — куды вядзе лесвіцы з вежы паўднёва-заходняга боку.*

*У царкве ёсць дзве мармуровыя пліты, адна з іх ўмайстравана ў паўднёвай сцяне, над труной заснавальніка царквы, з зробленым Кастровіцкім наступным надпісам: D.O.M. Mortalibus exuviis I.M.D. Szmko Macko Lundzilowicz M.N.M.D.L. His abao MDCCCLXXXIV guiescentis fundatoris eccleciae nujus I.V.D. Cazimirus Costrovicki coet. Herres ei collator ae de sacra restaurata noc monitentum MDCCCYIIIDAD (Найвялікшаму і наймілейшаму Богу, Пасмяротныя астанкі Шымкі Мацкі Лудзілавіча, тут ад **1884** (памылка ў даце. — **Л. Л.**) года пахаванага, фундатар гэтай царквы Казімір Кастравіцкі, спадчыннік, паставіў яму гэты помнік у адрэстаўраванай святыні. 1808 год).*

*Іншая пліта некалькі вышэй першай, большага памеру, на ёй намаляваны старадаўнія вайсковыя даспехі Польска-Літоўскіх войскаў, паміж якімі прыкметныя: гарматы, стрэльбы, шаблі, каскі, сцягі і г.д., на ёй наступны надпіс: D.O.M. Et ad majorem gloriam h(n)oc monitentum posuit in ha(o)c Ecelesia pro perpetua memoria I.M. Kazimirus de Kostrova Kostrovicki Cap. Cib. Camer. cur. Red. Polon. Heres in Mozejkov, liden et in Podole Slonim district collator. Hans ecclesiam de noviter restauravit ac fundavit altar Rit. Roman, pro P.P. Carmelit Zoluden. anno MDCCCXXII (Найвялікшаму і наймілейшаму Богу і ў Яго славу паставіў гэты помнік у гэтай царкве на вечную памяць Казімір з Кастрова Кастравіцкі, дзедзіч у Мажэйкаве Лідскага павета і ў Падоллі Слонімскага павета. Гэтую царкву ён па-новаму аднавіў і фундаваў алтар рымскага абраду для жалудоцкіх кармелітаў 1822 год).*

*Вышыня царквы з фронту — 15 сажняў, а сцен 7 сажняў. Алтаром яна павернутая на ўсход, і агульны выгляд яе мае дасканалае падабенства з адноўленым старажытным Прачыстенскім Мітрапалітальным сабо-*



*рам у Вільні, які як бачна па усяму, служыў для будаўнікоў Маламажэйкаўскай царквы прататыпам. Будаўнік храма нават прысвяціў яго імю Прачыстай Багародзіцы. Загадкавая архітэктура Маломожейковской царквы мімаволі прымушае думаць, што гэтая царква была сховішчам не толькі для малітвы, але і сховішчам людскай маёмасці падчас спусташальных войн і спалучаных з ёю рабаваннаў падчас Рэчы Паспалітай. З іншага боку яна была абаронай ад нападу непрыяцеляў. Як сховішча і абарона падчас войн, яна была забяспечана да 1817 г. ходам у сценах, вакол царквы, некалькімі таемнымі адтулінамі ў сценах, склепам пад царквой, адлучаным каменнай сцяной ад такога ж невялікага склепа, змешчанага ў самой царкве, да якога, па ўсёй верагоднасці, ёсць яшчэ дзе небудзь іншы ход, і чатырма аднастайнымі спічастымі вежамі з вокнамі у тры яруса, якія звужваюцца вонкі і такімі ж вокнамі ў сценах, пад дахам. Сцены будынка таўшчынёй у сажань, жалезныя дзверы, якія апускаліся на ланцугах — дзверы цяжкавагавыя, што адчыняліся толькі рукамі дасведчанага служкі, мімаволі прыводзіць да пераканання, што царква гэта была абаронай ад непрыяцеляў, якія валодалі ў сярэднія вякі не такой небяспечнай зброяй, якая вынайдзена сучаснай цывілізацыяй»*[1].

Практычна адразу пасля прызначэння святар стаў шукаць грошы для рамонту сваёй царквы, нават звяртаўся да тагачаснага Віленскага генерал-губернатара Мураўёва, але грошай не атрымаў[2]. Грошы на рамонт, як пісалася вышэй, былі выдзелены ўрадам толькі ў 1871 годзе.

У 1871—1872-х зроблена поўнае аднаўленне, перабудова храма. Адразу неабходна сказаць, што пры гэтых рэпарацыйных працах не лічыліся з археалагічнай каштоўнасцю помніка і вельмі мала дбалі пра захаванне яго першапачатковага выгляду, так што некаторыя яго часткі падлеглі досыць грунтоўным пераробкам. Па-першае, да царквы быў прыбудаваны прытвор, які засланіў ранейшыя ўваходныя дзверы і значна змяніў агульнае аблічча заходняга фасада. Па-другое, абедзве заходнія вежы былі надбудаваны ў вышыню (на 6 аршын), прычым, адна з іх перароблена на званіцу. Па-трэцяе, першапачаткова неатынкаваныя часткі фасадаў былі пакрыты пластамі тынку і афарбаваны, што зусім знішчыла ранейшы характар іх дэкарацыі, які грунтаваўся да гэтага (як і ў Сынкавіцкай царкве) на эфектным кантрасце цёмна-чырвоных муроў і белых плям тынку ў дэкарацыйных нішах[3].

Урадам на рамонт царквы было асігнавана 7 716 руб. і 15 капеек. Для арганізацыі працы быў утвораны адмысловы камітэт у які ўваходзіў міравы пасярэднік, святар царквы, царкоўны стараста, старэйшына Лябёдскай воласці, часткай якой быў Малы Мажэйкаў, і царкоўна-прыходскога апякунства, архітэктар Полазаў. Планавалася пачаць работы ў 1865-м, але праблемы адцягнулі пачатак працы на 1871 год. Камітэт па рамонце вырашаў шмат праблем: давялося шукаць адмысловую цэглу, звычайная тынкоўка не прыставала да старых муроў і для яе прыгатавання, выкарыстоўвалася гіграскапічная вапна. Дастаўку неабходных матэрыялаў забяспечвалі прыхаджане царквы.

Маламажэйкаўскі святар быў адным з тых, хто кіраваў рамонтам і перабудовай царквы, ён жа падрабязна апісаў гэты працэс, пачаўшы з дзіўнай заўвагі, якую не мае сэнсу нават каментаваць: *«Паводле інструкцыі, дадзенай мясцоваму камітэту, царква аднаўлена ў ранейшым выглядзе»*. Потым ён адзначаў, што сапсаваныя часткі сцен былі атынкаваны гідраўлічнай вапнай, іншыя неатынкаваныя часткі пафарбаваны ў колер цэглы. Вежы пакрыты бляхай. Царкве быў пакінуты стары дах з плоскай дахоўкі. У Рызе былі замоўлены і выраблены 8 жалезна-пазалочаных крыжоў. Усярэдзіне храма сцены атанкаваны і выраўнаваны. У вежах выпраўлены каменныя прыступкі, аконныя

---

[1] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. № 33 — 1873. С. 298—299.

[2] Завала Віктар. Нараджэння Прасвятое Багародзіцы Маламажэйкаўская царква // Праваслаўе № 9. — 2000. — С. 63.

[3] Шчакаціхін, М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Менск, 1928. Т. 1. С. 256.

рамы зроблены з дубу з жалезнымі кратамі, замест цаглянай падлогі зроблена драўляная. Прастол пастаўлены на каменным падмурку так, каб яго ножкі ўваходзілі ў адмыслова зробленыя паглыбленні. Ва ўсходніх вежах ўладкавана рызніца. Алтарная частка і салея з чатырма прыступкамі паднятыя на адзін аршын вышэй царкоўнай падлогі з выступам у 2½ аршына ад іканастаса, перад якім уладкавана балюстрада такарнай працы. Пішучы пра новы іканастас Савіцкі заўважыў:

*«Іканастас, хоць не багаты, але па прыгажосці пераўзыходзіць усе сельскія царквы ў павеце. Аздабленне іканастаса і ўсталёўка яго на месца абышліся камітэту вельмі дорага з-за таго, што іканастас быў дасланы за чатыры гады да пачатку усіх прац і з-за недагляду сапсаваўся. Акрамя таго, ён быў зроблены не па плане, так што пасля ўсталявання яго на месца, не зусім гармануе з іншымі часткамі храма. Драўляныя часткі іканастаса афарбаваны ў тры колеры: белы, светла- і цёмна блакітны. Абразы наступныя: па правы бок царскай брамы — мясцовая выява Выратавальніка, Унебаўзяцце Божай Маці, на паўднёвых дзвярах Арханёл Міхаіл, далей храмавай выява Нараджэння Прачыстай Багародзіцы, Аляксандра Неўскага і Марыі Магдаліны. Па левы бок царскай брамы — старажытны абраз Божай Маці, рыза якой ізноў пазалочана, далей абраз Св. Сямейства, на паўночных дзвярах Арханёла Гаўрыіла, далей Звеставанне Прачыстай Багародзіцы і Георгія Пераможца. У другім ярусе ўсталяваны чатыры двухмесныя абразы Св. Айца і Прааайца, Апосталаў Пятра і Паўла, свяціцеля Мікалая і Сергія Цудатворца. Выявы, змешчаныя над паўночнымі і паўднёвымі дзвярамі, увянчаны крыжамі, таксама як і іканастас заканчваецца драўляным вызалачаным крыжом з ззяннем. На горнем месцы выява Св. Тройцы. Усе гэтыя абразы жывапісу акадэміка Васільева»*[1].

Асвячэнне царквы адбылося 21 студзеня 1873 года, па благаслаўленню правялебнага Іосіфа, мясцовым благачынным протаіерэем Каяловічам, разам з двума святарамі і дыяканам, пры стройным спеве хлопчыкаў Дзікушскай народнай вучэльні. Мясцовым святаром было сказана прыстойнае выпадку павучанне. Пасля набажэнства, у якім удзельнічалі 8 святароў, было абвешчана шматгоддзе «Августейшему Государю и всему Царствующему Дому», высокапрывялебнаму Макарыю і вечная памяць заснавальніку гэтага храма, рэшткі якога пахаваны пры правай сцяне храма. Нягледзячы на імпэтны вецер, прыйшло шмат багамольцаў з мясцовага і суседніх прыходаў[2].

Праз больш чым 30 гадоў падчас святкавання юбілею царквы ў 1907-м Савіцкі расказаў цікавыя падрабязнасці пра знаходкі з царкве пры яе перабудове. Пры кладцы падлогі з дошак (да гэтага часу падлога была цагляная) *«знаходзілі шмат трун пад цаглінамі і на некаторых былі магільныя помнікі, з выявай крыжа, абведзенага кругам. Былі такія велізарныя пліты, што патрабавалася сіла 3—4 чалавек, што б зрушыць іх з месца. І вось на адной з такіх пліт і быў прачытаны надпіс "Христовъ рабъ Іерей Авраамъ» і год "1469". Чыталі гэты надпіс: былы будаўнік царквы архітэктар Полазаў і член люстрацыйнай камісіі палкоўнік дэ-Лазары»*. Выняць камень з надпісам з-пад падлогі было складана і патрабавала дадатковых выдаткаў. *Таму «камень гэты як і іншыя апушчаны ў зямлю пры раўнанні грунту пад падлогай. Дубовыя труны, якія былі ў магілах і якія смуродзілі ў царкве, па распараджэнні былога епіскапа Ковенскага Аляксандра ў 1864 г. вынесены і разам з прахам пахаваны на могілках ў агульнай магіле. Над гэтай магілай пастаўлен драўляны крыж, які ўжо струхней і упаў. Там жа знойдзена некалькі медных крыжоў вялікага і малога памераў. З іх толькі тры крыжыка трапілі ў рукі мясцовага святара, адзін падобны да крыжоў, якія цяпер носяць святары, і два меншых на 2—1,5 цалі з выявамі па абодвух баках грубай працы і не яснымі літарамі»*[3].

[1] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. № 36 — 1873. С. 322.

[2] Литовские Епархиальные Ведомости. № 4 — 1873. С. 51.

[3] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 8 — 1907. С. 168.



Святар Леў Савіцкі меў вельмі цікавае захапленне, якое, дарэчы, давала і добры дадатак да яго даходаў. «Литовские Епархиальные Ведомомости» ў 1902 годзе пісалі, што з 20 мая па 20 чэрвеня 1902 года па пастанове Літоўскага Епархіяльнага Вучылішчнага Савета ў Маламажэйкаве праводзіліся курсы пчалярства. Курсы на сваім пчальніку (які складаецца з 47 вулляў) праводзіў святар мясцовай царквы Леў Савіцкі. На курсы было выклікана 15 настаўнікаў царкоўна-прыходскіх школ Літоўскай епархіі. Настаўнікі *«абедалі ў доме святара, а чай пілі ў доме псаломшчыка. Савіцкаму на курсы было адведзена 339 рублёў 95 кап. 16 чэрвеня курсісты хадзілі ў ім. Вялікае Мажэйкава, дзе разам з кіраўніком курсаў аглядалі знакаміты парк і сад памешчыка Грабоўскага і яго пчальнік. Пану Грабоўскаму і ўсім сялянам Маламажэйкаўскага і суседніх прыходаў а. Савіцкім паказаны рацыянальныя спосабы пчалярства. У цяперашні час звяртаюцца да яго за парадай, дасылаюць лісты памешчыкі і святары з іншых паветаў і губерняў»*[1].

У 1906-м на сродкі Віленскага Свята-Духавага Брацтва адбыўся чарговы рамонт царквы[2].

13 мая 1907 года святкавалася ўмоўнае 500-годдзе царквы.

Царкоўная ўрачыстасць пачалася з прыбыццём у Маламажэйкаўскую царкву 12 мая Архіепіскапа Літоўскага і Віленскага Нікандра. Стараннямі мясцовых жыхароў, мясцовага земскага начальніка і памешчыка М. М. Скосырава па дарозе ад станцыі Скрыбаўцы да царквы былі пастаўлены высокія аркі, прыбраныя зелянінай і сцягамі імперыі, гэтак жа былі ўпрыгожаны і масты па шляху руху ўладыкі. У 9 гадзін раніцы Архіепіскап з суправаджаючымі яго асобамі прыбыў у дом Маламажэйкаўскага святара айца Льва Савіцкага, а ў 9.30 раніцы была пачата памінальная літургія. На літургіі і паніхідзе, памінала памерлых заснавальнікаў, дабрачынцаў і настаяцеляў Маламажэйкаўскай царквы.

З раніцы ў Малым Мажэйкаве пачалі збірацца госці. Цягніком з Вільні прыбыў Віленскі губернатар Д. Н. Любімаў, віленскі павятовы прадвадзіцель дваранства І. Р. де-Віт, прадстаўнікі лідскай павятовай адміністрацыі, прадстаўнікі віленскага Св.-Духаўскага братэрства А. В. Бялецкі, Д. І. Даўгяла і А. І. Мілавідаў, прадстаўнікі «русского окраинного союза» Ф. Н. Дабранскі, Е. М. Крылоў і І. С. Саўчанка, ад «саюза рускага народа» В. Т. Лізін, ад «русского собрания» П. П. Шкот і ад таварыства «Крестьянин» С. А. Кавалюк. Дарэчы, большасць з іх — добра вядомыя «истинно-руские люди» ў нашым краі.

[1] Литовские Епархиальные Ведомости. № 45 — 1902. С. 375—377.

[2] Завала Віктар. Нараджэння Прасвятое Багародзіцы Маламажэйкаўская царква // Праваслаўе. № 9. — 2000. — С. 64—65.

Таксама каля 9.00 пачалі збірацца сяляне з ваколіц, хроснымі хадамі прыйшлі вернікі з Дзікушак, Радівонішкаў, Лебяды і нават Васілішак.

У 18.00 пачалося ўсенашнае чуванне. К гэтаму часу з хроснымі прышлі вернікі з Орлі.

Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел сыны і зяці айца Льва: а. Міхаіл Львовіч, святар з Вялікіх Жухавіч Навагрудскага павета, а. Іосіф Львовіч, святар Молчадскай царквы Гродзенскай губерні, а. Мікалай Фалевіч, святар Таўрогенскай царквы Ковенскай губерні, а. Мікалай Марозаў, святар Дукштанскай царквы Ковенскай губерні, а. Арыстарх Білев, святар Кабыльнікаўскай царквы Свянцянскага павета.

Пасля 24.00 Архіепіскап з суправаджаючымі яго асобамі па чыгунцы паехаў у Ліду.

Вельмі пацярпела Маламажэйкаўская царква падчас Першай сусветнай вайны. У 1915 годзе, калі фронт пачаў набліжацца да Лідчыны, у царкве зрабілі шпіталь для раненых расійскай арміі. Перад прыходам немцаў каштоўнасці храма (іконы, кнігі) былі эвакуіраваны ў Маскоўскую епархіяльную кантору і, зразумела, назад ужо не вярнуліся. Падчас нямецкай акупацыі тут быў лагер для ваеннапалонных. Алтарную частку ператварылі ў месца захоўвання правіянту і таму гэта было «салодкае» месца для пацукоў, якія пагрызлі падлогу і сапсавалі сцены. Ваеннапалонныя разбурылі агароджу, браму, спалілі пабудовы пры храме і, як кажуць, *«нават святататствавалі»*[1].

Разам з расійскімі войскамі айцец Леў Савіцкі пакінуў родныя мясціны, а вярнуўся ў 1920 годзе. Пасля вяртання застаў царкву ў страшным становішчы. Адразу пачаў клапаціцца пра яе аднаўленне.

Польскія ўлады ў той час распачалі працэс рэвіндыкацыі — вяртання раней забраных каталіцкіх храмаў. Але разам з былымі касцёламі час ад часу рабіліся спробы адабрання цэркваў, якія былі раней уніяцкімі і ніколі не былі рыма-каталіцкімі. На жаль, патрапіла ў гэты лік і Маламажэйкаўская царква, хоць вакол яе ў той час пераважала праваслаўнае насельніцтва.

Свой далейшы аповед пра лёс царквы ў 1920—30-х гадах я буду ў асноўным грунтаваць на выдатным даследванні гродзенскага гісторыка Аляксандра Горнага.

Вярнуўшыся на радзіму, айцец Леў Савіцкі на той час быў адным са старэйшых святароў Віленскай епархіі. Анкетны ліст прычта царквы, складзены ў той час, дазваляе ўявіць стан прыхода на пачатку 1920-х: прычт меў 63 дзесяціны зямлі, прыход складаўся з паўтары тысячы вернікаў, у яго склад, акрамя сваіх, уваходзілі і вёскі зачыненага Васілішскага прыхода. Святар жыў у доме каля храма, дом знаходзіўся ў вельмі дрэнным стане[2].

Часопіс «Праваслаўны беларус» пісаў, што Маламажэйкаўская царква вельмі спадабалася чыгуначным служачым: каталікам з суседняй станцыі Скрыбаўцы, якія і падалі хадайніцтва каталіцкаму біскупу пра перадачу ім царквы[3]. Пэўна, яшчэ адной нагодай стала «нядобранадзейнасць» протаіерэя айца Льва Савіцкага — старога, яшчэ з XIX стагоддзя, байца змагання з рымакаталіцтвам. Лідскі староста адмовіў яму ў выдачы польскага грамадзянства з-за «палітычнай нядобранадзейнасці», а без грамадзянства святар не мог выконваць свае абавязкі і павінен быў праз нейкі тэрмін пакінуць межы Польскай дзяржавы.

Верагодна, усё гэта і прадвырашыла далейшы лёс прыхода: у 1924-м у прычта была адабрана і аддадзена ў арэнду зямля, а 10 кастрычніка таго ж года па распараджэнні Міністэрства асветы і рэлігійных вызнанняў і пры паразуменні з вышэйшымі ўладамі Польскай праваслаўнай царквы, праваслаўны прыход у Малым Мажэйкаве быў скасаваны. Пісаліся розныя заявы ў адміністрацыйныя інстанцыі, звярталіся да варшаўскага мітрапаліта, урада і дэпутатаў польскага сойму з просьбай пра абарону. 4 красавіка 1925 года ў доме святара паліцыяй быў зроблены

[18] http://www.zvyazda.minsk.by/ru/pril/article.php?id=101149

[19] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2. — 2013. — С. 46.

[20] Там жа.

ператрус, а праз некалькі месяцаў намеснік навагрудскага ваяводы даслаў віленскаму епіскапу Фядосію ліст, у якім патрабаваў перавесці Савіцага ў іншае месца, бо ён *«не хоча выконваць распараджэнне польскіх улад і праводзіць агітацыю, шкодную для дзяржавы»*[1]. Фядосій у сваім адказе, спрабуючы абараніць святара, пісаў, што Савіцкі ўжо глыбокі стары і за сваё амаль шасцідзесяцігадовае знаходжанне на адным месцы зрадніўся з насельніцтвам прыхода, таму перавод яго ў іншае месца можа стаць фатальным. Неўзабаве 85-гадовага стары злёг у ложак і 3 лютага 1926 года памёр[2]. Аўтар газеты «Беларускае слова», які хаваўся пад псеўданімам «Праваслаўны беларус», пісаў у карэспандэнцыі «Смерць пастыра»: «*Ужо некалькі месяцаў хварэў наш дарагі духоўны пастыр — айцец Леў Савіцкі. У сераду, 3-га лютага, яго не стала. Весткі аб яго смерці хутка разыйшліся па ваколіцы і ўсюды выклікалі вылікі смутак і жаль. Леў Савіцкі прабыў у нас у Мураванцы 63 года. ...Але апошнім часам нашаму дарагому пастыру прышлося перанясці адну бяду за другой. Яго прыход пастанавілі скасаваць.*

*Айцец Савіцкі, не гледзячы на свае 90 гадоў, пачаў энергічна працаваць, каб якнебудзь уратаваць царкву. Ён пісаў заявы да вышэйшых уладаў, потым езьдзілі нават і прадстаўнікі нашага прыходу. Але ўсе гэта дарэмна. Праз нейкі час ад нашага прыходу адабралі ўсю царкоўную зямлю. Гэта было цяжкім ударам для усіх нас, а таксама і для нашага пастыра. Клопаты зусім падарвалі яго і без таго ўжо слабыя сілы і ён хворы паклаўся ў ложак, каб больш не устаць.*

*Здавалася, што памершы айцец ўжо нікому не перашкаджае. Аднак-жа выйшла інакш. Быў атрыманы ад мясцовага старасты загад, якім забаранялася хаваць нябожчыка каля царквы, прычына... што царква стаіць у населеным месцы. А два месяцы назад, у м. Беніцы Ашманякага пав., пахавалі свяшчэнніка каля царквы, хаця апошняя і стаіць пасярод мястэчка. ... Дык прыйшлося нясці нашага пастыра за 2 вярсты на могілкі, дзе ў старой капліцы ён і знайшоў свой апошні прытулак*»[3].

Пэўна, айцец Леў быў адзіным праваслаўным святаром на Лідчыне, якога цінула новая ўлада. Бо ўсе астатнія святары ў 1926-м ужо наўпрост атрымлівалі грошы ад польскага урада[4].

Павятовы староста загадаў царкву зачыніць і ключы ад яе перадаць мясцоваму благачыннаму. Аднак 25 лютага 1926 года ў Малое Мажэйкава да псаломшчыка прыехаў камендант паліцыі і адабраў ключы ад царквы. Не атрымаўшы ключы, благачынны, у прысутнасці двух святароў і панятых, апячатаў царкву[5].

---

[1] Там жа. С. 47.

[2] Там жа.

[3] Беларускае слова. № 5 — 1926. С. 3.

[4] Спіс неадкладнай дапамогі праваслаўным духоўным Лідскага павета за сакавік і красавік 1926 г.: Голдаўскі прыход, Кудасаў Уладзімір (благачынны) — 80 злотых; Зблянскі прыход, Валкоўскі Мікалай (настаяцель) — 65 злотых; Жыжмянскі прыход, Шчэрбіцкі Юзаф (настаяцель) — 65 злотых; Дакудаўскі прыход, Аляхновіч Ян (настаяцель) — 65 злотых; Радзівонішскій прыход, Коршун Рыгор (настаяцель) — 65 злотых; Табольскі (Беліцкі) прыход, Яцкевіч Ян (настаяцель) — 65 злотых; Баброўскі прыход, Бяляеў Аляксандр (настаяцель) — 65 злотых; Ганчарскі прыход, Малевіч Дзмітры (настаяцель) — 65 злотых; Лідскі прыход, Кірык Уладзімір (настаяцель) — 65 злотых; Лябёдскі прыход, Шыкаловіч Сымон (настаяцель) — 65 злотых; Ракавіцкі прыход, Флораў Уладзімір (благачынны) — 80 злотых; Глыбоцкі прыход, Загорскі Антон (настаяцель) — 65 злотых; Дэмбраўскі прыход, Мышкоўскі Базыль (настаяцель) — 65 злотых; Дзікушскій прыход, Жэброўскі Барыс (настаяцель) — 65 злотых; Арлянскі прыход, Галянкевіч Мікалай (настаяцель) — 65 злотых; Астрынскі прыход, Ліхнякевіч Ян (настаяцель) — 65 злотых, Лебедзеў Мікалай (вікарый) — 40 злотых; Пакроўскі (Сабакінскі) прыход, Шчастны Юстын (настаяцель) — 65 злотых; Турэйскі прыход, Ленько Кірыл (настаяцель) — 65 злотых; Шчучынскі прыход, Драздоў Рыгор (настаяцель) — 65 злотых. // Загідулін, А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.). Гродна, 2010. — С. 162.

[5] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2. — 2013. — С. 47.

Тым не менш вернікі працягвалі барацьбу і маліліся ў невялікай капліцы на могілках, якая не магла змясціць усіх прыхаджан. Вось што пісаў у часопісе «Праваслаўная Беларусь» аўтар пад псеўданімам «Мураванскі прыхаджанін» у артыкуле пад назвай «Маламажэйкаўская «мураванская» царква»: *«Вось ужо два гады, як нашая Маламажэйкаўская царква ... зачынена. У лютым прошлага года памёр наш свяшчэннік а. Леў Савіцкі. ... З зачыненнем царквы палажэнне у нашым прыходзе, маючым больш за 2000 душ, стала надта цяжкім. ... шмат прыхаджан не маюць магчымасці бываць у царквах суседніх прыходаў, якія знаходзяцца ад нас на досыць значных адлегласцях. Аб адчыненні царквы парафіяне хлапаталі, дзе толькі можна. Ездзілі ў гэтай справе не толькі да п. старасты і п. ваяводы, але і ў Вільню да Архіепіскапа і ў Варшаву да Мітрапаліта і нават у Міністэрства. Усюды абяцалі разгледзець справу, але ... нажаль ніякіх рэзультатаў не атрымалі. У астатні час нашым дэлегатам у старостве абвешчана, што ўся справа скіравана у міністэрства; у міністэрстве ж кажуць: "будзьце спакойны, справа адаслана да мітрапаліта, ад каторага ўсе залежыць", а мітраполія адпраўляе ізноў у міністэрства, кажучы, што ўся справа залежыць ад гэтага апошняга. З'явілася нейкае зачараванае кола. ...»*. Гэты ж аўтар пісаў, што летам 1927 года ў вёску з прапановай пераходу ў унію прыязджаў уніяцкі святар Васіль Гапановіч, ён меўся узяць на сябе справу аднаўлення царквы перад уладамі. Цікава, што «Мураванскі прыхаджанін» у якасці доказу старажытнасці сваёй праваслаўнай царквы спасылаецца на васьміканцовыя крыжы на вежах, якія, як вядома, былі зроблены на надбудаваных вежах толькі падчас рэканструкцыі ў 1872 годзе[1].

З кнігі Л. Маракова «Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917—1967» вядома, што сын Льва Савіцкага, Міхал Львовіч, які нарадзіўся ў 1869 годзе ў вёсцы Мураванка Лідскага павета Віленскай губерні, згодна з дадзенымі архіва НКУС *«беларус, з духоўнага саслоўя, сярэдняя адукацыя, святар царквы ў м. Старобін»*. Быў арыштаваны 06.08.37 г. і асуджаны 10.09.37 г. «тройкай» за антысавецкую агітацыю паводле арт. 72 КК БССР да вышэйшай меры. Расстраляны ў Слуцкай турме 17.09.37. г. Міхал Львовіч скончыў Літоўскую духоўную семінарыю і быў рукапаложаны ў іерэі ў 1894 годзе. З 1898 года быў настаяцелем Раства-Багародзіцкай царквы вёскі Поўбераг Навагрудскага павета. З 1906-га служыў у Петра-Паўлаўскай царкве вёскі Вялікія Жухавічы Навагрудскага павета. З лютага 1915-га настаяцелем Мікалаеўскай царквы ў мястэчку Старобін Слуцкага павета[2]. 8.09.1937 г. у Разані быў арыштаваны ўнук Льва Савіцкага — настаўнік Разанскай спецыяльнай школы № 15 Савіцкі Вадзім Міхайлавіч (нарадзіўся ў 1903 годзе ў вёсцы Паўбераг). 19.10.1937 г. асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за *«сістэматычную антысавецкую агітацыю і контррэвалюцыйную прапаганду сярод насельніцтва»* да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Маскве на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава» 21.10.1937 г.[3].

Так атрымалася, што ідэалагічная вайна, якую вяла імперыя, верным жаўнерам якой быў айцец Леў Савіцкі, пасля 1920-га года не скончылася і сапсавала яму старасць. А «чырвоная імперыя» забіла яго сына і ўнука.

---

[1] Праваслаўная Беларусь. № 5 — 1927. С. 10—11.

[2] Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917—1967. Т. 2. // Рэжым доступу: http://www.marakou.by/by/davedniki/repres_nastaunik/tom-iv-kniga-ii/index_24965.html. — Дата доступу: 12.08.2013.

[3] Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Рэпрэсаваныя Настаўнікі Т. IV. Кн II. // Рэжым доступу: http://www.marakou.by/by/davedniki/repres_nastaunik/tom-iv-kniga-ii/index_24965.html. — Дата доступу: 12.08.2013.

*Віялета РЫЧАГА*

# ЧАЛАВЕК ШМАТГРАННЫ



Ці глядзелі вы калі-небудзь на ювелірнае ўпрыгожванне праз мікраскоп? Гэта сапраўднае відовішча — золата становіцца перад вачыма ідэальна гладкім мурам, а сапфір ззяе гранямі, адкрываючы ўсю сваю бясконцую і таямнічую глыбіню. Ювелірных спраў майстар Павел — герой нашай рубрыкі.

— Адвучыўшыся ў каледжы па тэхнічнай спецыяльнасці, папрацаваўшы два гады на трактарным заводзе па размеркаванні, правучыўшыся год ва ўніверсітэце па гэтым жа профілі, я нарэшце зразумеў, што раблю нешта не тое. Гэта не маё.

Бацькі — выкладчык і інжынер — заўсёды патрабавалі ад яго нечага. Але гэта аказалася не яго. Ён доўгі час прафесійна займаецца танцамі, выбраўшы адразу некалькі накірункаў: электрык бугі, хіп-хоп…

— Вельмі люблю харэаграфію. Раней ездзіў танчыць у розныя краіны па кантрактах. Туніс, Турцыя, Кітай… Я і цяпер выступаю ў клубах ды на мерапрыемствах. Але ў танцах так: эмоцыі аддаеш — эмоцыі атрымліваеш. Нічога больш. Па шчаслівай выпадковасці ў той прамежак жыцця, калі я гэта зразумеў і пачаў прагнуць чагосьці новага, мне прапанавалі паспрабавацца сябе ў якасці ювеліра.

Павел у гэтай справе нядаўна — з мінулага красавіка, але ўжо працуе нароўні з вопытнымі майстрамі: прымае заказы на рамонт. Майстэрня займаецца яшчэ і вытворчасцю аўтарскіх упрыгожванняў. У памяшканні прыёму заказаў усталявана вялікая вітрына з мноствам каштоўнасцей, выраблених калегамі Паўла. Сам ювелір лічыць, што яму рана рабіць нешта сваё: усяму свой час. Майстэрня знаходзіцца ў Доме Быта ля станцыі метро «Інстытут Культуры». Майстры тут працуюць сярод мноства мудрагелістых прадметаў і машын, пра якія Павел распавядае з асаблівай цікавасцю:

— Спецыфіка прафесіі такая, што кожны ювелір мае ўласны, толькі для яго зручны інструмент. Ён дарагі, але кошт свой апраўдвае. Я папаўняю свой набор паступова: усё, што ёсць на стале, маё, за выключэннем бормашыны і мікраскопа. Калі прыйшоў сюды ўпершыню, мне далі срэбраную пласціну і сказалі: «Выпілоўвай што хочаш». Няхітрая справа, калі маеш інструмент. Але яго ў мяне не было…

Першы яго матэрыял — латунь. На ім трэніраваўся, рабіў латуневыя завушніцы і кольцы. Пасля ўзяўся за срэбра. Але гэта — у залік плана майстэрні. Затым пачаў працаваць з камянямі. Прайшло больш за паўгода — і ён выконвае амаль усе ювелірныя працы. Вядома, не ідэальна, але гэта прыйдзе з вопытам. Часам трапляецца нешта вельмі складанае. Гэта яму асабліва цікава, але...

— Люблю працаваць з кольцамі больш, чым з завушніцамі. У апошніх павінна быць

**Я выдатна ўсведамляю, што для таго, каб мець поспех у гэтай галіне, трэба рабіць нешта больш чым выдатнае, звышзапамінальнае, сапраўды аўтарскае**

ідэальная сіметрыя, а гэтага вельмі цяжка дабіцца. Люблю інкрустацыю. З працай над ланцужкамі пакуль сур'ёзна не сутыкаўся, але ў вольны час ствараю ланцужок каралеўскага пляцення. Чамусьці абраў самае складанае.

Апошнім часам ён стаў надаваць шмат увагі ювелірным упрыгожванням на людзях, што яго атачаюць.

— Я так стаў гэтым цікавіцца, што нават у фільмах прыкмячаю, якога пляцення ланцужок на акцёры.

На пытанне пра запатрабаванасць вышэйшай адукацыі ювелір адказвае абдумана:

— Як «корачка» для мяне адукацыя не мае сэнсу, як веданне — мае, і досыць глыбокі. Але толькі пры ўмове, што чалавек падышоў да атрымання адукацыі свядома, асэнсавана. Тады яна будзе мець вагу. «Кінь наперад — знойдзеш ззаду» — гэта мудрае выслоўе. Я б ніколі не мог падумаць, што мая тэхнічная адукацыя спатрэбіцца ў ювелірнай справе. Галоўнае — не ўпусціць момант самавызначэння.

А пра будучыню разважае рэалістычна:

— Першая індывідуальная праца — падарунак для каханай: кальцо з дыяментам. Чаго б я хацеў? Выпусціць уласныя ювелірныя калекцыі. На гэты конт ёсць вялікія планы і мноства ідэй. Пакуль, вядома, не хапае вопыту. Але з часам прыйдзе. Свет ювелірных вырабаў — гэта цэлая бездань. І знакамітых, таленавітых ювеліраў — мноства. Я выдатна ўсведамляю, што для таго, каб мець поспех у гэтай галіне, трэба рабіць нешта больш чым выдатнае, звышзапамінальнае, сапраўды аўтарскае.

Юнак гаворыць і пра сваё разуменне шчасця. Бо за час працы ювелірам навучыўся бачыць дэталёва і без мікраскопа.

— Задумваюся над тым, што чалавек, які з'яўляецца на свет як самародак, з часам набывае грані. У гісторыі агранкі камянёў было мноства вех. Існавалі розныя віды агранкі — на сямнаццаць, на дваццаць пяць граняў… Ювеліры шукалі ідэальную, тую, што будзе выразна выяўляць аптычную глыбіню алмаза. Найбольш блізкая да дасканаласці — пяцьдзясят сем граняў. Так і чалавек — развіваецца, набывае новыя грані на працягу ўсяго жыцця. Яны фарміруюцца ў сям'і, сярод сяброў, на працы, з'яўляюцца ад прафесійных навыкаў, цікавасцей... «Шматгранны чалавек» — не проста так кажуць.





*Ганна АЛЕКСЯЕВІЧ*

# ДАЗВАЛЯЕЦЦА НЕ ЛЮБІЦЬ

***Літаратура для нас мае дзве іпастасі: бел. літ. і рус. літ. Асабліва паказальнымі ў дадзеным выпадку з'яўляюцца кропкі. Той сціслы адаптаваны варыянт, які прапануе школьная праграма, лепш называць літам, чым літаратурай. Шкадуем часу. Тым больш алагічным варта лічыць падрабязнае вывучэнне рускай літаратуры. Заўважце, што асобнага ўрока па сусветнай літаратуры ў нас няма. Бясспрэчна, з рус. літам трэба нешта рабіць. Памяркуем, аднак, на гэту тэму іншым разам. Цяпер пра раднейшае — бел. літ.***

Усю крытыку, пад агонь якой трапляе школьны курс беларускай літаратуры, можна звесці да спрэчак вакол двух пытанняў: *што чытаць?* і *як прымусіць гэта чытаць?* Хоць адказаў тут можа быць мноства і самых розных, бо настаўнік, вучань, метадыст і міністр — кожны мае сваё меркаванне, але нам патрэбен *адказ*. Не адказы, прадвызначаныя індывідуальным досведам і прыватнымі густамі, а адказ, які будзе канцэпцыяй урока літаратуры. Які будзе адзіным. Пачнём, аднак, з пытанняў.

Што чытаць? Калі гучыць гэта пытанне, то адразу перад вачыма ўзнікае спіс з пранумараванымі аўтарамі і творамі, абавязковымі ці рэкамендаванымі да прачытання. Колькасць мастацкіх твораў вялікая, аб'ёмы іх таксама не малыя, таму трэба выбіраць, і лепш ставіцца да гэтай працэдуры як да чагосьці непазбежнага. Іншая справа, якім чынам ажыццяўляецца выбар? З аднаго боку, школа мае за мэту пазнаёміць нас з мацнейшымі беларускімі пісьменнікамі і іх творамі. Абстрагуючыся ад канкрэтыкі, нам паказваюць лепшыя ўзоры нацыянальнага славеснага мастацтва і пісьменніцкага стылю. Гэта істотна. Інтэрпрэтацыі, крытыка, чытацкі водгук, фільмы па матывах і песні на словы — усё з'яўляецца пасля, спачатку — мастацкі тэкст. Калі ён моцны, то гэта першая прычына, чаму яго трэба чытаць. Паэзію Максіма Багдановіча даволі складана ўключыць у кантэкст айчыннай літаратуры (лепш яе разглядаць у межах сусветнай), яна — іншая. Але мастацкая вартасць Багдановічавых твораў настолькі высокая, што іх немагчыма ігнараваць. Другі крытэрый, на якім павінен грунтавацца выбар аўтараў і твораў для прачытання, куды больш сутнасны. Літаратура ўвогуле, як від мастацтва, не з'яўляецца сумай усіх пісьменнікаў і іх твораў. Каб разважаць пра літаратуру на належным узроўні, недастаткова ведаць біяграфію пісьменніка і змест яго твораў. Бо літаратура — гэта яшчэ і працэс. А працэс, пагадзіцеся, ведаць немагчыма, яго можна толькі асэнсоўваць. І мы спрабуем надаваць літаратуры розныя сэнсы, упісваючы яе ў гістарычны кантэкст, культурныя эпохі, мастацкія плыні, жанравую структуру. Таму, абіраючы пісьменніка і твор, трэба думаць, каб яны былі люстэркам сваёй эпохі і дэманстравалі яе мастацкія набыткі, каб яны, урэшце, акрамя як пра саміх сябе, расказвалі нам і пра

> Літаратура ўвогуле, як від мастацтва, не з'яўляецца сумай усіх пісьменнікаў і іх твораў

> Чытаць дзеля таго, каб чытаць, чытанне як самамэта — у гэтым літаратуры няма

**На жаль, пакуль бел. літ. усё больш прыпадабняецца да «нешта там пачыталі і штосьці там абмеркавалі»**

свой час. Айчынная літаратура не развівалася ў вакууме. Яна, як усё чалавечае, мае гісторыю. Пісьменнікі і іх творчасць таксама суадносяцца з гэтай гісторыяй. Яны адначасна і ствараюць яе, і прадвызначаюцца ёю. Янка Купала павінен вывучацца, бо без яго немагчыма гаварыць пра нацыянальнае адраджэнне пачатку ХХ стагоддзя. П'еса «Тутэйшыя» павінна быць прачытана, бо ў ёй канцэнтруюцца ідэі, стылістычныя прыёмы, мастацкія вобразы тагачаснай эпохі. Падборка аўтараў і твораў павінна быць такой, каб мы мелі магчымасць разважаць пра гісторыю нацыянальнай літаратуры.

Такім чынам, першае — якасць мастацкіх тэкстаў, другое — наколькі добра яны суадносяцца з гісторыяй літаратуры. Калі мы будзем прытрымлівацца гэтых патрабаванняў, то выканаем важную задачу: пазнаёмім нашых дзяцей з літаратуразнаўствам, з сур'ёзным і асэнсаваным поглядам на літаратуру. На жаль, пакуль бел. літ. усё больш прыпадабняецца да «нешта там пачыталі і штосьці там абмеркавалі». Між тым, літаратура ўжо даўно вывучаецца асобнай навуковай дысцыплінай. Веды, якія назапасіла айчыннае літаратуразнаўства, павінны быць скарыстаны ў школе. Бел. літ. трэба наблізіць да навукі, замацаваць сувязь паміж школьным урокам і літаратуразнаўчымі пошукамі. Даць усё, канешне, не атрымаецца. Занадта многа пісьменнікаў, твораў, крытыкі, тэарэтычных выкладак. Але захаваць унутраную логіку, прынцыпы літаратуразнаўства — магчыма. Таму шукаючы адказ на пытанне «што чытаць?», пацікаўцеся: што чытаецца і вывучаецца ў межах айчыннага літаратуразнаўства? З гэтай жа прычыны выбар аўтараў і твораў мэтазгодна дstation аўтарытэтам у сваёй галіне. Яны ў нас ёсць. Згадаем, напрыклад, Уладзіміра Гніламёдава, Адама Мальдзіса, Вячаслава Рагойшу, Міхася Тычыну. Калі даводзіцца

**Наколькі мэтазгодна пытацца, ці спадабаўся твор? Асабліва калі гэта «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» альбо паэтычныя тэксты Алеся Разанава?**

краіць на кавалкі, ушчыльняць, прарэджваць шматаблічную беларускую літаратуру, то лепш хай гэта робяць прызнаныя літаратуразнаўцы. Іх рашэнне — як любое рашэнне прафесіяналаў — выглядае больш прымальным, справядлівым і аб'ектыўным, чым высновы і крытэрыі, якія нафантазіруюць у ідэалагічных кабінетах.

Цяпер другое пытанне: як прымусіць чытаць? Некаторыя прапануюць вырашыць яго за кошт першага. Маўляў, змесцім творы па ўзросце, напрыклад, шасцікласнікі няхай чытаюць прыгоды шасцікласнікаў, а дзевяцікласнікі — пра клопаты дзевяцікласнікаў. Няблага ўвесці больш вострасюжэтнай прозы, насычанай сучаснымі рэаліямі, паменшыць аб'ёмы бессюжэтнай паэзіі і адмовіцца ад ўсяго, што ўтрымлівае гістарызмы і архаізмы. Што на гэта скажаш? Застаецца перайменаваць бел. літ. у бел. чыт. Калі ласка, не блытайце ўрок літаратуры з урокам чытання. Чытаць нас вучаць у пачатковай школе. Там сочаць, каб мы рабілі гэта правільна і хутка. Гэтае ўменне нам пасля спатрэбіцца ў старэйшых класах, калі з'явяцца падручнікі па фізіцы, біялогіі, гісторыі і іншых спецыяльных прадметах. Літаратура — такі ж самы спецыяльны прадмет. Каб яго засвоіць, папярэдне трэба навучыцца добра чытаць. Тут уменне чытаць патрабуецца як сродак. На ўроку літаратуры мы карыстаемся ім для дасягнення іншых задач. Таму пытан-

**Веды, якія назапасіла айчыннае літаратуразнаўства, павінны быць скарыстаны ў школе. Бел. літ. трэба наблізіць да навукі, замацаваць сувязь паміж школьным урокам і літаратуразнаўчымі пошукамі**

**Чытаць дзеля таго, каб чытаць, чытанне як самамэта — у гэтым літаратуры няма**

**Сёння чытаюць шмат, як ніколі шмат. Аднак што чытаюць? Рэкламу, інструкцыю, статыстыку, склад прадукту на ўпакоўцы, медыцынскія даведнікі, кулінарныя кнігі, — усё, што нас інфармуе**

**Калі даводзіцца краіць на кавалкі, ушчыльняць, прарэджваць шматаблічную беларускую літаратуру, то лепш хай гэта робяць прызнаныя літаратуразнаўцы**

не «як прымусіць чытаць?» — збыткоўнае. Акцэнтуючы на ім увагу, мы ўхіляемся ад галоўнага: развіць аб'ектыўнае ўспрыняцце літаратурнага працэсу. Прасцей кажучы, даць зразумець, што літаратура — гэта сур'ёзна, што яна мае сваю працяглую гісторыю, свае заканамернасці, традыцыі; што мастацкі твор не існуе ізалявана, што яму, каб «жыць», неабходны кантэкст. За апошняе стагоддзе прафесіяналізм зрабіўся прыкметнай адзнакай літаратуры, яна ўжо рэдка церпіць дылетантаў; пісьменнікі, крытыкі і літаратуразнаўцы — пераважна прафесіяналы. Гэта значыць, што літаратура, акрамя таленту, вымагае сіл, часу і ведаў. Школа павінна данесці гэтую думку. Чытаць дзеля таго, каб чытаць, чытанне як самамэта — у гэтым літаратуры няма.

Што мы маем. Першае пытанне ўскладаем на плечы літаратуразнаўцаў. Яны, зыходзячы са свайго вопыту, абазнанасці, навуковай дзейнасці, здольны прапанаваць для школьнай праграмы аўтараў і творы, якія суадносяцца з прыярытэтамі айчыннага літаратуразнаўства. Яны павінны атрымаць права пры неабходнасці ўключаць і выключаць са школьнага курса тых ці іншых пісьменнікаў і іх творы. Зрэшты, ім па сілах таксама задаць правільны кірунак урокам літаратуры, каб дзеці, разважаючы, улічвалі назапашаныя веды, зробленыя ў гэтай гуманітарнай навуцы. Мы ўпэўненыя, што нашы дзеці заслугоўваюць таго, каб ведаць, чым займаюцца дарослыя. Другое пытанне варта пакінуць па-за ўвагай. Школа мае добрыя намеры, але мала плёну ў гэтым. Цяжка ісці супраць грамадства, яго звычак, светапогляду. Сёння чытаюць шмат, як ніколі шмат. Аднак што чытаюць? Рэкламу, інструкцыю, статыстыку, склад прадукту на ўпакоўцы, медыцынскія даведнікі, кулінарныя кнігі, — усё, што нас інфармуе. Школа спрабуе заахвоціць да чытання, якое вымагае ад нас развагі, перадумвання і перажывання. Жыццё вымагае інфармацыі, школа супярэчыць гэтаму і, дарэчы, вельмі нязграбна. Вучні злуюцца, школа пачынае патрабаваць. Урэшце, літаратура дыскрэдытавана, бо навучэнцы атаясамліваюць яе з прымусам чытаць. Не трэба на сябе многа браць. Урок літаратуры павінен знаёміць нас з літаратурай як працэсам, мастацтвам, і толькі пасля выконваць іншыя педагагічныя задачы.

Бел. літ. павінен крочыць адзіным шляхам з айчынным літаратуразнаўствам. Вядома, крокі не будуць супамернымі. Школьны ўрок — меншы і больш сціслы яго варыянт, але «душа» ў бел. літа і беларускага літаратуразнаўства павінна быць адна на дваіх. У гэтым мы бачым адказ на ўсе папярэднія пытанні.

Дазволім сабе ў якасці *post scriptum* закрануць далікатнае. Ці ёсць сэнс у тым, каб дамагацца вучнёўскай любові да ўрока літаратуры? Наколькі мэтазгодна пытацца, ці спадабаўся твор? Асабліва калі гэта «Жыццё Еўфрасінні Полацкай» альбо паэтычныя тэксты Алеся Разанава? Густы школьніка толькі акрэсліваюцца, яму бракуе ведаў і разумення. Замест таго, каб прымушаць яго любіць, нашмат лепей растлумачыць яму, за што твор калісьці *любілі* па часе яго стварэння і за што *цэняць* гэты твор крытыкі і гісторыкі ад літаратуры цяпер. Таму бел. літ. дазваляецца не любіць, але ведаць — абавязкова.

# ПА СУСЕДСТВЕ З МАНЮШКАМ

***Ёсць у нашай сталіцы ўнікальная «музычная акруга». Тут, побач з плошчай Свабоды, знаходзяцца Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі і Рэспубліканская гімназія-каледж пры БДАМ, крыху далей атабарыўся Беларускі саюз кампазітараў. Старэйшыя мінчукі памятаюць, што яшчэ ў другой палове мінулага стагоддзя да акадэміі (тады — кансерваторыі) прымыкаў даўні будынак гарадскога тэатра, дзе доўгі час месцілася музычнае вучылішча, а на суседніх вуліцах былі нотная бібліятэка і крама «Ноты»...***

## ДОЎГІ ЎСТУП

Пару гадоў таму ў раёне плошчы з'явілася канцэртная зала «Верхні горад», абсталяваная пад купалам адноўленага помніка культавага дойлідства. Адсюль можна прайсці ў Музычны завулак, да Дзяржаўнага музея тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, у некалькіх кроках ад якога — Дом Ваньковічаў: канцэрты гучаць і там.

Архікафедральны касцёл, што на плошчы Свабоды, таксама ладзіць адметныя музычныя праграмы. Дарэчы, менавіта ў гэтым храме хрысцілі нашага знакамітага земляка, класіка беларускай і польскай музыкі Станіслава Манюшку. Ды і дом, дзе кампазітар жыў у дзяцінстве, — зусім блізка: лічы, насупраць акадэміі музыкі.

Хіба ж не пашчасціла адораным вучням Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 10? Іх альма-матэр таксама апынулася на гэтым знакавым творчым абсягу. Пры канцы мінулага стагоддзя школа перасялілася ў старасвецкі цэнтр горада. Набыла тут класы для штодзённых заняткаў, адмысловую канцэртную залу і цяпер, можна сказаць, сімвалічна мяжуе праз мураваную сцяну з тым самым гістарычным домам, дзе нейкі час жыў і прычыняўся да музыкі юны Манюшка.

## КАРОТКАЯ СТАТЫСТЫКА

Адна з лепшых сярод роднасных устаноў, мінская ДМШМ № 10 сёння годна носіць імя Яўгена Глебава, беларускага кампазітара-класіка ХХ стагоддзя. Ёй ужо крыху больш за сорак: склалася свая гісторыя, на старонках якой — чарада шматлікіх выхаванцаў, аблічччы выдатных педагогаў, падзеі, набыткі...

Пачыналася гісторыя школы з адкрыцця класаў баяна і фартэпіяна ў будынку Цэнтральнага дома афіцэраў. Цяпер жа выбар для будучых вучняў непараўнальна багацейшы. Дзетак ад шасці гадоў запрашаюць на струннае, струнна-народнае, духавое, харавое, тэарэтычнае, эстраднае ды іншыя аддзяленні. Навучаюць тут ігры на цымбалах, баяне, акардэоне, гітары, фартэпіяна — больш як на двух дзясятках інструментаў! Пад кіраўніцтвам настаўнікаў-энтузіястаў фарміруюцца аркестры, хоры, ансамблі. Юныя салісты і калектывы становяцца лаўрэатамі разнастайных конкурсаў: гарадскіх, рэгіянальных, рэспубліканскіх і нават міжнародных — школьныя «маланкі» час-почас пра гэта паведамляюць. Сярод выхаванцаў ёсць стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. «Самыя-самыя» з выпускнікоў працягваюць музычную адукацыю і дасягаюць поспехаў у абраных прафесіях.

Што і казаць, педагагічны калектыў ДМШМ № 10 на чале з легендарным дырэктарам — знанай прадстаўніцай саюза музычных дзеячаў Тамарай Куніцкай — працуе на будучыню краіны. Дбае пра выхаванне юных душ, далучэнне моладзі да гуманітарных каштоўнасцей, да спрадвечных ідэалаў мастацтва. Увага да новых пакаленняў адчуваецца і ў асаблівым клопаце пра трох-чаты-



*Пяцікласніца Настасся Кавалёва — лаўрэат рэгіянальнага конкурсу.*



*Лаўрэат рэспубліканскага конкурсу Раман Бабарыкін (6 клас).*



*Хор хлопчыкаў.*

рохгадовых дашкольнікаў. Для такой дзятвы працуе эстэтычны цэнтр пры школе. Яго праграма скіравана на ранняе раскрыццё музычных здольнасцей. У малечы, якая ўспрымае ўрокі як вясёлую і захапляльную гульню, развіваюцца музычны слых, творчае мысленне, многія важныя навыкі.

## БЯСКОНЦЫЯ ЭМОЦЫІ

Дзе толькі ні выступаюць юныя выканаўцы! Удзельнічаюць у культурных акцыях, святочных імпрэзах, вернісажах, філарманічных праектах. Іх рэпертуар складаецца з лепшых узораў музыкі розных часоў і народаў, розных напрамкаў, стыляў і жанраў. А самае пачэснае месца займае творчасць айчынных аўтараў. І як трапятліва ставяцца тут да музычнай спадчыны нашага незабыўнага майстра, чыё імя нададзена школе! У дзень яго нараджэння, 10 верасня, на пачатку кожнага навучальнага года — адразу пасля працяглых летніх вакацый! — школа дае гожы канцэрт з твораў Глебава.

На жаль, прафесійная беларуская музыка апошнім часам даволі рэдкая госця ў праграмах сваіх жа філарманічных артыстаў. Ці жывуць у памяці людзей асобы класікаў ХХ стагоддзя, якія паўплывалі на развіццё нашай музычнай культуры? Ці ведаюць сугрwelмадзяне імёны сучасных творцаў? Марныя пытанні, калі ўзгадавана ўжо не адно пакаленне беларусаў з даволі цьмяным досведам і пра музычнае мастацтва наогул, і пра здабыткі нацыянальных кампазітараў...

Аднак не ўсё страчана і татальны змрок у гэтай сферы нам не пагражае, пакуль гарыць святло цікавасці, неабыякавасці, любові да рознай і роднай музыкі. Прыгожых душою людзей, якія падтрымліваюць ды прымнажаюць гэтае святло, нямала. З такіх — і педагогі ДМШМ № 10. Помніцца яскравы вечар, які ладзілі яны разам са сваімі выхаванцамі ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Нечаканым было месца яго правядзення, бо зазвычай справаздачныя канцэрты мінскіх музычных школ адбываюцца ў Малой зале. Назва імпрэзы — «Музыка беларускіх кампазітараў у сэрцах нашых дзяцей» — не вымагала каментарыяў. З якой жа радасцю ішлі нашы сучаснікі-кампазітары на гэты канцэрт!

Публіку ўразіла маляўнічая поліфанія самых розных пластоў айчыннай музычнай культуры: архаічныя глыбіні фальклорных вытокаў, вытанчаны водгалас XVI стагоддзя, пачуццёвасць рамантызму, стракаты стылістычны свет гукавых імпрэсій савецкага часу і дня сённяшняга. Гучалі творы Я. Цікоцкага, М. Чуркіна, Я. Глебава, І. Лучанка, В. Іванова, Э. Ханка, К. Цесакова, В. Войціка, Р. Суруса, В. Кузняцова...

Калі складальнікі праграмы марылі ахапіць неабдымнае, дык ім гэта ўдалося. Кожны нумар падаваўся маленькім творчым адкрыццём, выклікаў чараду эмоцый, і вылучыць нешта як лепшае было немагчыма. Вось і цяпер — проста ўспамінаю...

Хто ж выходзіў у той вечар на сцэну? Юны гітарыст-віртуоз, лаўрэат міжнароднага конкурсу Аляксей Афян, вучань 4 класа (педагог Ю. Мяркулаў). Лаўрэат рэспубліканскага конкурсу шасцікласнік Раман Бабарыкін (клас К. Косціна): пранікнёны голас яго саксафона гарманічна спалучаўся з гучаннем Узорнага камернага аркестра пад кіраўніцтвам А. Варламава. Лаўрэаты рэгіянальных конкурсаў габаістка Настасся Кавалёва (5 клас, педагог Н. Рананская), піяніст Ян Мар'янскі (6 клас, педагог І. Дронь). Яшчэ — Узорны старэйшы хор (кіраўнік А. Клімовіч), адзначаны конкурсным Гран-пры ў Італіі; крэатыўны фальклорны ансамбль «Праменьчык» (кіраўнік В. Лінко, канцэртмайстар В. Белавусаў); Узорны аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам Н. Ручымскай; Ансамбль народных інструментаў, дзе граюць навучэнцы і выпускнікі школы (кіраўнік А. Сівакоў); Хор хлопчыкаў пад кіраўніцтвам У. Глушакова. З ансамблем скрыпачоў, якім кіруе А. Грэкаў, саліравала лаўрэат рэспубліканскага конкурсу сямікласніца Настасся Саўчанка (педагог В. Равуцкая), а п'еса Д. Камінскага, выкананая імі, прагучала ў пералажэнні выкладчыка школы, кампазітара Я. Ларыёнава.

Брава, салісты-настаўнікі! Ілья Кубліцкі абудзіў старажытны голас лютні — праз музыку з ананімных зборнікаў, вядомых як «Полацкі сшытак» і «Віленская табулатура». Лаўрэат міжнародных конкурсаў, новая зорка беларускага піянізму Аляксандр Палякоў артыстычна сыграў адзін з паланэзаў Н. Орды. Квартэт «Ривьера», у складзе якога — маладыя педагогі, лаўрэаты і стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі Таццяна Кармазінава (флейта), Дзмітрый Солтан (фагот), Дзмітрый Ярацэвіч (кларнет), Максім Расоха (габой, кіраўнік ансамбля), узнавіў забытыя старонкі спадчыны Э. Тырманд, С. Палонскага. Дуэт лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Алены Дзегцяровай і Таццяны Краснабаевай завабіў публіку ў каларытны свет цымбал...



*Удзельніцы Узорнага старэйшага хору.*

Дынамічная праграма, пабудаваная на вобразных кантрастах, чаргаванні розных жанраў і форм, выклікала феерверк пазітыўных эмоцый у зале. А калі наша музыка раскрывае свае вартасці праз шчырасць і натхненне юных выканаўцаў, праз усхваляваныя душы і майстэрства іх настаўнікаў, хіба можна не заўважыць, наколькі яна багатая, самабытная, разнастайная!

* * *

***Тамара КУНІЦКАЯ, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, дырэктар ДМШМ № 10 імя Я. Глебава г. Мінска:*** *«Мы даражым традыцыяй выступленняў на галоўнай канцэртнай сцэне краіны. Вельмі сур'ёзна, з любоўю да нашых кампазітараў і гледачоў, рыхтуемся. Прысутнасць на такіх канцэртах афіцыйных асоб падкрэслівае прыярытэты дзяржавы ў культурнай палітыцы, успрымаецца як сур'ёзная ўвага да сумеснай працы нашых навучэнцаў і педагогаў, як асаблівая падтрымка. Шчыра дзякуем беларускім кампазітарам за іх творчасць, якая заўсёды ў сэрцах нашых дзяцей».*

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ,***
***фота аўтара***

# КНІГІ, МУЗЕЙ, ЮБІЛЕЙ

**Не толькі з Новым годам**, а і з юбілеем — 70! — павіншаваў Міхася Слізкага Беларускі саюз музычных дзеячаў. Апантаны ігрой на гармоніку віртуоз, руплівец традыцый народна-інструментальнага выканальніцтва, Міхась Слізкі вядомы і як стваральнік унікальнага Музея гармоніка. Гадоў 20 збіраў ён калекцыю даўніх інструментаў гэтага «інтэрнацыянальнага сямейства». Калі ў кватэры назапасілася іх больш за сотню — баяны, акардэоны, рарытэтныя гармонікі, у тым ліку губныя, экзатычны банданеон, — перадаў свой бясцэнны збор у БДУ культуры і мастацтваў, дзе нейкі час выкладаў. Так нарадзіўся музей, у якім экспанаты не застойваюцца на паліцах, а гучаць для наведвальнікаў на розныя галасы ў руках іх захавальніка-музыканта.

**На вокладках новых кніг**, што выйшлі ў свет у розных выдавецтвах, — імёны знаных прадстаўнікоў БСМД. Зборнік артыкулаў, рэцэнзій, інтэрв'ю «Міхась Казінец: «Музыка — душа народа» (укладальнік З. Прыгодзіч) прысвечаны творчасці гэтага выдатнага дырыжора, прафесара, мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча, стваральніка студэнцкага аркестра «Маладая Беларусь». Грунтоўнае выданне «Мажэйка Зінаіда Якаўлеўна. Да 50-годдзя навуковай і творчай дзейнасці» (укладальнікі Т. Якіменка, Т. Бярковіч) прадстаўляе асобу нашага вядучага этнамузыколага і этнакінематаграфіста, доктара мастацтвазнаўства, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата міжнародных прэмій. У аўтарскі зборнік «Флюиды» Ірыны Карнавухавай (яна кіруе народным клубам кампазітараў і паэтаў «Жывіца») увайшлі яе вершы і празаічныя замалёўкі.









# Бярозка

№ 1/2013(1028)












**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



# Па зіме нават летам будзем мы сумаваць...

* * *

Імгненна мчаць дні восені цудоўнай,
І ўсё былое ўжо не вернецца назад...
Заявіць снежань пра сябе няўмольна
І зробіць успамінам лістапад.

Аднак не трэба сумаваць,
Што восеньская адгучыць мелодыя?
Рыхтуйся зімку снежную страчаць,
У ёй свая адметная рапсодыя!

*Дар'я ВЕЛЕСЕВІЧ,*
*Пружаны*

## Матухна зіма

Белым снегам,
Нібы пухам,
Уся зямля накрылася.
Гэта матухна-зіма
У госці заявілася.
Рэчкі лёдам закавала,
Дрэвы інеем прыбрала.
У белы снег афарбавала
Чорныя дамы...
Усё наўкол блішчыць і ззяе,
Пагуляць нас запрашае.
Надыход зімы.

*Вікторыя ЗАХАРЭВІЧ,*
*Міёры*

## Навагодняе...

Белым снегам зіма закружыла,
Усцілаючы срэбрам зямлю.
Сэрца радасцю ахапіла,
Бо зіму-чараўніцу люблю!
Серабрынкі мігцяць мітусліва,
Запрашаюць у свой карагод,
А зіма-чараўніца імклiва
Нам на санках вязе Новы год!
Новы год па зямлі крочыць зноўку,
Дзед Мароз са Снягуркай ідзе.
Дзеці песні спяваюць пра ёлку,
Снег у Дзеда блішчыць ў барадзе.

*Ілья БЛІЗНЮК,*
*Мінскі раён, Мачулішчы*

## Снежная казка

Ой, зіма, зіма, зіма,
Весялей цябе няма!
Твае снежныя дары —
Нашы лепшыя сябры!
Мы са снегу дом зрабілі,
Бабу снежную зляпілі,
А за снежнай бабай следам,
Злепім снежнага мы дзеда.
А яшчэ і курку-рабу...
Не сумуйце дзед і баба!
Вось і вечар наступае,
Нашу працу прыпыняе.
Заўтра прыйдзем мы ізноў,
Злепім новых жыхароў.

*Лізавета КЛІМКОВІЧ,*
*Барысаў*

## Зіма

На двары мароз лютуе,
Кветкі на акне малюе.
Пад нагамі снег рыпіць

І на сонцы зіхаціць...
Каб не галадалі птушкі,
Зробім ім хутчэй кармушкі
І пасыплем хлеба крошкі:
Падмацуйцеся вы трошкі!
А мы прыйдзем заўтра зранку,
Пакатаемся на санках.
І нічога, што мароз
Шчыпле вушы, шчыпле нос!
Бо, хто бегае, смяецца,
Той марозу не даецца!

***Надзея ГАЙДУК,***
***Барысаў***




## Зімовая пара

Вось ужо завіруха
Запаволіла бег,
І пад ногі кладзецца,
Белай коўдраю снег.
Гэй! На горку катацца,
Пакуль ёсць яшчэ час!
Лыжы хутка імчацца,
Санкі з горкі ляцяць.
Ах, як весела гэта!
Смех вясёлы чуваць...
Па зіме нават летам
Будзем мы сумаваць...

***Іна ЗЕЛЕНКЕВІЧ,***
***Барысаў***

* * *

Замерзла шпаркая крыніца...
Дзе спеў птушыны ў гэты час?
Зіма прымчала ў калясніцы,
Прывезла снег і смех
Для нас.
Зіма, зіма...
Царыца года!
Ты вабіш белізной сваёй!
Чакала ўжо цябе прырода,
І мы чакалі разам з ёй...

***Паліна ШЫБЕКА,***
***Мінскі раён***

● **Пагляд**

# Дастукацца да бацькоў...

## Рэальнасць

Прычына існавання ў гэтым свеце, калі прычыны не засталося? Роўна як і жадання, ды і проста таго, дзеля чаго жывеш?

Прычына ёсць: пачуццё абавязку. Я павінен — сябрам, бацькам, дзецям. Яны без мяне ніяк. Ды і праца трымае. Пачуццё абавязку, вядома, добрая з'ява. Толькі вось адчуванне не з самых прыемных: як быццам ты селянін, у якога свой участак, панская зямля і паншчына — шмат і непад'ёмна. Навалілася і не адпускае. Сілкуецца тваімі сіламі. Жыццёвая энергія на нулі, цікавасці да жыцця няма... Ды што ў ім такога? Нарадзіўся, каб працаваць, забяспечваць сям'ю, уладкоўваць дзяцей. Але хіба яны не будуць гэтак жа гарбець, каб пражыць? Вядома ж, трэба «адцягвацца». Але ты так стамляешся пасля працы, што нічога не жадаеш: толькі б выцягнуцца і ляжаць, аднаўляць энергію. Бо паходы па музеях і тэатрах патрабуюць працяглай падрыхтоўкі і...

Ды лянота проста. Паходзіш па поўных залах, усюды натоўп, засяродзіцца на мастацтве, не кажучы пра тое, каб праціснуцца да «тварэння», проста нерэальна.

Куды ні ткніся — мінусы ў поўнай сваёй праяве. Станоўчае ёсць, вядома, гэтага няма сэнсу адмаўляць. Але як яно дапаможа ў паўсядзённай бессэнсоўнай барацьбе з акалічнасцямі? Маленькія незаўважныя плюсікі.

Жывеш рэальнасцю, а насамрэч не тут: у мінулым, у будучыні. Але ніколі ў сучаснасці. Чаму? Навошта ўспамінаеш старыя падзеі, з гаркотай асуджаеш сябе за страчаныя магчымасці? Чароўнае і недасягальнае «заўтра» адпраўляе ў струмень летуценняў, але не больш за гэта. А таму старанна марыш пра будучыню: усё выдатна, дзеці атрымалі прыстойныя месцы ў фірме, а ў цябе ўжо набыта невялікая кватэрка...

Дык чаму ж час ідзе, а нават самыя доўгатэрміновыя планы так і не ажыццявіліся? Мары, мары... Нават марам усё менш месца. Жыццё — жорсткае, час гэта зразумець. Цудаў не бывае, а казкі толькі па тэлевізары — гэта, мабыць, самы важны ўрок, які павінен засвоіць чалавек. Не ўсё, вядома, так дрэнна. Ёсць радасці: святы, сустрэчы з сябрамі. Але часцей жыццё кожны дзень ідзе па звыклым коле. І нам часцяком страшна штосьці мяняць. Жалімся ў тэлефонную трубку, а самі? Баімся прызнацца, што зажыў бы па-іншаму, прыклаўшы высілкі. Марнуем здароўе, каб зарабіць сабе на лячэнне.



Выхоўваем дзяцей, каб, пасталеўшы, яны паўтарылі наш шлях. Застаёмся на нялюбай працы, каб мець стабільны заробак.

Мы баімся памылак і, адпаведна, баімся змен, іх незваротнасці, страты такога звыклага ўкладу жыцця. Жалімся адно аднаму на гэтыя змены, але ўпотай марым пра незабыўныя прыгоды...

Як у кіно...

Мы — людзі! Мы — уладары Сусвету, мы — амаль багі! І пакуль не адкрылі ў таямнічай касмічнай прасторы іншых насельнікаў, надзеленых розумам, застанемся ўсемагутнымі. Ці амаль усемагутнымі...

Дык што ж замінае сучасным «амаль багам» палепшыць сваё жыццё? Памяняць на дзянёк такі звыклы ход рэчаў? Падараваць блізкім словы, якія яны раней так часта чулі ад нас: словы кахання, клопату, падзякі?

*Надзея МАРХЕЛЬ,*
*Мінск*

## Я і дарослы свет

Аднойчы я назірала такую карціну: мама сярэдніх гадоў і дзяўчына ішлі па вуліцы, пабраўшыся за рукі. Твары іх свяціліся шчасцем, яны размаўлялі, смяяліся, паміж імі адчувалася не толькі роднасная сувязь. Сяброўства, разуменне, давер — вось што выпраменьвалі іх шчырыя ўсмешкі. Людзі, якія праходзілі міма, азіраліся, самыя хмурныя абліччы святлелі. Я таксама ўсміхнулася.

Дзеці і бацькі — гэта дзве паралелі, а паралелі, як вядома, не перасякаюцца. Гэта ў матэматыцы. Але незразумела, чаму і ў жыцці так. Быццам бы тыя ж людзі, тыя ж радасці і нягоды — адкуль непаразуменне? Можа, праблема ў розніцы ва ўзросце? Верагодна. Розныя погляды на жыццё, рознае ўспрыманне свету. Гэтым усё ў большасці выпадкаў і тлумачыцца.

Але ў мяне іншае меркаванне. Думаю, што прычына гэтаму — дэфіцыт зносін, з’ява, што так часта сустракаецца ў сучасных сем’ях. Бацькі, занятыя здабываннем грошай, не могуць надаць дзіцяці належнай увагі. У пагоні за



дабрабытам і кар’ерай яны забываюць пра сваіх дзяцей...

Так, гэтыя дзеці, могуць хадзіць у элітныя садкі, вучыцца ў прэстыжных школах, мець «наварочаныя» цацкі і рэчы. Але ці ўбачаць яны калі-небудзь, як весела скача па сцяне сонечны зайчык, што адскочыў ад мамінага люстэрка? І як выдатна рыбаліць з бацькам на возеры, праводзячы разам з ім незабыўную ноч ля вогнішча і слухаючы ягоныя займальныя аповеды. Ніякія цацкі не заменяць простай сустрэчы світанку побач з татам. На памяць прыходзяць словы з вядомага мультфільма: «Калі мы не ўбачым, як ўстае сонца — мы можам спазніцца на ўсё жыццё». Гэта значыць, што прыгажосць жыцця можа прайсці міма. Бачыць яе, адчуваць, усведамляць — складаная навука. Дапамагчы дзецям спасцігнуць яе — справа дарослых.

Як добра збірацца ўсёй сям’ёй за сталом і гутарыць на розныя жыццёвыя тэмы, адчуваючы побач плячо роднага чалавека, адчуваючы сябе патрэбнай і неад’емнай часцінкай сям’і. Але ці заўсёды хапае ў бацькоў часу на гэта? На жаль, не. А шкада...

Так, можна зразумець і бацькоў. Жыццё часам ставіць іх перад вельмі няпростым выбарам: праца і дабрабыт альбо больш часу, аддадзенага дзіцяці...

З аднаго боку, не будзе добрай працы — не будзе магчымасці цалкам забяспечваць сям’ю ва ўсіх яе патрэбах. Але ці ва ўсіх? А патрэба ў цеплыні простых чалавечых зносін? Ці не лепш хоць зрэдку «ахвяраваць» карпаратыўнымі вечарынамі, сустрэчамі з калегамі дзеля таго, каб правесці вечар з уласнымі дзецьмі? Схадзіць з імі на пікнік, пагуляць у парку. Бо інакш яны шмат страцяць!

А яшчэ прычынай непаразумення паміж дзецьмі і дарослымі з’яўляецца страх. Так-так! Часта дзеці баяцца адкрыцца бацькам.

Можа, дзіця, у якога скралі мабільны тэлефон, і расказала б дома пра гэта, але дзе гарантыя, што ён не «атрымае на арэхі» ад раззлаваных бацькоў?

І што тут скажаш? Вядома ж, тэлефон грошай каштуе, але хіба малы вінаваты?! Што ён мог зрабіць? Так, не ўсачыў. Дык ці варта караць за няўважлівасць занадта строга? Растлумачыць, што да чаго трэба, але не сварыцца, тым

больш, не карацъ фізічна! Не вартая нават самая дарагая згубленая рэч горкіх слёз маленькага пакрыўджанага чалавечка!

А ёсць такія сем'і, дзе тата і мама п'юць. У хаце холадна, няўтульна, дзеці недагледжаныя, але ўсё роўна вельмі любяць сваіх гора-бацькоў. Няхай тыя надоўга пакідаюць іх адных без сродкаў да існавання, часам нават б'юць. Але дзеці збягаюць з дзіцячых дамоў і вяртаюцца ў родную хату. Чаму? Таму, я думаю, што ў іх душах, цепліцца надзея на тое, што калі-небудзь бацькі апамятаюцца, перастануць піць, уладкуюцца на працу, і сям'я стане такой, якой павінна быць.

Калі б да такіх бацькоў можна было «дастукацца», я б паспрабавала зрабіць так, каб яны адумаліся.

І хто прыдумаў гэты алкаголь, лепш бы яго наогул не выраблялі! Вялікіх бед і праблем можна было б тады пазбегнуць!

Але ён ёсць. Ёсць і праблемы, таму іх трэба вырашаць, вось толькі — як?

Не ведаю. Але цвёрда ўпэўнена ў тым, што толькі бацькі, якія па-сапраўднаму любяць, могуць змяніцца дзеля дзяцей.

А дзеці дзеля бацькоў? Можа, калі б мы ўсе спыніліся, выслухалі адно аднаго, пастараліся зразумець, то нешта ў ланцужку маральных бедстваў змянілася б, і жыць стала б лягчэй? Зрабіць гэта нялёгка, але неабходна.

Інакш канец свету, пра які так часта гавораць, усё ж настане. І гэта будзе не ядзерны апакаліпсіс і не гіганцкі касмічны астэроід...

Канец свету, у маім разуменні, — гэта поўнае разбурэнне ўсіх духоўных каштоўнасцей і пераўтварэнне людзей у істот, што горшыя за жывёл. Ці ж гэтага мы хочам?

Думаю, што не! Таму і звяртаюся да ўсіх:

— Людзі! Усё ў нашых сілах! Давайце ператворым дзве планеты (планету Дарослых і планету Дзяцей) у адну агульную планету Разумення! І тады дзве паралелі — дзеці і бацькі — абавязкова перасякуцца!

Нават насуперак усім матэматычным законам.

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*вёска Дворнае Сяло, Міёрскі раён*



● **Конкурс**

# Казкі са школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з пазнакай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***

## Малітва

У далёкім-далёкім каралеўстве, якога не знойдзеш на картах, а мо яно проста нябачна для таго, хто не здольны глядзець на свет дзіцячымі вачыма, жыла адзінокая старая жанчына. У яе не было ні сям'і, ні сяброў, ні, нават, даха над галавой. Людзі з яе кпілі, паказвалі пальцам, кідалі ўслед камені. Здавалася б, душа жанчыны павінна была зачарсцвець ад гэткай несправядлівасці, але так не здарылася... Яна ўсёй душой любіла і каралеўства, у якім жыла, і людзей, што яго насялялі, і, нават, паветра, якое заўсёды было тут надзвычай чыстым, свежым, нібыта пасля дажджу. Кожны вечар жанчына ішла ў поле, садзілася ў высокую духмяную траву і, пазіраючы на незлічоныя зоркі ў небе, на гэты недасягальны для людзей нябесны прастор, малілася Богу. Яна нічога не прасіла ў Бога, а дзякавала за тое, што ён падарыў людзям яшчэ адзін цудоўны дзень, што яшчэ засталося ў яе ў кішэні трошкі хлеба. А яшчэ за тое, што можа адкрыць Богу сваю душу, падзяліцца з ім тым, што ў яе на сэрцы.

Аднойчы ў каралеўстве здарылася няшчасце. Маленькая дачка караля цяжка захварэла. Якіх толькі лекараў да яе ні прывозілі, якія толькі лекі ні спрабавалі — нічога не дапамагала. Маленькая прынцэса згасала на вачах. Ужо не звінеў у пакоях яе гарэзлівы смех, не чуваць было тапацення хуткіх ножак. Сум і жальба пасяліліся ў каралеўскім палацы.

Даведалася пра гэта гора і старая жанчына. Нельга перадаць словамі той боль, які працяў яе добрае сэрца. Наступнай ноччу яна, як заўсёды, малілася, але гэта была незвычайная малітва. Упершыню жанчына звярнулася да Бога з просьбай, вось якімі былі яе словы: «Бог, я ніколі і нічога не прасіла, Ты і так падарыў мне вельмі шмат, а самым каштоўным тваім падарункам для мяне было жыццё! Я вельмі ўдзячна табе за гэты скарб, за ўсе радасці і выпрабаванні, якія прынесла жыццё, але адна маленькая дзяўчынка, якая яшчэ не паспела па-сапраўднаму дакрануцца да жыцця, павінна яго пакінуць. Гасподзь, я ведаю: даўшы жыццё, Ты маеш права яго забраць, але я прашу, вазьмі лепей маё жыццё! Я пражыла ўжо даволі шмат, і шмат чаго бачыла, шмат чаму навучылася. Дзякуючы Табе я навучылася цаніць жыццё, якім бы цяжкім яно ні было, і мне немагчыма ўявіць, як гэтае дзіцянятка, якое толькі пачало рабіць першыя крокі, павінна спыніцца. Я вельмі хачу, каб маё жыццё не было дарэмным, таму прашу, вазьмі яго замест жыцця гэтай малечы!»

І здарыўся цуд: маленькая прынцэса паправілася. Для кожнага жыхара каралеўства гэта было вялікім святам, і ўсе людзі весяліліся і віншавалі адно

аднаго. І ў гэтай вясёлай мітусні ніхто не заўважыў, як знікла з вуліц горада старая жанчына...

Прайшло шмат часу, не злічыць нават колькі, толькі сярод людзей таго каралеўства яшчэ і цяпер ходзіць паданне, што калі ноччу выйсці ў поле, то абавязкова пачуеш, як вецер на сваіх лёгкіх крылах разносіць па свеце ласкавую і шчырую малітву той добрай жанчыны.

*Лізавета МІХНЁНАК, Клічаў*

## Сем жаданняў



Аднойчы мне прысніўся сон, што ў мяне ёсць кветачка з сямю пялёсткамі, якая дапаможа мне здзейсніць сем запаветных жаданняў.

Узрадавалася я і адразу ж загадала першае: «Хачу паляцець на Марс!» Адрываю пялёстак і раптам перада мною з'яўляецца ракета, а побач ляжыць скафандр. Я хуценька апранаюся, забіраюся ў ракету, сядаю за пульт кіравання, націскваю кнопку «старт» і лячу ў напрамку да Марса. І так хутка даляцела, што сама здзівілася.

Першае, што ўбачыла на Марсе, была чароўная паляна, на якой пасвілася Шакаладная Карова. А побач з палянай было яшчэ і возера Салодкаежак. Там, на беразе, за цытрусавымі столікамі пад цытрусавымі парасончыкамі сядзелі марсіянскія Зялёныя чалавечкі.

Згадаўшы пра сваю чароўную кветачку, я вырашыла загадаць другое жаданне: каб Зялёныя чалавечкі падарылі мне Шакаладную Карову і возера Салодкаежак. Каб я магла забраць гэтыя падарункі на сваю планету Зямля і пачаставаць імі сваіх сяброў.

Але як толькі я адарвала пялёстак і загадала другое жаданне, Зялёныя чалавечкі пачалі мне нешта крычаць на сваёй мове. Каб зразумець іх, мне давялося адарваць трэці пялёстак.

І тут чалавечкі пачалі размаўляць са мной па-беларуску, пасадзілі мяне за стол, пачаставалі рознымі марсіянскімі стравамі, а потым падарылі Шакаладную Карову і возера Салодкаежак. А я расказала ім пра планету Зямля... і тады Зялёныя чалавечкі папрасілі, каб я ўзяла з сабой аднаго з іх, якога я назвала Міколам.

Потым я адарвала чацвёрты пялёстак, мы з Міколам selі ў ракету і паляцелі на Зямлю.

Калі мы прызямліліся, то апынуліся на двары школы, у якой я вучуся. Да нас адразу ж падбеглі школьнікі, у руках яны трымалі папяровыя кветачкі.

— Чаму кветкі з паперы? — здзіўлена спытаўся Мікола. — Няўжо на вашай планеце няма жывах кветак?

І я пачала тлумачыць яму, што жывыя кветкі растуць на клумбах, мы не зрываем іх, а толькі любуемся іх прыгажосцю. Міколе спадабаліся такія адно-

сіны зямлян да жывой прыроды, а калі на школьным двары з'явілася Шакаладная Карова і возера Салодкаежак, мае сябры ахнулі ад здзіўлення і пачалі частавацца. Пасля яны падзякавалі Зялёнага чалавечка за такі смачны падарунак і вырашылі паказаць яму нашу школу.

Міколу ўсё вельмі спадабалася, але яму неабходна было як мага хутчэй вярнуцца дадому. І я загадала пятае жаданне, каб Мікола вярнуўся на Марс. У гэты час настрой мой быў цудоўным. Я ганарылася тым, што жыву на такой прыгожай зялёнай планеце. І вырашыла што два апошніх пялёсткі дапамогуць здзейсніць такія жаданні: каб ніхто не перашкаджала жыццю жывых істот на нашай планеце, каб жыхары іншых планет сталі нашымі лепшымі сябрамі.

Тут, на вялікі жаль, я прачнулася, так і не паспеўшы здзейсніць гэтыя два запаветныя жаданні...

А шкада!

***Крысціна БЕЛАЗОР,***
***вёска Гара, Барысаўскі раён***

## Два боты

Ішлі неяк салдаты ў страі.

— Левай, левай! Раз, два, тры! — чуўся голас камандзіра. А на нагах у аднаго з салдатаў два боты размову паміж сабой вялі.

— Чуеш, што камандзір кажа?! — радаваўся левы бот. — Значыцца, я больш значны за цябе, бо ён толькі пра мяне і памятае! А пра цябе нават не ўспамінае.

Правы бот таксама хацеў, каб яго заўважылі. Ён так стараўся стукаць падэшвай аб зямлю, што хутка зламаў абцас.

— Добрыя былі боты! — уздыхнуў салдат. — Шкада, што правы выйшаў са строю. Трэба яго ў абутковую майстэрню занесці. Калі ж і там не атрымаецца адрамантаваць, давядзецца абодва боты на сметнік выкідваць.

— Як?! І мяне?! — абурыўся левы бот.

Толькі цяпер ён зразумеў, што правы бот не менш патрэбны, чым левы. Бо нельга ж салдату маршыраваць у адным боце.

## Як Вавёрка Зайца лічыць вучыла

Пасадзіў неяк Заяц у гародзе моркву. Вырасла морква вялізная-вялізная. Узрадваўся Заяц, што шмат морквы вырасла, ды вось бяда: падлічыць яе не можа. Пабег па дапамогу да Вавёркі. Яна ў гэты час збірала на зіму грыбы ды арэхі.

— Хадзем да мяне, — просіць Заяц. — Падлічы мне моркву!

Але Вавёрка толькі лапкай махнула.

— Няма ў мяне часу скакаць да цябе, Заяц. Сам лічы!

— Ды я не ўмею! — ледзь не плача Заяц.

— Добра, — кажа Вавёрка. — Я цябе навучу лічыць да дзесяці! **Адзін** у цябе хвост. Так?

— Так, — кажа Заяц. — Хвост у мяне адзін.

— **Два** ў цябе вушкі, — працягвае Вавёрка. — **Тры** гузікі на тваіх штоніках. **Чатыры** ў цябе лапкі, **Пяць** у цябе сястрычак. **Шэсць** лапак у жука, твайго суседа. **Сем** колераў у вясёлкі, якая пасля дожджыку на небе з'яўляецца. **Восем** ног у павука, які ля маёй сасны па кустах павуцінне развешвае. **Дзевяць** дубкоў расце на суседняй палянцы. **Дзесяць** у цябе пальчыкаў на пярэдніх лапках.

Так Заяц навучыўся лічыць да дзесяці. Радасны пабег ён дадому і падлічыў багаты свой ураджай.

***Платон САЕВІЧ, Мінск***

## Кот ды сабака



Жылі-былі дзед і баба. І былі ў іх кот ды сабака. Не сябравалі жывёлы паміж собой, нават бойкі ўчынялі. Надакучыла гэта гаспадарам, баба і кажа дзеду:

— Дзед, трэба кагосьці з іх аддаць у суседнюю вёску. Толькі вось каго: ката ці сабаку?

— Лепш сабаку, — кажа дзед. — Кот хоць мышэй ловіць, а ад сабакі аніякай карысці!

Так і зрабілі. Жыве сабака ў суседняй вёсцы, сумуе па былых гаспадарах, нават па кату, хоць і не сябраваў з ім раней. І вось аднойчы не вытрымаў сабака, сарваўся з ланцуга і пабег дадому.

А дзед з бабай на кірмаш паехалі. І вось, даведаўшыся пра гэта, захацеў у іх хату залезці злодзей. Кот як мог яму перашкодзіць спрабаваў, але ці ж злодзей ката спалохаецца! І добра, што сабака своечасова падаспеў!

Рашуча кінуўся ён на злодзея, забрахаў, адагнаў яго ад хаты. А тут і гаспадары вярнуліся. Сорамна стала ім, што так дрэнна думалі пра сабаку.

— Заставайся жыць у нас! — сказалі яны яму. — Толькі з катом памірыся!

З той пары сабака і кот жывуць, як і раней, у бабы з дзедам. Але больш ужо не сварацца.

***Яўген ГРЫНКЕВІЧ,***
***вёска Слабада, Мядзельскі раён***

**Зубронак**

# Цэнтр інтэлекту

***Нацыянальны дзіцяча-аздараўленчы цэнтр «Зубронак». Менавіта тут ёсць усё неабходнае для сучаснага падлетка. Басейн, саўна, кінаканцэртная і актавая залы, відэасалон, спортпляцоўка, камп'ютарны клуб, касцюмерная з наборам тэатральных рэчаў і шмат чаго іншага. На тэрыторыі лагера — шэсць карпусоў. «Блакітны востраў», «Лясная хата», «Азёрны прычал», «Сонечны горад», «Зорны мір» і корпус для адпачынку сямейных дзіцячых дамоў «Зялёная паляна».***



На гэты раз шаноўным чытачам прапаноўваю перанесціся ў скарбніцу «Зубронка». Мяркую, вы ўжо здагадаліся, што гаворка пойдзе пра бібліятэку. Але ж трэба разумець, што яна сабой ўяўляе. Канешне ж, час ідзе, таму падлеткі ў большасці сваёй перавагу аддаюць электронным рэсурсам, а не друкаваным. І ў нечым, зразумела, іх выбар апраўданы. Што тычыцца бібліятэкі «Зубронка», то гэта не проста тэрыторыя ведаў, гэта інтэлектуальны цэнтр. Пра яго дзейнасць разважае загадчык **Аліна СІСКЕВІЧ.**

— На паліцах інтэлектуальнага цэнтра няма пустога месца, яны запоўнены выданнямі рознага кірунку: фантастыка, прыгоды, дэтэктывы, энцыклапедыі. Сапраўды, у кожнага падлетка асабісты густ да той ці іншай літаратуры. Таму галоўная задача бібліятэкара — дапамагчы чытачу ў выбары кнігі. Каб заахвоціць юнакоў, безумоўна, трэба выкарыстоўваць абсалютна розныя формы прыцягнення да чытання: індывідуальныя і групавыя бяседы падчас запісу ў бібліятэку, слайд-прэзентацыі, інфармацыйныя лісткі, бібліятэчныя ўрокі, віктарыны, літаратурныя гадзіны. Асаблівая ўвага надаецца і тэатралізавана-

гульнявой праграме. Вось, напрыклад, падчас летняга адпачынку для выхаванцаў малодшага школьнага ўзросту намі было падрыхтавана і праведзена мерапрыемства: «І летам з кнігай я сябрую». Мне здаецца, што такая форма правядзення мерапрыемства садзейнічае прыцягненню дзяцей у бібліятэчнае асяроддзе, бо менавіта падчас такіх сустрэч праходзяць кніжныя выстаўкі, а таксама рэкламаванне кнігі. Дзеці фантазіравалі і здзяйснялі вандроўку па чароўнай краіне Чытанкі, наведалі наступныя станцыі: «У гасцях у казкі», «Старычок-Лесавічок», «Усёзнайка», «Краіна Здароўя», «Добры настрой». Дарэчы, на станцыі «Рэклама» дзецям неабходна было распавесці аб прачытанай кнізе так, каб усім захацелася ўзяць і ўдумліва прачытаць яе. На станцыі «Жывуць на свеце кнігі» ўвазе дзяцей была прапанавана слайд-прэзентацыя апошніх кніжных паступленняў — выданняў, падораных беларускімі пісьменнікамі. Акрамя такой праграмы бібліятэка «Зубронка» ладзіла «Востраў скарбаў», «Канікулы на літаратурных астравах», «Новы год грукае ў дзверы» і іншыя мерапрыемствы.

Як мне падаецца, чытанне з самага пачатку атаясамліваецца з пачуццём задавальнення. Ні ў якім выпадку не прымушаць, а прапагандаваць чытанне!

— Мы разумеем: апроч таго, што бібліятэка сам-насам працуе з дзецьмі, трэба, каб праводзіліся сустрэчы з прафесіяналамі, людзьмі, якія апантаны творчасцю і літаратурай. У кастрычніку «Зубронак» вітаў прадстаўнікоў «Выдавецкага дома «Звязда». Стараемся такія сустрэчы праводзіць у выглядзе літаратурных гасцёўняў, прэс-канферэнцый, кастроў.

Кніжныя выстаўкі арганізуем да юбілею пісьменнікаў, а таксама тады, калі ёсць новыя паступленні. Для папулярызацыі твораў дзіцячых беларускіх пісьменнікаў намі была падрыхтавана выстаўка «Беларускія пісьменнікі — дзецям».

— Трэба звярнуць увагу на тое, што дзеці не толькі чытаюць кнігу, але і паступовымі крокамі дакранаюцца да літаратурнай творчасці. Каб зерне прарасло і дало добры ўраджай, трэба ўжо цяпер дапамагчы яму, даць плённую глебу. Таму быў выдадзены зборнік вершаў «Выпадковых слоў каляровыя вітражы» ўдзельнікаў змены «Свята паэзіі «Нарачанскія сосны».



У кожную змену ў нас ёсць свае лепшыя чытачы — гэта дзеці, якія сумяшчаюць актыўны і насычаны перыяд прыбывання ў цэнтры з чытаннем кніг.

**Вадзім ДУБЕНЬ, «Зорны свет», Мазыр:**

— Мне вельмі спадабалася кніга Сяргея Аляксеева «Ад Масквы да Берліна: апавяданні пра Вялікую

Айчынную вайну». Гэта кніга пра тое, як наш народ змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, пра гераічных людзей, якія адстаялі сваю радзіму. Кожны аповед у кнізе — яшчэ адзін штрых вайны, яшчэ адна боль і радасць за гераічную перамогу і яе пераможцаў. Пасля таго, як я прачытаў кнігу, мяне перапаўняла пачуццё гонару за сваіх продкаў, мы — маладое пакаленне — павінны любіць сваіх бацькоў, дом, школу, Радзіму, а таксама паважаць яе гісторыю. Мне вельмі хацелася, каб гэтую кнігу прачытаў кожны падлетак, дзеля таго, каб ведаць гісторыю вайны і людзей, якія ваявалі.



**Ксенія СУСЛЯНКОВА, «Азёрны прычал», Брэст:**

— З кніг, якія я прачытала ў бібліятэцы «Зубронка», больш за ўсё мне спадабалася кніга беларускага пісьменніка Генадзя Аўласенкі «Новыя прыгоды маленькага Ветрыка з Вентылятара». Мяне ўсхвалявала прачытанае, таму што галоўнаму герою, маленькаму Ветрыку, давялося пераадолець шмат перашкод і змагацца з адмоўнымі героямі, каб вярнуцца ў дзіцячы садок № 5. Гэтая кніга навяла мяне на такое разважанне: калі ў чалавека добрае сэрца, яму заўсёды прыйдуць на дапамогу, у яго заўсёды ажыццявіцца задуманае. Гэтая кніга вучыць быць добрым, верыць у сябе і ніколі не здавацца ў цяжкую хвіліну, вучыць сябраваць і не выхваляцца без нагоды. А яшчэ я зразумела, што ў жыцці бываюць моманты, калі трэба дзейнічаць не па інструкцыі, а па сітуацыі. Раю ўсім гэтую кнігу прачытаць!

*Дар’я ШОЦІК,*
*фота з архіва лагера «Зубронак»*

● **Літаратурныя старонкі**

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

# Што Шубуршуну прыснілася?..

## *Урывак з кнігі*




Шлях да роднай мясцінкі, адкуль яго забралі ў горад, ужо падаўся малечы занадта бясконцым. Здавалася, яго карабель стаіць нерухома на адным месцы. Раз-пораз Шубуршун падцягваўся на сваіх лапках, стараючыся зірнуць на адзін і другі бераг: маўляў, ці мяняюцца краявіды. Ці мо ўсё ж сапраўды ён калываецца на хвалях пасярэдзіне рэчкі і нікуды не рухаецца?..

Настрой сапсаваўся ўшчэнт. І ўжо мроіліся ў галаве здрадніцкія думкі: «А мо і не варта было ўцякаць ад Веранікі? Мо яшчэ не позна вярнуцца? Але ж як ты павернеш лодку супраць цячэння...» Шубуршун з гэтымі думкамі скруціўся ў калабок, падцягнуў лапкі, заплюшчыў вочы. І пачаў лічыць. Так навучыла яго Вераніка: калі не прыходзіць сон, то трэба палічыць. Напрыклад, да ста... Яшчэ лепей — уявіць, што перабіраеш нейкія прадметы, лічыш машыны на двары, лічыш аблачынкі ў небе... «Альбо — дзясяткі ў маім дзённіку», — казала Вераніка і смяялася, так смяялася, што ажно заходзілася. І тут жа дадавала: «Не, лепей — васьмёркі ці сямёркі, іх болей, ёсць шанц заснуць... З дзясяткамі сон не зловіш...» — смяялася сяброўка Шубуршуна.

«А я буду лічыць тыя краіны, у падарожжы па якіх мы марылі выправіцца разам з Веранікай», — загадаў сабе наш неўтаймаваны вандроўнік.

Першай у пераліку аказалася Аўстралія. Шубуршун успомніў, што дабрацца да яе і па карце было няпроста. Гэтая краіна, дзе водзяцца кенгуру, настолькі далёка ад Беларусі, што тут нават лодкай з сасновай кары не абыйдзешся. Што

ўжо казаць пра карабель Шубуршуна... «Балівія, — прадоўжыў свой пералік вандроўнік. — А хто там гаспадарыць? Здаецца, пумы...» Далей малеча ўзгадаў В'етнам. І яго аж перасмыкнула, бо з расповедаў Веранікі ведаў, колькі там усялякіх пітонаў, гадзюк, ды розных вужак водзіцца. А Грэцыя?..

«Мо там бяспечней? — задаўся пытаннем Шубуршун. — Ды там, пэўна, усяго хапае...» Малеча задраў угору галаву, паспрабаваў шырэй вочы расплюшчыць. Ды, пэўна, лічбавая сонатэрапія сваю справу рабіла. Бо раз за разам Шубуршун пачаў соладка пазяхаць.

«...Так, цяпер да першых чатырох краін — Аўстраліі, Балівіі, В'етнама і Грэцыі — дададзім Егіпет, — прадоўжыў сваю падарожную гульню вандроўнік. — Якія там птушкі водзяцца? Грыфы, сокалы, ястрабы... Мо яны і ў нашым небе прастору засвойваюць?..» І хаця пералік далёкіх і невядомых краін яшчэ не вельмі дапамагаў Шубуршуну, гаспадар карабля адчуў сябе шчаслівым падарожнікам. Як быццам і не было ўцёкаў з горада. Ды і наперадзе з рачной дарогай усё ясна і зразумела...

Шубуршун прадоўжыў свой лік: на літару «З» успомніў Замбію. Вось толькі дзе яна, у якой старонцы свету, на хвіліну задумаўся падарожнік. «Так, у Афрыцы, — адказаў сам сабе Шубуршун. — Там ёсць гіпапатамы і кракадзілы... Не, з такімі прыпамінамі ніяк не заснеш. Туды лепей вачэй не паказваць...»

Ды лічбавая тэрапія ўладу паціху да сябе прыбірала. Вочы заміргалі. Вандроўны матэматык пачаў правальвацца ў іншую, далёкую ад Свіслачы прастору. Лазовыя кусты, якія толькі што абрамлялі рачную стужку, змяніліся на трапічны лес. «Мо я цяпер у Індыі?..» — мроілася Шубуршуну. Сапраўды, далей дарога ішла сярод зялёнага лесу. На раку наступалі высокія дрэвы з густымі кронамі. Нім, які ў Індыі называюць «вясковай аптэкай», саступаў месца тамарынду. А далей усю прастору па правы борт заняў вялікі баньян. Яго яшчэ называюць «дрэва-лес». Замест аднаго ствала ў гэтага прыгажуна... тысячы стваloў! Вось дзе можна сапраўды заблукаць!.. Шубуршун не паспеў падзівіцца на вялікі баньян, як з другога берага пачуўся грукат і тупат. Малеча ўгледзеўся ў далячынь. Да вады ішлі тры, чатыры, пяць, шэсць... Шубуршун збіўся з ліку, захоплена пазіраючы на гіганцкіх сланоў. Здавалася, што насустрач рухаўся велізарны дом.

— Такога ні ў якім сне не прыдумаеш! — сказаў услых сам сабе рачны вандроўнік. Але ж гэта быў яго сапраўдны сон. Чысцюткае паветра, лёгкае пагойдванне свіслацкіх хваль і, канешне ж, лічбавая сонатэрапія дапамаглі нашаму герою здзейсніць яшчэ адно падарожжа. Адразу ў некалькі краін. Наступным за Індыяй адрасам стала Канада, дзе Шубуршун паспеў перакінуцца слоўцам са старым гіганцкім асятром. Таму ўжо было пад 150 гадоў і ў даўжыню ён складаў 6 метраў. Асётр, пазнаёміўшыся з Шубуршуном, доўга дзівіўся яго падарожнай адвазе і смеласці. І калі Шубуршун паблажліва махнуў лапкай, заўважыўшы, што яму ў роднай старонцы нічога не пагражае, гаспадар канадскай ракі вельмі выразную параду малечы выдаў:

— Мяне ахоўвае ўважлівы да прыроды люд. На раку ж розныя гангстэры ходзяць. Усе яны рыбакамі завуцца. А разумныя прыродалюбы стварылі «Таварыства аховы асятроў у рацэ Фрэйзер». То няхай бы і жыхары панадсвіслацкіх вёсак парупіліся, каб нейкім чынам твая бяспека не аказалася пад пагрозай...

Шубуршун не паспеў нічога адказаць, бо і далей доўжыўся яго пералік экзатычных краін. За літарай «К» і Канадай прыйшла чарга Лаоса... І ўжо з рачных хваль вырваўся прыгожы дэльфін. Спярша малеча спрабаваў успомніць, а ці водзяцца дэльфіны ў рэках. Затым перагортваў старонкі ў «камп'ютары» сваёй памяці, каб разабрацца, ці можна са Свіслачы патрапіць у якую з лаоскіх рэк. І ў якую? У Цю, Конг, Намоў ці ў Меконг альбо Ма?.. «Не, вось дабяруся да роднай Балачанкі, — соладка паабяцаў сабе Шубуршун, — абавязкова прадоўжу заняткі геаграфіяй. А можа нават і вырвуся на прастору тых Меконга і Конга...» Што ж, магчыма так яно сапраўды і будзе. А пакуль яшчэ сон Шубуршуна доўжыцца пад лёгкае пагойдванне на свіслацкіх хвалях.



● **На музычнай хвалі**

# Зайграем паскакуху!



*Удзельнікі ансамбля «Аношкаўскія музыкі».*

У любым кутку Прыгажуні-Беларусі можна пачуць родны напеў, роднае гучанне ладных інструментаў, пры гэтым адчуць, як з грудзей ірвецца шчырая радасць ці шчэміць душу лёгкі сум. У аграгарадку Аношкі, што знаходзіцца ў Нясвіжскім раёне, ужо другое дзесяцігоддзе растуць, як грыбочкі, не парываючы сваёй грыбніцы, выдатныя таленавітыя музыкі. «А ну, хлопцы! Што ёсць духу, заіграем паскакуху!» — гучна пачне адзін музыкант, і хор гармонікаў адкажа яму вясёлымі ды спраўнымі акордамі, пад якія так і хочацца пусціцца ў скокі.

Выхоўваць гарэзлівых хлапчукоў — праца нялёгкая. Тым больш у вялікай вёсцы. Хоць заняткі ў школе ды дапамога бацькам па хатняй гаспадарцы развіваюць працавітую асобу, але развіццё творчых навыкаў ніколі не будзе лішнім. Так, у 1986 годзе ў Аношках з'явілася мастацкая школа. Для хлопчыкаў і дзяўчынак быў створаны ансамбль «Світанак», каб дзеці з малых гадоў дакрануліся да прыгожага, пачалі выхоўваць у сабе адказнасць, вучыліся сябраваць, разам граць ды спяваць. Аднак хлопцы — народ неўгамонны — зашмат сваволынічалі. Таму Віктар Высоцкі, дырэктар Аношкаўскай дзіцячай школы мастацтваў, і кіраўнік ансамбля Віктар Навумчык вырашылі зрабіць хор хлопчыкаў, каб больш заняць іх. Складаная была справа набраць дастатковую колькасць добрых спевакоў, бо высокія дзіцячыя галасы хутка пачыналі ламацца, ды ў кожнага ў розным узросце: у каго ў 14 гадоў, а ў каго і ў 12. Не атрымаўся хор, таму вырашылі зрабіць ансамбль гарманістаў. Хаця з фінансамі былі праблемы, у канцы 1997 года ўдача павярнулася тварам і школа мастацтваў набыла свой першы камплект гармонікаў — 5 штук. Спачатку настаўнікі навучыліся граць самі, пасля і дзетак навучылі. Так з'явіўся ансамбль «Аношкаўскія музыкі», які складаўся з хлопчыкаў рознага ўзросту.

Паступова развіваючы свой музычны рэпертуар — ад полек да іншых народных песень — музыкі выязджалі выступаць у суседнія вёскі ды гарады. Каб гучаць больш разнастайна і цікава, уключалі іншыя народныя інструменты: баяны, акардыёны, дудку, дуду, тамбурын, барабан і розныя шумавыя (цёрку, чыгункі, касу). Першае выступленне за межамі Нясвіжскага раёна было ў Мар'інай Горцы ў 2000 годзе на першым абласным конкурсе «Грай, гармонь!».

Там сталі лаўрэатамі, былі шчаслівыя і задаволеныя, але на гэтым не спыніліся. У 2001 годзе сталі лаўрэатамі Міжнароднага фестывалю «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах. Таксама ўдзельнічалі ў Міжнародным фестывалі «Славянскі базар у Віцебску» ў 2002-м, у 2003 годзе выйшлі ў фінал нацыянальнага тэлефестывалю «Сузор'е надзей».

Працавітыя хлопцы займаліся кожны дзень па некалькі гадзін, удасканальваючы сваё майстэрства. Не так лёгка было навучыцца добра граць і прыгожа трымацца на сцэне. Таму акрамя музычнага ансамбля «Аношкаўскія музыкі», хлапчукі займаліся ў танцавальным калектыве «Сонейка». Гэта дапамагала адчуваць рытм, вучыла не баяцца сцэны. Да таго ж, каму не захочацца паскакаць пару-тройку заўзятых танцаў з дзяўчатамі ў народных строях? І так добра ў музыкаў ды танцорак усё атрымлівалася, што пачалі іх запрашаць выступаць у розныя краіны. Неаднаразова выступалі ў Францыі, Германіі, Літве, Польшчы, Маскве, Эстоніі і Турцыі.

Час ішоў... Адны музыкі выраслі, заканчвалі школу, на іх месца прыходзілі новыя, маленькія і «зялёныя», але такія ж таленавітыя. Такім чынам, на сёння ў ансамблі змянілася ўжо пяць пакаленняў хлопчыкаў. Не ўсе з выпускнікоў «Аношкаўскіх музыкаў» звязалі сваю кар'еру з музыкай ці мастацтвам, але ўсе былі б рады ўзяць інструменты ў рукі і яшчэ раз зайграць «Польку». Юрый Шарапа граў у ансамблі з 2002 па 2007 год. Сёння ён галоўны рэжысёр горада Нясвіжа. «Калектыў "Аношкаўскія музыкі" быў для мяне першым крокам у мастацтва. Там я граў на барабане і выконваў сольныя вакальныя партыі ў песнях, — з любоўю ўзгадвае ён. — Найбольш запомніліся нашы выступленні за мяжой. Не ведаю, ці пабываў бы там, калі б не ансамбль».

Аляксей Андросік — новы малады кіраўнік «Аношкаўскіх музыкаў». Граў у ансамблі ў першым складзе хлапчукоў, пачынаў з шумавых інструментаў. Цяпер акардыяніст. Так палюбіў музыку, што пасля школы пайшоў вучыцца ў Мінскі дзяржаўны каледж мастацтваў, а пасля завочна скончыў БДПУ імя М. Танка. «Адпрацаваў 2 гады ў Сноўскай дзіцячай школе мастацтваў, пасля атрымаў прапанову быць кіраўніком "Аношкаўскіх музыкаў". Згадзіўся. Давялося за месяц навучыцца граць на гармоніку, — усміхаецца Аляксей. — Сёння спрабую надаць нашай музыцы сучасную аранжыроўку, шукаю новыя цікавыя песні».

Сёння калектыў складаецца з 10 хлапцоў: малодшаму — 8 гадоў, старэйшаму — 17. Усе музыкі любяць свае інструменты, паважаюць сваіх настаўнікаў, добрасумленна рыхтуюцца да канцэртаў. У калектыве пануюць сяброўскія адносіны. «Я рад, што дзеткі заняты добрай справай, — кажа Віктар Высоцкі. — Мы стараемся, возім іх у музеі, тэатры, каб прывучыць іх да прыгожага, узнёслага. Таксама кожны год мы з хлопцамі бяром намёты і адпачываем на беразе Нёмана. Гэта вельмі яднае калектыў. Старэйшыя дапамагаюць малодшым: вялікія колюць дровы, а маленькія збіраюць шчэпкі. Адны вараць юшку, другія яе наліваюць». Для дырэктара ДШМ ансамбль — гэта яго родная вялікая сям'я. «Аношкаўскія музыкі» — гонар не толькі аграгарадка, але і Нясвіжскага раёна, гонар усёй краіны. Хай жа іх вясёлыя гармонікі яшчэ доўгія гады гучаць у свеце!

*Ганна ШЫБУТ*

# Старонкі-гумарынкі








Вучань пытаецца ў настаўніка:

— Васіль Мікалаевіч! Ніяк не магу разабраць тое, што Вы мне ў дзённіку напісалі?

— Я напісаў: «Пішы разборліва!»

☺ ☺ ☺

— У цябе выдатнае сачыненне! — хваліць настаўніца вучня. — Толькі вось чамусьці ты яго да канца не дапісаў...

— Ды тату тэрмінова на работу выклікалі! — сумна адказвае вучань.

☺ ☺ ☺

Мама паехала ў камандзіроўку. Раніцай тата будзіць сына і вядзе яго ў дзіцячы сад. А там кажуць:

— Гэта не наш хлопчык!

Тата вядзе сына ў другі дзіцячы сад. Там — тая ж гісторыя...

Тата садзіцца з сынам у аўтобус і яны едуць у самы канец горада, дзе знаходзіцца трэці дзіцячы сад. І тут сын кажа:

— Тата, яшчэ адзін сад — і я ў школу спазнюся!

☺ ☺ ☺

— Пеця, колькі будзе два памножыць на два? — пытаецца бабуля.

— Чатыры! — адказвае Пеця.

— Малайчына! — хваліць бабуля. — Вось табе за гэта чатыры цукеркі!

— Эх, калі б ведаў, адказаў бы, што шаснаццаць! — засмучаецца Пеця.

☺ ☺ ☺

— Як вырасту, абавязкова шафёрам стану! — кажа маленькі хлопчык. — Цэлы дзень катайся, а табе яшчэ і грошы плоцяць!



☺ ☺ ☺

— Мама, а як ты вучылася ў школе? — пытаецца сын у маці.

— Вядома ж, добра!

— Ага, я калі вырасту, таксама буду сваім дзецям так казаць! А ты скажы, як яно было на самай справе?

☺ ☺ ☺

— Мама, — кажа сын, — сёння ў нас у школе скарочаны бацькоўскі сход.

— Што значыць, скарочаны? — здзіўляецца маці.

— Ну... ты, я і дырэктар...



☺ ☺ ☺

— Дзеці, хто з вас прачытаў «Вайну і мір», — пытаецца настаўніца.

— А што, яе трэба было прачытаць? — схамінаецца вучань.

— Ну, так! — строга кажа настаўніца. — А ты што, не прачытаў?

— А я ж, дурань, яе ўсю ноч перапісваў!




☺ ☺ ☺

Настаўніца:

— Машачка, назаві мне пяць хатніх жывёл.

Маша:

— Тры кошкі і два сабакі!